# Маладосць

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(699) ЛЮТЫ, 2012**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**

**2**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва»**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 21 880 руб.***
***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 12030 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 27 680 руб.***
***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 8470 руб.***

Дызайн вокладкі *Веранікі ШНІП,* фота на вокладцы *Кастуся ДРОБАВА*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 07.02.2012. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,36. Тыраж 2485 экз. Заказ 320. Кошт нумара ў розніцу 12 300 руб.
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

# ТАЛЕНАВІТЫ ЧАЛАВЕК — ТАЛЕНАВІТЫ ВА ЎСІМ

## Госць часопіса «Маладосць» — Сяргей ДЗЯНІСАЎ, прафесар кафедры нармальнай анатоміі Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта, намеснік старшыні Нацыянальнага камітэта па біяэтыцы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, — расказвае пра свой шлях да прафесіі, а таксама дзеліцца думкамі пра беларускую мову і літаратараў



***— Прычыны для паступлення ў медыцынскі, напэўна, у кожнага свае. Раскажыце пра сябе — як вы выбіралі прафесію?***

— Хочацца сказаць: і мы выбіраем, і нас выбіраюць. Гэта нам толькі здаецца, што жыццёвы шлях мы рыхтуем для сябе самі і шукаем потым нейкія падставы, прычыны для тых рашэнняў, якія прымаем. Я думаў над тым, чаму паступіў у медыцынскі інстытут на спецыяльнасць «Лячэбная справа», і не скажу, што адразу знайшоў адказ на гэта пытанне. Мне здавалася, што адказу ў мяне няма. На самай справе было так. Я сказаў маці, што паеду ў Мінск, паступаць у ВНУ, нават не памятаю, ці спытала яна мяне тады, у якую ВНУ я збіраюся паступаць. Здаецца, што не пыталася, і я не казаў.

***— Я заўсёды захаплялася тым, як у мінулыя часы давяралі бацькі сваім дзецям выбар іх будучыні.***

— Так, давяралі. Проста ў ранейшай моладзі было больш самастойнасці. Тым не менш, я паехаў у Мінск, не ведаючы, у якую ВНУ буду паступаць. Прыехаў на тагачасную плошчу Леніна, выйшаў, здаецца, з тралейбуса нумар два, з таварнай станцыі, на якую прыехаў на аўтобусе, стаў на гэтай велізарнай плошчы і пачаў глядзець вакол. Убачыў высокі будынак БДУ, здаецца, тады гэта быў хімічны факультэт. Убачыў дом з калонамі і тварамі вучоных, як я думаў на той час, — Горкага і, здаецца, Бялінскага, — педагагічны інстытут. І побач — першы вучэбны корпус медыцынскага інстытута. Не ведаю чаму, але ногі павялі мяне менавіта туды. Я зайшоў з двароў у другі корпус, дзе працавала прыёмная камісія. Як цяпер памятаю, знайшоў бланк заявы і запоўніў. Я на самай справе не ведаў, якія спецыяльнасці ёсць у медыцынскім інстытуце, думаў, што толькі ўрачоў тут рыхтуюць і больш нікога. Не ведаў, што ёсць педыятрыя, лячэбная справа, стаматалогія і тым больш санітарна-гігіенічная справа. Убачыў «Лячэбная справа» — і напісаў. Здаў уступы — паступіў на лячэбны факультэт. І з трэцяга інтэрната на вуліцы Чырвонай, у якім пражыў каля дзесяці дзён, паехаў дадому. Сказаў маці, што паступіў на ўрача, што трэба мець два халаты, тапачкі і спартыўную форму. Вось так і адбылася гісторыя з маім паступленнем у медыцынскі інстытут. Гэта быў падсвядомы выбар. Можа, абумоўлены тым, што бачыў у невялічкай мясцовай бальнічцы. Доктар Міхаіл Торапаў, бачыце, колькі гадоў прайшло, а я памятаю, як яго звалі. Гэта быў прыклад сапраўднага доктара. Часам яшчэ можна пачуць выраз «земскі доктар». Гэта доктар, які лячыў усіх людзей ад усіх хвароб. Цяпер я б сказаў, што гэта сямейны доктар або ўрач агульнай практыкі.

Я помню, як чакалі яго хворыя, і я таксама, седзячы ў прыёмным пакоі. Які там быў прыёмны пакой, амбулаторыя займала маленькую сельскую хатку. Але ўсе паважалі гэтага чалавека, і калі ён ішоў, крыху кульгаючы, то ўсе хваляваліся.

— ***Але ж вы вырашылі пайсці па выкладчыцкай лініі?***

— Не, не так. Я і цяпер распавядаю сваім студэнтам, што калі б мне ў той час, калі я вучыўся на шостым курсе і асвойваў хірургію, нехта сказаў, што я буду прафесарам кафедры анатоміі, ці тым больш, амаль дваццаць пяць гадоў буду працаваць першым прарэктарам медыцынскага ўніверсітэта, я б толькі пасмяяўся. І ніколі б не паверыў, бо я гэтага і не хацеў. Далейшы шлях таксама быў даволі выпадковым. Прафесар Лабко, у той час загадчык кафедры, запрасіў мяне ў навуковы гурток, і так я пачаў займацца студэнцкай навукай. Гады ішлі, я неяк прывык да гэтага занятку і прыйшоў на кафедру — спачатку аспірантам, а затым далей — асістэнт, дацэнт, прафесар.

— ***А чаму анатомія?***

— Таксама не ведаю. Можа, калі б на экзамене па фізіялогіі экзаменатар прапанаваў пайсці ў фізіялагічны гурток, я быў бы фізіёлагам, бо гэта дысцыпліна мне таксама падабалася. Хаця на шостым курсе я праходзіў спецыялізацыю па хірургіі. Не скажу, што марыў быць хірургам, але падумваў пра гэта. Ну, а затым склалася як склалася. Але ўсё гэта дастаткова выпадкова, мне здаецца. Так, як і ва ўсіх людзей.

— ***Што вы як выкладчык анатоміі можаце сказаць пра гэту навуку? Яна ж не проста вывучае будову органаў і сістэм. Мне здаецца, яна ўплывае на свядомасць, характар мыслення ды і ўвогуле на характар.***

— Лічыце, што вы ўжо адказалі за мяне на гэта пытанне. Ніхто не ведае, якім чынам гэты ўплыў адбываецца, мы толькі спадзяёмся, што робім нешта правільнае, каб выканаць галоўнае прызначэнне любога навучання. Дарэчы, не ўсе яго ведаюць. Я гэта падкрэсліваю: сэнс навучання ў тым, каб развіць мысленне. І анатомія, і іншыя базавыя дысцыпліны не толькі даюць канкрэтныя веды, але і нешта фарміруюць у гэтым сэнсе.

— ***Давайце пагаворым пра мову навучання ў медыцынскім універсітэце.***

— Паколькі ў нашай краіне двухмоўе, то згодна з заканадаўствам у адміністрацыі ВНУ ёсць абавязкі прадастаўляць усе умовы для таго, каб навучэнцы маглі рэалізаваць сваё права атрымаць адукацыю на беларускай мове. Але студэнты атрымліваюць адукацыю не індывідуальна, а ў групе, і значыць, трэба такую групу набраць. Бо, згадзіцеся, цяжка ўявіць сітуацыю «адзін студэнт — адзін выкладчык». Калі і пяць студэнтаў выкажуць жаданне вучыцца медыцыне на беларускай мове, то і тады арганізаваць гэта будзе няпроста. А ў нас жа ёсць і падручнікі, і тэрміналагічныя слоўнікі, і галоўнае — выкладчыкі, якія валодаюць беларускай мовай і маглі б свае веды перадаваць студэнтам. І яны рабілі гэта неаднаразова ў тыя гады, калі колькасць жадаючых вывучаць медыцыну на беларускай мове была дастатковай для стварэння беларускамоўных груп. Першакурснікам мы заўсёды гаворым, што ў іх ёсць такое права, а ў нашай адміністрацыі — такі абавязак.

— ***Калі я вучылася ў медыцынскім вучылішчы, у нас быў прадмет «Руская мова»; мы цэлы год вывучалі толькі медыцынскія тэрміны — як іх правільна вымаўляць, пісаць і скланяць. А ці ёсць такі прадмет цяпер у будучых урачоў?***

— Ёсць прадмет «Прафесійная медыцынская тэрміналогія». На беларускай мове, займае каля сямідзесяці гадзін навучання. Аднойчы я спытаў у студэнтаў, ці цікавая для іх гэтая дысцыпліна, і яны адказалі, што цікавая. Я не зразумеў іх тады і не разумею цяпер, магу толькі меркаваць, што гэта звязана не столькі з дысцыплінай, колькі з выкладчыкамі. Многае залежыць не толькі ад таго, што ты вучыш, але і ад таго, хто

цябе вучыць і як. Так было заўсёды. Я, напрыклад, памятаю не філасофію, якую вучыў некалі, а яе выкладчыка. Больш за тое, не здзіўляйцеся, я ўзгадваю добрымі словамі выкладчыкаў такой дысцыпліны, як гісторыя КПСС. Мы недалюблівалі яе не за КПСС і не за яе гісторыю, а за тое, што трэба было чытаць тоўстыя кніжкі і запамінаць назвы з'ездаў з іх праграмамі і рашэннямі. Тым не менш, былі выкладчыкі, якіх успамінаю і сёння. Быў такі Карапанаў. Памятаю, на першым курсе першага верасня нам у актавай зале ў корпусе каля вакзала чыталі дзве лекцыі. Першую — па анатоміі, яе чытаў акадэмік Голуб. А другая лекцыя была па гісторыі КПСС. Я не памятаю, што гаварыў гэты чалавек, Карапанаў, але памятаю, як ён гэта гаварыў, вось у чым справа. Так і з беларускай мовай, з яе выкладаннем.

***— Даволі часта медыкі робяцца пісьменнікамі. Як вы можаце патлумачыць такую заканамернасць?***

— Я ведаю дакладны адказ на гэта пытанне. Яго лёгка знайсці, калі пачытаць жыццяпіс Антона Чэхава. Прытым, што ў той час урачы зараблялі, я думаю, больш, чым цяпер, ён пісаў таму, што заробку яму не хапала. Я чытаў яго пісьмы, у якіх ён звяртаўся да выдавецтваў, што затрымлівалі выплату яму грашовых ганарараў. Значыць, пісаў ён не толькі для таго, каб стаць пісьменнікам, якога б усе ведалі, але і каб зарабіць больш грошай.

***— Але ж не ўсё напісанае з мэтай зарабіць грошы можа быць надрукавана, па-першае, а па-другое, будзе чытацца і перачытвацца, і нават праз дзесяцігоддзі быць актуальным.***

— Я з гэтым не спрачаюся. Не ведаю, наколькі спецыфічнае мысленне тых, хто атрымаў медыцынскую адукацыю, я ведаю іншае — усе, хто змог яе атрымаць, людзі з высокім IQ. Таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. Калі ён паступіў на першы курс медыцынскага ўніверсітэта, то, напэўна, можна сказаць, што з яго атрымаецца добры пісьменнік.

***— Што вы любіце ў беларускай літаратуры? Каго паважаеце?***

— На гэта пытанне я ў розныя часы адказваў па-рознаму. Нядаўні юбілей Багдановіча — нагода сказаць, што я зацікавіўся і захапіўся лёсам сям'і гэтага чалавека і яго творчасцю. Некалі ў Яраслаўлі мне пашанцавала трапіць у музей Багдановіча. Але на той час я нічога не ведаў пра яго асабісты лёс. І вось цяпер ведаю ўвесь яго жыццёвы шлях: дзе ён нарадзіўся і як пераязджаў з бацькамі, бо ўся сям'я хварэла на сухоты, ад якіх у той час ніякага выратавання не было. Вершы яго мне вельмі падабаюцца. Ды і многіх іншых таксама.

***— А чаго, на вашу думку, не хапае сучаснай беларускай літаратуры?***

— Я не ведаю яе так, як літаратуразнаўца, але, можа, смеласці не хапае і рэкламы?

***— Смеласці, якая б магла стаць самарэкламай.***

— Так, і я жадаю ўсяго самага добрага і аўтарам, і чытачам «Маладосці», каб гэты часопіс стаў важным сродкам выхавання любові да беларускай нацыянальнай культуры. Вы неабходны народу.

***Гутарыла Святлана ДЗЯНІСАВА***

*Алена СКАВІНСКАЯ*

# ЖЫЦЦЯ ДОБРЫ ЗНАК



*Алена Скавінская нарадзілася ў 1993 годзе ў ваенным гарадку Аколіца Мінскага раёна. Студэнтка Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. Друкавалася ў часопісах «Бярозка», «Вясёлка».*

**Хоць гэта нагадвае каламбур, ды ўсё ж блізка-блізенька да ісціны: выток паэтычнага захаплення і першых творчых здабыткаў аўтаркі — у «Вытоку». А «Выток» — літаратурнае аб'яднанне з Бараўлянскай СШ, дзе вучылася Алена Скавінская. Я ўпершыню пазнаёміўся з яе спробамі пяра на занятках раённай літаратурнай суполкі «Купалінка», куды не адзін год прыязджала дзяўчына з сябрамі-гурткоўцамі на творчую вучобу, якую ладзіла «Купалінка» ў Мінску.**

**Тое, што прырода надзяліла Алену паэтычным дарам, усе заўважылі вельмі хутка. Роздум яе лірычнага героя над будучыняй, якую «наперад не спазнаць ніколі», узрушанасць, трапяткое пачуццё дзявочай летуценнасці і закаханасці, шчырасць і непасрэднасць, душэўная цеплыня і прасветленасць, я ўпэўнены, спадабаюцца многім, знойдуць водгук і паразуменне ў сэрцах і думках маладых сучаснікаў Алены Скавінскай.**

*Мікола ЧАРНЯЎСКІ*

* * *

Хвіліны шчасця хутка прабягаюць —
Бязрадасным становіцца жыццё.
Але яны хаду сваю сцішаюць,
Калі ў душы кахання пачуццё.

Яно нас шчыра ў сцюжу сагравае,
Пяшчоту людзі ў сэрцах берагуць.
Шчаслівы той бясконца, хто кахае,
Бо крылы па жыцці яго нясуць!

* * *

Рассеяўся над узбярэжжам туман,
Настаў час чароўны спакою,
Ды вецер падзьме, прынясе ураган,
Застогне зямля ад прыбою.

Губляецца сцежка ў апалым лісці —
Зноў восень пастукала ў дзверы.
Хоць сонцу, як летам, ужо не цвісці,
Вакол хараство без меры.

## ЛЕС МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА

За домам, дзе шаты, спяваюць крыніцы,
Мой лес, як і я, падужэў і падрос.
Жывуць там казулі, хітрухі-лісіцы,
І водар хваёвы ляціць да нябёс.

На травах красуюцца чыстыя росы,
У іх аглядае жучок чорны фрак.
А ветрык расчэсвае вербачцы косы,
Гамоняць дажджынкі —
Жыцця добры знак.

Мой лес шчодра лечыць душэўныя раны,
Частуе грыбамі, натхняе красой…
Кармілец, ахоўнік, што Богам абраны,
Ён дзеля людзей ахвяруе сабой.

Каб жыў, захаваўшы цнатлівасць
прыроды,
Я буду звяртацца да вольных нябёс…
Прад ім, бы на ганку зялёнай гасподы,
Стаю, як дзіця, у чаканні дзівос.

* * *

Як многа на зямлі пуцін!
Якую выбраць? Па якой падацца?
Так не хапае роздуму хвілін,
Каб з лепшай доляю ў жыцці спаткацца.

Ты загадзя не ведаеш свой лёс,
Складана выбраць слушную дарогу:
Вакол існуе вельмі шмат пагроз —
Найлепшы шлях вядомы толькі Богу.

Спакусаў мае многа кожны крок!
У выбары — пачатак светлай долі.
І ахінае будучыню змрок:
Наперад не спазнаць яе ніколі.

* * *

Жыцця не зразумееш павароты,
Яно шляхамі рознымі бяжыць.
То боль яно прыносіць, то турботы,
То раптам можа шчасцем адарыць.

Бывае, на калені лёс паставіць,
Бывае, дзівіць кветкай у расе
Ці добрае імя тваё праславіць,
Або на крылах шчасця узнясе.

Што будзе за наступным паваротам?
Ад горшага ніхто не засцярог.
Дакладна ведаць можна толькі
потым,
Ці добры выбар быў з усіх дарог.



*Наталля МАЦЕЙЧЫК*

# АПАВЯДАННІ

*Наталля Мацейчык нарадзілася ў 1976 годзе ў Светлагорску. Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Працавала перакладчыкам. Друкавалася ў газетах «Рэспубліка», «Звязда», часопісе «Алеся».*



**Дэбютантка гэтага нумара Наталля Мацейчык адразу ж вылучаецца сваёй стылістыкай апавяданняў, стрыманасцю ў абмалёўцы вобразаў герояў твораў і няспешнасцю ўразгортванні падзей. Разнапланавасць змешчаных тут апавяданняў сведчыць пра багатую палітру і творчы патэнцыял пачынаючага празаіка.**

**Нам жа застаецца пажадаць ёй шчаслівай дарогі па прасторах айчыннай літаратуры, а таксама ні пры якіх абставінах не губляць адметнасці, характэрнай яе пяру, і нястомнай імпэтнасці ў спасціжэнні творчага майстэрства. А ў Наталлі ўсе задаткі для гэтага маюцца.**

***Аддзел прозы часопіса «Маладосць»***

## ПРЫЦЕМАК

Іван Рэмізаў прачнуўся, як звычайна, позна. А куды спяшацца на пенсіі?

Пасля выпітай напярэдадні бутэлькі «чарніл» балела галава. У бруднае акно нетаропка ўпаўзаў хмарны зімовы дзень. Нявесела было і на душы ў Івана. Адольвалі гнятлівыя думкі.

Яшчэ некалькі гадоў таму ў яго мелася, як ён лічыў, усё: добрая праца, зайздросная пасада, шчаслівая сям'я… Шчаслівая…

Іван прымусіў сябе ўстаць, згатаваў няхітры сняданак. Паеў.

Рэмізаў мыў талерку, калі пачуў званок тэлефона. Ад нечаканасці талерка выслізнула з рук у ракавіну і разбілася, а Іван амаль што бягом кінуўся ў пакой: тэлефонныя званкі ў гэтым доме былі выключнай рэдкасцю.

— Алё!

— Добры дзень! Максіма магу пачуць? — спытаў малады жаночы голас.

— Вы памыліліся нумарам. Максім тут не жыве! — злосна адказаў Іван і кінуў трубку.

Рэмізаў сеў у фатэль, агледзеў брудны непрыбраны пакой і нявесела ўсміхнуўся: дзень нараджэння, а ніхто нават не патэлефануе. Гэта ў ранейшыя часы каля яго кабінета выстрайвалася чарга падначаленых з кветкамі і падарункамі… Тыя часы сышлі.

Колішнія калегі забыліся пра Рэмізава вельмі скора — з падначаленымі ён заўсёды быў халодным і строгім, часам і несправядлівым. Таксама, як і з дамашнімі… Таму не дзіва, што ні жонка, ні сын, ні дачка, хутчэй за ўсё, так і не прыгадаюць пра яго дзень нараджэння...

Пад канапай нешта цьмяна бліснула. Іван напружыў зрок, прыгледзеўся. Дык вось куды закацілася ўчора парожняя бутэлька!

Рэмізаў адчыніў тумбачку і выцягнуў адтуль альбом у пацёртым скураным пераплёце.

Вось вясельныя фотаздымкі. Як жа добра ўсё пачыналася! Выпадковае знаёмства ў кафэ… Рэмізаў падабаўся многім ледзь не з першага позірку — ён быў прыгожым і добра апранаўся, але Каця вельмі доўга не звяртала ўвагі на яго настойлівыя і ўпартыя заляцанні. Мабыць, менавіта гэта і вырашыла ўсю справу.

Самому ж Івану Кацярына спадабалася тым, што ў ёй не было анічагусенькі фальшывага. Яна была зусім непадобнай да ўсіх колішніх ягоных сябровак — легкадумных і балбатлівых.

А потым зладзілі вяселле: прыгажуня-нявеста, бялюткая сукенка, букеты кветак, уважлівы і клапатлівы жаніх… Тады яны абое прагнулі шчасця, нават калі ўвесь свет будзе насуперак ім.

Вось фатаграфія шасцігадовай дачкі. Цёмныя вочы дзіцяці глядзяць са здзіўленнем.

Вось яшчэ адно фота: на арэлях гушкаецца сын, узлятае высока ў неба.

А вось Іна — першакласніца з велізарным букетам. Прыгожа ўкладзеныя валасы дзяўчынкі вянчае бялюткі бант. Ён, Іван, трымае дачку за руку, але відаць, што думкі яго лунаюць дзесьці далёка… Здаецца, ён так і не зразумеў, што быць бацькам і мужам — гэта таксама праца, і не самая лёгкая.

…Адразу ж пасля вяселля Рэмізаў настаяў, каб Каця звольнілася з паліклінікі, — ён лічыў, што месца жонкі на кухні і ў дзіцячым пакоі. Да таго ж, ён вельмі раўнаваў маладую і прыгожую жанчыну. Кацярына, якая год таму скончыла медыцынскі інстытут, з неахвотай згадзілася. Яна прысвяціла сябе дому: сустракала мужа прыгатаванымі вячэрамі, займалася выхаваннем дзяцей; вадзіла іх у кіно і басейн, вучыла чытаць і маляваць.

Іван працаваў цалюткімі днямі — на сям'ю не ставала ні часу, ні сіл, ні, мабыць, жадання.

Ігар, старэйшы сын, бліскуча вучыўся ў музычнай школе. У дзяцінстве ён праседжваў за фартэпіяна суткамі — музыка была яго стыхіяй. Хлопчык не мог дачакацца, калі ж бацька вернецца з працы, каб пахваліцца перад ім дасягненнямі. Але Івана не цікавілі музычныя поспехі сына.

Рэакцыя Ігара на абыякавасць бацькі была тыповай: ён падвойваў намаганні, каб заслужыць яго адабрэнне, толькі ж — безвынікова. Затое выкладчыкі на хлопца маліліся — талент! Сын прывозіў дыпломы і граматы амаль з кожнага конкурсу і з гонарам развешваў іх па сценах свайго пакоя.

Рэмізаў да пары да часу праз пальцы глядзеў на захапленне сына музыкай: ну, няхай сабе лупіць па клавішах — усё лепш, чым у двары бегаць ды ў «ножыкі» гуляць. Але Ігар аднойчы заявіў, што пасля школы збіраецца паступаць у Акадэмію музыкі.

І вось тады Іван, грукнуўшы кулаком па стале, паказаў, хто ў доме гаспадар:

— Не мужчынская гэта справа — па клавішах дрынькаць! Станеш праграмістам — будзе ў цябе кавалак хлеба. З маслам. А мо і з чорнай ікрой.

Ён не звярнуў увагі на слёзы і істэрыку сына, нясмелае заступніцтва жонкі. Праз некалькі дзён, нібы паставіўшы кропку ў гэтай спрэчцы, з дому знікла фартэпіяна. Іван прадаў шыкоўны інструмент за капейкі, як бы паказваючы гэтым сыну, што ўсялякая спрэчка скончана.

Ігар аказаўся паслухмяным сынам — ён паступіў у БДУІР і нават неяк скончыў яго, хаця двойчы быў на мяжы выключэння. Цяпер сын працаваў праграмістам і… люта ненавідзеў сваю працу.

Іна сур'ёзна займалася плаваннем, але Іван надаваў ёй увагі не больш, чым сыну. Ні разу ён не з'явіўся на яе спаборніцтвы.

У васямнаццаць год дачка сабралася замуж. Па вялікай любові. За кудлатага рокера-гітарыста. Іван выказаў катэгарычнае «не», а каб дачка не нарабіла глупстваў, проста схаваў яе пашпарт.

Маладыя людзі разбегліся. На Іну навалілася глыбокая дэпрэсія, яна, магчыма, адпомсціла бацьку, заваліла паступленне ў інстытут і стала вельмі замкнёнай…

А потым прыйшла пара плаціць за ўсё.

Адносіны паміж Іванам і Кацярынай канчаткова разладзіліся. Два чужыя адно аднаму чалавекі проста жылі пад адным дахам. Потым жонка нейкім чынам даведалася пра яго шматгадовую сувязь з сакратаркай. А Іван лічыў, што Кацярыне ўсё даўным даўно вядома. Яна глядзіць на яго інтрыжкі праз пальцы. Але ж, калі Рэмізаў пра нешта і шкадаваў, дык толькі пра тое, што не змог лепей схаваць ад жонкі свае прыгоды.

Кацярына не стала скандаліць, а ціха сабрала рэчы і знікла з жыцця мужа. Гэты шлюб, здаецца, атруціў яе, і таму жанчына з усіх сіл старалася вырвацца. Кацярына з'ехала ў Брэст да маці, палічыла, што там яна патрэбней.

Потым пры першай жа магчымасці аддаліўся сын — ён зняў кватэру і за гэтыя чатыры гады ані разу не зайшоў, не патэлефанаваў.

Скончыўшы політэхнічны інстытут, Іна выйшла замуж за колішняга аднакурсніка. Праз год яна зразумела, што гэты шлюб — памылка. Дачка не вярнулася ў бацькоўскі дом, а разам з сынам з'ехала ў Брэст да маці. Яна, відаць, так і не даравала бацьку схаваны пашпарт і цяперашняе няўдалае асабістае жыццё.

Рэмізаў, застаўшыся адзін, спачатку харахорыўся: «Ніхто мне не патрэбны, адзін пражыву». Але ж, вельмі хутка ён абрынуўся ў дэпрэсію і пачаў прыкладвацца да бутэлькі, стараючыся ўтапіць адзіноту ў віне. Некалі чыстая і ўтульная кватэра паступова ператваралася ў «бярлогу». На кухні множылася «армія» парожніх бутэлек.

Невядома што перашкаджала Івану патэлефанаваць жонцы і павініцца, паспрабаваць пагаварыць шчыра з сынам і дачкой…

Адарваўшыся ад невясёлых думак, Іван устаў і падышоў да акна. З неба сцянной сыпалася дробнае, як манныя крупы, снежнае крошыва — віхурыла бясконцая лютаўская мяцеліца. У бруднае акенца лянiва ўпаўзаў прыцемак.

І ў жыцці таксама ёсць прыцемак — старасць. Здаецца, што для Рэмізава гэта будзе адзінокі прыцемак.

Ды і тэлефон, відаць, не зазвоніць…

## ГРАФІНЯ

Цемра адступіла, нечая рука дапамагла ёй падняць галаву, да гарачых вуснаў дакрануўся тонкі краёк фарфоравага кубачка.

— Пі, пі! — пачуўся жаночы голас, і гарачая пахкая вадкасць палілася ў рот.

Яе паілі гарбатай. Калі кубачак апусцеў, жанчына асцярожна апусціла галаву хворай на падушку, папpавіла коўдру і выйшла, ціха зачыніўшы за собою дзверы.

Памалу аціх боль у грудзях, і Эмілія асцярожна перавярнулася на бок.

За вокнамі сыпаў снег. Бялюткія пушыстыя камячкі спакойна і ўрачыста падалі на зямлю. Дзяўчына доўга глядзела на падаючы снег, а потым акінула позіркам невялікі цьмяны пакой з нізкай столлю.

Амаль бязгучна тахкаў гадзіннік, нетаропка гайдаўся цяжкі маятнік. Графіня Эмілія Плятэр ужо не першы месяц хавалася ў гэтым доме ад царскіх атрадаў, што гойсалі па ўсёй акрузе. Яна лічылася настаўніцай дзяцей гаспадароў.

Эмілія перавярнулася на спіну і здрыганулася ад моцнага болю ў сэрцы. Увечары ёй зрабілася крыху лягчэй, але спадзяванняў на тое, што ачуняе, у яе ўжо не мелася, цешыць сябе марнай надзеяй яна не хацела. І тут нахлынулі ўспаміны…

…Ёй няпоўных чатыры гады. Яна бяжыць па срэбнай ад расы лугавіне, і, раптам спатыкнуўшыся, падае і трапляе абедзьвюма далонямі ў свежы каравяк...

Дзяцінства… У ім засталося сяброўства з сялянскімі дзецьмі, якіх ніколі не адпрэчвала.

…Ёй пятнаццаць. Эмілія сядзіць на лаве пад велізарным клёнам і плача, да глыбіні душы ўражаная прыгажосцю восеньскага парку.

Юнацтва… У ім засталіся частыя верхавыя прагулкі, урокі фехтавання, летнія чаяпіцці на балконе, доўгія гадзіны, праведзеныя ў бібліятэцы за кнігамі, ды зімовыя вечары, калі маці ці дзядзькі распавядалі ёй, зусім яшчэ маладой дзяўчынцы, пра род Плятэраў (бацькі свайго Эмілія не памятала — ён сышоў з сям'і, калі ёй не было і года).

…Ёй сямнаццаць. Эмілія сядзіць у цьмянай сялянскай хаце і таропка запісвае тужлівую песню, якую выконвае старэнькая бабулька з маленькім, у кулачок, тварыкам.

А потым, сеўшы ля акна ў сваім пакоі і раскідаўшы па стале дробна спісаныя паперкі, яна спрабавала стварыць нешта падобнае да пачутага ў хаце самотнага галашэння.

…Ёй дзевятнаццаць. Эмілія сядзіць за фартэпіяна і, павольна перабіраючы клавішы, напявае самотны народны матыў.

Час ад часу дзядзькі бралі пляменніцу з сабою на паляванне. Падчас адной з такіх паляўнічых вандровак Эмілія ледзь не загінула.

…Быў цёплы восеньскі дзень, скрозь яшчэ не апалую лістоту сінела неба. Сабакі выгналі на паляўнічых велізарнага мацёрага дзіка. Адзін з дзядзек Эміліі трапна стрэліў, але паранены звер уцёк у густы малады ельнік. Паляўнічыя спешыліся і пачалі ціснуцца між шчыльных елак, стараючыся адшукаць падранка.

Раз'юшаны звер выскачыў якраз на Эмілію. У памяці Плятэр назаўсёды засталіся яго жудасныя бліскучыя іклы. Графіня стрэліла, але прамахнулася. У той жа момант тры альбо чатыры стрэлы зліліся ў адзін, і забіты дзік упаў літаральна ў кроку ад перапалоханай дзяўчыны.

…Ёй дваццаць чатыры. У доўгай шаўковай сукенцы, з ружай у валасах, яна танцавала на бале ў Вільні. Спакойныя вальсы змяняліся ўрачыстымі паланэзамі, вясёлай полькай, і, нарэшце, Эмілія, расчырванелая, крыху стомленая, адышла ўбок і прыхінулася да адной з мармуровых калон.

Праз нейкую хвіліну да яе падышоў кузэн, граф Люцыян Вейсянхоф:

— Ну што, сястрычка, не перадумала? — шэптам спытаў ён.

— Калі і дзе? — ледзь разамкнуўшы вусны, ціха спытала дзяўчына.

— У наступную суботу, у Дусятах, на плошчы перад касцёлам, — таксама ціха адказаў Люцыян. — Пад Варшавай ужо ідуць баі, — ледзь чутна дадаў ён. — Колькі ж можна чакаць? Пачнём — а там пагледзім.

Твар Эміліі асвяціла ўсмешка — як жа даўно яны гэтага чакалі! Графіня кіўнула на развітанне кузэну і заспяшалася да выхаду.

Люцыян глядзеў наўздагон Эміліі, такой стройнай і далікатнай у шаўковай сукенцы, і думаў, што кузіна ні ў якім разе не будзе для паўстанцаў цяжарам: яна выдатная наезніца, добра спраўляецца з рапірай, няблага страляе і, акрамя таго, мае моцную волю...

Прыехаўшы дадому, Плятэр зняла бальную сукенку і коратка падрэзала валасы. На дварэ стаяў 1831 год.

…Праз тыдзень, напрыканцы сакавіка, Эмілія, апранутая ў мундзір, была на плошчы ў Дусятах. Як жа яна хвалявалася, што не пойдуць за імі людзі, не зразумеюць, не падтрымаюць… Але ж, праз дзве гадзіны перад дзяўчынай стаяў атрад, які налічваў трыста стралкоў, сотню коннікаў і некалькі соцень касінераў.

Вырашылі рушыць на Дзвінск. Эмілія хутка звыклася з цяжкасцямі дальніх пераходаў, неўладкаваным побытам ды холадам.

Па дарозе на Дзвінск атрад атакаваў паштовую станцыю Даўгель, дзе знаходзіўся невялікі атрад урадавых войск. Атрад не чакаў нападу. Эмілію ахапіў азарт бою. Рашучасці надало яшчэ і тое, што праціўніка ахапіла паніка — салдаты кідалі зброю, патроны і ўцякалі.

Радасць перамогі акрыліла, аднак, праз некалькі дзён урадавыя войскі вярнуліся, выбілі паўстанцаў са станцыі і амаль разбілі іх. Тыя ж, хто ацалелі, у іх ліку Люцыян і Эмілія, дабраліся да арміі генерала Хлапоўскага, што стаяла ў Жэймах.

У лагеры Хлапоўскага Эмілію сустрэлі авацыяй. Сам генерал, пасля гутаркі з Плятэр, узяў маладую жанчыну ў свой штаб, прысвоіўшы ёй званне капітана. Графіню прызначылі ганаровым камандзірам першай роты дваццаць пятага лінейнага палка паўстанцкай арміі.

Генерал Хлапоўскі марыў захапіць Вільню, Люцыян і Эмілія таксама жылі гэтай марай. Аднак былі сярод паўстанцаў і тыя, хто сумняваўся ў поспеху:

— У Вільні моцны царскі гарнізон, — казалі яны. — Нам горад не ўзяць.

Хлапоўскі ўсё ж адважыўся на штурм, але захапіць умацаваны горад не ўдалося: паўстанцы панеслі велізарныя страты і вымушана адступілі.

Напрыканцы ліпеня войска Хлапоўскага апынулася ў Коўна.

Прыемнай нечаканасцю для Эміліі стала прапанова княгіні Ганны Кавальскай спыніцца ў яе доме: графіня ўжо забылася, што на свеце існуе такая раскоша, як бялізна і магчымасць прыняць гарачую ванну.

— Эмілія, я хачу даць баль у ваш гонар, — праз некалькі дзён паведаміла ёй Ганна.

Плятэр збянтэжылася: у яе не было нават вартай апраткі для балю, але Кавальская прывяла госцю ў вялікі пакой і пакінула там сам-насам з трыма дзясяткамі бальных сукенак.

…Амаль забыты лагодны дотык шоўку да скуры. Запоўненая светам і музыкай утульная зала. Эмілія ў доўгай шаўковай сукенцы колеру няспелай алівы беспярэпынку танцавала. Зайгралі яшчэ адзін вальс, і дзяўчына ўбачыла, што да яе крочыць Люцыян.

Праз хвіліну Люцыян і Эмілія апынуліся сярод танцуючых пар. Гучала музыка, плаўна, лёгка кружыліся яны ў вальсе. Дзяўчыну ахапіла бесклапотнасць, ёй здавалася, што гэты баль будзе доўжыцца вечна...

А праз некалькі дзён была бітва пад Шадавам з вялікім падраздзяленнем урадавых войск. Конь Плятэр быў забіты на самым пачатку бою, і маленькую групу паўстанцаў, сярод якіх была і Эмілія, акружылі. Здавалася, што палон непазбежны, але раптам, адцясніўшы атакуючых, да Плятэр прабіўся Люцыян верхам на ўпараным кані.

Граф саскочыў на зямлю і кінуў кузіне повад:

— Скачы да лесу!

Праз імгненне дзяўчына была ўжо ў сядле. Следам кінуліся салдаты, за спіной глуха грымнулі стрэлы, над галавой зацвінькалі кулі. Эмілія некалькі разоў стрэліла з карабіна, і царскія вершнікі адсталі. У гарачцы пагоні графіня не адразу заўважыла, што паранена — куля зачапіла запясце.

Люцыян таксама застаўся жывы, хаця і быў паранены. Атрад вырваўся з аблогі.

На ваенным савеце вырашылі падзяліць армію на тры часткі і дзейнічаць у трох кірунках. Люцыян і Эмілія засталіся з войскам Хлапоўскага, але напачатку восені яны даведаліся, што генерал, ратуючыся ад урадавых войск, задумаў перайсці на тэрыторыю Прусіі.

Графіня не адразу ў гэта паверыла, а калі ўсё ж паверыць прыйшлося, то кінулася да Хлапоўскага, молячы яго адклікаць свой загад і ваяваць далей. Аднак генерал быў няўмольны.

— Што ж, шчаслівай дарогі, генерал! — кінула яму на развітанне Эмілія. — А я застаюся. І буду ваяваць далей.

На чале невялікага атрада Люцыян і Эмілія пакінулі адыходзячае ў Прусію войска Хлапоўскага і вырашылі дабірацца да Варшавы, каб зліцца з атрадамі іншых паўстанцаў.

Пераходы напрыканцы восені — не лёгкая прагулка. Несупынна ліў дождж — то дробны і калючы, а то — залева. Нават схавацца ад яго не было дзе — навокал, да самога гарызонту — палі. Вопратка прамокла наскрозь, і, калі налятаў парыў раз'юшанага ветру, холад праціна́ў да касцей.

Невясёлы настрой прыгнятаў. Каб сагрэцца, прасушыць вопратку і прыгатаваць хоць якую ежу, час ад часу раскладвалі невялікія вогнішчы.

Эмілія адчувала сябе блага — яна канчаткова знясілела ад бясконцых пераходаў, да таго ж і моцна застудзілася. Дзяўчына да болю ў пальцах сціскала повад, каб не зваліцца з каня — час ад часу яна амаль страчвала прытомнасць.

Раптам у вушах зашумела, перад вачыма заскакалі рознакаляровыя колцы, повад выслізнуў з пальцаў, і Плятэр, страціўшы прытомнасць, звалілася з сядла якраз пад ногі каню.

— Эмілія! — Люцыян саскочыў на зямлю і падхапіў кузіну на рукі.

Графіня была ў непрытомнасці.

— Асцярожна, вузкія дзверы! Кладзіце яе на ложак! — ціхім шэптам прамаўляла гаспадыня.

Люцыян асцярожна паклаў кузіну на нізкі ложак.

Жанчына пачала расціраць лоб, скроні, рукі і ногі Эміліі. Тым часам Вейсянхоф адышоў у кут пакоя, сеў у крэсла і моўчкі пазіраў на кузіну, на яе бледны, без крывінкі, твар. Граф ведаў, што ні ў чым не вінаваты, але ніяк не мог адагнаць неадступную думку: «Не збярог». Люцыян разумеў, што ён павінен ісці, што атрад абавязаны працягваць свой шлях. Толькі ж ён адкладваў гэта імгненне — яму хацелася як мага болей пабыць з Эміліяй. Магчыма, ён разумеў, што наўрад ці ўбачыць яе зноў…

Атрад рушыў сваёй дарогай, а Эмілія засталася ў доме Марыі Абламовіч, сам-насам з хваробай і сваімі думкамі. З кожным днём ёй рабілася ўсё горш і горш, але графіня не здавалася і, як магла, змагалася з немаччу…

Рыпнулі дзверы. У пакой ціха ўвайшла гаспадыня.

— Добра, што вы не спіце. Трэба паесці, — прамовіла яна, ставячы перад Эміліяй міску з булёнам.

Есці Эміліі не хацелася, але, каб не засмучаць гаспадыню, дзяўчына праглынула некалькі лыжак, а потым адкінулася на падушку і заплюшчыла вочы. Ёй зноў пагоршала, заныла сэрца.

Гаспадыня бязгучна, аднымі вуснамі, прачытала над хворай малітву, цяжка ўздыхнула, узяла посуд і выйшла. Яна разумела, што шанцаў на выздараўленне ў Эміліі амаль няма. Але ж надзея памірае апошняй…

Смерць не пытаецца, калі ёй прыходзіць. Эмілія Плятэр памерла ў снежні 1831 года, на шчасце, так і не даведаўшыся пра канчатковы разгром паўстання. Ёй было толькі дваццаць пяць гадоў.

Андрэй СУЗІНЬ

# ВОГНІШЧА Ў СЭРЦЫ

*Андрэй Сузінь нарадзіўся ў 1987 годзе ў вёсцы Лазы Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў гімназію № 1 г. Віцебска, пасля — геаграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Друкаваўся ў часопісе «Маладосць».*



**Андрэй Сузінь дэбютаваў у «Маладосці» ў снежні 2007 года. Адкрыццё новага яркага імені менавіта на нашых старонках — не толькі вялікая радасць і гонар, але і адказнасць. Многія аўтары пачынаюць вельмі яскрава, але адзінкі застаюцца вернымі паэтычнаму шляху. Талент Андрэя якраз-такі не згас, як знічка, а працягвае гарэць на небасхіле сучаснай маладой літаратуры. «Паэзія для мяне — накшталт адлюстравання таго, што адбываецца ў мяне ўнутры. Моцнае ўражанне само сабой ператвараецца ў форму верша, кожны з якіх для мяне — мой жыццяпіс, тое, што я перажыў і пабачыў», — прызнаецца хлопец. Экспрэсіўнасць, дынаміка, арыгінальны рытмічны малюнак вершаў Андрэя Сузіня прываблiваюць, запамінаюцца, зацягваюць у вір пачуццяў лірычнага героя, не пакідаючы абыякавымі нікога з чытачоў.**

***Віка ТРЭНАС***

* * *

Пазбавіць сябе
Апошніх крокаў,
Дачакацца,
Выпрасіць,
Вымаліць,
Каб з табой
Дасягнуць аблокаў,
Каб дажджы
Нашы твары вымылі,
Палыном каб
Не пахлі словы —
Толькі праўдаю
Ды чаканнем,
Калі сэрца
Імгненні ловіць
У амаль
Непрытомным стане.
...Я стаміўся
Не спаць да золку
Ды паветра
Атручваць
Маною.
Я зраблюся жывым,
Як толькі
Зразумею,
Што ты —
Са мною.

**КАТАРСІС**

Я
Абяцаю здабыць
Усе магчымыя
Скарбы.
Дурное сэрца

Калоціцца,
Як у спрынтара,
Выціскаю сябе
Да апошняй
Кроплі фарбы
Чорна-белага прынтара!

Раптоўны выхад
З непрытомнага стану.
Шчыльней прыціскаецца,
Нібы на марозе,
Паветра,
Настоенае
На тваім
Каханні, —
Да жадання,
Намалёванага
На маім
Позірку.

* * *

На разбітыя крылы
Кідаюць каменне
Тыя,
Хто ўчора
Вучыўся лятаць,
Каму было
Патрэбна найменей
Са словаў
Турэмныя краты сплятаць.

Будуць гасіць
Вогнішча ў сэрцы
Тыя,
Хто нёс
Запалкі ў руцэ,
Каму на хвіліну хаця б
Сагрэцца,
Вырасціць крылы —
І паляцець.

Будуць кахаць
Ды плесці інтрыгі,
Лаяцца,
Дыхаць дымам
І піць
Тыя,
Хто піша
Цёплыя кнігі,
Каб заўтра ўначы
Было, што спаліць!

## НЕ СКАЖУ

Чаму ты стала
Для мяне
Адной з цацак?
Чаму нясу
Здзеклівы холад
У кожным кроку?
Даруй,
Ні табе, ні сабе
Не магу прызнацца,
І вам не скажу!
І на гэтым
Паставім кропку.

## ПРАДЧУВАННЕ ВАЙНЫ

Прывітанне!
Пішу табе
На адвароце фота,
Каб ты яшчэ раз пабачыла
Мой страчаны твар.
Ты — адзінае сонца маё,
Мой сон і турбота
У жыцці,
Дзе кроў — гэта грошы,
А сумленне — тавар.

Трэці дзень
Я гляджу навакол —
І нічога не бачу,
Толькі ноччу
У адзіноце дыхаць лягчэй,
Бязродныя думкі —
Бы змеі
Ў паветры гарачым,
Трывога збірае даніну
З кожных вачэй,
Кроплі дажджу
Не робяць меншымі хмары,

Бяздомны сабака
Ціснецца да сцяны.
Яшчэ паўдня —
І ад мяне застануцца
Словы і мары,
Якія не дапамогуць
Пазбегнуць вайны!

Бывай!
Гэта ўсё.
Аджылі.
Адляцелі.
Забудзь, што я існаваў,
Калі грымне бой.
Не балюча, не крыўдна,
Але мы шмат не паспелі.
І ўжо не паспеем.
Твой...

**ЧОРНАЕ З ЗОЛАТАМ**

Чорнае з золатам прыкіпела да лісця,
Да крывога месяца, навечна прыкутага,
Апошнія ночы небу даліся
Сталёвымі слязьмі і зорнымі пакутамі.

Чорнае з золатам ліпне да твару,
Як слізкія рукі тапельца — да берага.
Нехта вялікі піва варыць
З зерня літар, зусім зацвярдзелага.

Падаюць ніцма ідалы-волаты,
Чорныя з золатам!
Чорныя!..

* * *

Прыгажосць, таямніца і бездань
ходзяць утрох.
Але ведаеш, бездані не трэба баяцца,
Бо страх — тая самая радыяцыя,
Якая атручвае нутро.

Далеч, веліч і глыбіню
Можна шукаць ад Лондана і да Гаваны,
Але сапраўдная таямніца схавана
У стылі ню.

* * *

Запалі свечку
І падыдзі да люстэрка.
Зазірні ў яго цемру.
Там ты можаш пабачыць
Сваё наканаванне,
Ці мінулы дзень,
Ці нават імя
З мінулага жыцця.
Але хутчэй за ўсё
На цябе непаразумела
Утаропіцца
Непрыгожы двайнік,
Маўклівы
І таму мудрэйшы.
Напэўна, за гэта
Ён і асуджаны
Навечна сядзець
У двухмернай турме.



*Стася НАРКЕВІЧ*

# ПЫРСКІ ЖЫЦЦЯ НА АРКУШЫ ПАПЕРЫ

***Мініяцюры***

Статак кароў узворваў зямлю капытамі, а пастушка нават не звяртала ўвагі на гэта. Яна падняла галаву ўгору і пазірала, як пад воблачкам сутаргава трапятаўся жаўрук, быццам хтосьці яго падбіў.

* * *

Струмені цішыні перапляліся з водарам сухой травы, якая таксама струменіла, і ад гэтага п’янела галава.

* * *

Хлопец выціскаў з сябе такія шурпатыя словы, ад якіх рабілася ніякавата.

* * *

Мяне віталі дзьмухаўцы. Беленькія, пульхныя шарыкі, якія рассыпаліся па лузе і нагадвалі цукеркі-дражэ. І так захацелася ў салодкае дзяцінства!

* * *

Луг у гэты ранак нагадваў імправізаваны аэрадром, на які толькі што прызямліліся дзьмухаўцы, але ўсё яшчэ гойдаліся на тоненькіх сцяблінках-стропах. Відаць, чакалі, калі разарвецца купал парашута і вызваліць іх ад зацяжнога скачка.

* * *

Пыл гадоў, які я заўважыла ў пакоі, ляжаў на самым бачным месцы. Ці для гісторыкаў ён быў, ці для прыбіральшчыц — хто скажа?



*Стася Наркевіч (Анастасія Лазебная) нарадзілася ў вёсцы Куляшы Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Працавала карэспандэнтам у абласной газеце «Віцебскі рабочы», рэдактарам у шматтыражных газетах. Цяпер — рэдактар газеты «Мы і час» Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава.*

**Вам даводзілася бачыць у летнюю пару россыпы зіхатлівых кропелек расы на сцяблінцы канюшыны? Вядома, што так. І вось на гэтыя своеасаблівыя прыродныя пацеркі скокнуў сонечны зайчык: аблашчыў, абцалаваў кожную кропельку, і яны ўсе разам і кожная паасобку ператварыліся ў чароўныя брыльянты выкшталцонай агранкі… Нешта падобнае адчуваеш, калі чытаеш мініяцюркі Стасі Наркевіч. Тут у кожным радочку прыхавана шчырая любоў да роднай прыроды, адданасць някідкай, але самай дарагой зямлі маленства і сталасці… Адным словам, пацешце заўрбанізаваныя душы адмысловай прозай Стасі Наркевіч.**

*Аддзел прозы часопіса «Маладосць»*

Сляды чалавека, колькі вас. Вы, то бежыце, то марудна крочыце, то разыходзіцеся ўбакі. За вамі не ўгнацца, не спыніць вас. Але вы ідзіце. Толькі не стойце на месцы. Спыніце рух — спыніцца і ваша жыццё.

* * *

Гора ў сястры, а ў мяне шчыміць сэрца. Родная ж.

* * *

Жанчына пазірала на восеньскія промні сонца і абуралася, што іх падкасілі чорныя дажджавыя хмары. Яны былі кароткія і халодныя. А яшчэ так хацелася цяпла.

* * *

Ранак пасля дажджу — быццам немаўлятка пасля хрышчэння — чысты і святы.

* * *

Сонца любіць купаць свае промні-зайчыкі ў кроплях расы, а потым хваліцца сваёй чысцінёй і бляскам.

* * *

У жывы ручаёк сонца апусціла ўсе промні адразу, а вось паласкала іх па адным і па чарзе.

* * *

Думкі вя́лі ў самоце, што скамечаная мята, якая пакідала прыкры водар.

* * *

Меддзю гарэлі на сонейку валасы жанчыны, якія выбіліся з-пад белай хусткі.

* * *

Птушка даволі доўга білася ў сетцы густой травы, а калі знемагла — села. Прыціснула крылы да зямлі і стала чакаць збавення. Дачакалася. Цяпер бавіць час у клетцы, без спеваў, і, відаць, у думе — лепш бы памерла на волі.

* * *

Вясна! Пах язміну, бэзу. Возьмеш у рукі галінку — і не трэба ніякай парфумы. А захочаш папудрыцца, калі ласка, акацыя натрасе са сваіх кветак той пудры поўныя жмені. Толькі прыхарошвайся.

* * *

Жанчына глытала ранішні туман разам са слязьмі — душылася ўспамінамі.

* * *

Стомленая, дзяўчына падышла да хвоі. Па ружовых шчоках яе каціліся слёзы, якія тут жа высушваў вецер. Плакала і дрэва. Толькі, у адрозненне ад дзяўчыны, шматлікія смалістыя слёзы застывалі на маладзенькіх іголачках і блішчэлі бурштынавым агнём. Хвоя таксама пакутавала.

* * *

Вецер, які вырваўся на шырокі прастор, хапаў віхуры пяску і з сілай пачынаў іх укручваць у зямлю, але безвынікова — пясок рассыпаўся, як неданошаная мара. Так і ў людзей — каб чагосьці дасягнуць, патрэбна не толькі сіла…

* * *

Неяк раптоўна зайшло сонца. Цемра чорнай птушкай з вялікімі неабсяжнымі крыламі накрыла ваколіцу. У некаторых месцах яна была падобная да чорнай тушы, якую разліў вечар. І навошта…

* * *

На небе з'явіліся чорныя хмары, з якіх раптоўна пасыпаўся пацеркамі град. Дзяўчына пазірала на белыя ледзяныя пацеркі і шкадавала, што не можа нанізаць іх на нітку і ўпрыгожыць сваю тонкую шыю. Цяпло цела ды сонца растопяць каралі.

* * *

Стужка вясёлкі апусцілася з аднаго краю неба на другі. Дзяўчынцы так захацелася прайсціся па гэтым вясёлым мосціку, што яна падалася наперад. Але тут жа спынілася, бо ўсведамляла безнадзейнасць свайго жадання.

* * *

Здань зімовай сцюжы круцілася ў пуху таполяў, шалёна насілася над галовамі прахожых. Хоць бы вецер яго адагнаў. Ды дзе там.

* * *

Вецер-дворнік падмятаў так чыста, быццам яму плацілі вялікія грошы. Працаваў задарма. Многім гэтага не зразумець…

* * *

Яна любіла ноччу прыходзіць на бераг мора, калі над ім вісела поўня і працягвала па марской роўнядзі срэбную дарожку, падобную да трапа. Ёй так хацелася па

ім узняцца. Яна нават парывалася зрабіць крок-другі ды стрымлівала сябе. Ведала, што ніколі не трапіць на месячык, а з яго не зможа перабегчы на Млечны Шлях, які цягнецца да вечнасці. Яна была вельмі сціплай.

* * *

Хлопец думаў, што ён зробіць крок-другі і будзе стаяць на краі Зямлі. Але, колькі ён ні рабіў тых крокаў, край усё аддаляўся і аддаляўся, а мара ўсё мацнела і мацнела. Вось што значыць маладосць.

* * *

Лета са свайго куфра выкідала дзіўныя дзянёчкі ўперамешку з цёплымі дажджамі, кроплі якога дзіравілі тоўсты слой пылу альбо танчылі перад людзьмі. І калі ўжо стоміцца?

* * *

Кляновы лісток, падобны да матыля, зляцеў з дрэва і закруціўся павольна, быццам вальсіраваў. Але чаму адзін?

* * *

Туман белым шалікам павіс над сенажаццю так нізка, быццам хаваў ад злых вачэй мятліцу, на якой віселі росы-жамчужынкі. Пэўна ж, баяўся, што людзі збяруць тое багацце ды здадуць у ламбард. На сваё няшчасце.

* * *

Жоўты ліст ад сонца заблішчэў залатой манетай. Колькі такога багацця пад нагамі!

* * *

Сцюжа апаліла мае шчокі, якія толькі што памылі слёзы. Недасачыла.

* * *

Сонца так уграvала, што снежны кажух праз колькі часу на вачах зрабіўся брудным, чорным лахманом. Вясна прыйшла.

* * *

Такі паркет, што заслала зіма на лужыне, дзяўчынка да гэтага дня не бачыла: роўненькі, гладзенькі, з застылымі бурбалкамі — узор высокага мастацтва. Шкада, што не вечны.

* * *

Елка, абсыпаная снегам, была падобна да лесвіцы, па якой скакала ўверх сінічка. Дзівачка-птушка.

* * *

Яна не ведала, куды ісці. Ёй было страшна ад таго, што зямля злучылася з небам, а над ёй круцілася сцюжа, якую з кратаў выпусціў снежань.

* * *

Агонь трапятаўся ў каміне, а яго цяпло лёгкай дымкай даплыло да акна, на якім мароз намаляваў дзіўных істот. Ад гарачыні яны расплыліся. Такое можа быць і з людзьмі. Бойцеся празмернай і гарачай ліслівасці.

* * *

Марыйка бегла па марозным снезе, быццам па крухмале, які толькі што высыпалі на асфальт. Радавалася зіме.

* * *

Серыял зімовых сцюж не даваў магчымасці вылузнуцца з хаты. Зусім адурыў галаву.

* * *

Вы чулі мову марозаў? А я чула. Яна халодная, скрыпучая і да болю пякучая.

* * *

Яна ішла па дарозе, а па ёй, то злева, то справа страляў жарынкамі снег. І ўсё па вачах. Ёй было так балюча.

* * *

Колькі часу мароз згубіў, каб на галінкі надзець бліскучыя ледзяныя панчохі. Дакранешся да іх, а яны рассыплюцца, быццам разаб’ецца шкло. На маленькія аскепачкі. Параніць могуць.

* * *

Бяжыць, бяжыць па полі санны след — бясконца. А вясною раз — і знік. Не дзіўна — сонца з’ела.

* * *

Пасівелы васілёк, які прыхінуўся да сцяблінкі жыта, быў такі гаротны і нагадваў стогадовага дзеда — знямоглага і адзінокага.

* * *

Вецер са злосцю кудлаціў траву, а яна ўсё выпроствалася і выпроствалася. Жыць хацела.

* * *

Вы ведаеце, да чаго падобная снежная гурба вясною? Да сыру ў дзірачкі. Толькі есці яго не хочацца.

* * *

Будаваўся новы дзень. Яго гмахі ўзводзіла сонца. Складвала нябачныя цаглінкі, размалёўвала іх блакітным колерам, а зрэдку ўпрыгожвала золатам. Нам на радасць.

* * *

Яна любіла ў памяці гартаць дні, быццам аркушы паперы. Атрымлівалася.

* * *

Жанчына не хацела піць халодныя слёзы восені, бо сваіх наглыталася ўдосталь. Аж салёна-горка было ў роце.

* * *

Прыехала на малую радзіму на досвітку. Яе даймала смага, але яна не шукала студні, бо золак пачала піць па кропельцы і, відаць, дапіла б яго, каб не перашкодзіла сонейка.

* * *

Снег ранняй вясною чорны, быццам яго наваксавалі рэшткамі гуталіну, а мо ад таго, што яго на вугаль спаліла сонца.

* * *

На вузенькім масточку блішчэлі жоўтыя лісты, якія восень змачыла слязьмі. І чаго ўжо плакала?..

* * *

Яна пачала ўспамінаць мінулае ранкам, а пад вечар заблукала ў сваіх успамінах. Аж расчулілася.

* * *

Жанчына памяць заліла тушшу, жаль закрэсліла алоўкам і жыццё пачала наноў.

*Таццяна ПРАТАСЕВІЧ*

# «ДОБРЫ МОЙ СУМ...»



*Таццяна Пратасевіч нарадзілася ў Мінску. Закончыла Жодзінскае тэхнічнае вучылішча імя братоў Купрыянавых. Працуе ў тэхнічным кантролі МПЗ. Друкавалася ў зборніку «Дзень паэзіі 2005», газеце «СБ. Беларусь сегодня», «Голас Радзімы», часопісе «Маладосць».*

**Таццяна Пратасевіч — сябра суполкі «Літаратурнае прадмесце». Менавіта з аб'яднання пад кіраўніцтвам Людмілы Рублеўскай пачаўся шлях паэтэсы ў літаратуру. Многія крытыкі гавораць, што не бывае паэзіі мужчынскай і жаночай. Аднак ёсць аўтар, які прамаўляе голасам прыгожай паловы чалавецтва, прычым па-сапраўднаму шчыра і глыбока — гэта Таццяна. Новую нізку вершаў яднае матыў светлага суму, вядомы нам па творчасці класікаў. Таццяна Пратасевіч спрабуе адшукаць раўнавагу між смуткам і весялосцю, між традыцыйнасцю і вынаходніцтвам новых вобразаў. Перад намі — яе лепшыя набыткі.**

***Аддзел паэзіі часопіса «Маладосць»***

* * *

Мой сябра, ты не верыш у каханне!
Сцвярджаеш, што паўсюль пануе жарсць.
А ў сутыкненні душаў ёсць мяжа,
Якая вымалёўваецца ззяннем.
Бы ад вугольчыка, ідуць святло і жар.
А ты не верыш, бо яго зусім не зведваў,
Не верыў ты ў яго, любоў і вернасць.
І гэта ўсё душы сцвярджае беднасць…
Пчалою быўшы і не еўшы мёду —
Жыццё такое нам нашто ад роду?

**ДЗЕ ТЫ**

Разбіваюцца думкі аб сцены
халодных пакояў —
Дзе ты?
Кроплі поту марудна сцякаюць
па скронях —
Дзе ты?
Перабрала я сшыткі ўсе, папкі, газеты…
Знік партрэт твой з маёй невясёлай
кватэры.
Зразумела я ўсё і злуюся без меры.
А, наогул, чаго? — Ёсць другія паэты…
Больш не буду шукаць. Не цікава мне —
Дзе ты.

* * *

***«Сум генетычна разбаўлены ў нашай крыві»***
Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

Сум генетычна разбаўлены ў нашай крыві.
Мне прапаноўваюць лекі: віно і каханне.
А выбіраю я вершы, душой, што крывіць!
Гэта маё безназоўнае выратаванне.
Не называю каму, для чаго і нашто

Вершы запісаны з думак, пачуццяў і стрэсаў.
Як перасаджана кветка ў другое кашпо,
Гэтым змяняе жыццё, ды насуперак лёсу.
Сум падмацую самотай у дзённым жыцці.
Тут не атрута, а пэўнае суіснаванне.
Час застывае ці крыху марудней ляціць…
Добры мой сум, яму дзякуй за ўсе вершаванні.

* * *

На сметнік выплеснула смутак!
Нутро напоўню іншай тэмай.
У вершах дзённік «Мроі сутак»
Пазбаўлю статуса татэма.
Пакрэслю чыстыя старонкі,
Жыццё пачну з другога сшытка.
Дзе вершы — не газет калонкі,
Душы бясцэнныя набыткі.

* * *

На развітанне — пустыя фразы.
Проста пачуцці замерлі глыбока.
Палу — як току з нулёвай фазы,
І не спяшайся спісаць на сурокі.
Зрэнкі хаваеш пад вейкамі сумна,
Сорамна быццам за нейкія словы,
Што выпадкова зляталі, бяздумна.
Толькі прысуд за ўсё гэта суворы.
Хай на сустрэчу — вітанне ўсмешкай.
На развітанне ж — не ўспомні ліхам.
Я пажадаю сустрэчы лепшай.
Вер, без цябе мне вольна і ціха.

* * *

Душа мая, ты ў кокане зямным,
Будзённасцю ахутана часова.
Займела ты магчымасці, між тым,
Адна з якіх — ствараць жывое слова.
Адчула пахі кветак палявых
І дотык рук, цалуючыя вусны…
І мову, голас, што спявае ўслых,
Пачула паміж нот усіх спакусных.
У кокане зямным душа мая.
Імкне з яго, ды шмат паспець патрэбна.
І цела, і душа адно ёсць — я,
Звязаны між сабою ніткай срэбнай.

*Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА*

# ЧОРНАЯ ЛОТАЦЬ

### *Міфалагічнае апавяданне*

«…*Па дрыгве балот не хадзі, у люстра чорнае не глядзі, на шляху сваім не журыся, чорнай лотаці не кажыся*». Ты не пра мяне, старадаўняя замова, хоць і ведаю я цябе. Цешыць мае вочы дзівосная кветка — чорная лотаць. Цуд незвычайнай прыгажосці… *«Цуду цёмнаму не дзівіся, чорнай лотаці не кажыся»*, — ізноў усплывае напамін. А я і не дзіўлюся, — рашуча падумала вяшчунніца. Я проста гляджу на прыгожую кветку. Не зачэпяць чары яе пачуццяў маіх, бо няма ў мяне захаплення. Толькі не табой, чорная лотаць, кветка даўняй памяці. Расцеш ты ў непраходнай багне, хаваешся ў топкай дрыгве, дзе ніякія чары цябе не знойдуць. Свету не бачыш, на сонца не глядзіш. Ноч на цябе не зважае, як быццам такой кветкі і зусім няма. Ніколі не сарвуць цябе ані русалка, ані балацянка. Баяцца чараў тваіх. Адно ніхто, ніхто не ведае, якія яны, твае чары… І я б ніколі не пайшла цябе шукаць… *«Свету чарамі азавіся, чорнай лотаці не кажыся…»*, — думала чараўніца-вяшчунніца.

Яна б ніколі не пайшла па гэтай багне. Не было ў яе тых чараў, што ад нараджэння дадзены іншым. Навошта было ёй шукаць тую кветку, пра якую так казалі-папярэджвалі замовы… Толькі… не слухаліся яе навальніцы, не імчалі яе словы ў свет адвечныя вятры, не дзяліліся сваімі таямніцамі магутныя пушчы. Адно толькі прадбачанне, адно толькі вяшчуннае слова было ў яе. А што можа слова? «Ты не наша», — пасміхаліся тыя, хто клікаў навальніцы і гнаў вятры. «Ты не з намі», — упэўнены былі тыя, хто чараваў пушчы. «Я не ваша, я не з вамі, — адказвала ім вяшчунніца. — Адно ўсе чары бачу, адно ўсе чары ведаю, адно магу прадбачыць, што чары тыя ўчыняць…» «Навошта прадказваць, калі можна ствараць



*Ганна Навасельцава нарадзілася ў 1983 годзе ў Віцебску. У 2006 годзе скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры ВДУ імя П. М. Машэрава. У 2009-м — аспірантуру пры гэтым універсітэце. Цяпер працуе выкладчыкам на кафедры беларускай літаратуры ВДУ імя П. М. Машэрава. Друкавалася ў абласных перыядычных выданнях, часопісе «Маладосць».*

**Ганна Навасельцава ўжо знаёмая чытачам «Маладосці». Не так і даўно на старонках часопіса друкаваўся яе празаічны твор з элементамі містыкі. І вось новая сустрэча з таленавітай аўтаркай. А што гэта так, кожны пераканаецца, прачытаўшы апавяданне «Чорная лотаць». Якое моўнае багацце, вобразная насычанасць, эмацыйная ўзнёсласць!**

**Чытаючы, радуешся, што ў айчынную літаратуру прыходзяць такія ўдумлівыя, разважлівыя і глыбокія творцы. Гэта чарговае сведчанне таго, што беларусы — таленавіцейшая нацыя з магутным творчым запалам і запасам!**

*Аддзел прозы часопіса «Маладосць»*

і адмаўляць, пасылаць чары ў свет і забіраць іх назад?» «На тое, што памятае ўсё свет. І чары, і жыццё ваша памятае». «І што з таго? Лятуць вятры і грымяць перуны, застаюцца стаяць векавечныя пушчы. Мы там, мы з імі, мы разам».

— Чары сыходзяць, пасланыя і непасланыя. Толькі памяць застаецца. Прадказваць — гэта значыць памятаць…

Памяць. У мяне чары памяці. Памятаюць кветкі дні і ночы, вечары і раніцы, сонца і дажджы. Памятаюць дрэвы вясну і восень, безліч летаў і зім. Памятаюць валуны радасць і горыч, цэлую вечнасць і кароткае імгненне. Кароткую вечнасць і цэлае імгненне. Вялізныя, жывыя, яны з'яўляюцца з зямлі як напамін пра канцасць і неўміручасць. Яны размаўляюць загадкамі, яны радуюцца кветкам і дрэвам, яны адгадваюць твае думкі па адным толькі слове. І ўсміхаюцца сонцу, усміхаюцца месячку. «Чаму ўсміхаецеся вы?» — пытаюся ў іх.

— Чакаем новага ў свеце…

Так было заўсёды, колькі сябе памятаю. Пакуль аднойчы не з'явіўся з зямлі шэрышэры валун, які не размаўляў, не радаваўся, не чакаў новага ў свеце. З'явіўся ён з самага прадоння і цікаваў, цікаваў за светам сваімі шэрымі-шэрымі вачыма. Чарнела і камянела ля яго ўзножжа зямля, не мірылася з ім, не прымала як свайго. У самы ясны дзень хаваўся той валун пад покрывам хмар, ноччу ж выскоквала з блізкай багны ды бегла да яго хітрая балотная нечысць. Цягнула яму цёмную балотную ваду.

— Навошта валуну балотная вада? — неяк запытала ў самага маленькага калматага стварэння.

Загалёкала, зарагатала ў адказ. Закруціліся вакол мяне невядомыя балотныя чары. Не паспела спалохацца, як загула нада мной навальніца, заляскала гнеўнымі грымотамі. Няўклюдна разліваючы балотную ваду, кінуліся хавацца палахлівыя нячысцікі. Не сунімалася навальніца, грымела, нібы была некім паслана. І прыгожы чарадзей, які замовіў тую навальніцу, азваўся да мяне такімі словамі:

— Не хадзі да гэтага… валуна, вяшчунніца. Не ваду цягаюць яму паслухмяныя балотныя слугі.

Азваўся так ды знік.

Да ўсіх валуноў я хадзіла, ва ўсіх пра таго шэра-шэрага пыталася. Маўчанне адно чула. Як быццам не памяталі, як быццам не ведалі яны анічога…

Памятаюць валуны, памятаюць усё. Толькі ў чарадзеяў кароткая памяць. Забываюць яны пра самае цяжкае, забываюць пра самае страшнае. А валуны памятаюць, памятаюць і маўчаць. Хаваюць цяжкае, хаваюць страшнае. «Чаму так чыніце?» — пытаюся ў іх.

— Таму што любім свет…

І толькі адна чорная лотаць не любіць свет. Не бачыць яго, бо заўсёды хаваецца ў сваёй багне. І думае, думае пра мінулае. Пра самае цяжкае, пра самае страшнае. Схавалася тое ў памяці чарадзейскай, сышло назаўсёды з памяці людской. Адна чорная лотаць памятае, адна чорная лотаць чакае… Чакае шэрай гадзіны, калі вернецца ўсё самае цяжкае, усё самае страшнае. Чорная лотаць памятае… Чорная лотаць чакае… *«Чорнай лотаці не кажыся»*. А я і не кажуся. Адна чорная лотаць можа расказаць пра таго, шэра-шэрага…

Я не буду казацца чорнай лотаці. Я толькі на кветку гэтую пагляджу. Пялёсткі дзіўныя, блішчастыя, цягнуцца-цягнуцца. Нібы не ў вочы, у душу табе зазіраюць. Цягуча, страшна. Забярэ ўсё самае страшнае з памяці тваёй, чорная лотаць. Каб жа не забрала саму памяць… *«…На шляху сваім не спыняйся, у чорнай лотаці не пытайся…»*

— Раскажы мне, чорная лотаць, пра шэра-шэрага…

Пацягнулася блішчастымі пялёсткамі страшная кветка і мовіла:

— Раскажу…

*«Ці бачыла ты, вяшчунніца, прыгожага чарадзея, што насылае навальніцы ды б'е перунамі маіх маленькіх братоў? Не заўсёды так было… А вінавата ў гэтым такая ж, як і ты, слаўная ды чуллівая. Легкадумная, закаханая. Яна не ведала толькі аднаго: як шмат на свеце чараў, што могуць прыўлашчыць сэрца… Не бойся мяне, вяшчунніца. Не забяру тваю памяць, не забяру тваёй душы. Адно сапраўднасць паказаць хачу, каб пeражыла ты зноў даўно прамінулае. Яе, з якой усё пачалося, пазнаю ў табе… У цябе яе кроў, у цябе яе чары, у цябе яе сэрца. Нічога не забывае кроў. Тояць-хаваюць чары памяць пра старадаўняе. І адно толькі сэрца можа вярнуць мінулае… Сэрца, якое хоча нанова адчуваць усё, што калісьці сталася. Ці памятаеш тое, чараўніца? Успомні, як зрабілася ты вяшчунніцай…»*

Я… не памятаю. Не са мною гэта было. Але ты, чорная лотаць, нясеш мяне ў мінулае. Цёмнае, страшнае. Нясеш туды, дзе такая ж, як і я, страціла сваё сэрца. Страціла надзею… Навошта, чорная-чорная лотаць? Ты ўжо нічога не вернеш. Мінулася страчанае…

*«Не, не мінулася. Прадкажы вяртанне надзеі, прадкажы, вяшчунніца».*

Не магу прадказаць… Няма ў мяне чараў памяці. Не магу адвесці вачэй ад самага прыгожага чарадзея…

— Адкуль у цябе такая дзіўная зёлка? — гляджу ў вочы яму, усмешліваму, які падае мне нечаканы дарунак. — Не ведаю я такой.

— Бо не можаш ведаць таго, што чарамі маімі ўчора створана. Для цябе створана. Для цябе адной.

Прамаўляе так ды ўсміхаецца ласкава, добра. Падае мне дзіўную зёлку, лапінку-сцяблінку, такі цёмна-зялёны лясны агеньчык. Гляджу на чары новыя, невядомыя ў захапленні… Бяру ў рукі лясную зёлку. Дзіва-дзіўнае… Чую я галасы блізкіх дрэў, што шэпчуцца між сабою пра вятры ды навальніцы. Чую галасы начных птушак. Гамоняць пра свае справы, дзе здабычы ўзяць ды накарміць птушанят. Чую, як нешта распавядаюць травінкі пад нагамі, сонныя, змораныя. Бачаць шчаслівыя сны. Ды ці мала каго чую. Чую і разумею.

— Каго чуеш, шчаслівая? Што табе апавядае самы блізкі голас?

— Чую дрэвы ды птушак, ды малых травінак. Апавядаюць яны пра сваё…

— Не тых слухаеш. Не тых. Слухай голас, як крыніца, гаючы, як сэрца, блізкі.

Слухаю. Радуецца начной волі лёгкая жамяра. Весела пазвоньвае далёкая крыніца, радуецца зямлі, радуецца начы, радуецца возеру-прошчы, у якое цячэ. Расце на яе берагах ласкавая сон-трава, якая шэпча мне: «Спі, спі, засні. Не бойся чорнай лотаці, не чужая яна табе». Расце ля гаючай крыніцы магутны дзівасіл. Шэпча ён мне: «Паслухай сон-траву, адпачні. Падарую табе дзівосную сілу дазнацца праўду. Пра лотаць. Пра чарадзея, такога прыгожага, такога жаданага». Трымаю я ў руках сцяблінкі зёлкі дзіўнай, невядомымі чарамі створанай, і бачу, бачу на сцежцы травяністай, што да гаючай крынічкі вядзе, маленькі трыпутнічак. Шэпча ён мне: «Трыма пуцінамі я хадзіў, на трох шляхах я прарос. Праз учора на сёння і заўтра… Не бойся лотаці, не чорная яна, невінаватая яна… Не вер, не вер жа чарадзею прыгожаму».

— Вой, ты, маленькі трыпутнічак…

— Трыпутнік табе адазваўся, — пахмурнее ягоны ўсмешлівы твар. — Гэта гонар вялікі. Што ж сказаў табе той, траісты?

— Прасіў не верыць табе…

Прамаўляю, не адзводзячы ад яго вачэй. І знікае ягоная вясёлая бадзёрасць. Палынамі прарастае роспач, піжмаю ўзыходзіць горыч. Палынамі азываюцца мне ціхія словы:

— За што ты так са мной, шчаслівая?

— А навошта ты прадказваеш мой лёс? Трыпутнік мне азваўся… Навошта ж мне цяпер ведаць, што трыма пуцінамі давядзецца ісці, на трох дарогах шчасця шукаць… Як таму горка-гаючаму трыпутніку…

— Свайго лёсу ніхто не мінае… Яго не трэба баяцца, яго трэба ведаць. І я хачу ведаць, за што давядзецца мне паспрачацца з Конам ды Светавітам…

— З Конам, які ўсім вызначае лёс? Са Светавітам, які абдымае ўвесь свет? Хто ты?

— Той, які пойдзе за табою ўдалеч тваіх дарог… Колькі б іх не было.

— Я не веру табе. Хто ты?

Трымаю ў руках сцяблінкі дзіўнай зёлкі, і мроіцца мне, што цямнее сама цёмная ноч, змаўкаюць навакольныя галасы, падараваныя невядомымі чарамі. Адзін трыпутнік, блізкі ды гаючы, адзін ён не змаўкае: «Бачыў я многіх на сваіх шляхах-пуцявінах, зведаў шматлікіх такіх, якія цяжкімі дарогамі прастуюць… Толькі не магу здагадацца я, пра што думае ён, чарадзей прыгожы…» Грознай і сцішнай робіцца ноч, трымціць падараваная мне зёлка. Ды не змаўкае маленькі трыпутнік: «Чарадзей моцны, чарадзей прыгожы нечысць балотную за сабой вадзіў, кветку заклятую стварыў, скарбы страшныя зачараваў…»

Прачынаецца далёкая навальніца ў ціхай начы, і адбіваюцца навальнічныя водбліскі ў ягоных вачах… Тады гаворыць мне прыгожы:

— Паліць грамнічная навальніца нечысць. Нішчыць балотных чарадзеяў магутны Пярун, не даруе ім цёмных чараў… Ці ж магла б паслухаць перуновая навальніца таго, хто спазнаўся з балотнай нечысцю?

У цёмнай навальнічнай начы ляціць шэпт маленькага трыпутніка. Шэпча гаючы ва ўсім свеце мне адной: «Слухаецца яго балотная нечысць. Слухаецца як свайго. Кліча да сябе смелых ды кемлівых заклятая кветка, да якой не падступіцца ані чарамі, ані словам… Зманьваюць зачараваныя скарбы неасцярожных, прыўлашчваюць тых, хто пойдзе па іх і не вернецца…»

Слухаю гаючы трыпутнічак, слухаю не я адна…

— Не называй мяне болей шчасліваю. Чарамі тваімі зроблена так, што цяпер гэта няпраўда…

— Не чыніў я сваімі чарамі такога. Не чыніў і не ўчыню ніколі.

— Я не веру табе… Я ўсё яшчэ не ведаю, хто ты…

— Што ж, ты атрымаеш адказ, калі так гэтага жадаеш…

І… знікае сам. Знікае навальніца і знікае ноч. Знікае крыніца, сон-трава і дзівасіл. Не сціхае толькі голас трыпутнічка, твой, чарадзей прыгожы, твой голас: «Не паверыла мне, шчаслівая, каханая… Як жа скрушна ад тваёй няверы, цёмна, самотна. Забраны няверай тваёй чары твае…» Слухаю голас той ды разумею, што побач заўсёды чары, веды і вера. Вядзе вера чары, якія ведамі ствараюцца. І не можа на свеце быць інакш… «І я так веру. Веру ў цябе…», — шэпча мне маленькі трыпутнічак. Шэпча мне свет:

— За тое, што веру страціла, разгадай таямніцу прыгожага чарадзея. Ты ж хацела ведаць, хто ён… Разгадаеш таямніцу — і вернуцца да цябе чары. А пакуль так не здарыцца, будуць у цябе толькі веды — дарунак той дзіўнай зёлкі, якую трымаеш у руках. Зёлкі, для цябе створанай, для цябе адной…

Пераліваецца таямнічым лясным агеньчыкам дзіўная зёлка: «Будзеш усе чары бачыць, будзеш усе чары ведаць, зможаш прадбачыць, што чары тыя ўчыняць. Будзеш прадказваць. Прадказваць — гэта значыць памятаць. Чары сыходзяць, пасланыя і непасланыя. Толькі памяць застаецца. Бо памятае ўсё свет. І чары, і жыццё памятае».

Ператвараецца дзіўны лясны агеньчык у пялёсткі бліскучыя, што цягнуцца-цягнуцца… Цягнуць памяць. Цягнуць самае страшнае…

Так зрабілася я вяшчунніцай. Страціла чары. Не папусціць ніколі свет, каб ствараў чарадзей без веры… А што можа быць страшнейшым за страту веры? Ты прасіла мяне прадказаць надзею, чорная лотаць. Што ты ведаеш пра надзею?

*«Што надзея заўсёды хаваецца ў свеце, вяшчунніца. Ты пыталася ў мяне пра шэра-шэрага... Ці не ля яго схавалася і тваё спадзяванне».*

Зноў ісці мне ў мінулае. Як жа цяжка пабачыць таго, хто пакутуе ад тваёй нявеpы… Як жа млосна маліць пра надзею, калі не змагу я мінулае змяніць. Мінулася страчанае. Няма там маёй волі…

*«Не, не мінулася. Знайдзі там веру, знайдзі, вяшчунніца».*

Дзе ж мне веры шукаць… Патанае ў цемры адвечная багна. Не знайсці ў ёй нікога, не знайсці ў ёй нічога. Толькі ён, уладар балот, толькі ён тут шчаслівы…

— Куды ты нясеш балотную ваду? — пытаюся ў маленькага рухавага нячысціка.

— Багну, балота лію, каб ты па іх прайшла, згубілася, патанула. Буль-буль-буль…

— Хто згубіцца, хто патоне? Каго нам заблытаць-заплесці лазой? — выскоквае гурток цікаўных чартоў-лознікаў.

— Гец, вы! Хто згубіцца, хто патоне ў маім валадарстве? — азываецца паважна сам балотнік.

— Вяшчунніца, — з паклонам адказваюць яму лознікі. — Вяшчунніца чорнай лотаці.

Уздыхае мажны балотнік ад тых слоў, і ўздых ягоны ляціць, здаецца, над усёй адвечнай багнай. Становяцца сур'ёзнымі гарэзныя нячысцікі. А балотнік сам сабе разважае: «Хто б думаў, што яна сюды вернецца… Яна, чорная лотаць». Ды гаворыць пра тое, што расце чорная лотаць тут, на ягонай багне. Толькі не мае яна ніякіх чараў. Не памятае мінулага…

— Не бойся тут сказацца чорнай лотаці. Не мае яна чараў памяці, — сумна паўтарае балотнік. — Створна яна такой жа, як і ты, створана дзеля напаміну. Толькі пра што можа нагадаць маўклівая лотаць?

— Створна яна той, у якой твая кроў, у якой твае чары, у якой тваё сэрца. Мы ж ведаем, — падказваюць балотніку слухмяныя лознікі.

— Створана яна табой, — упэўнена мовіць самы маленькі рухавы нячысцік, які цягнуў некуды балотную ваду. Купнічак[1].

Гляджу на маўклівую лотаць, якую аніколі не стварала. Такая ж дзівосная. Толькі не страшная. І чаму я ўпэўнена, што нешта страціла… Што, чорная лотаць, падкажы мне, што…

Маўчыць чорная лотаць. Маўчыць мая страшная кветка. Самае страшнае маўчанне… Страшная кветка, гэта я падаравала табе душу.

— Ты вярнулася сюды, каб успомніць, — цвёрда прамаўляе мне балотнік. — Ты хацела ўспомніць…

Успомніць што? Цёмным правалам азываецца памяць… Цёмным страшным правалам…

— Ты вярнулася сюды, каб успомніць, — паўтарае мне балотнік. — Такая ж, як і ты, у якой твая кроў, твае чары і тваё сэрца, разгадала таямніцу прыгожага чарадзея… Я магу табе падказаць…

— І я падкажу, — нагадваюць пра сябе ўсюдыісныя лознікі.

— І я таксама падкажу, — паважна адказвае пад усмешкі балотніка і лознікаў маленькі купнічак.

[1] Нячысцік, які жыве пад балотнай купінай.

— Слухай жа, вяшчунніца, — ужо сур'ёзна прамаўляе мне балотнік. — Слухай…

«Яна з'явілася тут у цяжкую гадзіну… Стварыў магутны балотны ўладар ваўка, каб укусіў той Светавіта. Глянуў вітальнік вялікага свету на ваўка і ўраз зразумеў той намер. Адкрыў яму сваю боскую сутнасць. І здрадзіў тады воўк свайму стваральніку, моцна ўкусіў не Светавіта, а балотнага ўладара…» «Адмовіў тое чарамі балотны ўладар ды перанёс боль на лозы. І сталі з той пары лозы ніцымі. Ніцымі ды чырвонымі там, дзе выходзяць з вады. Ад крыві балотнага ўладара, ад крыўды», — дадалі сваё слова лознікі.

— На каго крыўды? — пытаюся ў іх.

— На балотнага ўладара. На Светавіта. Толькі балотнаму ўладару мы тую крыўду прабачым, — адказалі лознікі.

«І ў такі час, калі пакутавала балота, з'явілася яна, вяшчунніца, — працягваў далей балотнік. — Не было ў яе вялікасці таго, хто вітае свет, і каго вітае свет. Не было ў яе моцных чараў. Толькі прадбачыць, толькі прадказаць магла вяшчунніца… І яна прадказала…»

Гаворыць так балотнік, а я ўспамінаю…

…Сумныя вочы. Усё яшчэ прыгожы твар. Цёмныя чары таго, хто вырашыў перайсці шлях самому Светавіту. Доўга ж мне прыйшлося варажыць над тваёй таямніцай…

— Не думай, гэта не дзеля цябе. Навошта прыйшла на мае балоты, вяшчунніца?

Ведаю, што гэта не дзеля мяне. Толькі хіба не мая нявера штурхнула цябе ў цемру… Калі ж ты стаў балотным уладаром, прыгожы чарадзей… Хіба не ты клікаў перуновую навальніцу?

— Прыйшла, бо разгадала таямніцу. Тваю таямніцу…

Смяецца балотны ўладар. Смяецца ды ходзіць колам балотная нечысць. А самы маленькі нячысцік — купнічак — цягне, смеючыся, трошкі балотнай вады. Не простай вады, замоўленай… Раскрывае вада праўду. Чыстая вада раскрывае светлыя пачуцці. А вада цёмная, балотная, ведае пра твой схаваны страх, роспач і боль. Скажа, калі няма ў тваім сэрцы веры. Толькі дакраніся да яе, толькі дакраніся…

— Няўжо разгадала? Як змагла, калі не ўмееш ты верыць? — зноў смяецца балотны ўладар ды яго верная нечысць.

Чакаю, пакуль аціхне гэты рогат. Бяру балотную ваду ў купнічка. Дакранаюся ды прамаўляю:

— Прадказваю, што… Прадказваю…

Што я прадказала тады? Што… Цёмным правалам азываецца памяць, а балотнік працягвае: «Упэўніўся балотны ўладар, што блізка-блізенька вяшчунніца да разгадкі яго таямніцы, ды вырашыў вось што ўчыніць…»

— Мы ведаем, мы самі раскажам, — перыпыняюць яго нецярплівыя лознікі.

І прамаўляюць мне, не зважаючы на пагрозлівы позірк балотніка:

«Здарылася тое зімою… Абярнуўся Чорны Бог мядзведзем, які роў і роў бясконца ды нішчыў марозам усё жывое на зямлі. Сталіся верныя яму чараўнікі лютымі ваўкамі, беглі ў свет, клікалі сваім выццём снежныя віхуры ды завеі. Паляваў той мядзведзь на Пеpуніцу, каб ніколі-ніколі не прыйшла вясна, не сагрэла людзей цёплае сонейка. А ягоныя ваўкі-памагатыя сляды Пеpуніцы шукалі, яе дзень і ноч высочвалі. І з'явіўся аднойчы сярод службакоў мядзведзевых воўк гожы, шэрашэры, які прыйшоў са снежных пустак балот… Усім вядома, што кожны год шукае той мядзведзь Перуніцу і, усім на радасць, кожны год не знаходзіць. Ад таго кожны раз і сыходзіць прэч зіма, усе радуюцца вясноваму сонейку. Толькі тады, як з'явіўся сярод многіх ваўкоў адзін… Толькі тады ледзьве не здарылася непапраўнае…»

Распавядаюць так лознікі, а я ўспамінаю…

*...Падае Перуніца ў балотны снег, чапляецца за высокую лазу. А над ёю шчэрыць пашчу воўк люты. Балотны ўладар, перакінуты Чорным Богам у ваўка. Толькі сэрца засталося ягоным, сапраўдным...*

*— Ты такая ж слабая, як і тая, як і вяшчунніца. Не ўмееш, нявартая ўладарка нябеснага гневу, верыць... Ні ў сябе, ні ў іншых.*

*Просіць Перуніца яе адпусціць. Просіць, бо памятае таго, каму давяраліся навальніцы. І яшчэ не ведае яна, што ўжо прасіць яго марна. А я ведаю і таму азываюся:*

*— Будзе рады гэтаму мядзведзь-Чарнабог. Будзе нешчаслівым, будзе самотным свет. Толькі ўсё гэта не верне табе таго, што мінулася...*

*Сказала гэтак і ўбачыла боль у вачах, зусім не воўчых, чалавечых. Суцішылася спалоханая Перуніца, а ён, чарадзей балотны, мне прамовіў:*

*— Што, ізноў напоіш мяне жывой вадой? Зіма цяпер, скавалі маразы гаючую крыніцу...*

*— Не, не напаю. Не таму, што не змагла б дастаць той вады, а таму, што табе гэтага не трэба. Не трэба і разгадкі тваёй таямніцы. Прыйшла да цябе, бо трывожуся пра тое, каб непапраўнага ты не зрабіў...*

*Не, чарадзей навальнічны, ты не зробіш непапраўнага. Не таму, што я прашу цябе пра гэта. Не таму, што я зноў прыйшла да цябе. Я ведаю вялікі свет і ведаю, што ніколі не аддаў бы ты Перуніцу мядзведзю-Чарнабогу. Бачачы, як знікае-хаваецца яна сярод далёкіх снягоў, адказваю табе, прыгожы чарадзей... Адказваю табе, балотны ўладар... Адказваю табе, віхура вялікага мядзведзя:*

*— Прадказваю, што замоўлю-зачарую цябе... Прадказваю, што схаваю тваю таямніцу... Прадказваю, будзеш ты любіць вялікі свет...*

— І збылося амаль усё тваё прадказанне, — сумна ўздыхаюць лознікі. — Толькі нявесела гэта было... Амаль разгадала ты, вяшчунніца, ягоную таямніцу. Амаль... Толькі ў свеце чараў гэтае амаль мала чаго вартае.

— Я пра тую сустрэчу ведаю, я раскажу, — хуценька перапыняе лознікаў маленькі купнічак. — А было ўсё так...

«Ляцеў цмок вялізны, захінаючы крыламі паўнеба, спяшаўся некуды далёка-далёка... Кажуць, што быў той цмок гожым ды велічным. Кажуць яшчэ, што ўзляцеў ён з летніх зялёных балот... Толькі я не зусім гэтаму веру. А вось тое ведаю, з-за чаго ён спяшаўся далёка-далёка... Вось-вось павінна была ты, вяшчунніца, пра ўсё здагадацца... Разгадаць усю чыста вялікую таямніцу... Не хацеў жа ён таго. Не хацеў... І сталася ж так, што адзін-адзіны раз чарадзей-уладар балот, чарадзей-пярэварацень спазніўся. Спазніўся зусім крыху...»

Што ж, купнічак, я гэта памятаю...

*Я памятаю, як стаяла на высокай гары. Блізкае неба над галовою. Блізкая зямля пад нагамі. Шчаслівая, росная. Я ведаю, што хачу бачыць цябе такой. Хачу бачыць заўсёды. І я ведаю, што будзеш множыць ты, прыгожы чарадзей, на гэтай зямлі багны ды балоты. Ведаю, бо разгадала нарэшце тваю таямніцу, балотны ўладар, чарадзей балотных пустак. Разгадала, бо табе веру, бо ў цябе веру. Веру цяпер, калі блізіцца да мяне покрыва цёмных хмар. Блізіцца гнеўная навальніца, якая калісьці слухалася твайго голасу. Ты памятаеш гэта? Я памятаю. І таму цяпер я веру... Удалечыні азываецца грымотны гнеў. Неспакойны Пярун ладзіць свае стрэлы. Ці памятаеш ты Перуніцу? Я памятаю... Я твая памяць, я твая надзея, я твая вера. Як жа ты мог падумаць, што мала веры ў мяне... Гневаецца Пярун грамаўнічны. За што гневаешся, усемагутны, за веру?..*

*Чаго ты так спяшаешся, балотны чарадзей? Не мае вера часу. Ні канца, ні супынку не мае. Не баіцца яна грамаўнічных стрэлаў. Толькі пагарда ёй страш-*

*ная. Толькі адзінота… А я не адна. Ты спяшаешся да мяне. Б'еццa, б'еццa ў небе навальніца. Чаму ты на мяне такі гнеўны, Пярун? Але што мне ты, калі ёсць у мяне вера…*

*Падае грымотны стрэл, сарваўшыся з магутнай Пероновай рукі. Блізіцца… ды захінаюць мяне цмокавы крылы. Падае навальнічны гнеў на цябе, чарадзей балот. Не ратуе легендарная цмокава неўміручасць… І падае долу вялізны шэра-шэры камень. Хаваецца ў зямным прадонні…*

*…Мне не страшна, чарадзей балот, я ўсё яшчэ веру. Я, вяшчунніца, прадказваю, што мы сустрэнемся… Некалі… А пакуль я гляджу на твае балоты. Я буду там, калі прыйдзе такая ж, як і я… Схаваю шлях, каб баяліся ісці, баяліся казацца мне тыя, каго я не чакаю…*

І расквітнела чорная лотаць на далёкіх балотах…

*«Я памятаю, вяшчунніца, я прадказваю і я веру. І ты верыш, іначай не сказалася б мне, страшнай кветцы… І свет вялікі верыць, бо вяртае ўсё нанова. Я не проста спыталася ў цябе пра чарадзея таго, прыгожага. Я не проста расказала табе пра шэра-шэрага. І ты не проста прыйшла да мяне… страшнай чорнай лотаці. А верыць заўсёды страшна…»*

Я веру. Стаю ля шэра-шэрага валуна, таго, якога не прымае зямля, і трымаю ў руках жывую ваду, што паднёс мне ласкавы купнічак.

— Не лі на яго жывой вады, вяшчунніца, — спяшаецца да мяне прыгожы чарадзей. — Запалоняць гэты свет багна ды балоты…

Я ведаю гэта. Я і не збіралася пырскаць валун жывой вадой, хоць ад гэтага вярнуўся б той, уладар цёмнай багны, пярэварацень у ваўка ды цмока. Пазбаўленая чараў яго далёкім словам, толькі я магла б адвярнуць усё назад. Толькі я адна… Я прыйшла сюды з жывой вадой, бо ведала, што хутка з'явішся ты, прыгожы. Яна хацела сустрэцца з табой… Няхай жа прадказанне здзейсніцца. Я веру ў прадказанні, я ж вяшчунніца…

Упэўненасць ды рашучасць на тваім твары, гатоўнасць паклікаць любыя чары, абы толькі не кранулася валуна ані кропля жывой вады… Не турбуйся, шчаслівы, не адзін ты любіш вялікі свет…

— Не трывожся, прыгожы, шчаслівы. Не для валуна прынесла я жывой вады, — ды падаю́ чарадзею ваду. Падаю́, ведаючы, што гэта значыць…

— Жывую ваду… мне? — здзіўленне ды неразуменне ў вачах.

Што ж, цяпер ты на ўсё гатовы, каб толькі дазнацца, навошта я так зрабіла… Адгадка блізкая, таямніца простая. Толькі цяжка будзе табе яе разгадаць…

Іду прэч ад шэра-шэрага. Маўкліва ляжыць камень. У маўклівым засмучэнні глядзіць мне ўслед той, хто можа зрабіць тое ж, хто можа стацца такім жа… Такім жа, як і той, першы. Схаваны ў маім рукаве сцяблінкі зёлкі дзіўнай… Як толькі ўзяла я іх, былі блішчастымі, чорнымі, па-ранейшаму цягнуліся-цягнуліся… Цяпер жа яны — зялёны лясны агеньчык… Кажа мне гэты агеньчык галасы птушак, зёлак, дрэў. І твой голас, шэра-шэры…

Ён падобны да цябе, я гэта ведаю. І яшчэ я ведаю тое, што і не папушчу, каб ён стаў табой. Я не хачу, каб зноў панавала чорная лотаць. Страшная кветка… Я не хачу, каб зноў гучалі словы… на шляху сваім не журыся, чорнай лотаці не кажыся… Я не хачу…

*Анатоль ЗЭКАЎ*

# «ТЫ І СПЁКА, ТЫ І СЦЮЖА...»

* * *

Ці, можа, што немалады
і наступае час агледзін,
часцей я згадваю гады,
што засталіся ззаду недзе.

Свае пражытыя гады
я ўспамінаю без аскомы.
У іх былі і халады,
і цеплыня была, вядома.

Спазнаў я здраду і любоў,
хаця з былым даўно ўжо квіты.
Я на гады не ў крыўдзе, бо,
што б ні было, яны пражыты.

І што б пра іх не думаў ты
і як бы не судзіў іх строга,
ды добра ведаюць гады,
што не пачаць наноў нічога.

* * *

Зайздрошчу птушкам — візы ім
ніхто нідзе не адкрывае.
У іх — бязвізавы рэжым:
ляці, куды душа жадае.

Мяжа для птушак — не мяжа.
Непадкантрольныя праверцы,
ляцяць яны без багажа —
хіба што сум нясуць у сэрцах.

## СА МНОЙ ЗАЎСЁДЫ...

Са мной заўсёды лес былінны
і поле, дзе, як ноч, ралля,



*Анатоль Зэкаў нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Пасля заканчэння Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977) працаваў у камсамольскіх арганізацыях, карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», у рэдакцыях газет «Чырвоная змена», «Книга и мы» і інш. Аўтар кніг паэзіі «Боль сумлення», «Лісты да цябе», прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул» і інш.*

**Паэт, якому аднолькава добра ўдаюцца ўзоры філасофскай, пейзажнай, грамадзянскай і любоўнай лірыкі. Не кажучы ўжо пра сатырычныя і гумарыстычныя вершы, эпіграмы і пароды. Рэдка сустракаюцца творцы, якія пастаянна працуюць у розных літаратурных жанрах, ахопліваюць шырокае тэматычнае кола. Анатоль Зэкаў — з ліку такіх універсалаў. Прыемна, калі прадстаўнік старэйшага пакалення разумее і падтрымлівае тэндэнцыі найноўшай паэзіі, пры гэтым застаючыся верным нацыянальнай традыцыі. У вершаванай нізцы Анатоля — палітра ягоных творчых магчымасцей, яго пісьменніцкага майстэрства.**

*Аддзел паэзіі часопіса «Маладосць»*

бо гэта ўсё — мая Айчына,
мая радзінная зямля.

Са мной заўсёды луг у кветках,
дзе для чмялёў і пчолак — рай,
і рэчка плыткая,
бо гэта
мая зямля, мой любы край.

І я таму заўсёды рады,
калі ўспаміны правядуць
па вёсцы ў ліпавых прысадах,
дзе землякі мае жывуць.

## МАЛІСЯ, СЫН...

*Уладзіміру ЛІПСКАМУ*
*з нагоды выхаду кнігі*
*«Мама. Малітва сына»*

Жыццё — не таўкатня ля крамы,
хаця ты ў ім адвеку не адзін.
Малілася за сына мама.
Цяпер за маму ты маліся, сын.

А мама й Там жыве ў малітвах,
спакою ёй няма, на жаль, і Там.
То ж ёй, нябожчыцы, як бытта
патрэбна больш нашмат, чым нам.

А ты маліся, сын, маліся,
душу сваю малітвай супакой.
Магчыма, Там, у райскай высі,
пачуе мама ўрэшце голас твой.

## СВАЯКУ

Хаця і блізкі па крыві,
ты ўсё ж не блізкі мне па духу.
Што тут паробіш? Сэ ля ві.
Аднак, прашу цябе, паслухай.

Чаму мы розныя з табой,
нібы раздзелены ракою?
Мая душа ірвецца ў бой,
твая шукае звек спакою.

Я зразумець, сваяк, хачу,
чаму няспешны ты, бо ўрэшце
заўсёды я кудысь лячу,
а ты заўжды ледзь-ледзь пляцешся.

Чаму? Чаму? Адказ шукаць —
бы гнацца ўскач за ўласным ценем.
І я не здольны іншым стаць,
ды і цябе нішто не зменіць.

## ПАГЛЯД ДАЧКІ

Пагляд дачкі.
Такі адкрыты,
як росы, чысты.
І здаецца,
лаўлю яго —
і сам нібыта
душой чысцею я
і сэрцам.
У гэтым нерушным паглядзе
няма маны,
ёсць толькі праўда.

Як век пражыць мне,
каб не здрадзіць
твайму,
дачка мая,
пагляду?

* * *

Адгукнешся з Нямеччыны,
устрывожыш наноў.
А я думаў, што вечнаю
не бывае любоў.

А я думаў: вылечнае
тое ўсё, што было,
ды з далёкай Нямеччыны
зноў каханне прыйшло,

і жыццё хуткацечнае
зноў вярнула той час
успамінам з Нямеччыны,
што й цяпер грэе нас.

* * *

Лістапад маёй самоты,
лістапад маёй журбы,
апячы мяне нязгодай
з тым, што ўжо немалады,
і засып гады лістотай
без пакутніцкай жальбы,
лістапад маёй самоты,
лістапад маёй журбы.

## ТЫ

Ты і спёка, ты і сцюжа —
то адпусціш, то зняволіш,
то суцішыш, то закружыш.
А чаго ў табе ўсё ж болей,
я, прызнацца, і не знаю.
Ты ж адказваеш на тое:
— Ну, такая я, такая!
Сам рашай, ці быць са мною.

«Сам рашай...»
Маё рашэнне —
так ці так —
не мае толку.
За табой хаджу ўслед ценем,
быццам нітка за іголкай...

* * *

Не той, якой была раней,
парой вячэрняю, паўзмрочнаю
прыйшла на хвілю да мяне,
хоць знала,
што з былым пакончана.

Каханне наша, нібы снег,
не год, не два як стала таліцай.
Але твой смех...
Ранейшы смех...
О, глянь,
а на дварэ ўжо раніца!

* * *

Як жа ўсё-такі прагну
я хвіліны тае,
калі вернешся з Прагі
ты ў абдымкі мае.
Не пазніся, вяртайся
у наш кветкавы сад.
Для цябе назапасіў
пацалункаў так шмат
я ва ўласных засеках
у сумоце-журбе,
што не хопіць і веку
цалаваць мне цябе.

## У ЦЯГНІКУ «МІНСК — ГОМЕЛЬ»

*Ганне ПАХУЛАЕВАЙ*

Дзяўчына з Гомеля майго,
дзяўчыначка з Валатавы,
і сам не ведаю, чаго
з табою мы пакуль на Вы.

А гэта Вы на шмат далей
і халадней, чым Ты, на шмат,
бо з Ты і бліжай, і цяплей
нам стала б, пэўна.
Ды наўрад

адважуся, бо не прывык,
каб так адразу — і на Ты.
Грукоча коламі цягнік.
Мільгаюць дрэвы і кусты.

Я хутка ў Жлобіне сыду.
Мы развітаемся.
Аднак
мне гэта Ты, як на бяду,
не вымаўляецца ніяк…

Міхась КАРПЕЧАНКА

# ДЭЗЕРЦІР

***Аповесць***



*Міхась Карпечанка нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Болін Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці. Пісьменнік, журналіст, краязнаўца. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў на будоўлях Маладзечна і Мінска, у рэдакцыях чэрыкаўскай і бялыніцкай раённых газет. Цяпер — галоўны рэдактар бялыніцкай раённай газеты «Зара над Друццю».*

**Мінаюць гады і дзесяцігоддзі, а тэма Вялікай Айчыннай вайны і па сёння хвалюе творцаў як старэйшага пакалення (дзяцей вайны), так і значна маладзейшых (ужо дзяцей дзяцей вайны). Вось і аповесць Міхася Карпечанкі «Дэзерцір» дазваляе паглядзець на падзеі ліхалецця ў нечаканым ракурсе, у крыху іншым, так бы мовіць, асвятленні гераічнага мінулага простага салдата.**

**Здавалася б, што новага можна сказаць пра Вялікую Айчынную пасля Быкава, Сіманава, Бондарава, Курачкіна, Някрасава... Але, як нам падаецца, Карпечанка змог упісаць свой адметны радок у далекаватыя ўжо ад нас падзеі 1941—1945 гадоў.**

*Аддзел прозы часопіса «Маладосць»*

Пасля паскоранага лячэння ў палявым лазарэце, што часова атабарыўся ў абшарпаных класах двухпавярховай школкі аднаго з мястэчак на ўсходзе Беларусі, чырвонаармеец Сямён Шаройка мусіў вярнуцца ў сваю стралковую роту. Вярнуцца ў сыры, як і заўсёды ў спешцы выкапаны, акопчык-магілку передавой, каб зноўку апынуцца на самым сподзе апраметнай вайны.

Немалады ўжо чалавек, ён, праўда, дужа разлічваў, што на падмацунак здароўя яму дадуць хоць тыдзень адпачынку. Пагатоў, пакуль скалечаны Шаройка тройчы на дзень з'едзенымі зубамі жаваў асінава-горкія пілюлі ды глытаў даўкія мікстуры, яго раён з роднай вёскай Рапнёўкай быў вызвалены ад фашыстаў. Гэта радасная навіна, пра якую ён, стоячы ў чарзе на перавязку, зусім выпадкова даведаўся ад параненага ў руку незнаёмага старшыны, асабліва ўмацавала ўсё яшчэ кволы яго спадзеў на магчымую сустрэчу з сям'ёй. І, можа, яна гаіла Сямёнаву рану спраўней за самыя лепшыя лекі, якіх у лазарэце для параненых не шкадавалі.

Ад самага пачатку вайны Шаройка нічога не ведаў пра родных. Дзесьці на фронце павінен быў ваяваць і яго старэйшы сын Пятрок, калі толькі навечна не павянчаўся з куляй ці асколкам.

Да нападу немцаў хлопец паспеў адслужыць у войску паўгода тэрміновай. Шаройка, скупа песцячы вартую ўсяго свайго жыцця надзею, выходжваючы яе, нібы смяртэльна знядужанае немаўлятка, праз знаёмых, палітрукоў і камандзіраў увесь гэты час наводзіў даведкі пра свайго Петрака. Але з абнадзейваючай яго душу радасцю яшчэ не спаткаўся.

Згінуў у крывавай калатнечы вайны яго старэйшы сын, як пад лёд праваліўся.

І толькі за два дні да таго самага бою, у якім Сямёна напаткала чарговая куля, начальнік штаба батальёна Васіль Лупсякоў па-свойску паведаміў яму спусташальна-жахлівую навіну. Нібыта пудовай даўбешкаю знянацку агрэў па галаве: старшаму лейтэнанту нарэшце ўдалося высветліць, што вайсковая часць, дзе праходзіў тэрміновую Пятрок, яшчэ ў ліпені сорак першага патрапіла ў акружэнне. Да сваіх з таго стралковага палка ніхто не выйшаў. Як баявая адзінка, вайсковае падраздзяленне знята з усіх формаў уліку Чырвонай Арміі.

— Я, вядома, не цыганка, каб гадаць. Але ў гэткім жыццёвым раскладзе, баця, мне бачацца тры магчымыя варыянты развіцця падзей, — падбадзёрыў і следам жа паспачуваў Шаройку амаль удвая маладзейшы за яго начштаба Лупсякоў. — Альбо смерць, альбо — палон, альбо твайму сыну ўдалося-такі дабрацца дахаты. Значна горш, разумееш, калі ён апынуўся ў немцаў. Ты, баця, толькі не палохайся гэтак і носу не вешай. Даў Бог вечар, дасць і дзень… Нешта будзе… Жыві, баця, надзеяй і спадзявайся на лепшае.

Сямён пракачаўся ў шпіталі нядоўга. Куля патрапіла яму ў правую нагу, прайшла, не зачапіўшы косткі і буйныя вены, праз лытку. Пашанцавала, калі можна так сказаць. Толькі многа крыві страціў, пакуль на яго ўпоцемках нарэшце напароліся змардаваныя санітары. Ваенурач, занадта крыклівая і нервовая кабета, якая, здаецца, ніколі не выпускала са свайго маленькага роту папяросу, пры выпісцы абыякава запэўніла крыху збянтэжанага Шаройку, што яго рана ўжо добра загаілася, ваяваць і ў далейшым жыцці перашкаджаць яму не будзе.

— Дык жа смыліць яшчэ нага! Усё роўна, як у печцы варыцца! — Сямён праз зубы выціснуў са свайго сэрца стогн нязгодны і, шукаючы спагады і шкадавання, нясмела паглядзеў у насцярожана-недаверлівыя вочы жанчыны.

— Костка цэлая. А гэта для цябе самае галоўнае, — з непрыхаванай нянавісцю выдыхнула разам з папяросным дымам ваенурач. — Мяса зарасце і нарасце. Зразумей ты, салдат: на гэта патрэбен час. Загоіцца твая рана. Не перажывай ты ўжо гэтак балесна.

Жанчына, не паварочваючы галавы, дакладна шпурлянула пакусаны, абслюнены недапалак у напалову налітае вадой вядро-сметніцу, якое стаяла побач з яе пашкрэбаным сталом, і доўгім казённым позіркам зледзянелых на вайне вачэй праціяла паплюшчанага жыццём чырвонаармейца. Тут жа, падаючы Шаройку нейкую паперку з фіялетавай пячаткай унізе, ваенурач не стрымалася, кусліва папракнула яго:

— Некаторыя без нагі, бязрукія, але вунь, як на фронт ірвуцца! Не ўтрымаць іх… Фашыстаў хочуць біць. Святой помстаю гараць і адной толькі ёю жывуць…

— Я ж нічога такога, — вінавата апусціўшы вочы, нясмела апраўдваўся Сямён. — Канечне, буду ваяваць. Нічога тут не паробіш. Вайна! А я — салдат! Але толькі нагі мне дужа шкодзенька — свая ж яна. Не чужая… Пухне і баліць яшчэ моцна.

— Не хвалюйся, кажу табе, нічога страшнага, — ваенурач незадаволена скрывіла тонкія бяскроўныя вусны. А затым крыху падабрэлым голасам падбадзёрыла, ужо нязлосна папракаючы, чырвонаармейца: — А што ты хацеў? Кулявое раненне! Не трэска ў назе сядзела. Боль пройдзе. Калі што — санітару пакажашся. Ён параіць, што трэба будзе зрабіць. Націранне дасць… Усё! Пакліч наступнага!

Злосць на чэрствую жанчыну, якая бурліла ў Шаройкавым сэрцы, нібыта вада ў чыгунку, паступова выпарвалася, і яе месца ўжо займалі невымоўная скруха, невыносная балючая крыўда.

Гэта ж, што насамрэч атрымалася?

Тая супакойная радасць, якая паспела ўжо звіць у Сямёнавай душы ўтульнае і цёплае гняздзечка, цяпер увачавідкі знікала, растваралася.

За што яму такое пакаранне? Няўжо ён мала перанёс гора, няўжо мала переражыў бяды?

Дастаткова ліха насярбаўся — поўнымі лыжкамі ўлівалася яно ў Шаройку… Ды так глыбока, што не выплюнеш. Як яшчэ толькі не захлынуўся ім?

І няма, мабыць, ад наканаванай бяды яму паратунку аніякага. Не тая, мусібыць, зорачка ў небе высокім свяціла, калі ў муках маці яго нараджала.

Ён так доўга і цярпліва спадзяваўся на радасць, атрымаў жа толькі адзін боль… Пякучы і несунімны.

«Няўжо ход вайны змяніўся б, — абурана бурчэў сабе пад нос Сямён, клыпаючы ў названы ваенурачом клас, дзе выпісаным з лазарэта байцам выдаюць спадарожныя лісты, — каб мяне на тыдзень… Ну, хоць бы на тры дні адпусцілі дахаты? Не генерал жа я, а ўсяго толькі радавы… Звычайнае гарматнае мяса… А яму на вайне і дзень адтэрміноўкі ад смерці — вялікае шчасце…»

Сямёну Шаройку раўнадушна паведамілі, што ягоная рота зараз акопваецца на ўскрайку сасновага бору, што ў двух кіламетрах на паўднёвым захадзе ад вёскі Каменка. Туды ён і абавязаны дабрацца самастойна. Дарога адсюль не доўгая — усяго нейкіх трыццаць кіламетраў. Спярша яму трэба рухацца па бойкім бальшаку да першага скрыжавання, на ім неабходна будзе звярнуць улева. Адсюль застанецца радавому Шаройку прайсці па гэтым шляху ўсяго дзесяць кіламетраў. За дзень дойдзе. Нічога з ім не зробіцца. Роўна столькі яму і адпускаецца часу, каб прыбыць у тую самую Каменку ды адшукаць сваю стралковую роту.

На моцна пацёртым палатне карты-дзвюхвёрсткі, разасланай на школьнай парце, Сямёну паказалі, дзе знаходзіцца патрэбная вёска, а потым пракураны тоўсты палец жоўтым кручкаватым пазногцем няпэўна тыцнуўся ў выцвіла-зялёную пляміну — пазіцыю роты старшага лейтэнанта Кузьменкі. Яго, Шаройкавай, роты.

— Запамінай, баец!

Уважліва і з хваляваннем углядаўся Сямён у працёртую на згібах карту, нашэптваючы пра сябе, як усё роўна казаў малітву, вядомыя з дзяцінства назвы вёсак, ручаёў, рэк… Маластоўка, Казелле, Яшная Буда, Папараткі, Усцінавічы, Шпачча, Покаць, Галуба, Сож…

Папраўдзе, яму і запамінаць нічога не трэба было. Дарогу да Каменкі ведае, як свае пяць пальцаў, і без гэтай вось картачнай падказкі. На заліўным лузе паблізу таго прысожскага паселішча ён пяць даваенных летаў па некалькі гектараў высачэзнай і густой травы ў важкія пракосы збіваў едкай касой-літоўкай, што дасталася ад дзеда!

Шырачэзна бязмежны луг той у час калектывізацыі падзялілі пад сенажаць паміж некалькімі суседнімі калгасамі. Звычайна, напрыканцы чэрвеня, калі на градках толькі-толькі пачыналі выспяваць першыя пахучыя агурочкі, касцы выязджалі сюды на паўтара-два тыдні і жылі тут разняволена вясёлым мужчынскім табарам у вялізным будане, які самі ж у першы дзень майстравалі з галля пры самым беразе Сожа. Затым, праз некалькі дзён, каб высушыць скошаную імі траву, згрэбсці і скласці сена ў шырокія сціpты, на луг да мужчын штодзённа на адзінай у іхнім калгасе машыне раніцамі прывозілі і па вечарах адвозілі жанчын. І яны кожны раз везлі з сабой сабраныя клункі з няхітрым харчам — для сябе, мужа, брата ці перададзены ўранні некаму з касцоў яго клапатлівай жонкай.

Для Сямёна атрымаць з дому небагаты харч-перадачу заўсёды было ціхай, шчымлівай радасцю. І яна, гэтая нечакана стрыманая радасць, на працягу ўсяго сенакосу аніразу не знікала, ніколі не змяншалася, а ўсе тыя натомлена спякотныя дні і прыемныя сваёй прахалодаю светлыя ночы жывым агеньчыкам тлела ў яго

душы, пастаянна нагадваючы пра жонку, дзетак, родную хату. Хоць усё гэта і паўтаралася на самым пачатку кожнага ліпеня. А як жа наталялася шчасцем Шаройкава сэрца, калі па раніцах у прапыленым за дарогу сене, якім быў засланы кузаў машыны, на якой толькі што прыехалі рапнёўскія кабеты і дзяўчаты, сярод рознакаляровых торбачак і клункаў ён знаходзіў, спачатку толькі вачамі, і знаёмую жончыну хустку! У яе былі сабраны, тое ведаў Сямён наперад, бохан хлеба, шматок жоўклага сала, што ашчадна бераглося акурат да гэтай пары, дзясятак спечаных у мундзіры бульбін, жменя цыбулінага пер'я, бутэлька малака. Няхітры, небагаты наедак, але як прыемна было яго трымаць у сваіх агрубелых ад касы пальцах, праз мазолі адчуваючы на кожнай бульбіне, на кожнай прывялай пярыне цыбулі, на ўсім перададзеным яму харчы, цеплыню жончыных рук.

Аднаго разу Кацярына захацела парадаваць мужыка і перадала яму на луг ласунак: дранікі, абмачаныя ў мёд. Не ведала яна, нават і не здагадвалася, што Сямён тое жыдкае месіва — ні самому з'есці, ні перад людзьмі пахваліцца, — у якое ператварыў мёд гарачыя аладкі, хаваючыся, прыцемкамі вылье пад лазовы куст. Вось жа пасмяяліся потым удваіх!

Кожнае лета Шаройка асабліва, з нецярплівасцю і шчымлівым хваляваннем, чакаў сенакосу на Сажы, што і поўніла яго існаванне нейкім трапяткім, загадкавым сэнсам. І патлумачыць яго ён не мог і не ўмеў. Проста яму было хораша, прыемна, утульна. З прыродай і аднавяскоўцамі. І асабліва тады, калі на прыбярэжным, заліўным лузе наступалі такія ціхія вечары, што хоць мак ты сей.

Непадалёку стомлена плёскаўся хвалямі сіні Сож, каля сцяны будана, што па вечарах востра пахла падсохлым альховым і бярозавым лісцем, тупалі і фыркалі коні, якіх прыгналі сюды на ўвесь час сенакосу рапнёўскія хлопцы-школьнікі, і ўсю светлую цёплую ноч на высокім беразе ракі гарэла зыркае вогнішча.

Апошні дзень супольнай на сенажаці працы, якая ўспрымалася калгаснікамі быццам агульнасямейны клопат, заканчваўся вясёлай пагулянкай. Сам старшыня прывозіў сюды, на ўбраны ўжо да апошняе травінкі поплаў, па якім скрозь, як зачапіць вокам, густа табарыліся раскідзістыя стагі, дзве скрыні віна — агульную прэміроўку для ўсіх нарыхтоўшчыкаў сена.

За чаркай на скошаным лузе дабрэла і ўсялякае калгаснае начальства. Яго Сямён Шаройка панічна баяўся ва ўсе астатнія дні. А цяпер, выпіўшы кілішак-другі, адчуваў сябе пасмялелым, ён як бы зраўняўся з ім на гэты астатак дня і цэлы вечар. Усіх тут іх збліжала і раўняла хмяльная шклянка пітва.

Падпітыя рапнёўцы, цесна седзячы ў дрогкім кузаве машыны, дамоў вярталіся познім адвячоркам і з песнямі. І здавалася тады, што гэта не паўпісьменныя бабы і мужыкі спяваюць, а іхнія прасветленыя душы… Чыстыя душы, паяднаныя сенакосам і Сожам, віном і тым буданам на стромкім беразе ракі, старанна і гожа, хоць, можа, і не зусім стройна, выводзяць песні: прыцішана-светлыя, задушэўныя да ціхай слязіны — даўнія і гучна-бадзёрыя, крыклівыя — ужо новага часу.

І хацелася ўсім ім спяваць. Праз словы песень тых яны то злучаліся з дзядамі-продкамі, то славілі сённяшні дзень і светлую ды шчаслівую будучыню, якая мелася неўзабаве наступіць.

Хораша было. Светла. Радасна. Прасторна.

Хацелася жыць.

Хацелася бязмежна і беспрычынна радавацца.

І ўсім тады верылася ў сваю шчаслівую будучыню, у лепшую долю сваіх дзяцей. І ўсім ім тады думалася, што яно, тое чаканае агульнае шчасце, неўзабаве, вось-вось, наступіць…

І знікала некуды стома ад цяжкай працы, пераставалі балець рукі і плечы, не смылелі ногі, не нылі тупым болем паясніцы. Прападалі трывогі і туга. Ані ў каго на сэрцы не было крыўды і злосці ніякай у той дзіўны вечар апошняга дня сенакосу — нават з высахлае, зморшчанае макавае зернейка. Душа кожнага быццам толькі што наведала рай: была чыстая і ціха прасветленая.

…І зноўку вострым болем зашчымела, абазвалася ў Сямёнавых грудзях свежая крыўда, калі, углядаючыся на дзвюхвёрстцы ў тлустыя кропкі, рознакаляровыя кубікі, квадрацікі, трохкутнікі, хвалістыя лініі, яму згадаўся і той казачны заліўны луг, і лёгкія сінія хвалі вечаровага Сожа з яго вапнава-бялёсымі, абрывістымі берагамі, і вясёлае для ўсіх яго аднавяскоўцаў, такое радаснае, шчымліва-светлае свята заканчэння сенакосу. Касавурачы позірк у правы кут карты, Шаройка намагаўся выгледзіць на ёй і хоць бы адным вокам зачапіцца за дарагі, мілейшы за ўсё на белым свеце такі родны надпіс з васьмі літар: Рапнёўка. Але патрапіць мітуслівым позіркам на сваю вёску ён так і не паспеў, хоць і пазнаў у змяіна-звілістым следзе на карце Казельскі Шлях, пры якім стаяла яго паселішча. Лейтэнант яшчэ раз націснуў пракураным пальцам на пацёртае палатно дзвюхвёрсткі:

— Тут мы знаходзімся зараз. Бачыш? А сюды, па гэтай вось дарозе, табе трэба дабірацца. Запомні: вёска Каменка. Хочаш-не хочаш, а трэба ісці.

Крывая вулачка, да якой з аднаго боку прыляпіўся запушчаны школьны двор, Сямён гэта добра памятае, бяжыць нізінкаю да самай шырокай, доўгай і адзінай забрукаванай мястэчковай вуліцы. А тая, у сваю чаргу, недзе праз вярсту, каля цагельні, незаўважна перальецца ў брукаванку бальшака, што й прывядзе яго ў Каменку.

Памяць яго не падвяла, і Шаройка неўзабаве апынуўся на галоўнай дарозе мястэчка. Толькі спачатку ён аніяк не мог пазнаць у ёй тую гаманлівую, густа застаўленую акуратнымі дамамі даваенную цэнтральную вуліцу. Цяпер абодва бакі яе часта зеўрылі страшэннымі прагаламі, што ўтварыліся на месцы колішніх сядзіб. Хаты былі папалены ці па дзве-тры запар, ці праз некалькі ўцалелых дамоў чарнела пажарышча, выбіралася з-пад травы абвугленая зямля. Сям-там на зарослых шчыльным і высокім бур'яном хатнішчах Шаройка спрактыкаваным вокам знаходзіў прыкметы зямлянак. Усё гэта падказвала яму, што дамы пагарэлі не тады, калі праз мястэчка перавальваўся фронт, а значна раней. Яшчэ ў акупацыю.

«Вунь там, пад абгарэлай ліпай, — успаміналася Сямёну, — стаяў дамок старога Ёселя».

Шаройка нават прыпыніўся насупраць хатнішча, зарослага ў чалавечы рост густой крапівой. Яму здавалася, што вось, як і некалі раней, яшчэ да вайны, паволі адчыняцца сінія веснічкі і на вуліцу вымкне басаногі Ёсель.

— Куды ідзеш, на вечар гледзячы, чалавеча? — як заўсёды, запытаецца ён у Сямёна рыпучым, нібыта ў драча, голасам.

— У Рапнёўку, — адкажа Сямён.

— Быў, чалавеча, і я ў тваёй вёсцы. Ажно тры разы. Іголкі прадаваў, іншую розную драбязу на занятак жаночым рукам. Не скажу, што ўсё ў мяне параскуплялі твае рапнёўскія кабеты, але назад бег на ўлегцы. Грэх крыўдзіцца…

— А скажы ты мне, чалавеча, ці жыве яшчэ мой найлепшы сябра — сівы, як мудрая сава, Яўтух?

— Жывы дзед Яўтух, — адкажа Сямён. — Па-ранейшаму ўсё яшчэ коней калгасных пасвіць.

— Я так і думаў, — гучна смяецца Ёсель. — Я так і думаў! Мы ж дамовіліся з ім у адзін дзень памерці. А калі я жыву, то, значыцца, і Яўтух усё яшчэ прадаўжае псаваць паветра. Ці не так я мыслю, чалавеча па імені Шымоне?

— Ісціная праўда, — патрапляе ў жарт Сямён.

— Ну, калі так, то пасядзі крыху на маёй лавачцы. Адпачні перад дальняй дарогай сваёй. А Ёсель цябе сваімі знакамітымі грушамі пачастуе. Ты, чалавеча, хочаш запытацца, чым яны знакамітыя? Ахвотна задаволю тваю пахвальную цікаўнасць: хоць пяць разоў мястэчка наша ўздоўж і ўпоперак абыдзі і шэсць разоў губерню скалясі — нідзе такіх груш не знойдзеш і, вядома, ні за якія грошы ані ў каго іх не купіш. Запомні: толькі ў аднаго Ёселя расце райская груша! Ці зразумеў ты мяне, чалавеча?

Такія сустрэчы з Ёселем у Сямёна здараліся неаднойчы. Дый, канечне, не ў аднаго толькі Шаройкі яны былі.

Ахвочы да новых знаёмстваў, стары Ёсель нібыта наўмысна падпільноўваў рапнёўцаў, і ці толькі іх адных, каля сядзібы, каб пачаставаць чалавека на няблізкую дарогу і сапраўды вельмі смачнымі грушамі, яблыкамі ці слівамі са свайго садка.

Няма Ёселевага двара. На тым месцы, дзе некалі стаяла яго маленькая хата з хляўком, — пустка. А па ёй — параскіданы ў пажоўклым хмызе чарнобыльніку, лебяды ды крапівы абгарэлыя бёрны, пачарнелыя ад копаці кавалкі цэглы…

«Мусіць, — падумаў з болем Сямён, — няма ўжо і самога Ёселя. Калі памёр, то няхай добраму чалавеку зямелька будзе пухам».

Шаройка паціху пасунуўся далей. Дарога няблізкая, а спадзеву на спадарожную машыну не было аніякага, пра што яго папярэдзілі яшчэ ў лазарэце. Толькі ж не паспеў ён дабрысці яшчэ да цагельні, што знаходзілася на самай ускраіне мястэчка, як за спінай пачуўся надрыўны стогн машыны. Без асаблівай надзеі на ўдачу Шаройка крыху збочыў на край дарогі, падзіраўлены настылымі сівымі калюжынамі, і на ўсялякі выпадак матлянуў рукою: не азіраючыся і нават не збаўляючы свайго кроку. «Палутарка» дагнала байца і, прастуджана кашлянуўшы клубамі смуродлівага дыму, спынілася. Яшчэ да канца не верачы ў падораны родным небам шанец, Сямён Шаройка паспешліва кінуўся распытваць шафёра і высветліў, што больш як палову свайго шляху ён праедзе. А значыць, ногі дужа не натоміць і, што вельмі важна для яго, зберажэ час, скупой рукою адмераны яму на дарогу.

Маладзенькі шафёр-салдацік аказаўся чалавекам негаманкім. За ўсю дарогу, што праехалі разам, так і не выціснуў з сябе аніводнага слова. Сямёну гэта маўклівасць прыйшлася па душы, бо недалюбліваў ён усялякіх бойкіх гаваруноў. Іх ён лічыў звычайнымі пустабрэхамі і несусветнымі лайдакамі.

Шаройка ад ранняга дзяцінства прызвычаіўся цяжка рабіць: спачатку ў пана прайшоў навуку ад падпаска да аратага, потым ад рання да вечарніцы петываўся на бацькавым, а затым душыўся і на ўласным кавалку зямлі. І ў калгасе, куды прыйшлося ўступіць яму не па сваёй ахвоце, а хутчэй — каб толькі не апынуцца ў спісе кулакоў, не ўцякаў ад працы, маўкліва выжыльваўся, як цягавіты конь: і араў, і касіў, і малаціў, і гной выкідваў… Хапала му́кі на ягоныя рукі. Стараўся з усяго жылля свайго. Толькі, заўважаў, адны балбатуны і пры панскай уладзе, а пры савецкай, дык яшчэ і болей, увесь час нылі, скуголілі, надакучліва пералічвалі свае незлічоныя заслугі, хворасці і, як жару ўхапіўшы ў рукі, пнуліся прыладзіцца, дзе лячэй, каб толькі языком мянціць, а не рабіць.

Сямёну за яго жыццё не раз і не два даводзілася пераконвацца ў тым, як шмат хто з людзей, нават простага звання, не могуць жыць без таго, каб не пакамандаваць кім-небудзь. І адкуль толькі прага ў іх тая бярэцца — хоць бы на вяршочак, але ўзвысіцца над суседам, такім, як сам, аднавяскоўцам? Асабліва рай зямны настаў для іх пры калектывізацыі. Мясцовыя і прыезджыя агітатары, парцейцы на шматлікіх сходах і мітынгах толькі і крычалі пра роўнасць, а самі трымаліся з людзьмі,

як начальнікі. Дый паміж імі самімі, бачыў і разумеў Сямён, той роўнасці таксама і блізка не было.

Нашто ўжо ў іхняй Рапнёўцы не гаспадаром быў нягеглік Пілiпок Матрунёнак, але датумкаў: падаўся спачатку ў камбед, а затым першым і ў калгас уступіў. Дужа агітаваў іншых, з хат людскіх не вылазіў. Стараўся, як са штаноў сваіх лапленых не вылузваўся, і выслужыцца, і месца цёпленькае захаваць. Казаў рапнёўцам на сходах: «Я прыклад вам падаю!»

Смяяліся, пляваліся людзі з такога прыкладу: Піліпок са свайго двара ў грамадскі хлеў адну толькі карову прывалок — худую і злінялую ад вечнай бяскорміцы, ажно рэбры ў яе тырчэлі — ды яшчэ з радаснай ахвотаю адмовіўся ад трох гектараў асабістага надзелу зямлі, якая з году ў год зарастала пустазеллем, станавілася ваўкоўшчынай. Іншым жа трэба было аддаваць па пары і больш коней, па некалькі каровак з цяляткамі, свіней і парасят, добры гурт авечак. І расставаліся з жыўнасцю сваёй, нажытай потам і крывавымі мазалямі, якія ніколі не сыходзілі з іх далоняў. А што было рабіць ім, калі настырныя піліпкі ўвесь час хадзілі па пятах, не давалі спакою ні днём ні ноччу, пагражалі лагерам, высылкай? Неўзабаве яны ад слоў перайшлі да дзеянняў: склалі спіс заможных двароў, на сходзе папярэдзілі гэтых гаспадароў пра магчымае перасяленне іх сем'яў у Сібір — калі, вядома, не пажадаюць уступіць у калгас. На роздум далі ноч і палову заўтрашняга дня.

Значылася ў тым спісе і Сямёнава гаспадарка. Трэба было ратавацца. І ратаванне тое, як тонка-танюсенькая пуцяводная нітка праз далейшы жыццёвы лабірынт усёй роднай сям'і, было ў ягоных руках. Маўчаў Сямён Шаройка, пакутліва думаючы, доўгую ноч. Не вымавіў ён ані слова і цягам адпушчанага паўдня, які прамільгнуў, быццам ластаўчын цень за акном. Ні еў, ні піў. Толькі з паўтары прыгаршчы самасаду на дым перавёў.

І прыгадалася цяпер Шаройку, як са скамянелым сэрцам пад няўсцешнае галашэнне жонкі (а плакала тады Кацярына так, нібыта ў хаце пад абразамі толькі што сцішыўся нябожчык) ён, панура гледзячы ў зямлю пад ураз самлела-ватныя ногі, у першую пасляабедзенную гадзіну адводзіў усю сваю жыўнасць на калгасны двор. І быў тады Шаройка ў гэтым горы несуцешным не адзіны і не адзінокі. Усе рапнёўцы, скусваючы да крыві свае салёныя вусны і глытаючы нябачныя для іншых слёзы, пад жаласлівыя ўсхліпы цягнулі на ферму ўласную жывёлу. І толькі адзін стары Малах Карабанька ўпёрся, як бык, — як ні палохалі яго, але ў калгас не пайшоў.

— Дулю вам, таварышы парцейцы, а не коней і кароў маіх! Не вы іх гадавалі. А калі так, то й нечага разяўляць свае раты. Вы яшчэ і жонак абагульніце… Во зажывяце! Ад зайздрасці сама гідра імперыялізму, і тая здохне адразу ж.

Малах за ўпартасць сваю неўзабаве жорстка паплаціўся. Да яго ў двор, як усе рапнёўцы сталі калгаснікамі, праз некалькі дзён завіталі такія людзі, у прысутнасці якіх нават птушкі перастаюць спяваць. Надоўга замаўкаюць.

Піліпок жа, пацёршыся пару тыдняў на агульных работах, а найбольш, вядома, каля начальства, выбіўся-такі ў кіраўнічае звяно: яго прызначалі рахункаводам. І чалавека адразу нібыта падмянілі. Такім зацятым гаспадарнікам аказаўся! Хоць не петрыў нічога ні ў жывёлагадоўлі, ні ў працы на зямлі. Усё пакіраваць аднавяскоўцамі пнуўся і вельмі ахвочы быў на раздачу ўсялякіх парад адносна паспяховага вядзення калектыўнай гаспадаркі. На кожным сходзе бегма кідаўся да трыбуны альбо паважна сядзеў у ганаровым прэзідыуме і адтуль вучыў, вучыў, вучыў. Тых, у каго самому някепска было б пахадзіць колькі гадочкаў у вучнях.

Ды каб хоць разочак талковае што-небудзь сказаў Піліпок Матрунёнак! Адно, толькі надрыўна мянташыў языком, паказваючы гэтым, што мае ўладу, што і ён цяпер не апошні, як некалі, у Рапнёўцы чалавек.

Піліпок і падобныя да яго з радасцю пагадзіліся б хоць варон лічыць на дрэвах ці ў небе, абы пупы свае далікатныя не надрываць да пасінення з віламі, плугам, касой. Акурат пра такіх вастрасловы ў хуткім часе сказалі: надарвалі свае жываты, гледзячы, як іншыя працуюць.

Узгадаўшы Матрунёнка, на Сямёна раптоўна навярнулася гнятлівая занепакоенасць. І прычына ёй адшукалася, выплыла на паверхню адразу ж. На фронт Піліпка, калі пачалася вайна, чамусьці не мабілізавалі, застаўся ён у Рапнёўцы. А Матрунёнак паспеў над людзьмі ўладу, якую моцна трымаў у сваіх руках, занадта палюбіць…

«Каб хоць здуру бяды якой у Рапнёўцы не натварыў!» — падумалася Сямёну, і ў тое ж самае імгненне ён выразна адчуў, як на сподзе ягонай душы нарадзілася і дрогкая хваля трывогі.

— У сваю Каменку датопаеш, — абазваўся нарэшце вадзіцель «палутаркі», спыніўшы машыну на скрыжаванні, — вось па гэтай дарозе, якая ў левы бок ідзе. Чуеш? Праз дзве гадзіны будзеш на месцы. Ведаю дакладна, бо ўчора дастаўляў груз у гэты самы населены пункт.

— Ведаю, братка. Я сам у Рапнёўцы, непадалёку адсюль, нарадзіўся і жыў да вайны. Хата тамацькі мая стаіць. А ў ёй жонка засталася, сын з дачкой. Яшчэ адзін сын, старэйшы, на фронце ваюе. Не ведаю, што з імі! Ці жывыя хоць… Душа баліць дужа, трывожыцца за іх… Каб ты, братка, толькі ведаў, як яна раздзіраецца ў маіх грудзях!.. — наблізіўшыся да шафёра, усхвалявана, хутка-хутка залапатаў Сямён.

Вадзіцель, відавочна, быў узрушаны пачутым і насцярожаным позіркам абвёў свайго выпадковага спадарожніка:

— Вунь яно як ў цябе атрымліваецца! Дамоў, пэўна, ірвешся?

— А ты як думаеш? — пытаннем на пытанне адказаў Сямён. І, разгубіўшыся ад сваёй раптоўна накіпелай шчырасці і нечаканай гаманлівасці, якія немаведама чаму ўзяў і выставіў напаказ чужому чалавеку, Шаройка збянтэжыўся, знямеў, не пажадаўшы далей расплёскваць словамі ўсю тую надзею і радасць, што нанова ў гэтыя самыя хвіліны нараджаліся ў ягоным змучаным сэрцы.

— Думаю так, як і ты. Але табе не дазволілі адлучыцца дахаты, праўда? — мёртвай хваткай чапляўся за працяг гутаркі раней маўклівы шафёр.

— У тым і ўся загвоздка. Так яно, братка, і ёсць…

— Недазволеная адлучка расцэньваецца як дэзерцірства. Ты ведаеш пра гэта? Думай, бацька, думай… Не спяшайся. Спярша добра ўзваж усё і толькі тады рабі, як табе надумаецца. І хачу я табе сказаць яшчэ адно: нельга нам, чырвонаармейцам, паддавацца сваім эмоцыям…

— Ды я нічога, — недаслухаўшы вадзіцеля, пачаў няўмела апраўдвацца перад ім, лічы, сваім жа братам-салдатам, Шаройка. — У Каменку, канечне, пайду. Паклыпаю. Куды ж яшчэ мне? Вайна! А я — чалавек ваенны… Абавязаны.

— Ну то бывай, баця!

— І ты будзь здаровы!

Сямён Шаройка, пакінуўшы кабіну машыны, нервова таптаўся на знаёмым з маленства скрыжаванні дарог, дзе за сваё мітуслівае даваеннае жыццё збіў на ток у розных, добрых і нярадасных, чаканнях ладны пляц.

Ён цяпер апынуўся на своеасаблівым, бязлітасным раздарожжы свайго сумлення, неадольнага жадання, неспакойных, думаных-перадуманых ім дум.

«Палутарка» пагрукацела далей па брукаванцы, ад якой «адскочыў» у левы бок наезджаны насып, што праз дзесяць кіламетраў упіраўся ў Каменку. Такая ж самая дарога, але толькі праваруч бальшака, звіліста прапароўшы нешырокі ссівелы луг, гублялася ў недалёкім густым ельніку.

І на ёй, дарозе гэтай, што здавён часу называлася Казельскім Шляхам, Сямён Шаройка ведае кожную паваротку, кожную калюжыну, кожны мосцік… Ды што там калюжыны з абыходнымі іх сцежкамі! Ён здатны ісці па ёй нават з заплюшчанымі вачыма. Сляпым, нямым і глухім. І вяла б Шаройку па Казельскаму Шляху выключна памяць уласных ног.

Гэта была дарога да яго роднай Рапнёўкі, да той незабыўнай, снёнай, тысячы разоў уяўленай ім за вайну хаты-пяцісценкі, у якой, так хацелася зараз верыць Сямёну, чакаюць яго жонка і трое дзяцей.

Ці жывыя яны? Ці здаровыя? Дый ці ўбераглася, урэшце, і сама яго хата-хатачка?

Яшчэ да апошняга свайго ранення, вырываючы ў фашыстаў гарады, мястэчкі, вёскі і хутары, у Сямёна кожны раз пякучым болем заходзілася нутро, калі патрапляў на распластаныя па чорна-абвугленай зямлі зруйнаваныя дамы, спаленыя хаты і вынішчаныя паселішчы. Ён плакаў перад абгарэлымі, абкуранымі копаццю, бялюткімі некалі печамі, тужліва ўздыхаў перад пазарастанымі густым і высокім быльнягом хатнішчамі. Шаройка ўпарта гнаў ад сябе, але так і не пазбавіўся ад іх, трывожных думак пра тое, што такі ж самы жудасны лёс мог напаткаць і ягоную Рапнёўку. Апынуўшыся так блізенька ад сваёй хаты, чырвонаармейцу Шаройку падалося, што, як звер дзікі, лесавы, нават адсюль, за столькі кіламетраў, чуе непаўторны пах роднага котлішча. Ён наструнена ўслухаўся ў магільную цішыню, затрымаў у грудзях выдых п’янкага паветра і, здаецца, пачулася яму, як віруе жыццё ў яго вёсцы: раз за разам грукаюць дзверы, рыпяць коўраты, бухае з разгону ў калодзеж каля Панкрацішынай сядзібы адшліфаваная мазольнымі рукамі шляга з аслізлым цэбарам на канцы… Сямёну мрояцца нават людскія галасы, і ён намагаецца распазнаць сярод іх хоць бы адзін родны галасочак — дачкі, сыноў, жонкі Кацярыны.

І зараз яго ўсяго па-жывому раздзірае, порстка з’ядаючы крохкія рэшткі прыроджанай нерашучасці, непераадольнае жаданне павярнуць з бальшака ў правы бок і вольна пусціць свае ногі па сырой жарстве Казельскага Шляху. Шаройка шчыра спадзяецца, яму так верыцца, што там, у Рапнёўцы, ён напаткае прызабытую і амаль расцярушаную па незлічона крывавых дарогах вайны ці не самую вялікую, самую светлую і сапраўдную радасць — шчасце пабачыць сваю сям’ю.

«Вось, каб чалавеку Бог крылы дадумаўся прыладзіць, — мроіў Сямён, скручваючы дрыжачымі ад хвалявання пальцамі тоўстую цыгарку. — Махнуў сабе адным крылом, другім… І паляцеў, братка ты мой, пад самымі аблокамі над лесам, лугам, палямі. Напрасткі скарачай свой шлях і апынайся там, дзе табе хочацца, дзе трэба быць. Ні ногі па гразюцы валакчы табе, ні спадарожнай машыны пільнавацца… Махай ды махай крыллем — ляці, як птушка божая. Любата!»

Яшчэ ў лазарэце ў Шаройкаву душу аднойчы зазірнула думка, азарыла нечаканым спадзевам і засталася там абнадзейваючым прадчуваннем: пасля папраўкі ягоны шлях на перадавую вайны блізенька пройдзе акурат каля роднага парога. Таму і лавіў прагна ўсе весткі з фронту, таму і распытваў падрабязна, часам нават назойліва, параненых, якіх санітарныя машыны ці не штодня прывозілі ў гэты палявы шпіталь: дзе каторага напаткала куля, якія вёскі ўжо вызвалены, ці шмат пабачылі спаленых хат?

Выйшла так, як і падказвала Сямёну ягонае чуйнае сэрца. Але напачатку ён толькі ціха і бязмежна радаваўся шчаслівай нагодзе проста надыхацца ў запас родным паветрам. Аднак, чым бліжэй падыходзіла выпіска, тым больш выразней і нясцерпней разгаралася ў яго душы жаданне адведаць сваю сямейку. На многае ён не разлічваў. Марыў хоць бы на гадзінку якую зазірнуць дадому, хоць бы адным вокам убачыць, што там і як... Яму толькі б прытуліць да грудзей дзяцей, абняць жонку,

агледзець сваю гаспадарку. І боязна станавілася Шаройку: ці жывыя-здаровыя яго сямейнікі, ці не страцілася беззваротна, ці не спяклося ў чорным пажары вайны ўсё тое, што з такой пякельнай цяжкасцю ўпарта набывалася праз акрываўленыя мазалі, горка-салёны пот, праз адабраныя ў салодкага сна вечары і раніцы?

Дужа карцела Сямёну даведацца найхутчэй і пра тое, як жылося пад немцам амаль два з паловай гады яго родным, усім рапнёўцам.

У частыя бяссонныя ночы тоўстымі, тупымі цвікамі ўбіваліся ў ягоную галаву цяжкія думкі. Ён стараўся заняць сябе нейкім клопатам, знайсці занятак, упарта адганяў нядобрыя прадчуванні, што падточвалі яго сэрца, але тыя аніяк не жадалі адбягацца далёка, ісці ў нябыт і хутка вярталіся, прыносячы яшчэ большую трывогу і пякельна балючы душэўны неспакой. Падуманае аніяк не выходзіла з галавы.

Асабліва востра балела яго душа чамусьці па самым малодшанькім — Мішку. Не выходзіў хлопец з галавы. І днём і ноччу ўспамінаўся. Нярэдка бывала і так, што найчасцей пачало здарацца ў апошні час, у лазарэце: варта толькі прыдрамаць Сямёну ці проста, задумаўшыся, заплюснуць вочы — Мішку свайго бачыць. Стаіць сын наяве, усміхаецца бацьку і быццам кажа яму: «Лаві мяне, затрымай!»

«Дай жа, Божачка ты мой, — шчыра, хоць і не прамаўляючы слоў, маліўся Сямён Шаройка ў такія цяжкія, роспачныя хвіліны, — каб хоць самі яны, Кацярына з дзецьмі, ацалелі. Зберажы іх і ўратуй, літасцівы Збаўца! На Цябе аднаго ўся надзея мая. А калі што і прапала, страцілася з жыўнасці, з гаспадаркі, то, Гасподзь Ты мой, не бяда гэта — нажывецца, зробіцца, прыдбаецца. Галоўнае, каб дзеткі мае, каб жонка засталіся жывенькімі і здаровымі».

Вось і на гэтым скрыжаванні дарог, адкуль рукой падаць было да роднага котлішча, на Сямёна зноўку наплылі трывожныя думы, нядобрыя прадчуванні.

Прысеўшы на кукішкі, Шаройка нетаропка высмоктваў з самакруткі шызы смярдзючы дым. Побач, у нагах, курганіўся яго рэчавы мяшок — забрудзелы, пабіты рудымі плямкамі-падпалінамі і выцерты месцамі да белых нітак аб салёную і гарачую спіну. Сямён праз нос выпускаў струмені махорачнага дыму і не зводзіў вачэй з рэчмяшка. Думаў.

І было яму над чым прызадумацца!

Ён выдатна разумеў, што час, адпушчаны ім жа самім сабе на роздум, набіранне ці сканчэнне ўласнай рашучасці, канчаткова выйдзе з той самай хвіліны, як толькі пад наўскос стаптаны абцас яго падношанага кірзача паляціць маленечкі недапалак самакруткі. Так рашыў Шаройка. І пакуль тлее ў пальцах цыгарка, Сямён яскрава ўяўляе сабе, як ён параненай нагою ў сырым месіве дарожнага пяску старанна расцірае абвугленыя крупінкі махоркі і абгарэлы паясок газеціны.

Радавому Шаройку неабходна зараз жа вырашыць канчаткова, трэба ў гэту самую мінуту адважыцца: пайсці яму па Каменскай дарозе ў акопы альбо збочыць на звілісты Казельскі Шлях. Да яго праз восем кіламетраў ад гэтага перакрыжавання прыляпілася сарака пяццю хатамі, хлеўчукамі ды лазнямі ягоная Рапнёўка. А там павінна знаходзіцца ўсё, што меў Сямён, чым багаты і шчаслівы быў… Такое роднае, блізкае, нажытае і прыдбанае. Там — пачатак і працяг яго жыцця, само яго жыццё з радасцямі і бедамі, шчасцем і горам, успамінамі, марамі і спадзяваннямі…

Сямён разумеў, што вайна скончыцца яшчэ не хутка. Можа, толькі праз год-два фронт і дакоціцца, дагрукоча да Берліна… Але ці пашанцуе яму датрываць да канца яе, дажыць да перамогі? Аніводзін камандзір, нават сам галоўнакамандуючы, не змог бы дакладна і пэўна адказаць яму на гэта суровае пытанне. Не ведаў адказу і сам Шаройка. Можа, і складзе недзе сваю галаву. Загіне на чужыне… А тут — зручны такі момант надарыўся, каб завярнуць дахаты! Быццам і паранены

ён быў спецыяльна дзеля таго, каб сёння апынуцца на гэтым вось, такім блізкім яму, скрыжаванні дарог.

Калі Сямёну свядома не заўважыць, сціснуўшы зубы, абмінуць паварот на Казельскі Шлях, то як яму ў такім выпадку ваяваць далей? Будзе ж пастаянна дакараць сябе, што не скарыстаўся такім нечаканым падарункам лёсу і не пабачыўся са сваімі! Мог і не здолеў, не адважыўся: надарыўся шанец — і не пакарыстаўся ім. Упусціў, як самы апошні баязлівец, разявака і няўдаліца!

Далей Шаройка разважаў, набіраючыся рашучасці, так: стаіць ён на гэтым раздарожжы адзін. Няма побач буркатлівага, усюдыіснага ўзводнага Лішаненкі, далёка адсюль знаходзіцца і вечна незадаволены камандзір роты Кузьменка, не чуваць голасу строгага камбата Багароднага… Стаіць сабе радавы Шаройка на перакрыжаванні дарог адзін. Сам сабе камандзір і начальнік! Дык што тут лішне разважаць, думаць, перажываць? Няма чаго яму выдурняцца.

І сэрца яго гулка трапеча-падказвае: «Не будзе табе больш такога моманту, Сямён! Рашайся хутчэй! Зазірні ў сваю Рапнёўку!»

Ад нараджэння Шаройка быў чалавекам нерашучым, залішне абачлівым, заўсёды зважаў на меркаванні іншых. Вельмі турбаваўся, каб не прыносіць клопату людзям. Перш, чым штосьці зрабіць, нават нязначнае, драбязу нейкую, ён меў звычку доўга абдумваць. Часам, беручыся за штосьці сур'ёзнае, важнае, хоць і ведаў, як тое зрабіць найлепш, усё ж такі раіўся. І толькі аднойчы, калі ў Рапнёўцы ствараўся калгас, анічыёй парады слухаць не захацеў і не пытаўся ні ў каго. Затое ж і думаць самому прыйшлося колькі!

Праўда, жорсткі наждак вайны крыху здзёр ягоную стрыманасць, троху саскабліў няўпэўненасць у сябе і нерашучасць. Тут салдату, каб застацца жывым, трэба найперш рашуча дзейнічаць і часта — на ўзроўні інтуіцыі, інстынктаў.

Думалі, звычайна, камандзіры.

Але прыроджаная нерашучасць, празмерная сціпласць ды ціхмянасць, урэшце, прышчэплены страх перад усялякімі начальнікамі, мабыць, моцна прыкарэлі да самага дна яго душы і ніколі не драмалі. Заўсёды ў нейкія вырашальныя моманты яны ажывалі, нагадвалі пра сябе. І Сямёну, вядома ж, даводзілася з імі лічыцца.

…Вось і ўсё. Не ўтрымаць болей салдату ў пальцах сваіх ужо дагарэлага на ніштo недапалка самакруткі; балюча прыпякае ён сухія вусны, калі зацягваешся горкім дымам. Няма часу Шаройку думаць-вагацца далей. Выйшаў час той, да самай апошняй хвіліначкі страціўся.

«Я толькі туды і назад, — стараўся супакоіць сваё сумленне чырвонаармеец, імкліва абыходзячы сівую, застоеную ваду шырокіх і, мабыць, усё ж такі глыбокіх калюжын, параскіданых гнілой восенню па ўсяму Казельскаму Шляху. — Туды і назад… Заўтра ранкам выбегу з дому і к абеду, а, можа, нават яшчэ і раней, прыклыпаю ў Каменку. Усяго толькі на адну ноч ды нейкага паўдня і спазнюся. Гэта, канечне ж, аніякае не дэзерцірства. Можа, толькі парушэнне ваеннай дысцыпліны. Дый тут яшчэ, як і з якога боку на маё спазненне паглядзець. Быў паранены — значыць, кроў сваю за Радзіму праліў. Лячыўся. Са шпіталя вяртаючыся — у дом свой забег… І ў часць сваю вярнуўся.

Дык хіба ротны Кузьменка, камбат Багародны не зразумеюць мяне? Зразумеюць… Павінны зразумець… Ці ж не людзі яны?»

Нават у самыя лютыя маразы рэчка не спыняе сваю плынь, цячэ-бруіцца пад тоўшчаю лёду між берагоў, якія мацуюць яе. Плыве па сваім, знаёмым і родным, шляху да наканаванае мэты. Таму і жыве, таму і не памірае. Так і чалавек! Без руху, без надзеі, без сям'і і сяброў, без гэтых берагоў сваіх адвечных, няма яму жыцця. Звірыцца, і ўсё тут! Прападзе, як малюсенькі бязродны ручаёк у гарачае лета.

Шаройку раптам прыгадалася, і ён нібыта зрабіў для сябе адкрыццё, што капітан Багародны заўсёды з падкрэсленай павагай ставіўся да яго. Успомнілася раптам Сямёну і тое, што яго камандзір батальёна да вайны настаўнічаў і, як казалі, нават дырэктарам вясковай школы быў. Гэта нечая прыгадка вельмі абнадзеіла нерашучага па жыцці чырвонаармейца: Сямён Шаройка непахісна верыў у душэўнасць, чалавечнасць і справядлівасць усіх вясковых настаўнікаў.

Незаўважна для сябе аддаліўшыся ад бальшака на добрыя тры кіламетры, урэшце, Сямён спакваля датумкаўся, як апраўдацца: ды апыніся на яго месцы, гэтак жа зрабіў бы кожны — і радавы чырвонаармеец, і яго камандзір.

Ніхто… Ніхто, сазнібеўшы згаладалай душою — па доме, дзецях, жонцы, па гаспадарцы сваёй — не ўпусціў бы такі шчаслівы момант! Толькі, вядома, не да кожнага ён прыходзіць, не ўсялякаму даецца. Гэта — як самога лёсу падарунак, што надараецца, мажліва, толькі адзін раз у жыцці; як адзнака выбранасці чалавека і як падзяка за ягоныя пакуты ды неймаверную цярплівасць. І яму, Сямёну, лічы, пашанцавала. Дык навошта тут нюні свае лішні раз распускаць?

Шаройка, ужо зусім перамогшы нерашучасць, яшчэ байчэй пасігаў наперад.

Цяжка ўзбіраючыся з нізінак дарогі на горкі, збягаючы з горак у нізіны, абыходзячы, а дзе і наўпрост пераходзячы неглыбокія калюжыны, ён ужо далёка адагнаў ад сябе нядобрыя думкі і толькі летуценіў пра тую бязмежна шчаслівую і шчымлівую хвіліну, калі нарэшце-такі ў сваёй хаце пачуе родныя галасы. Не стрымаўшыся, пару апошніх кіламетраў, не ўзіраючыся пад ногі, не выбіраючы дарогі, Сямён проста прабег, жадаючы як найхутчэй прыблізіць блізка-блізенькую сустрэчу.

Шаройкава хата стаяла першай і крышачку на водшыбе, лічылася ў Рапнёўцы крайняй, канцавой. Яшчэ здаля, ускочыўшы на спаконвечна знаёмы горб дарогі, ён і заўважыў яе праз настылую шэрань восеньскага вечара. І адразу ж пасвятлела, палягчэла на душы: быццам жорнавы камень той цяжкі нарэшце-такі адчапіўся, зваліўся з сэрца. На месцы стаіць яго пяцісценка, пастарэлая, пад саламяным дахам; як і раней, туляцца да хаты дзве прыгорбленыя пунькі, сянніца, а далей, за дваром, на агародзе невысокай капешкаю чарнее лазня… Усе пабудовы цэлыя, усё захавалася. Шаройкава сэрца дужа затрымцела, закалацілася ў салодка-трывожным спадзяванні: каб, дай ты, Божа, жывой засталася і яго сям'я!

Падбегшы бліжэй да сваёй сядзібы, Сямён раптам заўважыў, як месцамі засвяціўся шырокімі дзіркамі-прагаламі плот агарода, пабачыў, што знік і вашчэвень перад хатай, выгараджаны ім самім жа з асінавых дошак. У ім Кацярына заўсёды вырошчвала кветкі, а ранняй вясной, як сонца крышачку палашчыць цеплынёю сырую зямельку, на самым угрэўным лапіку падсохлай градкі яна высаджвала капусную расаду.

Цяпер ад ранейшай грады ў былым вашчэвені застаўся адно прадаўгаваты, удзірванелы пагорак, які Шаройку чамусьці ўявіўся такім да болю знаёмым курганком брацкай магілы.

«Нешта не падобна да маёй Кацярыны, — вострымі іголкамі закалола ў Сямёнава сэрца трывожнае прадчуванне. — Хіба што, так запусцілася баба!..»

Дзверы ў хату аказаліся звычна незамкнёнымі, і яны па-ранейшаму адчыніліся са знаёмым пранізлівым рыпам. У холадзе пакоя згусцілася шэрае сутонне, праз якое ў левым куце размыта бялелася печ. Сямён натужліва выціснуў з перасохлага горла даўкі, як мякіна-пацяруха, і глухі камяк кашалю, на які ў хаце так аніхто і не азваўся. Ён зняў з пляча і паклаў на зробленую некалі ім самім жа канапку ўсё ж такі пацяжэлы за дарогу рэчавы мяшок. Зазірнуў, прачыніўшы дзверы, на чыстую палавіну хаты. Там было крыху святлей і прасторней, а каля акон, як і даўней, стаялі чатыры самаробныя ложкі, закіданыя цяпер розным шкуццём.

Хваляванне то паволі сыходзіла прэч, то раптам вярталася, імкліва накочваючыся на яго з новай сілай, і Сямён, стараючыся супакоіцца, узяць сябе ў рукі, вымушана, праз сілу, гучна і нястрымана закашляў.

— Каго там нялёгкая прынесла? Хто ета прыйшоў? — з печы да яго вушэй даляцеў слабы жаночы голас. Праўда, Сямён адразу так і не змог пазнаць, хто гэта азваўся ў яго хаце, каму належаць тыя словы і голас той. Ён паспешліва падняў край занавескі, якая абы-як звісала з жэрдкі пад столлю, хаваючы ад чужога вока ляжанку і, стаўшы адной нагой на ўслончык, зазірнуў на печ.

— Сямён? Ты! — выглянула сівая галава з-пад нейкага лахмана. — Божухна праведны! Сенечка мой прыйшоў!

Гэта была Кацярына, Сямёнава жонка.

Прамінулыя два з гакам страшэнна доўгія гады вайны змянілі, апустошылі жанчыну да непазнання, ператварыўшы яе ў зусім старую бабулю. Кацярына няўклюдна ссунулася з печы і адразу ж цяжкім мехам гора-бяды павісла на мужавых плячах, забілася галавою аб яго грудзі, зайшлася няўсцешным плачам.

Сямён здаўна быў перакананы, што без надзеі, нават самай кволенькай, якая няхай сабе і з апошніх сіл толькі цепліцца жывым агеньчыкам танклявай свечкі на скразняку, самай што ні ёсць мізэрнай, з камарову пяцельку, як казалі рапнёўцы, няма і не можа быць жыцця. У гэту самую першую хвіліну сустрэчы з жонкай чырвонаармеец Шаройка толькі ледзь-ледзь адчуваў у сваёй душы невялічкі, жывы спадзеў на лепшае. І яму так верылася ў яго несмяротнасць, як толькі моцна набожныя людзі ў час усеагульнага бязвер'я могуць верыць у існаванне Бога і ягоную ўсёдаравальную міласэрнасць. Агаломшаны Сямён нават слова баяўся вымавіць, каб толькі не патушыць канчаткова свой светлячок-надзею.

— Не ўберагла я нашага Мішачку, — наўзрыд і мацней загаласіла Кацярына. — Няма мне ніякага апраўдання. І літасці Божай няма і ніколі не будзе. Толькі я вінавата ў Мішкавай смерці! Самой… Мне, Сямён, самой трэба было ісці тады на дарогу. Узарвалася праклятая міна, і сэрца маё крывёю аблілося, скамянела назаўсёды ад болю. Няма яго ў грудзях маіх. Другі год там адзін толькі цяжкі-цяжкі камень і боўтаецца…

Кацярына затрымцела ўсім целам, абвяла і, як падкошаная, асунулася на падлогу. Жменяю зачэрпнуўшы вады з вядра, Шаройка абпырскаў жончын твар. Паспешліва крутануўся па другую-пятую жменю вады, забыўшыся нават на тое, што побач з вядром на лаўцы павінен стаяць карэц.

Урэшце Кацярына слаба заварушылася, застагнала. Сямён дапамог ёй сесці на канапку.

Ён пэўна ўжо ведаў, што ў яго сям'і здарылася вялікае няшчасце. Дый толькі ці адна бяда пастукалася ў яго хату?

Сямён не ведаў, нават не мог прыдумаць, як цяпер падступіцца яму да жонкі з роспытамі. Ён разгублена шукаў тыя самыя першыя словы, якія павінен сказаць ёй, але яны так і не знаходзіліся, не ўсплывалі ў памяці. Дапамагла сама Кацярына. Моўчкі ўскінуўшы на сівую галаву сіненька-выцвілую хусцінку, пачала расказваць.

Гаварыла яна запаволена, з прыпынкамі, праз слёзы і пакутныя ўздыхі, нібыта перажывала сваю трагедыю яшчэ раз.

Вясной сорак другога года партызаны пачалі ставіць на Казельскім Шляху міны. Калі аднойчы на іх разам падарваліся дзве нямецкія грузавыя машыны і матацыкліст, паліцаі пад пагрозай расстрэлу сталі выганяць людзей на баранаванне дарогі.

Праўда, не кожны дзень прымушалі цягаць бароны, а за некалькі гадзін перад тым, як па Казельскім Шляху павінна была праехаць іх машына ці калона. Рапнёўцы па чарзе ў запрэжцы з пяцярых чалавек цягнулі дзве бараны — ад Шаройкавай сядзібы да суседняй вёскі Рэпішча. Валаклі туды і назад.

Яны прымалі гэту небяспечную эстафету ад суседзяў, якія жылі ў Журавах, і перадавалі рэпішчанскім мужчынам, жанчынам і дзецюкам.

Нібыта гулялі са смерцю — не па сваёй, вядома, ахвоце.

Упрагаліся ў бароны па чарзе толькі з тых двароў, адкуль хоць адзін чалавек, як меркавалі ў нямецкай камендатуры, падаўся ў лес партызаніць ці да вайны быў актывістам.

— Піліпок, — гаварыла Кацярына, — казаў: «Вашыя ноччу ставяць міны, а ўдзень вам іх размініраваць трэба».

— Піліпок? — перапытаў Сямён. — Матрунёнак?

— Ага, Матрунёнак. Ён самы… Як немцы прыйшлі, ён у паліцыю падаўся. З Карабанькам. Старэйшым Малахавым сынам. Хто раскулачваў, з ім жа, раскулачаным, знюхаўся. Вось як бывае ў жыцці…

— А наш Мішка прычым тут? — Сямён запытаў пра тое, што найбольш смылела яму. — У актывістах мы з табой, Каця, не хадзілі, у партыю не ўступалі...

— Пятрок у лес пайшоў… Партызанам стаў.

— Ён жа на фронце…

— У акружэнне трапіў. З-пад самага Кіева, расказваў, прабіраўся. У двор, ледзь ногі перастаўляючы, прыйшоў якраз на Міколу халоднага. Снегу ўжо навапіла па калена... Я ў хаце была, на печы ляжала. Чую, у сенцах нешта загрымела. Выскачыла — мужчына ці дзіцёнак, не разабраць адразу, пад лаўкай качаецца. Прыгледзелася, аж гэта Пецька наш забурыўся тут. Дайшоў быў зусім. Глядзець ненашта было. Косці, скурай абцягнутыя, прынёс! І вошай з гнідамі… Кішма кішэлі. Божухна мілы ты мой! Паверыш, у першыя дні па цэлай жмені на ім збірала. Насілу адхаіла хлопца. А як акрыяў крыху, падняўся на ногі, ад'еўся, з партызанамі сышоўся. Думала, што толькі адна я пра гэта ва ўсім свеце белым і ведаю. Аднак жа — не! І праўда: шыла ў мяшку не ўтоіш. Здагадаліся і паліцаі, а найперш — Карабанька. Ён за старшага ў іх быў, з гусіным пяром у шапцы ўсё хадзіў. А за ім, як сабачка, Піліпок бегае, грэх даваенны замольвае.

Карабанька, як ні пабачыць мяне, чапляецца: «Накажы, цётка, свайму Пятру, каб з лесу дахаты вяртаўся. Прасцім! Не чужыя ж мы людзі. А не паслухаецца, табе, як матцы партызанскай, цыцкі ў жывой прылюдна паадразаем».

— Дзе, Каця, наш Пецька цяпер?

— На фронце. Яго зноў, як нашы прыйшлі, мабілізавалі.

— А Нінка? Нінкі чаму дома няма?

— У Сібір адправілі. Заўчора з калгаса дванаццаць чалавек за каровамі паехалі. Праз месяц, сказалі, вернуцца.

Сямён задумаўся, і гэтым неспакойным маўчаннем ён як бы хацеў цяпер, высветліўшы збольшага важныя навіны, адцягнуць цяжкія роспыты пра самае балючае — смерць сямнаццацігадовага сына. І яму край як патрэбна было крышачку супакоіцца, набрацца сіл, каб выцярпець і гэты ўдар нелітасцівага лёсу.

Сямён прыкмеціў, што жонка гаворыць адно, а вачамі сваімі бачыць зусім іншае: Мішкаву смерць.

* * *

Калі паліцаі пачалі ганяць рапнёўцаў з баронамі на Казельскі Шлях, Кацярына спадзявалася на свае шчырыя малітвы ды звычайны шчаслівы выпадак. Яна бессумнеўна верыла ў гэту невытлумачальную выратавальную сілу, спадзеючыся, што і яе бясхітрасная вера таксама дапаможа выжыць. Хоць бы дзецям.

Перад трэцім і апошнім Мішкавым выхадам на баранаванне на шляху выбухнула яшчэ адна партызанская міна. Двое хлопцаў загінулі адразу, аднаму вышэй локця асколкам адсекла руку, яшчэ аднаго кантузіла. Ацалеў толькі стары Яўтух, які разам з імі таксама цягнуў пякучы гуж. Нават не драпнула дзеда, нібыта загаворaным ён аказаўся, ці перад выхадам на дарогу абмыўся пасвячонай вадою.

А праз два тыдні Карабанька зноў загадаў рапнёўцам запрагацца ў бароны. І падаспела Мішкава чарга.

Чамусьці ўсе спадзяваліся, што гэта нядаўняя трагедыя прымусіць партызан супыніцца альбо вынайсці іншую тактыку, каб не падстаўляць пад смерць сялян. Сваіх жа, родных, знаёмых.

Абачлівы дзед Яўтух прапанаваў патроіць даўжыню гужоў, за якія цягнулі бароны. Пры выбуху міны, даводзіў ён, і шанс выжыць нам патройваецца. Хоць цягнуць на такіх доўгіх вяроўках дзве бараны будзе дужа цяжка. Але, вядома, хочаш выжыць — пацягнеш, куды, аднак, тут падзенешся?

— У той раз, — пераканаўча даводзіў вяскоўцам дзед Яўтух, — мой гуж усяго на паўметра быў даўжэйшы, чым у астатніх. І я, бачаце, ацалеў, размаўляю з вамі. А двое, няхай душы гэтых хлопцаў купаюцца ў царстве нябесным, галовы свае склалі.

Гэта быў самы, безумоўна, важкі аргумент, з якім пагадзіліся ўсе, бо, каб аспрэчыць яго, ніхто так і не прывёў слушных, разумных довадаў ды пярэчанняў. Але, як выявілася, на такіх доўгіх гужах пяцярым дзве бараны цягнуць будзе не пад сілу. Спатрэбіцца ў запрэжку хоць бы яшчэ адзін, шосты, чалавек. Аднак, па-за сваёй чаргі чапляцца ў барану ахвотнікаў, вядома ж, не знаходзілася.

Рапнёўцам прымхліва верылася, што такой перастаноўкай яны проста наклікаюць, прыспешаць смерць. Таму й муляліся, асцярожнічалі, аднекваліся, прыгадаўшы раптам нейкі пільны клопат, адводзілі вочы ўбок. Зрэшты, яно і зразумела, спакушаць свой лёс было вельмі небяспечна. А ўпрошваць, угаворваць кагосьці ўжо не было часу — падганяў Карабанька:

— Хопіць размудыкваць! — кружляў ён вакол купкі збянтэжаных рапнёўцаў. — Няма часу. А ну, панеслі на дарогу бароны! Пíліп, падгані каторага штыхом!

— Калі ўжо так, то я пайду, — першай не вытрымала нервовай напружанасці Кацярына.

— Двум з аднаго двара нельга, — без роздуму, катэгарычна запярэчыў Яўтух. Дзед, дарэчы, з'яўляўся ёй далёкім сваяком па Сямёнавай руцэ. — Крый Божа, што… І Мішка з Нінкай прападуць. Куды нам, людцы, тады свае вочы будзе падзець?

Яго пытанне асуджаныя на жыццё ці на смерць зразумелі па-свойму: канечне, стараецца Яўтух за Кацярыну. Сваяк жа! А яна сама напрасілася. То няхай бы ішла ўжо…

— Што ж, — сказаў тады дзед, абвёўшы ўчэпістым позіркам невялічкі аглушана-прыціхлы натоўп аднавяскоўцаў, — калі няма ахвотнікаў, сам… Пайду сам. Стары ўжо, нажыўся… Усяго паспытаў, усё пабачыў…

У вызначаны час шасцёра чалавек моўчкі ўзяліся за падоўжаныя каляныя гужы і пад наглядам некалькіх паліцаяў з цяжкасцю, напружваючы ўсе свае жылы, слых і вочы, дробным крокам рушылі па дарозе — пацягнулі, прадаўжаючы, сыры след, толькі што пракладзены па Казельскім Шляху гуртам суседзяў-журавоўцаў, да Рэпішча.

— Вас жа вашыя не шкадуюць, — гаварыў скорагаворкай Карабанька. І невядома было, для каго прамаўляліся гэтыя словы: ці то для тых, хто цягнуў зараз дзве цяжкія бароны, а, можа, і для тых, хто застаўся на курганку выгана і адтуль стоена сачыў за дарогай, — то чаго мы вас павінны шкадаваць? У Піліпка таксама, ведаеце, дзеці ёсць. І ў Хвядоса… А ў Кашапара — іх пяцёра, і ўсе — адзін пад адзін. Пад стол пяшком ходзяць і не прыгінаюцца нават.

І вам, і нам сваіх дзяцей шкада…

Я колькі разоў прасіў: хочаце жыць спакойна, накажыце ў лес, каб перасталі мініраваць дарогу. Тады і не будзеце цягаць гэтыя бароны. Пайміця вы! Можна ж дамовіцца! Па-свойску дагаварыцца можна. Не чужыя ж мы паміж сабой людзі! Столькі гадоў пражылі разам… Страха ў страху… Сцяна да сцяны…

* * *

…Карабанька фанабэрыўся, ваяўніча трымаўся грозным начальнікам толькі на людзях, пры гледачах. Гэта было і яго своеасаблівай ахоўнай рэакцыяй, і спатоляй той вялікай злосці, якую яму станавілася ўсё цяжэй і складаней утаймоўваць, трымаць унутры сябе.

Чалавек, узяўшы ў свае рукі зброю, станавіўся страшным і небяспечным. Ён звярэў. Карабанька вінтоўкай пакуль што толькі палохаў людзей, пагражаў. Аднак, ён ведаў, як ведалі тое і самі рапнёўцы, што вінтоўка гэта можа некалі стрэліць і па чалавеку. Выстраліць па некаму з іх.

Жыццё часта біла Карабаньку незаслужана моцна і балюча, і яго душа ўсё яшчэ была ў сіняках і незагойных крывавых рубцах.

Ён усё сваё жыццё імкнуўся, хацеў толькі аднаго: ціха жыць у сваім доме, спакойна працаваць на сваёй зямлі, быць гаспадаром у сваёй гаспадарцы. Аднак гэтага яму не дазволілі свае ж, рапнёўцы. Хоць ні ён асабіста, ні яго бацькі з дзядамі ніколі нават вады ім не замуцілі і зла аніякага не зрабілі, а яны выкарчавалі Карабанькаў і закінулі іх далёка, у чужы і халодны край… Так далёка, каб, мабыць, ніколі ўжо не знайшлі дарогу назад, да свайго котлішча. Але Карабанька, пахаваўшы ў вясёлым гайку, што туліўся адным бокам да стромкага берага вечна сцюдзёнай Камы, бацьку з маткай, а неўзабаве і малодшую сястрычку, вярнуўся-такі ў Рапнёўку. І не шалёная помста гнала яго сюды праз тысячы кіламетраў, а вяла́ бязмежная любоў да родных мясцін. Ён спадзяваўся, што на любай Бацькаўшчыне нарэшце-такі знойдзе ўяўленую сабе цішу, душэўны спакой. А вайну, якую распачаў Гітлер, Карабанька прыняў за знак блізкіх і немінучых перамен. Найперш для сябе, у сваім жыцці. Насамрэч, толькі вайна і падштурхнула яго незаўважна пакінуць таёжны спецперасяленскі пасёлак. У той неразбярысе, разважаў ён, шукаць яго кінуцца не адразу. А, можа, і наогул забудуцца, што быў такі пасяленец кулацкага адроддзя: чалавек жа ў нас усяго толькі — пясчынка.

Карабанька з’явіўся ў Рапнёўцы перад самым прыходам сюды немцаў. У тыя дні ён быў пераканаhandы, што гітлераўцы надзейна і надоўга ўсталююцца на захопленай імі зямлі. Тут яны адразу ж стварылі сваю, акупацыйную, уладу. Нават бланкі метрык, разнастайных пасведчанняў, іншых дакументаў на нямецкай і беларускай мовах прытарабанілі з сабой на некалькі гадоў наперад. Значыць, рыхтаваліся, ведалі, на што ідуць, калі нават такія дробязі прадугледзелі!

Па вяртанні ў Рапнёўку Карабанька адразу ж накіраваўся на бацькаў падворак і, уражаны пабачаным, заставацца тут не пажадаў. Яму стала агідна і да слёз крыўдна: родны дом перавезлі ў цэнтр вёскі і ў ім цяпер знаходзілася «Изба-читальня»; а старадаўнія, намоленыя абразы, якія перадаваліся ў сям’і ад бабулі ўнукам, неку-

ды пазнікалі. Ён выпадкова напароўся ў густых зарасніках крапівы, дзядоўніку і палыну, што забуялі на іхнім хатнішчы, толькі на злінялы, выкачаны ў зямлю абраз Багародзіцы з Боганемаўляткам на руках, які раней вісеў на самым ганаровым месцы покуці іхняй хаты і вельмі шанаваўся бацькамі. Не было і гаспадарчых пабудоў. Іх, як высветліў пазней, адразу ж пасля раскулачвання разабралі і перавезлі на калгасны двор. Карабанька не сумняваўся, што Саветы неўзабаве будуць адолены Гітлерам, а «новы парадак», які ўводзіўся фашыстамі, забяспечыць яму такое жаданае ціхае існаванне. Ён жа пацярпеў ад бальшавікоў, не прыняў іхнюю ўладу, палітыку.

Аднак цішыні і спакою ён не дачакаўся. І новай уладзе, як аказалася, спатрэбіліся з ліку мясцовага насельніцтва бяздумныя халуі — выканаўцы яе загадаў, распараджэнняў, указанняў, просьбаў. Прамая лінія, што нарошчвалася Карабанькавымі ўяўленнямі, жаданнямі і спадзяваннямі, спачатку ператварылася ў жорсткае кальцо расчараванняў ад рэальнага жыцця, служэння новай уладзе, стасункаў з ёй, а неўзабаве і яно пачало пераўвасабляцца ў самую звычайную пятлю, якая балюча абкручвалася вакол ягонай шыі.

Карабанька стаў паліцаем. Начальнікам паліцыі воласці зрабіўся, можа, не столькі таму, што яго прымусілі, даканаўшы ўгаворамі, абяцаннямі, пагрозамі, усё гэта, вядома ж было, а колькі з жадання ўберагчы рапнёўцаў у гэтай страшэннай калатнечы.

Ён бачыў, як з усіх сіл пнуліся выслужыць у акупантаў пасады розныя мярзотнікі, прыстасаванцы і прахадзімцы. Той жа былы калгасны актывіст Піліпок. Матрунёнак заявіўся ў камендатуру і чыстасардэчна прызнаўся, што пры бальшавіках у Рапнёўцы быў далёка не апошнім чалавекам, але паступіў так наўмысна, каб толькі мацней нашкодзіць Саветам, якія люта ненавідзіць. А сваю актыўнасць у правядзенні калектывізацыі, у раскулачваннях і высылках аднавяскоўцаў перавярнуў гэткім чынам, што выходзіла, быццам рабіў ён гэта толькі дзеля таго, каб азлобіць сялян супраць камуністаў, настроіць іх супраць савецкага начальства і бальшавіцкай палітыкі. І даводзіў гэта Піліпок каменданту, што было гнюсна і агідна, у прысутнасці Карабанькі. «Ну і пярэварацень, — падумалася тады Карабаньку, які чакаў сваёй гутаркі з камендантам, — сапраўдны ваўкалак. Бацьку роднага з'есць і нават не аблізнецца».

Матрунёнак з ахвотаю пагадзіўся скласці спіс сем'яў рапнёўскіх партыйцаў, актывістаў савецкай улады. З дзясятак чалавек яго пяром прыгаворваліся да расстрэлу. Смерць, спяшаючыся, ужо зазбіралася адправіцца па іхнія душы.

— Я ручаюся за гэтых людзей! — перахапіўшы ваўчыны позірк каменданта, падняўся з лавы Карабанька.

Перакладчык ператлумачыў яго словы па-нямецку.

Камендант, няспешна расшпіліўшы скураную кабуру, падышоў да Карабанькі і прыставіў рульку пісталета да пераносся новага паліцэйскага. Загергетаў па-свойму.

Карабанька ў тое імгненне зразумеў і ўсвядоміў, што чужынец ёсць чужынец. Жыццё ж трымаецца толькі на сваіх людзях. Свой хутчэй зразумее цябе, дапаможа ў бядзе. Хоць дагэтуль у яго жыцці было ўсё наадварот. Але ж цяпер — вайна ідзе. І, каб захавацца, выжыць, свае павінны падтрымліваць сваіх.

— Не ручаешся, — надтрэснутым голасам даводзіў да Карабанькі патрабаванне каменданта перакладчык, — а галавой сваёй адказваеш за кожнага з іх. Іначай і цябе…

Тлумач змоўк і, чакаючы далейшых слоў ад нямецкага афіцэра, упіўся ў яго ледзянымі вачыма.

І ў той жа самы момант Карабанька адчуў, як гулка трэснуў баёк пісталета, і рулька балюча ўдарыла яму ў пераноссе.

— Вось так, — па-руску сказаў камендант і стрымана ўсміхнуўся. — Ты поняль?

Паліцэйскі без слоў згодна кіўнуў галавой.

— Ідзі.

На шчасце, немцы паверылі пацярпеламу ад бальшавікоў Карабаньку, а не выскачку Піліпку. Амаль год рапнёўцы жылі ціха і спакойна. Карабанька даволі хутка прышчаміў хвост Піліпку, зрабіўшы яго сваім паслухмяным дзяньшчыком-слугою, надзейна трымаў у аброцях і астатніх паліцэйскіх. А рапнёўцам даходліва патлумачыў, што іхні спакой залежыць ад таго, як будуць яны выконваць распараджэнні ўлады. Найперш указанні акупантаў датычылі збору прадуктаў, цёплых рэчаў.

За першы год вайны ў Рапнёўку немец наведаўся толькі адзін раз: неяк увосень, за тыдзень да Пакроваў, у суправаджэнні Піліпка на веласіпедзе прыехаў сюды нейкі нізкаросły, але задужа тоўсты афіцэр і прызначыў старасту. Ім стаў, дарэчы, выбраны самімі вяскоўцамі, передваенны старшыня іхняга ж калгаса.

Для аднавяскоўцаў Карабанька стварыў даволі спакойнае жыццё. А сабе нарабіў нямала клопату: трэба было і немцаў заспакойваць, залагоджваць, дэманструючы пакору, і рапнёўцаў упрошваць, прыстрашваць.

Спакой для іх ён купіў за ўласныя неспакой і трывогу. Але так доўга, калі вакол віхурыла вайна, вядома ж, працягвацца не магло. Неўзабаве ў Казённай пушчы абвясціліся партызаны, і спакой рапнёўцаў імгненна знік.

Карабаньку не хацелася, каб вайна страшэнным колам пракацілася па сядзібах роднай вёскі. Ён, як толькі мог, праўдамі-няпраўдамі, а найчасцей хітрыкамі, адводзіў бяду, гуляў з ёю ў хованкі. І яму гэта да пэўнага часу ўдавалася. Калі ж на міну, пастаўленую на Казельскім Шляху насупраць Рапнёўкі, наскочылі дзве нямецкія машыны і матацыкліст, камендант, згадаўшы Піліпкаў спіс, загадаў расстраляць тых дзесяцярых чалавек. Але і на гэты раз смерць абышла іх бокам. Карабанька выкупіў іх выратаванне баранаваннем дарогі. Але яго разлік не спраўдзіўся. І дамовіцца з тымі, хто знаходзіўся ў лесе, не атрымалася.

На дарозе пачалі гінуць, калечыцца рапнёўцы, жыхары іншых вёсак, якія знаходзіліся абапал Казельскага Шляху.

І вось цяпер, ідучы на бяспечнай адлегласці ад аднавяскоўцаў, якія з натугаю цягнулі па сырой каляіне страшэннае прыстасаванне, вынайдзенае некалі яшчэ чалавекам-дзікуном выключна для мірнага занятку і прадаўжэння жыцця, начальнік валасной паліцыі не мог стрымаць сваю злосць на партызан.

Навошта ім падстаўляць сваіх родных, знаёмых, суседзяў-сяброў? Карабанька дакладна ведаў, што падаўся ў пушчу акружэнец Пятрок Шаройка, з якім ажно пяць школьных гадоў прасядзелі за адной партай, пайшлі туды і двое сыноў дзеда Яўтуха, у партызанах Мікіта Сігаёў, Санька-брыгадзір… З кожнай чацвёртай-пятай рапнёўскай хаты ў лясным атрадзе знаходзіліся то гаспадар яе, то сын, дачка, брат, сваяк, зяць…

Начальнік валасной паліцыі чамусьці не лічыў іх ворагамі, ён шчыра спадзяваўся, што дзеля спакою тых, хто застаўся ў вёсцы, з ім заўсёды можна дамовіцца. Не чужынцы ж яны паміж сабой! І не хаваў гэтыя думкі свае, верачы, што іх абавязкова перададуць у лес. Пакутліва шукаючы адказы на шматлікія пытанні, Карабанька прыкідваў так і гэтак, і аніяк не мог ён зразумець тых, хто мініраваў дарогу.

Наўкола ішла вайна, але яму не хацелася, каб злавеснае полымя яе зашугала і ў яго роднай Рапнёўцы, і ў тых бліжэйшых вёсках, дзе ўсе ведалі Карабаньку,

называлі цяпер яго па-свойску Малахавіч. І сам ён з малых гадочкаў ведаў усіх, бо ўсе людзі былі знаёмыя паміж сабой, здаўна радніліся, выручалі адно аднаго ў цяжкую часіну.

Карабанька выгадваў адно, а жыццё ішло сваім, наканавым доляю і не падуладным яму шляхам.

Малахавіч пэўна ведаў і тое, што пасля вайны літасці яму не будзе і спадзявацца на яе аніяк не выпадала. Хоць людскою крывёй свае рукі не запэцкаў. «Гэта ж, будуць усе лічыць, — раздумваў ён, няўклюдна клыпаючы паперадзе сваёй каманды насцярожаных паліцаяў, — што выключна па маёй віне загінулі пры баранаванні Казельскага Шляху двое тых маладых рапнёўцаў, трое мужчын са Шпачча, падарвалася на міне запольская дзяўчынка… Як апраўдацца, што сказаць у сваю абарону? Няма тых слоў, як не існуе і такой клятвы, якая змагла б пацвердзіць маю невінаватасць. Будуць, як заўсёды, шукаць крайняга. І тым крайнім, канечне ж, буду я…»

Відавочна ў яго будучым абвінавачванні наступнае: збег з высылкі, каб помсціць. Таму і стаў бобікам-паліцаем, даслужыўся да начальніка... А хто, запытаюцца, гнаў людзей на баранаванне дарогі, выганяў іх на немінучую смерць? Не Піліпок жа. А ён… Карабанька… І ніхто не заступіцца за яго, не падтрымае ў цяжкую хвіліну суднага дня добрым словам, не згадае, што Малахавіч хацеў толькі аднаго: даць хоць сваім рапнёўцам пажыць заспакоена ў няпросты час, калі бутэлька самагонкі каштавала даражэй за жыццё чалавека. Ён па сваёй ахвоце бяздумна ўвязаўся ў гэту нялюдскую гульню і стане яе ахвярай. Такі ў яго, мабыць, пакутны лёс. Такая, як гаворыць дзед Яўтух, яго планіда…

Жалезныя кляцы баронаў, рад за радам уядаючыся ў дарожную жарству і ліпучы пясок, калі-нікалі выскубвалі з насыпу камяні. І пранізлівы скрыгат іх вострым, нясцерпна пякучым болем адразу ж аддаваўся ў галовы, ногі, імгненна працінаў целы і душы запрэжаных людзей. Асабліва невыцерпна, задушна стала, калі бароны наблізіліся да свежа зараўнянай варонкі. Жах адчулі і тыя, хто, надрываючы жылы, баранаваў дарогу; апанаваў ён і тых, хто з застыглым у вачах адчаем ды нямой малітвай на дрыготкіх вуснах сачыў за ўпрэжанымі аднавяскоўцамі, стоячы на выганаўскім пагорку. Усім здавалася, што як толькі бароны параўняюцца з месцам нядаўняй трагедыі, грымне выбух. Гэта ж самае, мусіць, адчувалі і азяблыя паліцаі, якія па забаранаваным следзе, шырынёй у палову дарогі, марудна цягнуліся ў метрах двухстах за імі. І як толькі бароны насунуліся на пляміну свежага пяску, бобікі на імгненне нават прыпыніліся.

Перасталі дыхаць у чаканні найгоршага сваякі ды аднавяскоўцы тых, хто, абліваючыся халодным ліпкім потам, валок цяпер па дарозе дзве цяжкія бароны.

Чакалі выбуху. Чакалі бяды. Але аніводзін жалезны клец, на шчасце, не напароўся на міну. Шасцёра вяскоўцаў, якія аказаліся з’яднанымі адным непрадказальным лёсам і прыгнечанымі чаканнем аднаго на ўсіх гора, шчасліва прамінулі небяспечны ўзгорак і крыху жвавей пачалі ўжо апускацца ў нізінку.

Прайсці да ўмоўнай мяжы заканчэння баранавання свайго ўчастка дарогі, абазначанай старым, засохлым ясакарам, ім заставалася ўсяго з паўкіламетра. Ад ясакара Казельскі Шлях баранавалі ўжо людзі з Рэпішча. І смяротная эстафета гэта цягнулася далей, мабыць, на ўсім працягу дарогі — ад адной вёскі да другой.

Зваротны шлях яны таксама мусілі праходзіць з баронамі па другой палове дарогі. Аднак, рапнёўцы лічылі яго амаль бяспечным для сябе, паколькі нямецкія машыны заўсёды рухаліся па першаму пракладзенаму следу. Другая ж палова дарогі, хоць ва ўсіх папярэдніх выпадках міны закладваліся дакладна па руху машын, заўсёды баранавалася, мабыць, для парадку, пэўнасці і гарантыі.

Ва ўсё яшчэ струнка напятай цішыні над галовамі нечакана пачуўся прыглушаны шоргат пругкіх крылаў, а затым раздалося і вусцішна-гучнае, хрыпатае крумкачова карканне. Яго пачулі ўсе, і разам, як па камандзе, ускінулі ў неба свае вочы. І ў тое ж самае імгненне на Казельскім Шляху нечакана трэснуў, нібыта каваль з размаху пляснуў молатам па кавадле, звонкі выбух, і з нізінкі дарогі, за некалькі крокаў ад засохлага ясакара, паднялося ўгору воблака з металу, гравію, пяску і дыму. Паліцаі, не выбіраючы месца, бразнуліся на зямлю. Ад нечаканасці прыселі на выгане ў зрудзелую траву і вяскоўцы.

Начальнік валасной паліцыі, заглыбіўшыся ў свае супярэчлівыя думкі, не адразу сцяміў, што там здарылася на дарозе каля ясакара. Ён кінуўся да параскіданых людзей, і праз хвіліну пад Карабанькавымі нагамі, на непрабаранаванай палове дарогі, ляснуў яшчэ адзін, толькі менш гучны, выбух. З гарачкі Малахавіч яшчэ зрабіў спробу падняцца на ногі, але не ўтрымаўся, паваліўся долу, і цела яго галавою ўніз павольна спаўзло па стромкаму адкосу ў кювет, пакідаючы на зжоўклай траве ярка-чырвоныя пляміны крыві.

Як толькі ўзарвалася першая міна, Кацярына, адчуўшы нядобрае, праз купіны і канавы нешырокага выгану напрасткі кінулася да Казельскага Шляху. За ёй, апамятаўшыся, шыбанулі і ўсе астатнія, хто назіраў за дарогай.

Яна потым казала, што зусім не пачула другога выбуху. Толькі моцна здзівілася, калі ўбачыла перад сабой, як павольна ссоўваўся ў канаву, прама ёй пад ногі, акрываўлены Карабанька…

А на дарозе… Трос, як ашалелы, сівой галавою дзед Яўтух. Нехта з мужчын, Кацярына з перапуду нават і не пазнала, хто гэта быў, сядзеў на кукішках, абшчапіўшы твар рукамі, па якіх цурком лілася кроў. Яшчэ трое варушыліся непадалёку ад перакуленых баронаў — значыць, жывыя! І толькі адзін яе Мішка, самы малодшы з гэтай нешчаслівай упрэжкі, ляжаў без руху тварам уніз наўпапярок насыпу. Кацярына на каленях падпаўзла да сына, галавою прыпала да яго спіны.

На хлапечых плячах па ільнянай сарочцы няроўна расплывалася чырвоная плямка крыві.

— А сыночак ты мой! Залаціначка ты ж мая! Крывіначка родненькая! — загаласіла Кацярына, б'ючыся галавой аб нежывое ўжо сынава цела.

Яна не помніць, як сілаю адцягвалі-адрывалі яе ад мёртвага дзіцяці; нічога не засталося ў яе памяці і ад таго, як даклыпала-дапаўзла дамоў; не можа Кацярына згадаць і таго, хто зрабіў для Мішкі яго вечную хату — дамавіну. Нічога гэтага не памятае, усё яно выбіта з яе галавы і сэрца.

Тым ранкам з шасцярых на дарозе загінуў толькі адзін яе сын.

Лёс!

Страшэнны, у самае сэрца, удар злой нядолі!

* * *

— Пасля Мішкавай смерці, — расказвае Кацярына Сямёну, — зусім аслабела, ніякіх сіл не засталося: іду, нага за травіну зачэпіцца — павалюся... Ляжу, плачу… Галашу… Жыць мне, Сенечка, не хочацца зусім, і жыццё маё мне горка абрыдла.

Кацярына задумалася, ці то збіраючыся з думкамі сваімі, ці то набіраючыся сілы. Сямён не прыспешваў яе, таксама маўчаў. Нарэшце яна зноўку абазвалася ціхім голасам:

— Выйду ранічкай на двор, і здаецца мне: Мішка на лаўцы каля сенцаў сядзіць. Усміхаецца… Мішачка! Кідаюся да лаўкі, хачу злавіць яго... А ён адыходзіць, зні-

кае… Быццам хаваецца ад мяне. Я шукаю яго ўсюды — пад павець схаджу, у клець зазірну, пуню агледжу, у паграбок збегаю… Няма сыночка нашага любенькага… Было ў нас з табой, Сямён, усё. Было — быў Мішка. Няма яго — і нічога добрага не будзе наперадзе. Ніколі ўжо не будзе…

Кацярына змоўкла, апусціла галаву.

— Вось жа, Сямён, — працягвае яна, адпачыўшы, сабраўшыся з думкамі, далей гутарку, — сустрэчы з табой дужа баялася... Скажу праўду: яшчэ адзін грэх, пасля ўжо Мішкавай смерці, узяла на сваю душу, палічыўшы і цябе забітым. Ат, на чыёй душы грахі, тая і адказ трымаць будзе за іх перад Богам… Я ж помню, добра помню, твае апошнія словы, калі ішоў на фронт: «Беражы дзяцей!» І вось, што атрымалася ў мяне, Сямён. Не зберагла… Мішку нашага не зберагла ад смерці… Даруй мне, Сенечка!

Кацярына зноўку зайшлася плачам. Сямён да болю ў сківіцах скрыгатаў і скрыгатаў з'едзенымі зубамі.

Прызвычаіўшыся да чужога гора, адвучаны плакаць, ён адчуў раптам, як з яго вачэй знячэўку пабеглі слёзы. Яны запаволена скочваліся па глыбокіх узорыста-крывых зморшчынах твару халоднымі, буйнымі, але рэдкімі, кроплямі і, патрапіўшы ў куточкі сухіх вуснаў, імгненна выпараліся. «Не суддзя я Кацярыне, — думаў пра сябе ў гэты момант Сямён. — Гасподзь справядлівы, разбярэцца. І сапраўды: толькі тая душа будзе ў адказе і адкажа, на чыёй пляміцца грэх».

Шаройка, агаломшаны пачутым, не ведаў, што яму сказаць Кацярыне, якімі словамі яе суцешыць, чым суняць яе і свой боль.

— Не ўберагла нашага Мішку. Не засланіла сабой… Няма мне ніякай літасці! — паплакаўшы, працягвала гаварыць Кацярына. — Пабі мяне, Сямён! Ці застралі, каб сама не пакутавалася і цябе не мучыла.

— Ты не вінавата ў яго смерці, — крыху саўладаўшы з сабой, сухім голасам нарэшце-такі азваўся Сямён. — Вайна, Каця, вінавата. Яна шмат людзям гора-бяды нарабіла! А нам трэба жыць далей. Няма чаго раней часу класціся ў зямлю. Пра жывое думаць трэба. А Мішку… Сына слязамі, сама ведаеш, ужо не вернеш. Не паднімеш з магілы. Такі яго лёс.

Паплакаўшы ўволю па сваім няўсцешным горы і перажыўшы яго яшчэ раз, Кацярына пачала супакойвацца. Нездарма ж, мусіць, кажуць, што слёзы аблягчаюць душэўны цяжар. Нарэшце, успомніла Кацярына, што яна — гаспадыня ў хаце, што прыехаў муж. Яе Сямён з вайны вярнуўся!

— Ты, мабыць, дужа галодны, Сеня? — запытала Кацярына, спехам папраўляючы хустку, якая параненай птушкай збілася на шыю. — Я зараз камінок распалю, хоць бульбы табе згатую. Паверыш ці не, але як Нінка паехала за каровамі ў Сібір, есці сабе так аніразу і не прыгатавала. Забылася на ўсё. Дый у рот нічога ўвапхнуць не магу. Зусім не хочацца есці.

У чорным, ад нагарэлай за гады копаці, камянку, вымураваным у пярэднім правым куце печы, жанчына спрытна распаліла цяпельца, паставіла на трыногу закуродымлены чыгунок з дзясяткам бульбін. І пакуль яны варыліся, расказвала і расказвала Сямёну пра тое, як жылося ім тут, пад немцам, колькі давялося страху перажыць і зведаць. Урэшце, яна вінавата згадала сваю гаспадарку. Карову яшчэ летась па загадзе Карабанькі завалок у воласць Матрунёнак. Немцам тэрмінова спатрэбілася мяса, дый ёй самой патрэбна было разлічыцца з няздадзенымі падаткамі.

— Праўда, — заўважыла Кацярына, — Малахавіч тады, аглядаючы карову, паабяцаў мне, што з нашага двара больш не возьме нават і крошкі хлеба. І, ведаеш, Сямён, слова сваё ён стрымаў. Адкупілася ад далейшых падаткаў нашай Зоркай.

Немцы з'елі яе і косткамі не падавіліся, заразы. Хоць Піліпок, перадавалі мне людзі, потым не раз пад'юджваў Карабаньку... Нашым Петраком яму па вачах сцябаў, кажучы, што нерэквізаваныя прадукты я прыхоўваю для партызан. У пушчу іх перадаю… А я, і сапраўды, хлеб для нашых пякла. Раз на месяц Пятрок з таварышамі на кані за ім з лесу прыязджаў…

Спахапіўшыся раптам, яна паведаміла мужу, што сёлета па вясне ёй удалося разжыцца на свінку. Хаваючыся ад усіх, зберагла яе. Нават Петраку, калі той, ідучы па сваіх патаемных справах, калі-нікалі заходзіў у двор, і паўсловам не абмовілася пра гэты каштоўны набытак. Ведала сынаў характар: дазнайся ён пра свінку — тая адразу б у кацёл агульны паляцела, бо надта галадалі ў лесе людзі.

— А свінка ядушчая, дужа харошага заводу патрапілася, — Сямёну падалося, што ў жончыным голасе нарэшце ледзь прыкметна прагучалі яшчэ не ноткі, а толькі пазнакі сцішанай радасці. — На нішчымнай лебядзе ды крапіве, ведаеш, яна не надта хоча сыцець. Худая, як дошка. Хоць самой мне кладзіся ў карыта, каб насыціць яе!.. Цяпер бы па жменечцы мучыцы падсыпаць ёй у варыва, дык і сала завязалася б... Але дзе дастаць той мучыцы? Хлеба для сябе няма з чаго спячы.

Як бульбачку выкапала, — вядзе свой нетаропкі аповед далей Кацярына, — дык шалупінне пачала дадаваць, бацвінне і траву. Падмешваю ў варыва крыху патоўчаных у ступе жалудоў. Нінка, малайчына дзеўка, не паленавалася і ажно чатыры мяхі іх назбірала. Жывёлінка і пажвавела. Хай яшчэ час які пакачаецца ў хляве, можа, да вясны сала і набярэ.

Не забылася жонка прыгадаць і курэй. Узбілася-такі на неабходную ў кожнай сялянскай гаспадарцы птушку. Ажно чатыры чубаткі ды пеўнік маладзенькі сакочуць на падворку. І зноў жа клопат ёй, гаспадыні, — няма чаго сыпануць ім! Худыя і галодныя, як на Стрэчанне вераб'і. Цяпер хоць казюрку якую спаймаюць, яшчэ чарвяка якога лянівага выграбуць з зямлі, каменьчык праглынуць… А снег ляжа? Каб жа хоць ад бяскорміцы не прапалі!

Кацярына гаварыла не спяшаючыся, мабыць, каб Сямён адчуў і зразумеў, што яна тут не гуляла, не ляжала на печы, як сёння, а клапацілася пра сваю гаспадарку, узбівалася на яе. Як умела ды магла. З апошніх, можна сказаць, сіл старалася, каб не пуставала пунька, не зарастаў розным быльнягом агарод.

— Толькі вось не ўрадзілася сёлета мая бульбачка, — збянтэжана пaглядзела яна на мужа. — Дый на чым ёй было ўрадзіцца, скажы мне, калі гною нават кучачкі не растрэсла на агародзе, і вочкамі давялося садзіць? Чаго тут большага хацець? Ат, якое семя, такое і племя. Вось і вырасла па дзіцячай дуліне. Але ж — бульба, хоць і дробная, ды ёсць яна. Свая! Не трэба будзе вясной па людзях пабірацца. Трыццаць пяць кошыкаў у капец закапала, яшчэ дваццаць — у засек высыпала… Во, Сямён, толькі цяпер і ўспомнілася мне, ведаеш што? Бабы заўчора казалі: выйшаў загад выдаць сем'ям франтавікоў па пуду мукі. На кожнага едака!

Атрымаем, значыцца, за Петрака. А, можа, і за цябе таксама дадуць? Быў жа на фронце! Багацце якое, Божачка ты мой! Можа, і потым, надалей, будуць штосьці выдаваць, дапамагаць нечым сем'ям франтавікоў. Трэба будзе нам эканоміць, каб тое, зберажонае налета, на цялё выменяць.

Без кароўкі, сам ведаеш, і агарод запусціцца,ваўкаваць будзе, і стол бедны, і падворак голы… Самі лепш не даядзім, тужэй паясы зацягнем, а цялёначка якнебудзь ды выкачаем… Нам жа, Сямён, не прывыкаць?

Пад вышчарбленай накрыўкай белай пенаю шумна плёскалася ў чыгунку з бульбай вада, усё яшчэ сіпелі ў камінку сыраватыя паленцы. Яны раз пораз адкідвалі мітуслівa палахлівыя водбліскі лянівага агню на цёмныя шыбіны акна, плямі-

стыя сцены, што ад падлогі да самай столі і на ўсю шырыню хаты часта пярэсцілі квадратнымі плямамі: як прыйшлі немцы і ўсталявалі тут сваю ўладу, патлумачыла Кацярына, Карабанька прайшоўся па дварах і загадаў паздзіраць са сцен усе газеты з партрэтам Сталіна. Паколькі правадырова фота друкавалася ці не ў кожным нумары ўсіх без выключэння даваенных газет, то й сцены цяпер былі нечым падобны да вялікай шахматнай дошкі.

Жаўтлява-залацістыя блікі цяпельца, раскладзенага пад трыногаю з чыгунком, няўрымсліва скакалі і па строгім ліку іконы, якая самотна вісела на покуці, між акном і дзвярыма ў другую палову хаты. Сямёну ў нейкі момант падалося, што ўсхапіўся полымем і сам абраз. Гарыць сухім агнём, пылае без дыму! Ён быў ужо гатовы паверыць свайму ўяўленню і наважыўся кінуцца ратаваць хату. Аднак, прыгледзеўшыся, заўважыў, што на вочы Багародзіцы нібыта нагарнуліся слёзы. Сямёну чамусьці падумалася, што гэта сама Маці Божая аплаквае яго з Кацярынай гора-бяду.

Няспешна цякла ў прыціхлай і пацяплелай хаце гутарка дваіх блізкіх людзей. Доўгая ростань і балючая бяда зрадніла іх яшчэ больш. Думкі, жаданні Кацярыны і Сямёна, увасобленыя ў словы, сягалі то ў блізкую іхнюю будучыню, то вярталіся ў пражыты і перажыты імі даваенны час, сплывалі няўсцешнымі слязамі, як толькі размова зноў заходзіла пра акупацыю, сынаву смерць, Сямёнавы раненні... Ім было што сёння ўспомніць — і радаснае, і не вельмі добрае — са сваёй мінуўшчыны. Яны абнадзейвалі сябе, можа, неабдумана паспешліва, жыццём пасля вайны — той яшчэ кволай і няпэўнай будучыняй, якая заўсёды мроіцца прыгожа, зманліва, шматабяцальна. І, мабыць, зусім анічога не засталося таго, што імі не было ў гэты вечар і не будзе ў гэту ноч не ўспомнена, не абгаворана-перагаворана, не аплакана светлымі слязьмі ціхай радасці і горкімі слязамі чорнай бяды.

Усе словы будуць імі сказаны ў гэты вечар і ў гэту ноч. І слёз ужо не застанецца ў іхніх вачах, і слоў ужо не будзе ставаць ім…

А пакуль цякла размова, перакідваючыся з дня сённяшняга ў дні пражытыя і тыя, якія чакаюць іх паперадзе. Стомлена перасіпелі ўжо, выгнаўшы з сябе падсінена-ружаватаю пенай ваду, і ярчэй разгарэліся ў камінку паленцы.

Варылася бульба… Шапталі вусны словы…

— Вой, Сенечка, — раптам спахапілася Кацярына. — Зусім гора памарокі мае адбіла… Гэта ж забылася ў цябе адразу, як прыйшоў у двор, запытацца: ты назаўсёды вярнуўся? Цябе назусім адпусцілі? Праўда? Болей табе не трэба ісці на фронт?

Сямён чакаў гэтага няпростага пытання, чакаў, праўда, не толькі ад Кацярыны адной. А таму і адказаў на яго загадзя падрыхтаванымі, завучанымі словамі; прамовіў па-ваеннаму коратка і ясна:

— Толькі на адну ноч камандаванне дазволіла мне адлучыцца.

А затым, быццам адчуўшы ў тым нейкую сваю асабістую віну, наўмысна суровым голасам дадаў: — Вайна не скончана, Кацярына! А я — салдат… Разумееш?

Кацярына, што было бачна па ёй, не чакала ад мужа такога бязлітаснага, як стрэл у самае сэрца, безнадзейна жорсткага адказу. Жанчына паспела ўжо выпеставаць спадзеў, што яны ўдваіх будуць аднаўляць сваё жыццё, разам з пустога ўзбівацца на ўласную гаспадарку. Удвух, канечне ж, не аднаму петавацца. Дый рукі не абыякія — мужчынскія — у яе двары з'явіліся. І тут пачула такое, што агаломшыла яе, аглушыла, як усё роўна нечаканая навіна пра раптоўную смерць блізкага чалавека.

Кароценькае Кацярынніна шчасцейка лопнула, нібыта пенная бурбалка ў тым самым чыгунку з бульбай, што зараз ужарвалася на цяпельцы ў камінку. А праз хвілінку і знаку ўжо ад надзеі, народжанай сённяшнім вечарам, ні на твары яе, ні ў душы аніякага не засталося.

Затое з’явіўся новы клопат, і вострым болем закіпала на сэрцы старая трывога.

— Не паспеў, як кажуць, аблізнуцца, у дарогу трэба збірацца… А я… Я падумала, паспадзявалася… — разгублена прамовіла Кацярына і хуценька кінулася да чыгунка, каб паспрабаваць бульбу: ці зварылася нарэшце яна. — Маглі б цябе ўжо і назаўсёды адпусціць! З першага дня вайны — усё ў акопах, пад кулямі, снарадамі, бомбамі… Вунь колькі разоў, кажаш, параніла. Дый не маладзён, каб ваяваць. У лютым паўвека споўніцца.

— Вайна, Каця! Значыць, трэба ваяваць. І дваццацігадовым, і такім, як я, — Сямён украдні, вінавата і спачувальна, пaглядзеў на жонку. — А на мой узрост скідкі пакуль няма. Ваеннаабавязаны, словам. І нічога тут не паробіш. Саломінай касу не перарэжаш…

— Чуеш, у Яўтуха калгасны конь застаўся. Масей, калі помніш. Папрашу, каб даў яго заўтра цябе да брукаванкі падвезці.

— Клопат, Каця! Дабяруся неяк і сам. Сюды, бачаш, прыбег жа. — Сямён падбадзёрыў сябе, а найперш жонку: — Нават і не замарыўся.

— З дому дарога заўсёды цяжэйшая і даўжэйшая. А ты, пагляджу, як быў упірыстым, так і застаўся ім.

— Ну, як сабе хочаш, Каця. Можа, і праўда твая: лепш будзе, калі ты падвязеш мяне. Хоць разам даўжэй пабудзем.

Нарэшце згатавалася бульба. Кацярына паставіла на стол місу жоўтабокіх кіслых агуркоў, падала, уздыхнуўшы на поўныя грудзі, шматок шараватага здору, густа абсыпанага буйнымі крышталікамі бруднаватай солі. Стала пасярод хаты, паміж сталом і печчу, і сарамліва развяла рукамі: вось і ўся вячэра. Даруй, гаспадар!

У Шаройкавым рэчмяшку меўся сякі-такі харчовы прыпас: з кілаграм сухароў, дзве, абмазаныя тавотам і загорнутыя ў старую анучу, бляшанкі тушонкі, галоўка сахарыну, — усё гэта багацце ён выменяў альбо зэканоміў са сваёй пайкі, знаходзячыся ў шпіталі, калі ў яго сэрцы, хоць і досыць туманна, але пачынаў нястрымана тлець-разгарацца кволенькі спадзеў на цалкам магчымую і такую чаканую пабыўку. Хай сабе і незаконную. Але яна была патрэбна яму! Тады Сямён, пакрысе адыходзячы ад ранення і прызвычайваючыся да шпітальнага спакою, з кожным днём спакваля пераконваў сябе ў тым, што калі ён, вяртаючыся на фронт, праміне свой дом, то ў самым жа першым баі немінуча складзе галаву. Гэта прымхлівая думка свідравала яго свядомасць дзень за днём і ноч за ноччу. І нічога з сабой парабіць ён не мог: нядобрае прадчуванне, убіўшыся аднойчы ў Сямёнаву душу, ужо не пакідала яе. І ён сам не мог ужо, не меў такіх сіл, каб пазбавіцца ад прыдуманага для сябе наканавання, напраўду верыў, што так яно і будзе на самай справе.

Цяпер, седзячы за сталом ва ўласнай хаце, Шаройка наўмысна не разбэрсаў свой рэчмяшок, бо ведаў, што Кацярына ўпрошваннямі, а то і плачам, прымусіць яго самога з’есці, адпалавініць з такой цяжкасцю прыпасенае, назбіранае ім. А Сямёну вельмі хацелася харч той зберажоны пакінуць дома. Аддаць дзецям, Кацярыне. Тым больш, што тут, у яго роднай хаце, як паспеў заўважыць, усюды свяцілася галота. Яна выпаўзала адусюль, нахабна выпіралася з усіх дзірак і закуткоў.

Прыпасены харч ён дастане з рэчмяшка і пакладзе на стол заўтра, акурат перад тым, як пакіне сваю хату — перад самым развітаннем. А сёння, сёння радавы Шаройка па горла будзе сыты і дробненькай бульбачкай з перакіслым ужо агуркам ды прагорклым ад доўгага ляжання ў сховах-пераховах скрылёчкам шаравата-зямлянога здору. Пасля гаротных расповедаў жонкі Сямёну і напраўду есці зусім не хацелася, хоць і быў галодны. Як заняло...

…І толькі далёка за поўнач патухлі, дагарэўшы, заплюснулі свае чырвоныя вочкі, вугольчыкі ў камінку Шаройкавай хаты.

Сямён ляжаў на засцеленым дранымі лахманамі палку побач з прыціхлай Кацярынай і не мог сцепліцца на сон. Нягледзячы на стомленасць і цяжкія перажыванні, ён не ў сілах быў задрамаць: можа, яшчэ і таму не спалася яму, што зараз няспешна пераасэнсоўвалася ў думках яго ўсё пачутае ад жонкі. І цяпер з яшчэ большым жалем перажывалася ўся гэта невыносная бяда, якая, няпрошаная, так нахабна прыперлася ў яго сям'ю, прыйшла ў яго маленькую хату.

Папраўдзе кажучы, ён да гэтага самага вечара меркаваў, нават — верыў, што тут, на акупіраванай тэрыторыі, людзям хоць крышачку, ды лягчэй было, чым яму, усім салдатам, на фронце. У сваёй душы Сямён насіў балючы цяжар пакуты, складзенай пласт за пластам, як стажок сена, з пабачаных страшэнных смерцяў сяброў-аднапалчан, гібелі таварышаў, знаёмых. Але і рапнёўцам, як аказалася, жылося не лягчэй. Ягоныя франтавыя боль і пакуты падаліся цяпер мізэрнымі ў параўнанні з тым, што давялося перажыць тут, у роднай хаце, прыгнечаным пастаянным чаканнем бяды, якая, быццам гразь, заляпіла ўсё, Кацярыне, Мішку, Петраку, Нінцы… Бадай, усім яго аднавяскоўцам.

І зразумела стала Шаройку, як хто вочы адкрыў яму: там, на фронце, ён адказваў толькі за сябе, клапаціўся, каб выжыць толькі самому… Аднаму. Кацярына ж калацілася, перажывала не столькі за сябе, колькі за дзяцей сваіх. Трымцела душа яе і за Сямёна, які хадзіў пад кулямі ці ўжо загінуў альбо бядуе ў палоне. Яна мусіла кожны дзень жыццё сваё і дзяцей пралічваць наперад, думаць-гадаць, як засцерагчы іх, сёння, заўтра і невядома колькі надалей, ад кулі — прама нацэленай ці выпадковай, як уберагчы сыноў і дачку ад згону на работу ў Нямеччыну… Дачасна сівілі галаву яе няпростыя думы: як ёй, слабой жанчыне, адагнаць ад сям'і сваёй бяду і падазронасць. Дый пастаянныя турботы пра хлеб надзённы таксама былі яе немалым клопатам, што адбіраў апошнія сілы, ненажэрна з'ядаў здароўе.

Сямёнаў вораг быў насупраць яго, і ён заўсёды добра ведаў, дзе той знаходзіцца, з якога боку чакаць яму бяду. Кацярына ж увесь гэты час жыла ў акружэнні. І днём, і ноччу. Кожны дзень яна пэўна не ведала, толькі, можа, здагадвалася, дзе яе ворагаў перадавая, дзе іхнія тылы і флангі. Жыла яна, як той гарох пры дарозе: хто ідзе — той і скубе.

Яе ворагі былі наўкол і паўсюдна. Спераду, за спінай, з усіх чатырох бакоў… Вось і мусіла баба, сціснуўшы зубы, трымаць пастаянную кругавую абарону. І трымала яе адна — супраць незлічоных штохвілінных пагроз, бед, распраў, трывог, няведання, голаду і холаду…

І яна, Кацярына, слабая, непісьменная, затурканая, прыгнечаная жыццём, усё ж такі выстаяла ў сваёй такой нялёгкай вайне. Толькі, мабыць, уратаваць сына было вышэй за яе магчымасці. Так нешчасліва ў той страшэнны дзень склаліся абставіны.

На вайне чырвонаармеец Шаройка на свае вочы пабачыў і перажыў тысячы смерцяў. Дый сама смерць, што тут казаць, як толькі Сямён апынуўся на фронце, неадступна, выпільноўваючы кожны зручны момант, хадзіла за ім след у след, горача і страшна дыхала ў спіну і твар, заўсёды знаходзілася побач — нават сплючы, яму адчувалася яе халодная прысутнасць.

Спачатку ён занадта асцерагаўся кашчавай, рабіў, як падавалася яму, усё магчымае, каб абхітрыць яе. А потым прывык і перастаў звяртаць увагу на ўсялякія перасцярогі. Шаройку здавалася, што ён здолеў звыкнуцца са смерцю, змог-такі прызвычаіцца да страт.

Агрубела на вайне, збіўшыся ў камень, такое мяккае і далікатнае раней Сямёнава сэрца. Але ранняя смерць малодшага сына Мішкі, жончыны слёзы і яе балесныя перажыванні, гібель аднавяскоўцаў, з якімі калісьці касіў і араў, яшчэ не так даўно

разам звозіў з поля жытнёвыя снапы і малаціў іх у калгасным гумне, піў-гуляў на вяселлях і хрысцінах, браў горкую чарку на хаўтурах, — усё гэта, як вострым плугам зляжалы дзірван, успарола і акамянеласць яго сэрца. Яно ажыло, неўтаймоўна забілася-затрапятала, заціснутае ў грудзях, адгукнулася суперажываннем.

У нейкае таемнае імгненне нараджэння раніцы новага дня, калі сяйво змроку за вокнамі і ў хаце толькі ледзь-ледзь пачынала радзець, Сямён адчуў незвычайны прыліў сілы і нейкую светлую лёгкасць на душы. Разам з новым днём, нібыта і сам ён нараджаўся, толькі што нанова. Столькі ў яго сэрцы сабралася ў гэта імгненне надзеі, прагі да жыцця, планаў і клопатаў на будучыню… Тую будучыню, якая чамусьці праўдападобна ўяўлялася цяпер Шаройку значна лепшай за пражытае мінулае.

Раптам Сямёну падалося, што ва ўсё яшчэ цёмным куце хаты, куды не дабралася пакуль сівое ранішняе святло, хтосьці ў белым адзенні стаіць пад іконай Багародзіцы. І той нехта, такі знаёмы, такі блізкі, ды вось жа не распазнаць Шаройку, хто гэта, зусім не сваім голасам, а нейкім унутраным поклічам, нібыта ўраз загіпнатызаваўшы Сямёна, уладна кліча яго да сябе. Ці то бацька яго стаіць пад іконай Божай Маці, ці то сын Мішка, ці амаль ужо забыты дзед Марка, у якога даўным-даўно, яшчэ за панскім часам, быў за падпаска. І не адгадаць Сямёну, хто кліча яго да сябе, не распазнаць твару ў паўзмроку. Як ні стараўся ён, як ні прымружваў вочы, вострачы свой зрок.

Шаройка, можа, зусім падсвядома адгукнуўся на той безгалосы покліч, надзіва лёгка прыўзняўся на локаць, выцяг галаву ў той бок — да іконы Багародзіцы… І раптам ён імкліва абрынуўся ў нейкую дужа чорную, цесную па баках, бяздонную яміну, а потым, як птушка, імгненна падняўшыся ўверх, павольна паляцеў насустрач зіхатліваму, светла-серабрыстаму воблаку. Яно было такое незвычайнае, аніразу яшчэ не бачанае ім за ўсё сваё жыццё.

Адно, што паспеў толькі ціха вымавіць Сямён Шаройка, было кароценькае, ледзь чутнае: «Даруйце…»

…Шаройку пахавалі праз дзень на вясковых могілках. Ціха паклаўся ён у зямліцу побач з Мішкавай дамавінай, і ў цёмным сасонніку на ўзгорку засвятлеўся жоўтым пясочкам яшчэ адзін курганок з цясаным дубовым крыжам.

* * *

Недзе праз тыдзень у сцюдзёны і шэра-дажджлівы апоўдзень перад Кацярынінай хатай, асіроцелай за пакуль нясконачаную вайну яшчэ раз, спынілася ўся абляпаная гразюкаю ваенная «палутарка». У кабінцы машыны побач з немаладым і дужа стомленым на выгляд шафёрам сядзеў мардаты апоўзлік у званні лейтэнанта. А ў адкрытым кузаве яе, уціснуўшы ад раскіслай халадэчы пасінелыя твары ў каўняры намоклых шынялёў і шчыльна прытуліўшыся адзін да аднаго, размясцілася сямёра байцоў.

Кацярына выгледзела іх праз акно і спачатку падумала, што гэта Пятрок завітаў дахаты, даведаўшыся пра бацькаву смерць. Яна загаласіла на ўсю моц і, зачапіўшыся ў сенцах за скамечаную анучу, у якой толькі што прынесла гарачы чыгунок з прыгатаваным для свінкі варывам, няўклюдна вывалілася на двор.

— Гэта сядзіба Сямёна Шаройкі? — няспешна, акуратна распраўляючы пад бліскучай скуранай дзягай змятыя складкі новага шыняля, запытаў у яе афіцэр.

— Я… Жонка… Яго… — заікаючыся, адказала Кацярына і нясмела адступіла да шчарбатага ганка.

— Стаяць! — па-ваеннаму зычна загадаў жанчыне афіцэр і чамусьці хуценька расшпіліў прыточаную да папругі кабуру. — Гэта твая хата?

Зусім не цямячы, што хоча выпытацца ў яе гэты строгі камандзір, Кацярына кіўнула пасівелай галавой:

— Наша хата! Мая…

Афіцэр махнуў рукой, і чырвонаармейцы з вінтоўкамі за плячыма, як гарох, ссыпаліся на раскіслую зямлю, хуценька і спрытна пастроіліся ў шарэнгу побач з «палутаркай».

— Радавы Шаройка зараз знаходзіцца ў хаце? — блізенька падступіў да збянтэжанай Кацярыны афіцэр.

— Няма яго… З Нінкай… Дачкою… Удзвюх толькі і засталіся…

— Дзе хаваецца дэзерцір Шаройка? — камандзір, трымаючы Кацярыну за рукаво вынашанай світкі, намёртва ўчапіўся ў яе злым позіркам. — У хаце ён? У лесе? Пакажы схованку!

— Які дэзерцір? Мой Сямён не дэзерцір! — рашуча запярэчыла жанчына і, гледзячы ў калючыя вочы нядобрага вайскоўца, вытрымала яго пранізваючы позірк.

Хвалюючыся, блытаючыся ў словах і думках, яна паспешліва пачала тлумачыць усім няпрошаным гасцям, а найперш гэтаму недамерку:

— Сямён пад вечар, на дварэ зусім цёмна ўжо было, прыйшоў дахаты. Сказаў, што дома толькі пераначуе. А ранічкай я збіралася яго адвезці да брукаванкі на кані. Да перакрыжавання хацела падвезці. Яму ў Каменку патрэбна было ісці. Чуеце, Сямёнка казаў мне, што яму дазволена было адлучыцца дадому. Шпітальнае начальства адпусціла на адну ноч… Як было не даць яму гэту пабыўку, скажы мне, мілы ты мой чалавек, калі яго меншанькі сынок на міне падарваўся, а большы з немцам ад пачатку вайны б'ецца?

— Дзе хаваецца твой муж? — чамусьці ўжо крыху памякчэлым і як бы крыху лагодным голасам дапытваўся ў Кацярыны афіцэр. Адной рукою ён лёгенька, але дастаткова настойліва, штурхаў яе ў плечы да ганка: — Ідзі, жанчына, у хату і скажы мужу, каб не дурыў. Няхай выходзіць. І каб без глупстваў мне... Зразумела?

— Адтуль, дзе цяпер Сямёнка мой, яшчэ аніводзін чалавек не змог вярнуцца, — сказала Кацярына і апусцілася на мокры ад дажджу ганак.

Як пахавала Сямёна, ногі зусім перасталі трымаць, слухацца яе, сталі нібыта ватныя. Зробіць дзясятак кароценькіх крокаў, і адмаўляюць яны, не чуе ног сваіх. Па хаце, і то, абапіраючыся на кіёк, тупае з цяжкасцю. Абязножыла зусім. А тут, згледзеўшы перад хатай машыну, выскачыла на двор без свайго драўлянага коніка. Няма падпоркі — не трымаюць і ногі.

— Што ты гародзіш? — прастрэліў лейтэнант жанчыну строгімі вачыма. — Хочаш пад суд пайсці разам з мужыком сваім? Дык гэта за мной не заіржавее. Мужык твой, як ваеннаабавязаны, — пад трыбунал, а ты, жонка яго, — пад суд. За ўкрывальніцтва дэзерціра.

Да Шаройкавай хаты па аднаму і купкамі пачалі падцягвацца цікаўныя рапнёўцы. Навучаныя вайной, непрадказальным і занадта пераменлівым жыццём, яны адразу ж не кінуліся на злом галавы ў роспыты, а паспрабавалі кожны па-свойму самастойна ўведаць, хутчэй — здагадацца па пачутых словах, настрою, позірках, дзеяннях… па ўсім тым, што зараз відавочна і разам з тым досыць непрыкметна адбываецца на іхніх вачах, якая пільная прычына прыгнала сюды ў гэткую непагадзь вайскоўцаў.

Найперш дужа збіваў іх з тропу той факт, што ваенныя спыніліся менавіта каля Кацярынінай сядзібы. Сямёна ж пахавалі, моўчкі разважаў кожны з рапнёўцаў,

тыдзень таму. Успомнілі, што паслязаўтра Кацярына будзе спраўляць па нябожчыку дзевяціны. Мёртвы баец нікому не страшны і нікому не патрэбен, бо з яго ўжо — аніякага толку. І сам ён нічым анікому не абавязаны. Як і перад ім таксама ніхто і нічым не абавязаны. А, можа, з Петраком, крый Божа, што здарылася? На фронце хлопец! Вось жа як нахабна бяда ўвалілася ў Кацярынін дом… І праўду людзі кажуць, што гора адно не ходзіць, а за сабою яшчэ з дзясятак водзіць. Вось і вер-не вер ты пасля гэтага старым.

Першым маўкліва датумкаўся да сапраўднай мэты прыезду сюды вайскоўцаў знявечаны ў партызанах Мікіта Сігаеў. Жадаючы як найхутчэй спраўдзіць тое, што надумалася, ён па праве былога камандзіра падрыўной групы і цяперашняга брыгадзіра калгаса, які пачаў узнаўляцца, па-ваеннаму звярнуўся да старэйшага па званні — лейтэнанта. Запытаўся, як некалі вучылі яго ў войску:

— Таварыш камандзір, далажыце мэту свайго наведання Рапнёўкі.

Афіцэр ад нечаканага тут да сябе пытання спачатку нават разгубіўся, зніякавеў, але даволі хутка ўзяў сябе ў рукі:

— А ты хто такі, каб перашкаджаць мне выконваць баявое заданне?

Аднак, цёрты жыццём, Мікіта аказаўся не кыш-варонай.

— Я не перашкаджаю, таварыш лейтэнант. Такі парадак. Я тут, у Рапнёцы нашай, жыву, бараніў ад фрыца зямлю гэту. У партызанах страціў сваю руку, — мабыць, выключна для пераканання ваенных Сігаеў энергічна паматляў пустым рукавом замурзанай целагрэйкі. — Цяпер прызначаны брыгадзірам тутэйшага калгаса.

— А я, таварыш партызан-брыгадзір, — па-дурному ўсміхнуўся вайсковец, — калі табе гэтак цікава, лаўлю дэзерціра Шаройку! Накіраваны сюды, каб арыштаваць яго!

— Каго-каго? — Мікіта незадаволена азірнуўся на ўважліва прыціхлы, сцяты гурт аднавяскоўцаў, шукаючы вачыма падтрымкі. Але тыя паспешліва адводзілі позіркі, спрытна хавалі свае вочы ў зямлю. Яно і зразумела, гэтае насланнё не да іх прыляцела. Тут лепей памаўчаць, прыкусіць языкі, каб потым не аблівацца горкімі слязамі. «Ясна, падтрымкі не будзе», — у думках адзначыў Мікіта і спачувальна паглядзеў на Кацярыну. Затым ён упёрся вачыма ў лейтэнанта:

— Сямёна? Дык яго, таварыш лейтэнант, пахавалі. Няхай пухам будзе яму зямелька! Тыдзень таму. Пахавалі на нашых могілках… Так што, памёр чырвонаармеец Сямён Шаройка... І, паслухай, камандзір, што табе скажу: Сямёна на ноч адпусцілі дадому, калі ён вяртаўся са шпіталя на перадавую. Дарога на Каменку побач з хатай яго, лічы, праходзіць. Як тут не адпусціць? І ты адпусціў бы салдата, і я, ведаеш, не запярэчыў бы…

Мікіта Сігаеў нетаропка развярнуўся да Кацярыны. Яна як апусцілася, так усё яшчэ і сядзела, згорбіўшыся, на ганку.

— Кацярына! Каця, а пакажы-тка таварышу афіцэру Сямёнавы дакументы. У іх усё запісана: і што паранены ён быў тройчы, і што лячыўся ў лазарэце, а па выздараўленні — кіраваўся ў свой батальён. Наш Сямён, таварыш лейтэнант, ніякі не дэзерцір! Дэзерцір з фронту, ад вайны ўцякае, ваяваць не хоча. А наш Сямён мужна змагаўся, на фронт ішоў. Медаль «За адвагу» проста так не даецца. Праўду кажу? А Шаройка ім узнагароджаны. Вось так! Наблыталі, брат, у тваім штабе, не разабраліся, як след, і, атрымліваецца, што паспяшаліся! Нясі, Каця, дакументы.

Кацярына, вохкаючы, насілу паднялася з ганка, моўчкі і як не на сваіх нагах цяжка пасунулася ў хату. Следам, па лейтэнантавым загадзе, аддадзеным кіўком галавы, кінуліся і два байцы. Яны на ўсялякі выпадак, відаць, дзеля падстрахоўкі, узялі ў рукі вінтоўкі і зніклі ў цёмным чэраве сенцаў.

Мікіта Сігаёў ні на крок не адыходзіў ад афіцэра. Спрабуючы расчуліць яго ці хоць бы пабудзіць у сэрцы лейтэнанта вядомае, бадай, кожнаму чалавеку пачуццё спачування чужой бядзе, ён пачаў распытвацца пра становішча на фронце, пра асабісты ўдзел у баях, ці быў той паранены. Толькі камандзір чамусьці сурова маўчаў, робячы выгляд, што яго галава моцна занята сваімі важнымі думкамі і яму не да сантыментаў.

«Асабіст, ліха яго матары, — падумаў пра сябе Мікіта. — І прынесла ж яго нялёгкая! Цяпер не адчэпяцца ад Кацярыны».

Але, разважаў Сігаёў, якое ж гэта злачынства, калі Сямён дамоў паміраць прыйшоў? Ніякае гэта не дэзерцірства — нават калі і не было ў яго дазволу на гэту адлучку.

Мікіту прыгадалася, што і сам ён, калі партызаніў, каб адведаць сваіх, не адзін раз вунь якія крукі рабіў. Здаралася, на некалькі дзён, не пытаючыся аніякага дазволу, адлучаўся з атрада. І ўсе яго разумелі, не папракалі, не лічылі дэзерцірам. Сямён жа, вёў Сігаёў сваю думку далей, мабыць, адчуў, што прыйшла яго смяротная часіна. І грэх было яму не скарыстацца такой нечаканай нагодаю, якая давала салдату магчымасць сканаць не ў сырым і вузкім акопчыку, паспешліва выкапаным уласнымі рукамі, ці на чужым полі, а ціха памерці, і не з дзіркаю ў целе, пад абразамі ў сваёй жа хаце; і быць пахаваным не ў адным з радоў цеснай брацкай магілы, а легчы пад свой курганок і побач са сваімі ж, крэўнымі дзядамі. Ці гэта не ёсць адна з праяў такога ненадзейна пераменлівага на вайне салдацкага шчасця?

Праз некалькі цягучых хвілін адзін з байцоў, заціснуўшы ў дужым кулаку жмут нейкіх паперчын, похапкам выбег з хаты, падаў здабытыя дакументы афіцэру. Той, уважліва перагледзеўшы іх, чамусьці загадкава заўхмыляўся і звярнуўся да Мікіты Сігаёва:

— А ты не ўсю праўду сказаў мне, партызан. Пастараўся самую сутнасць прыхаваць. Можа, дэзерцір Шаройка табе яшчэ і сваяком даводзіцца, калі гэтак пнешся выгарадзіць яго?

— Не сваяк, — гледзячы ў жорсткія, куслівыя вочы асабіста, упэўнена адказаў на выклік Мікіта. Ён ужо не сумняваўся ў тым, што за птушка гэты лейтэнант. — Але дзядзьку Сямёна ведаю з дзяцінства і нікому не дазволю здзекавацца з яго памяці.

— Партызан, цішэй на паваротах! І не такім рогі прыходзілася збіваць! — гучна, каб пачулі ўсе, пракрычаў лейтэнант. — Радавы Шаройка не меў права адлучацца дадому. Ён павінен быў з'явіцца ў Каменку, у сваю роту, да 21 гадзіны. Пра адлучку дахаты, як ты кажаш, у яго спадарожным лісце — ані слова. Значыць, партызан, робім адсюль адзіна правільны вынік: чырвонаармеец Шаройка парушыў святая святых — Статут. Парушыў воінскую дысцыпліну — дэзерціраваў. Усе астатнія акалічнасці гэтай справы мяне абсалютна не цікавяць і ніякім бокам не чапляюць.

— Дык Сямён памёр, — не здаваўся крыху збянтэжаны напорыстасцю асабіста Мікіта. — Няма яго. І не будзе ўжо ніколі!

— Памёр, кажаш? У хаце сваёй, на печы памёр? А ён павінен быў героем загінуць, некалькі фашыстаў разам з сабой на той свет забраць. Ці вядома табе, партызан, што раніцою рота старшага лейтэнанта Кузьменкі штурмавала вышыню? У баявым ланцугу наступаючых павінен быў знаходзіцца і радавы Шаройка. А ён у той час да цёпленькага жончынага пляча прытуляўся… Замест таго, каб ісці ў атаку, біць фашыстаў! Святую Радзіму бараніць! Што гэта такое, калі не дэзерцірства? Маўчыш! Адказвай, партызан?

— Як дзядзька Сямён мог пайсці ў атаку, калі ён быў ужо мёртвы? Не разумею…

— Вось у гэтым, партызан, і ўся загвоздка. Твой Шаройка абавязаны быў загінуць на полі бою, загінуць, як і належыць сапраўднаму чырвонаармейцу, са зброяй у руках і з крыкам «За Сталіна!» на вуснах. А ён дахаты пацёгся… Каб дома памерці! Здрадзіў усім тым, з кім абавязаны быў загінуць у баі і хто ўзяў вышыню без яго. Таму і аказаўся дэзерцірам. А цяпер, партызан, вядзі на вашыя могілкі.

Простыя і ў большасці сваёй бясхітрасныя, душэўныя людзі, рапнёўцы, а разам з імі Мікіта Сігаёў, Кацярына, не сумняваліся ў існаванні спагадлівасці і чуласці. Яны палічылі, што недаверлівы афіцэр проста на свае вочы хоча пераканацца ў сапраўднасці Сямёнавай смерці: жадае пабачыць яго свежую магілку.

Салдаты і вяскоўцы адным бязладна збітым, маўклівым натоўпам ішлі па вузкай сцяжыне, наездджанай калёсамі праз удзірванелае поле, да грывы старога сасонніку, на ўскраіне якога і знаходзілася рапнёўскае кладзішча. За імі, быццам падганяючы, прыспешваючы людскі сіг, злосна гырчэла «палутарка» з лейтэнантам на падножцы. Па меры набліжэння да цёмнага сасонніку, у разгалістых шатах якога трывожна скуголіў настылы вецер, чалавечы гурт павялічваўся. Пагатоў, усім рапнёўцам як найхутчэй карцела даведацца, чым урэшце закончыцца ўся гэта загадкавая гісторыя з іхнім памерлым аднавяскоўцам.

Наконт нечаканых, як з неба зваліўся, Сямёнавых адведзінаў сям'і і ягонай такой незразумелай, раптоўнай смерці было ўжо выказана, што, бадай, і заўсёды здараецца ў такіх таямнічых выпадках, шмат супярэчлівых, а часам і зусім непраўдападобных, меркаванняў. І вось нарэшце ўсё павінна высветліцца — калі не да канца, то хоць бы збольшага.

Толькі якім чынам будзе адшукана і ўстаноўлена чаканая праўда? Можа, камандзір прывёз з сабою нейкі дакумент? Тады чаму не паказаў яго, не пазнаёміў з ім там, у вёсцы?

Губляліся рапнёўцы ў здагадках і наконт таго, навошта ўсім вайскоўцам спатрэбілася ісці на могілкі?

— Вось пад гэтым грудам зямлі, — указаў Мікіта на свежую магілу сваім палінялым картузом з наўскоса пераламаным казырком, — і ляжыць наш Сямён. Побач — Мішкава, сына яго, магіла. На міне хлопец падарваўся: немцы дарогу прымусілі баранаваць… Вось…

— Ты ўпэўнены, партызан, — насцярожана запытаў у яго афіцэр, — што менавіта тут пахаваны дэзерцір Шаройка?

— Тут пахаваны чырвонаармеец Сямён Шаройка, — голасам, поўным журбы і абурэння, адказаў Сігаёў. — Вось табе крыж, калі не верыш! Я асабіста прысутнічаў на яго пахаванні. Дый людзі нашы ўсе, як адзін, табе гэта пацвердзяць. Праўда, мужыкі, бабы? Скажыце вы яму! Не маўчыце!

Цяпер рапнёўцы ахвотнаківалі галовамі: Сямён там ляжыць. Сямён, хто ж яшчэ? Самі нядаўна праводзілі яго ў апошні шлях, паплакалі над ім, шкадуючы асірацелую сямейку. Хлопец Вайтовічыхі, двое Ланюгаў — бацька і сын — ды стары Яўтух магілу капалі, дамавіну з памерлым Шаройкам у яе апускалі, а потым і сырым пясочкам засыпалі. Сямён там ляжыць. Наш Сямён…

Кацярына з прадчуваннем нейкай не зусім пакуль што яснай трывогі, якая жорнавымі камянямі церлася-варушылася ў яе выпетраных горам і трывогамі грудзях, насцярожана і збянтэжана сачыла за кожным словам і кожным рухам вайсковага начальніка. Калі напачатку яна бачыла ў гэтым афіцэры і яго камандзе таварышаў свайго Сямёна, то цяпер дужа знелюбіла іх, асабліва — крыклівага і фанабэрыстага, як ёй падалося, камандзіра.

Абяздоленая жанчына ўсім збалелым сэрцам сваім адчула, што менавіта ад яго ў яе сям'ю змяёй падкалоднай паўзе, точыцца яшчэ адна бяда. Праўда, прычына яе

Кацярыне яшчэ не была вядомая і зразумелая. Можа, думалася ёй, там, на фронце ці ў лазарэце, Сямён нечым не дагадзіў гэтаму камандзіру, не паслухаўся яго, вось ён і хоча цяпер папомсціцца чалавеку. Нават калі той і памёр.

Лейтэнант па паводзінах Сямёнавай жонкі і вяскоўцаў яшчэ ў Рапнёўцы зразумеў і пераканаўся, што радавы Шаройка, сапраўды, памёр і быў пахаваны. Ён ужо, пачытаўшы спадарожны ліст памерлага чырвонаармейца, збіраўся вярнуцца ў штаб. Ды вось толькі раптам нечакана варухнуўся ў сярэдзіне яго з дзяцінства знаёмы калючы чарвячок злаблівай упартасці і халоднага недаверу.

Здавалася б, усё ў гэтай банальнай гісторыі ясна і зразумела: падвярнулася немаладому байцу дужа рэдкая нагода, і завярнуў ён дахаты, дзе раптам і памёр. Выбраў, мабыць, увесь свой жыццёвы рэсурс. Здараецца і такое. Па-людску, не трэба яму, следчаму асобага аддзела дывізіі, варушыць чужы боль. Няма ў тым аніякай неабходнасці.

А вось жа і не!

Навошта ў такім разе ён пёрся сюды за сотню кіламетраў? Каб паглядзець на гэтых мужыкоў і баб ды пачуць іхняе нуднае: «Сямёнка наш памёр, пахавалі мы яго»?

А чарвячок грызе і грызе свядомасць, высмоктвае да апошняе кропелькі лейтэнантаву сарамлівасць і сумленне, упарта дудзіць у вушы: «Табе даручана адказнае заданне. І ты абавязаны выканаць яго, і выканаць, як найлепш. Узорна. Каб не было да чаго прычапіцца. Зрабі так, як і заўсёды дагэтуль выконваў усе даручэнні і загады старэйшых камандзіраў».

Найлепш, дакладна ведаў афіцэр, — гэта ўзяць пад сумнеў сведчанне аднарукага партызана-брыгадзіра, не паверыць вяскоўцам і на ўласныя вочы ўпэўніцца ў тым, што ў дамавіне ляжыць менавіта радавы Шаройка.

— У кузаве, пад лаўкай — рыдлёўкі. Валачы іх сюды. Хутка! — загадаў лейтэнант аднаму са сваіх байцоў. Той адрывіста казырнуў і неахвотна пацёгся да ўскраіны могілак.

— Бягом! — прыспешваючы, крыкнуў на яго афіцэр.

— Таварыш лейтэнант, — напаўголаса, каб толькі не пачула яго слоў Кацярына, звярнуўся да афіцэра Мікіта Сігаёў. Ён, відаць, паспеў ужо здагадацца, што надумаўся рабіць на могілках гэты ўпарты асабіст. — Нялюдскую справу задумаў. Не трэба. Мы ўсе тут, як адзін, падпішамся ў тваіх паперах, што Сямён там ляжыць. Прашу цябе, не варушы касцей памерлага. Грэх гэта. У Сямёна дачка засталася, сын ваюе на фронце. Падумай, як ім жыць будзе пасля вайны? Чуеш, лейтэнант?

Мікіта ўважліва ўзіраўся, шукаючы спагады, у казённыя вочы камандзіра. Лейтэнант раздумваў, муляў ссінелымі ад халадэчы вуснамі, засяроджана абтрасаў з шыняля дажджавыя кроплі. Сігаёў ступіў да яго яшчэ бліжэй, амаль упрытык.

— Тут вунь, дзе баі былі, — сказаў ён асцярожна, ціха, — яшчэ закопваць і закопваць палеглых. І сваіх, і немцаў… А ты — раскопваеш. Не тым займаешся…

— Эксгумацыя, партызан, — у тон Мікіту шэптам працадзіў афіцэр, — не грэх, а натуральная працэдура, выкліканая суровай неабходнасцю. Іначай, як мне пераканацца?

— Дык мы, чалавек ты ці не, усёй вёскай, як адзін, пацвердзім!

Да іх падбег запыханы баец. Ён з размаху адну за адной утыркнуў перад нагамі лейтэнанта ў набрынялы дажджом грудочак жвіру тры рыдлёўкі з кароткімі чаранкамі.

— Грамадзяне вяскоўцы, — зычным голасам, як усё роўна на пляцы перад строем, звярнуўся афіцэр да рапнёўцаў, якія шчыльным колам абступілі Сямёнаў курганок, — адыдзіцеся ад магілы і не перашкаджайце правядзенню эксгумацыі.

— Чакай, лейтэнант! Не спяшайся! Будзь ты чалавекам! — горкае пачуццё сораму, жалю сціснула Мікітава горла, балюча аддалося ў грудзях. Ён адчуваў, што згубіўся сярод тых людзей, што былі ў форме, яны заціснулі яго, абкружылі. Прастуджаныя галасы іх гучалі паўсюль, а знаёмага говару сваіх людзей, рапнёўцаў, не чуваць было. «Значыцца, — падумаў Мікіта Сігаёў, — нічога ў мяне не атрымаецца. Гэты лейтэнант па касцях пойдзе…»

Мікіта заступіў сабой Сямёнаву магілу.

— Лейтэнант, напramілы Бог прашу цябе...

— Я ведаю, што паступаю правільна, у адпаведнасці з законам, — чаканячы кожнае слова, сказаў асабіст.

— У нас тут, ведаеш, — як за выратавальную саломінку ўчапіўся Мікіта ў толькі што вымаўленае лейтэнантам слова «правільна», — да вайны адзін дужа правільны быў. Піліпком звалі. Дык ён, калі немцы тут сваю ўладу ўстанавілі, дужа скрыўленым аказаўся.

— Скрыўлены — выправім. Усіх хутка выправім: і крывых, і касых, і сляпых. І… Адыдзі да сваіх… — чамусьці дужа моцна ўзлаваўся афіцэр на Мікіту. — Радавы Пятровічаў, выправадзьце гэтага… партызана з могілак.

Мурлаты баец, пераскочыўшы праз некалькі магіл, падбег да Сігаёва, учапіўся ў яго адзіную руку і сілком павалок да машыны.

Мікіта ўпіраўся, крычаў, пагражаў… Але што ён мог зрабіць, інвалід са зношаным здароўем?

Рапнёўцы збянтэжана адступіліся, стоўпіліся за суседнімі крыжамі і магіламі, сёй-той з іх спалохана прыхаваўся за камлямі соснаў. І толькі Кацярына, нарэшце зразумеўшы, што зараз пачнецца на Сямёнавай магілцы, кінулася да жоўтага курганка, упала на яго сыры жвір, закрыла сваім целам.

— Не дам! Не дам магілку раскопваць! Не дам трывожыць свайго Сямёнку!

Па загадзе лейтэнанта двое байцоў няўклюдна сцягнулі жанчыну з магілы і сілком павялі да машыны. Яна, як толькі што і Мікіта, крычала на ўсю моц свайго аслаблага голасу, вырывалася з дужых рук, але не было ўжо ў Кацярыны і той сілы, і спрыту таго, каб саўладаць з двума ўчэпістымі мужчынамі.

Яе зачынілі ў кабінцы «палутаркі» пад ахову шафёра і яшчэ аднаго байца, які тут жа пільнаваў і Мікіту Сігаёва — насцярожана і крыху спалохана трымаў яго за пусты рукаў фуфайкі.

А тым часам на могілках трое чырвонаармейцаў спорна налеглі на рыдлёўкі. Незляжалы яшчэ жвір лёгка браўся, і неўзабаве жалеза заскрыгатала па дрэве. Дамавіну дасталі з яміны, двое салдат мокрымі і бруднымі ад пяску рыдлёўкамі абыякава і няўмела звярнулі з труны вечка.

Старыя і пажылыя рапнёўцы забожкалі, завойкалі, пачалі класці на сябе паспешлівыя крыжы. Вочы жанчын заслязіліся. Некалькі маладзейшых дзецюкоў падаліся крыху наперад, да труны.

А лейтэнант гаспадарыў ужо, завіхаўся каля нябожчыка. Спачатку ён зверыў па маленькай картачцы ў кніжцы чырвонаармейца, якую забраў у Кацярыны, а затым гідліва зняў з палінялай Сямёнавай гімнасцёркі бліскучы медаль «За адвагу»,ададраў з яе і пагоны радавога. Усё гэта, загарнуўшы ў скамечаную газеціну, паклаў у свой планшэт.

— Дэзерцір Сямён Шаройка, — патлумачыў афіцэр анямелым ад пабачанага і пачутага вяскоўцам, — не заслужыў быць пахаваным у пагонах і пры ўрадавай узнагародзе.

Затым лейтэнант загадаў байцам, узмакрэлым ад дробнага дажджу і поту, а, магчыма, і ад нялюдскай сваёй работы, хутчэй закопваць труну. Сам жа, насвістваючы нейкі бадзёры марш і пераступаючы цераз свежыя і даўнія курганкі магіл, няспешна пацягнуўся да «палутаркі».

* * *

На рапнёўскім кладзішчы магілу Сцяпана Шаройкі адшукаць зусім не цяжка і цяпер. Сярод чорных і светла-шэрых мармуровых «ветразяў» і рэдкіх пачарнела-трэснутых дубовых крыжоў з павязанымі ручнікамі яна выдзяляецца нязвыклым, адмысловым помнікам — збітай з дошак пірамідкай, якую вянчае няроўна выразаная з бляхі вялікая чырвоная зорка.

На працягу больш як двух дзясяткаў гадоў пасля Перамогі за гэту самую чырвоную зорку ішло зацятае змаганне.

У першы раз шалёвачную пірамідку з зоркай зрабілі і ўсталявалі на Сямёнавай магілцы адразу пасля вайны Мікіта Сігаёў і дзед Яўтух. Але да чарговай Радаўніцы зорку хтосьці зняў і некуды знёс, бо ні побач, ні на сметніку яе, як ні шукалі, так і не знайшлі. Гэта здарэнне вельмі абурыла Сямёнавага сына Петрака. Яму пашчасціла дайсці да Берліна і жывым, хоць і скалечаным, вярнуцца дахаты. Ён адразу ж вырабіў новую зорку і начапіў яе на верх пірамідкі. Калі перад наступнай Радаўніцай знікла і яна, Пятрок зрабіў новую зорку.

Гэта незразумелая гісторыя, у пэўным сэнсе нават і таямнічая, паўтаралася з году ў год. Зацяты бязжаласным, няясным змаганнем, Пятрок аднаго разу новую зорку зубілам высек з тоўстага ліста сталі. Але праз нейкі час, як і раней, акурат перад Радаўніцай, прапала і яна. Тады Пятрок з кавалка ліста, што застаўся з мінулага года, зноўку выбіў жалезную зорку і зноў прымацаваў яе да вострага верху пірамідкі.

Тыдні праз два пасля Радаўніцы Петрака Шаройку выклікаў да сябе ў кабінет старшыня сельсавета Максім Басянкоў.

— Ніяк не магу датумкаць: ты чаго, Пятрок, прычапіўся да гэтай зоркі? — строга і разам з тым крыху вінавата запытаўся ў яго старшыня. — Каму і што хочаш даказаць? З аднаго боку, не паложана твайму бацьку пад ёй ляжаць! Зразумей, Шаройка: зорка — гэта ж дзяржаўны сімвал! І ён не над кожнай магілкай можа быць устаноўлены. З іншага боку, ці табе, Пеця, не ўсё роўна — ёсць зорка на пірамідцы ці няма яе? Калі ўжо гэтак карціць, зрабі крыж і ўстанаві яго. Слова ліхога ніхто ўпоперак не скажа. А зорку — нельга. Не паложана!

— Мне, Пракопавіч, ведаеш, не ўсё роўна, — з выклікам адказаў Сямёнаў сын. — Маім дзецям, радні ўсёй нашай — таксама. Тата мой — не дэзерцір. Ён кроў сваю праліў за Радзіму, маці казала, што медалём быў узнагароджаны.

— Ну, то глядзі, Пятро Сямёнавіч! Афіцыйна папярэджваю: зноў установіш зорку — пад суд пойдзеш. Зразумеў мяне?

— Так ужо й пад суд! — абурыўся Пятрок. — Я ж на бацькавай магілцы яе ўстанаўліваю, а ні дзе-небудзь там!

— Могілкі з’яўляюцца грамадскім месцам.

— Пракопавіч, чаму ты свае законы ўводзіш?

— Не адгадаў, Пятро бацькавіч! Законы — не мае. Я толькі выконваю ўказанні…

— Хто табе іх дае?

Старшыня сельсавета ўважлівым паглядам мітуслівых вачэй прабегся па рас-

чырванелым ад хвалявання Петраковым твары, з дакорам пахітаў сівой галавой і пракураным да жаўцізны пальцам паказаў на столь, што, нізка, быццам страшная градавая хмара, навісала над імі:

— Адтуль, зверху, паступаюць. І, гэта самае, зразумей мяне, Пеця, правільна. Няёмка, ведаеш, сцябаць цябе, партызана і франтавіка, заслужанага чалавека, тваім болем і крыўдай па тваіх жа вачах… Але бацька твой, даруй мне, дэзерцір. Ён не вярнуўся ў сваё вайсковае падраздзяленне, чым парушыў Статут і прысягу…

— Няпраўда! — з даўкім болем і адкрытай злосцю ў голасе закрычаў на старшыню Пятро. — Я даведкі наводзіў. Няма такой паперы, што бацька — дэзерцір!

— Паперы, можа, і сапраўды, як ты кажаш, няма. Усялякае здараецца ў жыцці, — стрымліваючы раздражненне, гнуў сваё кіраўнік сельсавета. — А тут — такая вайна пракацілася! Папера, можа, згубілася… Аднак ёсць, Сямёнавіч, вусная ўстаноўка. Ад мяне патрабуюць, каб зоркі на пірамідзе не было. Вось так. І чаго ты дамагаешся сваёй упартасцю незразумелай?

— Я дамагаюся справядлівасці! Сэрца ад няпраўды на кавалкі разрываецца. За бацьку крыўдна і балюча. Зразумей і ты мяне, Пракопавіч.

— А што мне рабіць? Сказалі зняць, здыму… Я, ведаеш, — зусім маленечкая сошка ў сістэме нашай улады. Выканаўца. Пасада мая патрабуе падпарадкоўвацца ўказанням, устаноўкам, загадам вышэйшага начальства. І — аніякай самадзейнасці.

Максім Басянкоў рухава пагартаў нейкія паперы, якія грудам тапоршчыліся на яго старшынёўскім стале, паглядзеў у акно.

— Раю табе, Сямёнавіч, добранька падумаць пра маё папярэджанне. З гэтым, Пеця, як з агнём, не жартуюць. І вось што яшчэ хачу табе сказаць, як сыну роднаму: справядлівасць, канечне, добрая справа. Але падумай, часам яна і гора прыносіць…

Пасля гэтай адначасова шчырай і непрыемнай размовы са старшынёй сельсавета Пятрок Шаройка незадоўга да чарговай Радаўніцы зрабіў з шалёўчын новую пірамідку і зноў прымацаваў да яе зорку — удвая большую за папярэдне зніклую. Пасля ён з’ездзіў у райваенкамат, напісаў некалькі «заказных» лістоў.

Праз паўгода, а, можа, і крыху раней, Петрака Шаройку позваю выклікалі ў ваенкамат. Ехаў у райцэнтр з трывогаю, бо моцна запалі ў галаву словы старшыні сельсавета наконт справядлівасці, дый жонка не раз папярэджвала: «Можа, і праўда, лепей крыж паставім на бацькавай магіле? Калі сябе не беражэш, дык хоць пра дзяцей падумай! Забяруць цябе, і мы тут усе прападзём, як адзін!»

Вярнуўся Пятрок з ваенкамата пад вечар — ушчэнт п’яны і з бацькавым медалём «За адвагу».

З таго часу зорку на пірамідцы ніхто не здымаў.

* * *

…Даўно ляжыць у зямлі Кацярына. Памерлі кожны ў свой час Пятрок, Нінка. Раз’ехаліся па гарадах іхнія дзеці, якія самі сталі бацькамі, дзядамі і бабулямі. Анікога не засталося ў Рапнёўцы з Шаройкавага кораня. А пірамідка з вялікай, нянроўнай жалезнаю зоркай уверсе на Сямёнавай магіле заўсёды перад днём памінання продкаў па-ранейшаму ззяе свежай чырвонай фарбаю…

*Ян РАДВАН*

# РАДЗІВІЛІЯДА,[*]

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга трэцяя*

Хто б толькі выразіў словам бязлітаснасць дзікага Марса,
Хто б да чаго прыпадобніў раз’ятранасць жорсткай Белоны?
Марсавы коні тады на ахопленых страхам маскоўцаў
Фыркалі грозна, і Шуйскі быў першы, хто ў страху сумеўся:
Кінуўшы войска сваё, ён пусціўся, як сарна, наўцёкі[1].
Месяц празрысты святло выпускае спаміж вершалінаў,
Золатам конскае грывы гуляючы ў прыцемнай пушчы.
Ноч зацямняе, аднак, наваколле цяністай завесай:
Саван яна распасцёрла ахопленым страхам маскоўцам.
Тысячны раз прыгажуня-Селена ў лівійскія хвалі
Зноў апускаецца, прагнучы ўбачыць далёкія ўскрайкі;
Толькі ізноў надарма набывае карычневы колер,
Хочучы бегчы насустрач прывабнаму досвітку-брату,
Каб спачуваць разам з ім невымоўнаму гору людскому.
Німфы журботна бягуць, паўзвярыныя Паны імкнуцца,
Кроячы цемру лясную (глядзі, той, хто сэрцам відушчы!),
Потым далей пранікаюць пад покрывы шатаў зялёных.
Рэшткі маскоўскіх атрадаў, што хутка ад смерці марнелі,
Здацца жадалі ў палон, калі б лёс ім дазволіў такое.
Войска ліцвінаў цяпер перасled несупынна чыніла,
Групкі разрозненых ворагаў ціснула зброяй жалезнай.
З войскам адборным сваім Радзівіл, ваявода вялікі,
Чыніць на полі жніво, хоць пры вельмі слабым асвятленні[2]:
Быццам бы жнец на раллі каласы, так сцінае жалезам
Целы хлапцоў-маскавітаў, прасекаю шлях сабе торыць.
Нават сама Лібітына[3] ледзь-ледзь іх усіх паспявае
Смерцю ліхой фарбаваць; перавозчык[4] не можа даць рады
Цені да берага Стыкса праз цемрадзь вады пераправіць.

---

[*] *Працяг. Кніга другая і пачатак Кнігі трэцяй у № 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12 м. г. № 1 г. г.*

[1] Глоса: «Следам за князем-аленем уцякаюць зайцы ў шлемах».

[2] Глоса: «Трыццаць тысяч маскоўцаў былі забіты пяццю тысячамі ліцвінаў».

[3] Лібітына — старажытнарымская багіня мёртвых, смерці і пагрэбу.

[4] Перавозчык — г. зн. Харон.

Часта алені, забыўшы пра луг, ад ваўкоў уцякаюць,
Мчацца наўпрост, без шляхоў, — гэтак сполах узрушыў маскоўцаў:
Кінуўся ў воды Улы стурбаваны натоўп у адчаі,
Праўда, і тут, у вадзе, людзі падалі гэтак жа часта.
Цягнучы зброю й мужоў, са шчытамі счаплёныя лукі,
Рэчка Ула, непраходнаю стаўшы праз безліч затораў,
Твар свой блакітны ўзняла, акраплёны чырвонай крывёю[1].
Бачыць яна Радзівіла, які маскавітаў плюндруе…
Смела сама да яго накіроўвае гэткія словы:
«Бачу тваю булаву: ты — Літвы правадыр найвышэйшы,
Пострах маскоўцаў, магутны ваяр!.. Перастань, заклінаю
Ціхія воды мае абражаць гэтай цёмнай крывёю.
Мутарна й роспачна мне: я напоўнена трупамі шчыльна,
Друзам для бродаў маіх сталі гурбы параненых вояў.
Бачу далёкія пусткі, зямлю без насельнікаў… Гора!
Толькі забойствы ды смерць вызначаюць мяне шматгадова.
Годзе караць нам ужо непрыяцеляў здрадлівых, годзе!
Меч раскаліўся! Цяпер безуладдзе, што ярыцца вольна
Зноў зацугляй ды спыні, а бязвінную рэчку не ганьбі!
Зваж, хіба ж я не Ула, што цяку з чужаземных вытокаў,
Ці ж палямонавы землі не я наталяю так шчодра?»
Гэтак сказаўшы, празрыстае цела наўкол атачыла
Пеннаю хваляй з віроў на ўзбярэжжы сваім трысняговым.
Ноч непагодная хмарамі шчыльна ахутала неба.
Аж да начы пад Іванскам кіпела гарачая бітва.
Нават цяпер навакольныя землі крывёю ільсняцца,
Часам з-пад плуга аратая пырскаюць косці людскія —
Памятка даўніх падзей, падзіўлення вялікага вартых[2].
Шуйскі тым часам у пушчы густой і дрымучай хаваўся,
Блытаў сляды, уцякаў ад мячоў пераследнікаў спрытных,
Крочыў аблудна, праз стрэлы й клінкі прабіваўся, ды лёсам
Быў ён прызначаны стацца бясслаўнай ахвярай халопа.
Крочыў густым сасняком — чалавек туды рэдка заходзіў.
Церні, высокія дрэвы кругом разрасліся, і цяжка
Вызначыць нават дарогу між дзікіх сцяжынак: калісьці
Беднай сядзібы ўладар церабіў яе тут для патрэбы.
Шуйскі схаваўся сюды, прабіраўся маўкліваю пушчай,
Трэску галінкі любой ды павеву вятрыскі баяўся.
Раптам пачуў недалёка людзей галасы, схамянуўся:
Падаў сякерамі зрублены дуб велізарны дадолу.
Тут, асмялеўшы, звярнуўся і Шуйскі да тых лесарубаў:
«Добрыя людзі, прашу, пакажыце мне ў Полацк дарогу,
Шкоды жыццю не чыніце, бо маю я грошай багата,
Срэбра ды золата ўдосталь, дык вам за жыццё заплачу я,

[1] Глоса: «Рака Ула, перапоўненая трупамі».

[2] Глоса: «У полі пад Іванскам і цяпер [можна знайсці] вялікую колькасць чалавечых касцей». Мацей Стрыйкоўскі называе гэтую мясцовасць «Іванскае Баркулабава».

Толькі дазвольце без шкоды вярнуцца ў айчынныя землі,
Вам я жадаю ўраджаяў багатых ды шчодрых палеткаў;
З рога багацця няхай садавіна з гароднінай льюцца!»
Гэтак сказаў ён, аднак жа прамова не мела эфекту.
Хтосьці, зусім не звяртаючы ўвагі не гэтыя словы,
Зброю занёс абасечную, стаўшы на дыбачкі, кінуў,
Трапіўшы проста ў магутнае цела прамоўцы, каторы
Баяў прыгожа, ды й шчэ абяцанкамі сыпаў так шчодра[1].
«Бач ты, табе, ліхадзею, прычыне няшчасцяў, — вярнуцца
Зноў у Айчыну? А ты ж папаліў нам бацькоўскія хаты!
Колькі разоў паліваў ты крывёю літоўскія землі!
Не, даражэнькі, пакінь сваім дзецям крывавыя грошы,
Зараз жа смерцю сваёй адплаці нам за ўсе папялішчы!»
Тут і другія сяляне наносяць удары, і Шуйскі
Падае; свежая кроў палілася… Вось гэтак
Большая сіла звычайна жахлівыя вынікі мае:
Гэта ліхая традыцыя, вопыт гаротны і стратны…
Гасне агонь у лампадах заўжды пры нястачы алею —
Шуйскі згасаў гэтаксама з аблічча ў смяротным зыходзе.
Бледна-мярцвяныя цені кладуцца на твар, і нарэшце
Вечны і жудасны змрок пакрывае рухавыя вочы.
З гонарам ды з пасмяротнай пашанай занеслі ліцвіны
Цела ў свой горад. Вось лёс: у Масковіі ён нарадзіўся,
Чашніцкі край захапіў, але ў Вільні спачыў назаўсёды[2].
Лютую жорсткасць тым часам паўсюль дэманструюць маскоўцы,
Сілай вялізнаю войска пустошаць прыгожыя землі,
Полацкай арміі Шуйскага рэшткі злучаюцца з імі,
Зноў да нападу гатовыя, зноў павярнулі харугвы
Проста ў краіну ліцвінаў, да крэпасцяў гожае Вільні[3].
Хто ж адвядзе гэты жах ад літоўскай краіны, о Музы,
Гэткі шалёны агонь хто адгоніць ад замкаў высокіх?
Толькі адзіны герой — Радзівіл, вынаходлівы й спрытны,
Ён выпраўляе адважнага хлопца ў кірунку, дзе вораг
З войскам стаяў, каб нібыта паведаміць добрую вестку
(Гэта прыдумаў Філон), і, захоплены ворагам, хлопец
Гэтак усё распавёў: ён паразу маскоўцаў пацвердзіў,
Сілу ліцвінаў падкрэсліў, сказаў, што загінула войска[4].
Толькі дайшла тая чутка да слыху ахопленых страхам
Бледных маскоўцаў, што, бач, адбылася такая параза, —
Тут жа даюць лататы, уцякаюць куды толькі могуць:
Гэтак імкліва алень па пагорках спічастых імчыцца,
Чуючы рыканне льва, дзе Гірканскія стромкія горы;

[1] Глоса: «Селянін забівае Шуйскага сякерай».

[2] Глоса: «Шуйскі пахаваны ў праваслаўнай царкве Благаслаўлёнай Марыі ў Вільні».

[3] Глоса: «Другое войска маскоўцаў пад Оршай».

[4] Загінула войска… — маеца на ўвазе армія Шуйскага. Глоса: «Ваенная хітрасць Радзівіла, праз якую войска Сярэбранага кінулася наўцёкі».

Гэтак бягуць маскавіты: ні слава, ні гонар, ні нават
Страх перад лютым тыранам — нішто іх цяпер не спыняе.
Гэта бязглуздасць, аднак, каб нагам давяраць паратунак.
Вось Радзівіл згодна з планам тады ў непрыяцельскі лагер
Выслаў цябе, о Філон, з роду Кмітаў заможных, і разам
Госціка, спраўных дваіх у нападах ды марсавых войнах[1].
Б'юць не шкадуючы; частка маскоўцаў узбочныя сцежкі,
Добра знаёмыя ім, тэрмінова шукаюць, другія
Бераг рачны Барысфена запоўнілі: гэтыя воды
Сталіся водамі Леты, бо, вадкую смерць напаткаўшы,
Трапілі раптам маскоўцы ў блакітныя гроты Нептуна.
Хвалі вірлівым кружляннем ды пенай вады паглынулі
Вусны з апошняй мальбою. Зацягвае вірам пурпурным
Коней і разам мужоў — без належных пагрэбаў, без плачу.
Самі ліцвіны цяпер забіраюць багата здабычы,
Лепшы ж трафей — перамога: яна даражэй за багацці[2].

---

[1] Глоса: «Філон Кміта з Георгіем Госцікам забіваюць уцекачоў-маскоўцаў». Мацей Стрыйкоўскі распавядае ўсю гэтую гісторыю так: «Другое, большае, войска [маскоўцаў], 50 000 якога стаяла з Сярэбраным за дзве мілі ад Оршы, Філон Кміта, сённяшні ваявода смаленскі, стрывожыў з дапамогай такой авантуры: выправіў да Дуброўна [пасланцоў] з лістамі, паведамляючы пра нядаўна здабытую перамогу над маскоўцамі і пра забойства Шуйскага ў Іванску. Пры гэтым ён наўмысна загадаў тым пасланцам ехаць туды, дзе, як ён разумеў, іх мелі перахапіць маскоўскія вартавыя. Менавіта так і сталася: маскоўцы схапілі іх з гэтымі лістамі. Калі маскоўскі гетман Сярэбраны прачытаў іх, ён так напалохаўся, што, кінуўшы ўсе абозы, намёты і справы, супольна з цэлым войскам кінуўся наўцёкі, а Філон Кміта, стараста Аршанскі, з Юрыем Осцікам, ваяводам Мсціслаўскім, маючы не больш як дзве тысячы вершнікаў, гналіся за імі з крыкамі, б'ючы, секучы і хапаючы».

[2] Глоса: «Вялізны і багаты лагер быў захоплены ліцвінамі». У Мацея Стрыйкоўскага чытаем: «Потым, калі маскоўцы былі такім чынам разгромлены, нашыя захапілі 25 тысяч вазоў трафеяў ды вельмі вялікую здабычу: мноства шатаў, разнастайных убораў і фуражу, апроч гэтага, везлі за войскам зброі і даспехаў на 6 000 асоб. І такім чынам тыя два маскоўскія войскі, якія меліся злучыцца на друцкіх палях, а потым супольнай сілай штурмаваць Вільню, былі тады расцярушаны, дзякуючы дзівоснай сіле Божай і геразму ліцвінаў, а тое другое [войска] было нагалаву разгромлена, разбіта і пазбаўлена абозаў».

***Пераклад з лацінскай і каментарыі Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***



# «ЦЯПЕР МОЖАШ ІСЦІ ДА АЎРАМЧЫКА»

## *Першыя публікацыі класікаў сучаснай айчыннай літаратуры ў «Маладосці». Мікола МЯТЛІЦКІ*

### УЗЛЁТ



«Як і ў многіх паэтаў маёй пары, першая публікацыя з’явілася ў раённай газеце; у маім выпадку — гэта хойніцкі “Ленінскі сцяг” (1968 год). Будучы вучнем Бабчынскай сярэдняй школы, я ўжо дасылаў свае вершы ў Мінск у газеты “Піянер Беларусі” і “Чырвоная змена”. Тады для пачаткоўцаў пара была куды больш спрыяльная, чым цяпер. У кожнай рэдакцыі працавалі літаратурныя кансультанты. Мне асабліва пашчасціла, бо адказвалі на мае першыя спробы пяра вядомыя, маладыя яшчэ па тым часе паэты Анатоль Сербантовіч і Сымон Блатун. На жаль, калі ў 1971 годзе я прыехаў у Мінск, ні аднаго з іх ужо не сустрэў... У мяне заставаліся лісты (каля трыццаці — ад аднаго і другога), і я вельмі шкадую, што яны страціліся: пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС лісты засталіся ў зоне адчужэння. Калі праводзілася дэзактывацыя вёскі, хаты залівáліся пенай па самае гарышча. А тыя лісты былі запакаваны і ляжалі ў архіве акурат на гарышчы. Яны растварыліся пад уздзеяннем хімікатаў — застаўся толькі суцэльны камяк паперы. Шкада, што раней не забраў іх у Мінск. Лісты маглі б быць узорам таго, як літаратурныя кансультанты мусяць працаваць з пачаткоўцамі.

Адразу пасля школы я паступіў на філалагічны факультэт БДУ. Там знаходзілася адно з самых моцных літаратурных аб’яднанняў — “Узлёт”. У яго шэрагі ўваходзілі: Яўгенія Янішчыц, Юрка Голуб, Алесь Разанаў, Леанід Дайнека… Узначальваў аб’яднанне Алег Лойка. Не радзей як раз на месяц мы збіраліся, каб пачытаць новыя вершы і абмеркаваць іх; гучала крытыка, зрэдчас жорсткая, гаварылі багата праўды, і не толькі мы самі, але і Алег Антонавіч. Гэта не былі багемныя пасядзелкі, дзе чуецца адзін хваласпеў. Мы разумелі, што прыйшлі дзеля таго, каб працягваць справу вялікіх майстроў, і ставіліся да гэтага адказна. Таму і ў рэдакцыі неслі толькі тое, што магло быць прынята. Па тым часе было шмат маладых паэтаў: Анатоль Шушко, Мікола Цялега, Іван Рубін, Хрысціна Лялько, Тамара Купрэвіч, Яўгенія Мальчэўская, Любоў Тарасюк… Пазней падключыліся Уладзімір Мазго, Алесь Пісьмянкоў, Валодзя Марук, Кастусь Жук, Валодзя Ягоўдзік, Вольга Русілка… З дваццаці аўтараў “Вёснаў” сямнаццаць сталі прафесійнымі пісьменнікамі. Гэта былі не проста пасяджэнні, на якіх мы адпрацоўвалі тэхніку вершаскладання, вывучалі стылістыку вершаў, знаёміліся з сусветнай паэзіяй. Рэгулярнымі былі і творчыя сустрэчы з нашымі вядомымі пісьменнікамі: Іванам Мележам, Іванам Шамякіным, Рыгорам Барадуліным, Янкам Сіпаковым, Андрэем Макаёнкам. Я, дарэчы, першую сваю курсавую пісаў па драматургіі Андрэя Макаёнка.

Так што мы былі ўжо даволі спрактыкаванымі, ведалі, што літаратура — сур’ёзны занятак, таму і не вельмі спяшаліся ў сур’ёзныя літаратурныя выданні».

## ТАЯМНІЧЫ ПСЕЎДАНІМ




«Але пазней, канечне, ніхто з нас не абмінуў Міколу Аўрамчыка — загадчыка аддзела паэзіі часопіса “Маладосць”. Рана ці позна, але я прыйшоў да будынка ЦК камсамола, на Карла Маркса, 40, дзе месцілася рэдакцыя. Падняўшыся на другі паверх, пастукаўшы асцярожна ў дзверы аддзела паэзіі, у 1974 годзе я ўпершыню прапанаваў свае вершы часопісу “Маладосць”. Не скажу, што яны адразу былі ўхвалены. Але Аўрамчык як рэдактар аддзела ўмеў крытыкаваць тактоўна, хораша і нават запамінальна, бо кожная яго заўвага выклікала жаданне ўдасканальвацца і больш шырока глядзець на свае вершы, на паэзію ўвогуле. Мікалай Якаўлевіч працаваў з кожным аўтарам, прытым праца была не аднадзённай. Ты мог прынесці некалькі вершаў, а з іх выбіралі адзін-два — у дадатак да тых, што ёсць, — так Мікалай Якаўлевіч напрацоўваў падборку; і ён ніколі не гарантаваў, што ўсё гэта пойдзе, бо пасля чытаў яшчэ і галоўны рэдактар — па тым часе Генадзь Бураўкін, члены рэдкалегіі. Змясціць 3—4 вершы на старонках “Маладосці” тады было вялікім дасягненнем. Дэбют у часопісе быў не толькі асабістай творчай перамогай, але азначаў прыналежнасць да твайго літаратурнага пакалення.

Памятаю цудоўныя радкі Еўдакіі Лось: “Нясу я вершы ў “Маладосць” // І спадзяюся — адгукнецца…” І крытыка не скупілася на ўвагу. Разгляды былі і крытычнымі, і павучальнымі, і ў нечым прынцыповымі, бо гэта ўсё складала наш агульны літаратурны працэс. Калі недзе ў пераліку імён трапляла тваё прозвішча — ты ведаў, што нешта дасягнута, і на гэта арыентаваўся. І хацелася дасягнуць яшчэ большага. Публікацыя ў сур’ёзным літаратурным часопісе — своеасаблівы экзамен на творчую сталасць. Калі ты яго вытрымліваў, меў права на першую кніжку — як мы яе называлі, “літаратурны пашпарт”.

У 1974 годзе, у “Маладосці” № 6 з’явіліся мае вершы “Поле”, “Памяць”, “Палессе” і “Навальніца над борам”. У той час сітуацыя была вельмі няпростая для мяне, таму што на Барысаўшчыне працаваў настаўнік Мікалай Мятліцкі, які таксама друкаваў свае вершы, і мне, безумоўна, захацелася ўзяць псеўданім. Выбраў, падпісаў ім вершы і прынёс Мікалаю Якаўлевічу. Але ён адгаварыў мяне, сказаўшы, што рабіць гэта не варта, што “за табой маладосць і будучыня”, за тое я яму вельмі ўдзячны сёння. І самае галоўнае, што акрамя мяне і Міколы Аўрамчыка гэты псеўданім ніхто не ведае. Я яго ніколі не агучваў.

Пазней так сталася, што Мікалай Мятліцкі сышоў з дыстанцыі — і застаўся толькі Мікола Мятліцкі. Але тры-чатыры гады мы працавалі паралельна. Праз гэта здараецца блытаніна. Напрыклад, у бібліяграфічнай даведцы, змешчанай у акадэмічным зборніку, мне прыпісалі некалькі публікацый, якія насамрэч належаць майму цёзку.

Пасля дэбюту на маладых творцаў звярталі ўвагу старэйшыя калегі. Мне асабіста пашанцавала, што на першую падборку звярнулі ўвагу Аляксей Пысін, Максім Лужанін, Анатоль Вялюгін. Апошні стаў маім літаратурным настаўнікам».

## ПРА ТВОРЧАСЦЬ

«Па тым часе літаратурная творчасць была не самадзейным заняткам, а паважлівай справай, бо ў якую б рэдакцыю не дасылаў свае вершы — а я на сённяшні дзень разумею, якія яны былі недасканалыя, кволыя — адусюль дыхала такой увагай да першых спроб пяра!.. Да іх ставіліся з пачцівасцю, адказы былі на трох-чатырох машы-

напісных старонках, разгорнутыя, з поўным аналізам, шмат што падказвалася. Была наладжана значная літаратурная вучоба. Тыя, хто па-сапраўднаму цікавіліся літаратурай, атрымлівалі немалы стымул, таму што гэтыя парады прымушалі больш актыўна займацца літаратурай. Мы літаральна палявалі за кніжнымі навінкамі. У школьнай вясковай бібліятэцы гэта можна было зрабіць вельмі проста — прыходзіла па некалькі экземпляраў часопісаў “Полымя”, “Маладосць”, “Беларусь”. Прытым, бібліятэкары ставіліся да творчых людзей настолькі паважна… Марыя Купрэйчык, бібліятэкарка ў маёй школе, падбірала для мяне ўсе літаратурныя навінкі. Асабліва я захапляўся творчасцю Аркадзя Куляшова.

Нам багата чаго не дазвалялася з таго, што дазваляецца па сённяшнім часе: калі мы недзе ўпадалі ў настальгічныя ці інтымныя пачуцці — гэта адразу крэслілася, згладжвалася. Грамадзянская тэма была прахадной. І потым давялося багата чаго адстойваць з таго, што лічыў найбольш вартасным. Але гэта была школа, і школа вельмі значная. У 1970-я “Маладосць” была на ўзлёце, мела прэстыжны тыраж; друкаваліся творы Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Пімена Панчанкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка. У такі кантэкст маладому аўтару было не вельмі лёгка ўключацца. Рэдакцыя задавала высокую планку. І мы гэта адчувалі. Таму дэбюты літаратурныя былі не тое, каб запозненыя, але… вывераныя.

Мы разумелі, якая адказнасць — быць паэтам. Гэта не толькі пафас. Адчувалі — багата трэба зрабіць, каб спраўдзіцца. Кожную публікацыю мы абмяркоўвалі на “Узлёце”. І калі ў вачах Лойкі пачатковец акукліваўся ў літаратурны кокан і чагось можна было чакаць, Алег Антонавіч казаў: “Цяпер можаш ісці да Аўрамчыка”».

* * *

Вынікі такой грунтоўнай і сур’ёзнай літаратурнай школы беларускі чытач бачыць цяпер: Мікола Мятліцкі — аўтар шматлікіх кніг паэзіі, перакладчык, галоўны рэдактар часопіса «Полымя». Пра творчасць паэта багата сказана і напісана. Таму мы звернем увагу не на тое, што Мікола Міхайлавіч напісаў, пачынаючы з дэбюту ў «Маладосці» ў 1974 годзе, а на тое, што ён казаў у інтэрв’ю.

«Мы разумелі, што прыйшлі дзеля таго, каб працягваць справу вялікіх майстроў, і ставіліся да гэтага адказна», — гэта не проста гучныя словы, не пусты пафас. Так і было. Пакаленне тых, хто прыйшоў у літаратуру ў 1970-я гады — а гэта, як казаў Мікола Міхайлавіч, — Яўгенія Янішчыц, Кастусь Жук, Уладзімір Мазго, Леанід Дайнека і шматлікія іншыя — ставіліся да літаратуры сур’ёзна і не дазвалялі сабе аніякіх паслабленняў. Мела месца формула «жыццё = літаратура». Аднак мы не абвінавачваем сучасную моладзь у тым, што яна недастаткова сур’ёзна падыходзіць да разумення літаратурнай творчасці. Мы ўвогуле нікога не абвінавачваем. Аднак было б няблага, калі б дзяржава зноў наладзіла такія літаратурныя семінары для моладзі, як некалі ладзіліся ў Каралішчавічах; калі б рэдакцыі літаратурных часопісаў не проста прымалі рукапісы маладых паэтаў са шматабяцальным «можа быць…», але сапраўды праводзілі з пачаткоўцамі працу, даючы паўнавартасныя адказы. Вы скажаце, рэдакцыі папярэджваюць: «рукапісы не рэцэнзуюцца»? Дык чаму ж тады тыя рэдакцыі скардзяцца на вялікую колькасць юных (ды і не толькі) графаманаў, якія завальваюць сталы тонамі макулатуры? Адкуль жа пачаткоўцам ведаць, *што* ў іх паэтычных/празаічных спробах не так, а графаманам — што яны графаманы? Без дыялогу наўрад ці што зменіцца.

Вы скажаце, што талент заўжды праб’ецца, а бяздарнасць, як яе ні вучы, бяздарнасцю і застанецца. Маеце рацыю. Але… «Таленту трэба дапамагаць, а бяздарнасць праб’ецца сама». Калі верыць аўтару афарызма Міхаілу Рому, рэдакцыі літаратурных часопісаў, практыкуючы літаратурны капіталізм, ствараюць спрыяльную глебу для графаманаў.

***Падрыхтавала***
***Анастасія ГРЫШЧУК***



# ЦНАТЛІВАСЦЬ — ШЛЯХ ДА СЛАВЫ

***Анкуру Дахія з Індыі цяпер 23. Ён працуе ў старэйшым выдавецтве краіны General Book Depot, спрабуе сябе ў якасці мадэлі і… пісьменніка. Яго дэбютны раман 20 And Still a Virgin?!!? («Яшчэ цнатлівы ў 20?!!?») пабачыў свет у 2009 годзе, за два гады разышліся тры яго тыражы, а не так даўно Анкур падрыхтаваў другое выданне кнігі (час дзеяння рамана зменены з цяперашняга на мінулы). Я пазнаёмілася з Анкурам падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, на якой ён прадстаўляў выдавецтвы gbd books і Pigeon Books. Тады ж малады аўтар падпісаў мне сваю кнігу і пагадзіўся адказаць на некаторыя пытанні. Праўда, інтэрв'ю праходзіла ў даволі нязвыклай форме — пісьмова. «Калі пішу, мне лягчэй фармуляваць думкі», — патлумачыў малады пісьменнік.***

**— Чаму ты вырашыў стаць пісьменнікам?**

— Кожны павінен у сваім жыцці абіраць шлях для таго, каб тлумачыць ці прэзентаваць свету свае погляды. Я выбраў напісанне кніг. У Індыі прэстыжна быць пісьменнікам.

**— Ты досыць малады для раманіста. У Індыі такому маладому аўтару, як ты, лёгка выдаць кнігу?**

— Так, выдавецтвы даюць шанец маладым аўтарам. Бо сёння ў Індыі людзі чытаюць шмат, асабліва моладзь. Мой дэбютны раман — гэта гісторыя пра чатырох сяброў-падлеткаў, якія спрабуюць знайсці сабе дзяўчат. Сюжэт досыць просты, але заснаваны на глыбокім разуменні характару гэтых хлопцаў. У адным я ўпэўнены: чытаючы, вы будзеце суадносіць сваё жыццё і ўспаміны са сваіх школьных гадоў з паводзінамі герояў майго першага рамана.

**— Каго бачыш у якасці яго чытачоў?**

— У асноўным гэта, мяркую, будуць маладыя людзі, цінэйджары. Але мае наступныя кнігі будуць для больш шырокага кола чытачоў рознага ўзросту.

**— Планы на будучыню? Якую кнігу ты хочаш напісаць?**

— Гэта пытанне на мільярд долараў! Бо я не маю адказу на яго (смяецца).

*Не адразу, але я прачытала раман Анкура. І ён мне спадабаўся. Не таму, што ў кнізе выкладзены глыбокія развагі пра сэнс жыцця (адкуль такія думкі могуць з'явіцца ў дваццацітрохгадовага хлопца?), не таму, што яе героі — інтэлектуалы і снобы (наадварот, іх адзнакі ў школе — сярэднія), не таму, што раман прымушае задумацца пра вечнае (зусім не прымушае). Але таму, што распавядае ён пра жыццё простых хлопцаў, якія сябруюць з дзяцінства, называюць адзін аднаго братамі, разам ходзяць у школу, учыняюць маленькія «злачынствы», перажываюць першае каханне. У гэтай кнізе ўсё — як у амерыканскіх камедыях для цінэйджараў. Але калі існуюць фільмы (і яны досыць папулярныя), чаму не можа быць падобных кніг для падлеткаў — без маралізатарства? Жыццё, як яно ёсць, са сваімі маленькімі камедыямі і трагедыямі, няхай і апісанае беднаватай мовай, але шчыра. Прапаную ўвазе чытачоў урыўкі з перакладу рамана (цалкам ён выйдзе асобнай кнігай у РВУ «Літаратура і Мастацтва»). Гэта самы пачатак кнігі — знаёмства з галоўнымі героямі, а таксама адна з гісторый, што здарылася з сябрамі.*

# ЯШЧЭ ЦНАТЛІВЫ Ў 20?!!?

*Урыўкі з рамана*

## ПІВА, ДЗЯЎЧАТЫ І ЎСПАМІНЫ ПРА МІНУЛАЕ

Маё жыццё ніколі не было лёгкім. Не магу назваць лёгкім і маё цяперашняе становішча. Няўдачнікі маюць свае перавагі, прынамсі, яны заўсёды падрыхтаваны да горшага. Больш за тое, я маю такіх лепшых сяброў, як Рохіт і Аадарш, таму, безумоўна, заслугоўваю ўзнагароду за храбрасць. Дзякуючы Рохіту мы вырашылі зладзіць начны шпацыр, што па яго меркаванні распачне новую главу прыгод у нашым жыцці.

Цяпер прыкладна дзесяць гадзін вечара, мы сядзім на верхнім радзе стадыёна з бутэлькамі піва ў руках. Мы называем гэты стадыён «спакойным месцам», не пытайцеся, чаму. Аадарш хутка скончыць піць другую бутэльку, ён заяўляе, што гэтыя дзве бедныя бутэлькі не аказалі на яго ніякага ўздзеяння. Але разам з тым, яго ногі дробна падрыгваюць і распавядаюць зусім іншую гісторыю.

З іншага боку ад мяне Рохіт змагаецца з першай бутэлькай. Палова выпіта, але завяршыць справу для яго — усё роўна, што здаць САТ[1]-экзамен з першай спробы, рыхтуючыся да яго толькі цягам месяца.

Нарэшце я, Рэхаан, звычайны студэнт, скончыў першую бутэльку і атрымліваю асалоду ад цяпла ўнутры цела.

— Я сумую па школьных днях, — кажа Рохіт і ставіць нясконачаную бутэльку на падлогу. Дзякуй Богу, САТ-экзамен на некаторы час адкладзены.

— Я таксама. Часам нам было весела ў тыя дні, — адказвае Аадарш і неяк налаўчаецца сесці побач з Рохітам. Думаю, ён заўважыў трымценне ў нагах і нарэшце пераканаўся ў тым, што напіўся.

— Асабліва сумую па Аарці, Камане і Нандзіні, — кажа Рохіт. Абодва глядзяць на мяне, нібы чакаючы, што я ўвайду ў плынь гутаркі ці хаця б ацаню іх меркаванні. Думаецца, хлопцы маюць агульную праблему, большасць з іх пакутуе ад СЖГ (сіндром жаночай гутаркі), то бок пасля выпіўкі многія з іх размаўляюць, як дзяўчаты. У горшых выпадках яны пачынаюць плакаць, наракаць на ўласны лёс, як няўдачнікі.

Для мяне гэта не новая з’ява, паколькі кожны раз, калі Рохіт п’е, кола тэм для абмеркавання звужаецца да школы, Нандзіні, Каманы і Аарці. І ў гэтыя моманты Аадарш і я — найлепшыя ахвяры.

— Гэты час навучыў нас многаму. Цяпер мы іншыя людзі, — па-філасофску разважаю я.

Прынамсі, мы павінны правесці разам не гадзіну ці дзве, а ўсю ноч, таму калі існуе нейкая тэма, здольная нас захапіць настолькі моцна, то Рохіт указаў нам яе правільна.

Так, мы ўтрох падарожнічаем у самую канструктыўную частку жыцця, калі мы зразумелі сілу ўласнай дурасці — дзясяты клас.

## СНЫ, ЗНАЁМСТВА І «БЕЛАЯ ВАРОНА»

Я ляжу на не вельмі камфортным ложку ў старым пакоі. Вакол — дым цыгарэт. Мая левая рука адпачывае з аднаго боку. У ёй я трымаю запаленую цыгарэту, і колы дыму абкружаюць мяне. Я гляджу на стары вентылятар, схаваны ў дыме. Побач са мной пад прасцінай ляжыць дзяўчына. Яна лагодна дакранаецца да маёй майкі, на руцэ — сімпатычны залаты бранзалет. Мая правая рука рухаецца ўверх і ўніз па яе спіне, так, каб яна пачувалася ўтульна. Я страсаю попел з цыгарэты на столік, што стаіць побач. Затым зноў і зноў цалую шчокі дзяўчыны.

Раптам я прачынаюся. Чорт! Той самы сон, я бачыў яго ўжо два ці тры разы. Што ён значыць? «Дурны сон. Ён не можа нічога азначаць. Гэта проста сон», — кажу сам сабе.

Ой, ужо сем, і я павінен збірацца ў школу.

У сярэдзіне дзясятага класа я лічыў сябе самым нязначным прыдуркам ва ўсім свеце,

[1] Common Admission Test — экзамен, здача якога неабходна для паступлення ў індыйскія інстытуты менеджменту. Ён уключае заданні па логіцы, разважанні, здольнасці інтэрпрэтаваць інфармацыю. Звычайна здаецца на камп’ютары.

думаў, што я прадстаўнік нейкага ўнікальнага віду. Але так было да таго, як я сустрэў Рохіта і Аадарша. Пасля гэтай знакавай падзеі ўсё змянілася.

Аадарш. Па яго імені кожны гультай можа ўявіць яго вобраз. Ён падаецца «маменькіным сынком», хлопец-мара кожнай сярэднестатыстычнай індыйскай дзяўчыны і яе бацькоў. Хлопец-выдатнік, першы ў класе, ён размаўляе мякка і ветліва з усімі, верны адной дзяўчыне і мае дасканалае жыццё. Ідал для ўсялякага малодшага дзіцяці ў сям'і. Так сказала б яго мама, калі б давала характарыстыку імені нашага д'ябла. Але нягледзячы на гэта, ён мае нуль з дзесяці вышэй пералічаных характарыстык. Аадарш — хлопец-спецыяліст у набіранні вагі. Яго надзвычай вялікі жывот можа адштурхнуць любую дзяўчыну. Ён з тых, хто праводзіць усё жыццё, намагаючыся знайсці адказ на добра вядомае пытанне: для чаго я жыву на зямлі? Але Бог надзяліў яго адметнай рысай: калі ён усміхаецца, толькі выдатныя навукоўцы могуць вызначыць, куды знікаюць яго вочы.

Рохіт. Калі вы пабачыце яго твар, вы адразу прыйдзеце да высновы, што ён мае маральнае права быць арыштаваным. Яго твар змяшчае рысы антысацыяльных элементаў, але ў рэальнасці, я гатовы біцца аб заклад, ставячы на кон усю нерухомую маёмасць, ён не здольны нават муху пакрыўдзіць. Яго намеры могуць выклікаць слёзы нават у самага мірнага чалавека Індыі. Яго твар нагадвае зайца — ускудлачаныя валасы і разцы, якія выступаюць, ствараючы дасканалую ўсмешку. Ён належыць да той групы разумова адсталых, што здаюць экзамен з адзнакай вышэй за 90 % і затым наракаюць на лёс, чаму толькі яны маюць такі кепскі вынік. Яны намагаюцца атрымаць дазвол на паступленне ў інстытуты менеджменту і тэхналогій. Маё самае сардэчнае суперажыванне заўсёды на баку Рохіта. Карацей, вы можаце патэлефанаваць яму, адзінаццатаму цуду свету.

Нарэшце, я сам. Цікава, ці зрабіў я да гэтага моманту што-небудзь правільна ў маім жыцці. Ну, і я не чакаю ад сябе нічога падобнага ў будучыні. Але некаторыя дакладныя рэчы ўсё ж існуюць, такія, як: я мару ўвесь час, дрэнна засвойваю матэматыку (бацькі ж чакаюць большых поспехаў у вучобе), дзяўчаты, ну і, канечне, як абысці мой цудоўны злы рок. Сябры ў папярэдніх класах, настаўнікі і сваякі заўсёды лічылі мяне нядзарай, які не здольны зрабіць нічога канструктыўнага ў сваім жыцці. Людзі называюць мяне па-рознаму — «лузер», «ідыёт», «сапляк», некаторыя аддаюць перавагу нават мянушцы «дупа». Але я ўсё ж лічу сябе «моцным цвіком». Вы можаце назваць гэта недахопам пазітыўнага мыслення. У маім жыцці існуюць толькі дзве рэчы — мары і моцнае жаданне іх здзейсніць.

Але ёсць адна рыса, якая аб'ядноўвае нас траіх — глупства. У нашых асобах вы можаце назіраць розныя віды глупства. Нас лічаць самымі яркімі «адзінкамі для псіхалагічных тэстаў», з дапамогай якіх можна вызначыць віды бязмозглых істот, што існуюць у свеце людзей.

Калі становішся вучнем дзясятага класа, заўважаеш пэўныя змены ў сваім ладзе жыцця. Ты раптам выходзіш са свету відэагульняў, апроч нямногіх, напрыклад, Рохіта, які і цяпер запісвае свае найлепшыя вынікі, збірае ручкі ў дзявочыя пеналы і спаборнічае з іншымі малодшымі хлопцамі, якія збіраюць бясплатныя карткі, што даюцца разам з пакетамі чыпсаў.

З цягам часу я заўважыў змены і ў паводзінах Аадарша. Хлопец, які раней рабіў заўвагі, калі мы з Рохітам ужывалі нецэнзурныя выразы, цяпер пачынае і заканчвае сказ словам «блін», дзякуючы Аарці. Аарці — высокая дзяўчына, не вельмі сімпатычная, пра яе рэлігійнасць сведчыць толькі імя. Калі вы запытаецеся Аадарша пра яе, ён назаве шмат якасцей, якія нават сам Аадарш пры жаданні не можа ў ёй заўважыць. Чувак першым з нашай групы пазнаёміўся з паняццем «каханне», і думаеце што? Аарці так моцна ўпадабала Аадарша, што калі б ён быў апошнім мужчынам на зямлі, яна б выйшла замуж за жывёлу. Але Аадарш, дзякуючы нашым дэмакратычным правам, мае сваё меркаванне на гэты конт.

У любым выпадку, Рохіт і я рады, што існуе гэтая аднабаковая гісторыя кахання, прынамсі, нам ёсць з чаго пасмяяцца.

О, як я забыўся прадставіць вам майго лепшага сябра — маю маму.

— Дзе ты быў, калі Бог размяркоўваў мазгі? — пытаецца мама.

— Думаю, прымаў ванну, — смяюся я.

— Ды замаўчы ты. Ведаеш, мой старэйшы стрыечны брат кажа, што ў нашай сям’і ўсе геніі ў матэматыцы. Дык чаму Рэхаан такі слабы? — кажа мама глыбокім голасам, намагаючыся стварыць аўру, як у серыяле.

Я належу да сям’і, дзе кожны — выдатнік у ведах па матэматыцы. Але ў маім выпадку я і матэматыка — як два полюсы магнітаў, якія адштурхоўваюцца. Думаю, праблема заключаецца ў яснасці з’явы. У першым класе я быў азадачаны, чаму 2 + 2 = 4, а не 5, і з таго часу, калі я пераходзіў з класа ў клас, праблема ўзрастала. Думаю, гэта памылка настаўніцы пачатковых класаў, бо яна не пазнаёміла мяне з паняццямі матэматыкі. Таму вы можаце назваць мяне «белай варонай»

— Але мама, усе пальцы на тваёй руцэ розныя па форме і памеры, і задача аднаго не можа быць выканана іншым. Гэта закон прыроды — няма дзвюх аднолькавых асоб, кожны мае ўласныя адрозныя якасці, — часам я сапраўды ганаруся сабой. Можа быць, аднойчы стану вялікім філосафам, але да таго часу буду выкарыстоўваць філасофію як механізм абароны.

— Згодна, але чаму ты заўсёды выбіраеш для сябе ролю мезенца, а не вялікага пальца? — кажа бацька, салдат на баку мамы. Так нячэсна, бо два дарослыя салдаты змагаюцца супраць аднаго цінэйджара. Цікава, калі мне будзе больш як дваццаць і іншы салдат, мая жонка, уключыцца ў бітву за маё выратаванне, хто ведае, магчыма, жонка таксама стане на бок бацькоў, паколькі мой няўдалы лёс ніколі не адхіляецца.

— Думаю, праўда на вашым баку. Тады я абяцаю старацца і паказаць вам вынік, — часам у вырашальны момант, каб выжыць, лепш паказаць белы сцяг.

— Добра. Тады ідзі і вучыся, — кажа мама пераможным тонам.

* * *

Падручнік па матэматыцы ляжыць перада мной, але я не чытаю яго, бо канцэнтруюся на часопісе «Glamour World Magazine» ўнутры кнігі. Я стараюся ўдакладніць некаторыя моманты маёй будучыні, калі аднойчы я стану мадэллю. Павінен прызнацца, на мяне ўплывае свет гламуру. Кожны раз, гледзячы ў люстэрка, я бачу ў ім вобраз супермадэлі. Сябры кажуць, што я худы, але я называю гэта перавагай і лічу, што яны мне зайздросцяць. Жыццё заўсёды выбірала добрыя рэчы для мяне, але я аддаю перавагу зваротнаму боку.

## ПРАГУЛЯЦЬ УРОКІ, НЕ ЗУСІМ ПОРНА ФІЛЬМ І ВУЗКІ ВЫХАД ДЛЯ ЎЦЁКАЎ

— Гэта важная справа? — пытаюся я Аадарша, пакуль мы накіроўваемся ў месца, якое Рохіт называе «сюрпрызам».

— Супакойся і замаўчы, — кажа Рохіт.

Як заўсёды, запытайся пра што-небудзь у Аадарша, а адказ атрымаеш ад Рохіта, і наадварот.

Рохіт спыняе скутар перад будынкам, які з цяжкасцю можна назваць домам. Гэта стары будынак XIX стагоддзя, і здаецца, што ён абваліцца першым падчас любога землятрусу. Перад ім распасціраецца сад-джунглі з мноствам дзікіх дрэў, я маю падазрэнні, што «сюрпрыз» з’яўляецца звыклым месцам існавання дзікіх жывёл у жылой зоне. Вакол дома шмат лому, таму здаецца, што я стаю пасярод сметніку, а Аадарш прыехаў сюды, каб прадаць скутар, які ў гэтым наваколлі падаецца прадуктам рэвалюцыйнай эпохі ў аўтамабільнай вытворчасці. Маленькія белыя вароты з плямамі іржы аддалена нагадваюць уваход у гараж. Думаю, гэта найлепшае месца, дзе маглі б хавацца браты Рамсэй, вытворцы фільмаў жахаў.

— Гэта дом Каманы, — кажа Рохіт.

— О! Гэта мара для любога чалавека. Ён выглядае як рай на зямлі, найярчэйшы цуд архітэктуры, што я бачыў у сваім жыцці. Ён прыгожы і бясцэнны.

«Чаму вы так на мяне глядзіце? Ну! Каханне можа зрабіць сляпым любога. Як там ні было б, гэта дом маёй Каманы, хай ён нават выглядае, як катэдж, у якім жывуць прывіды».

Пасля гэтага жыццё змянілася. Бяздомныя сабакі каля дома атрымалі ў маёй асобе новую кампанію.

* * *

Жыццё працягваецца так, як гэта было наканавана. Разам з Вікі я ўпершыню прагуляў урокі ў школе. Але ўвесь дзень мой мозг свідравала адна думка: што будзе, калі мяне хтосьці зловіць. На гэты выпадак Вікі прынёс футболку і джынсы, у якія ён пераапрануўся дома ў Рохіта. Тое, што ты эксперт у прагулах, мяняе справу. Цэлы дзень мы правялі ў цэнтры відэагульняў.

Праз некалькі дзён Рохіт таксама далучыўся да кампаніі прагульшчыкаў. Мы ніколі не думалі, што ён гэта зробіць, але жыццё цалкам складаецца з сюрпрызаў. А ўдзел Рохіта вядзе нас да аўтаматычнага адабрэння з боку Аадарша.

Мой новы куратар секцыі камерцыі, місіс Пунія, ужо западозрыла мяне ў зніжэнні ўзроўню наведванняў. Думаю, што да такой высновы яна прыйшла не сама, але дзякуючы «шасцёркам».

* * *

— У пятніцу будуць паказваць новы фільм. Гэта стужка для дарослых з інтымнымі сцэнамі, таму пайсці на гэтае кіно — добры спосаб укладання грошай, — кажа Вікі.

— Гэта порна фільм! Я не пайду, — заяўляе Рохіт.

— Гэта не порнафільм, а звычайная хіндзістужка з удзелам знакамітай актрысы. Але паколькі там некалькі смелых сцэн, яна класіфікавана як фільм для дарослых, — Вікі называе імя актрысы. А паколькі Рохіт з'яўляецца яе вялікім прыхільнікам, ён пагаджаецца на прапанову. Вікі ніколі не чапляўся да мяне з такімі пытаннямі, бо ведаў, што я не скажу «не» на яго прапанову. Мы планавалі пайсці ў кіно на наступны дзень.

Захапленне ад таго, што мы пойдзем на фільм, дасягнула свайго апагея, яно нават уварвалася ў мой сон. Тое, што я з'яўляюся вучнем старшых класаў ужо пацвярджае: я знаёмы з такімі тэмамі, як секс, порна фільмы, часопісы для дарослых і іншымі загадкамі, звязанымі з дзяўчатамі. Памятаю, я пераконваў бацьку набыць мне камп'ютар і пералічваў энную колькасць прычын і спраў, якімі можа займацца падлетак на камп'ютары, каб быць здольным спаборнічаць у гэтым жорсткім забегу пацукоў. Але я ніколі не выкарыстоўваў камп'ютар ні для чаго іншага апроч музыкі, гульняў, пірацкіх хіндзі- і англійскіх фільмаў, і нешматлікіх порна стужак. Натуральна, ніводзін з гэтых заняткаў не быў занесены ў спіс «Навошта мне патрэбен камп'ютар?».

Мы збеглі са школы. Вікі, Рохіт, Аадарш і я накіроўваемся да кінатэатра. Перад ім доўгая чарга, але Вікі знаёмы з уладальнікам, таму мы атрымліваем квіткі.

Мы паглядзелі палову фільма, раптам некалькі паліцэйскіх і супрацоўнікаў нашай школы ўваходзяць у кінатэатр.

«Арыштуйце гэтых мярзотнікаў», — кажа адзін з настаўнікаў, указваючы на нас. Мы кідаемся наўцёкі, але яны перакрылі выхады з усіх бакоў. Нас злавілі. На наступны дзень дырэктар выклікаў нашых бацькоў і часова адхіліў нас ад заняткаў.

Раптам я прачынаюся ад жаху. Дзякуй Богу, гэта проста сон. Але я маю дрэнныя прадчуванні наконт усёй гэтай задумы. Я прыйшоў у месца, дзе мы дамовіліся сустрэцца для прагулу. Мы павінны былі сысці з першага ўрока, але я затрымаў Рохіта за руку.

— Мы не пойдзем на гэты фільм.

— Што? — усклікнулі Вікі, Рохіт і Аадарш у адзін голас. Я расказаў ім пра свой сон і пастараўся пераканаць адмовіцца ад ідэі прагулу.

— Ні ў якім разе, чувак, да чорта твой сон, я пайду ў любым выпадку, — заявіў Вікі.

— Я таксама пайду. Я не веру ў гэтыя забабоны. Нічога з намі не здарыцца, — сказаў Аадарш. Рохіт не вымавіў ні адной са сваіх каронных фраз, ён прыняў да ўвагі супярэчлівасць сітуацыі. Але я ў такім выпадку мог разлічваць на падтрымку хоць аднаго сябра.

— Рохіт, павер мне, я ведаю, што дастаю цябе сваімі патэтычнымі снамі. Але сёння — іншая справа. Я маю дрэнныя прадчуванні наконт гэтай задумы.

— Я з табой, — Рохіт перайшоў на мой бок.

— Ну і добра, вы двое можаце свідраваць сябе ў школе. Мы ж пойдзем глядзець на гарачых дзяўчат у фільме, — Вікі і Аадарш пайшлі ў кіно, мы з Рохітам накіраваліся ў школу.

У той дзень шмат вучняў не прыйшло на зняткі, каб пабачыць самы чаканы фільм. Прыкладна ў 9.30 празвінеў званок на другі

ўрок. Гэта занятак місіс Пуніі. Калі настаўніца ўвайшла ў клас, я шукаў сваю ручку пад партай.

— Ну ўсё, хопіць. Сёння Рэхаан зноў не прыйшоў. Яго ж сёння няма, так, — закрычала місіс Пунія.

— Не, ён сёння прысутнічае, — адгукнуўся я з-пад парты і ўзняў руку з ручкай, якую шукаў. Я ўстаў і ўсміхнуўся куратару. — Людзі і іх аблуды. Даруйце, што расчараваў вас, мадам, — усміхаўся я, і яна ўсміхалася мне ў адказ.

— Супрацоўнікі многіх школ заўважылі сваіх вучняў каля кінатэатра. Каманда прадстаўнікоў кожнай школы з паліцэйскімі накіравалася туды, каб злавіць іх. На гэты раз дырэктар ужыве строгія меры, — сказала місіс Пунія.

Гледачы віталі свістам і бруднымі каментарамі танец жывата гераіні фільма. Нашы героі: Вікі і Аадарш танцавалі ў сваіх крэслах у захапленні, якое ўжо немагчыма было кантраляваць. Праз некаторы час некалькі чалавек у форме паліцэйскіх далучыліся да іх з аднаго боку. Вікі ўбачыў, як яны накіраваліся да іх.

— Бяжым, гэта паліцэйскі рэйд, — Вікі, Аадарш і іншыя школьнікі пабеглі да другога выхаду. Каб уцячы, яны павінны былі перасекчы яшчэ адзін выхад, што знаходзіўся на некалькі прыступак ніжэй, але настаўнікі ўбачылі іх і перакрылі гэты шлях. Хлопцы пабеглі да жаночай прыбіральні і зачыніліся.

— Чорт, што цяпер рабіць? — крычаў Аадарш.

— Замаўчы, давай знойдзем выйсце, — адказаў Вікі.

— Калі б я зранку паслухаў Рэхаана, то не апынуўся б у такім становішчы. Што калі нас схопяць, выключаць са школы ці пасадзяць у турму? Што мне зробяць бацькі?.. — Аадарш пачаў трэсціся, і вірус трымцення ахапіў прыбіральню і падзейнічаў на ўсіх прысутных.

— Адчыніце дзверы, мярзотнікі, у іншым выпадку мы выб'ем іх і скруцім усіх, хто тут хаваецца, — пачуўся голас звонку, пасля данесліся цяжкія грукі ў дзверы.

— Што нам цяпер рабіць? Чорт, чаму я не паверыў Рэхаану, — зноў крычыць Аадарш, Вікі таксама згаджаецца з ім.

Паліцэйскія пачалі моцна калаціць у дзверы. Праз хвіліну ці дзве яны іх зусім выб'юць.

— Мы вось як выйдзем, — Вікі паказаў на вентылятар над унітазам.

— Як мы можам уцячы адтуль? — запытаўся Аадарш.

Але ў гэты час Вікі паставіў адну нагу на ўнітаз, другую — на змыўны бачок, адкрыў вентылятар і пралез у адтуліну. Паколькі ён худы, у яго гэта лёгка атрымалася, Вікі ўпаў на спіну з іншага боку.

Аадарш не меў выбару, толькі пайсці за ім. Паколькі ён досыць малога росту, яму патрэбна было падскочыць на змыўным бачку. У гэты момант бачок зламаўся, але Аадарш нейкім чынам даскочыў да вентылятара. Ён змог толькі паказаць твар з іншага боку, але яго цела памерам з бульдозер захрасла ў вентылятары. Вікі цягнуў яго за руку з аднаго боку, а хлопцы штурхалі знутры прыбіральні.

— Чортаў мярзотнік, давай хутчэй, нас усіх хутка зловяць, — крычаў хлопец знутры, штурхаючы яго вонкі.

Аадарш ужо амаль уцёк з прыбіральні, як раптам паліцэйскія зламалі дзверы. Яны злавілі ўсіх, хто быў унутры. Адзін з паліцэйскіх схапіў Аадарша за нагу і трымаў у той час, як Вікі з усёй сілы цягнуў з іншага боку. У выніку Аадарш упаў з боку Вікі, пакінуўшы паліцэйскаму толькі чаравік. Яго вопратка і бялізна былі парваны ў розных месцах, стаў бачным шырокі жывот. Па знешнім выглядзе Аадарш быў падобны да валацугі новага кшталту.

Вікі і Аадарш паспяхова ўцяклі з кінатэатра, але адзін з нашых настаўнікаў пазнаў Вікі.

Рохіт па-вар'яцку смяяўся амаль паўгадзіны, калі ўбачыў Аадарша. Вікі пайшоў да Рохіта дамоў, каб пераапрануцца. На жаль, Аадарш цяпер ходзіць у іншую школу, таму яму аж да дому трэба было несці вобраз бадзягі XXI стагоддзя. Я ж смяяўся ўвесь дзень, чым выклікаў у бацькоў сумневы адносна майго псіхічнага здароўя.

***Пераклад з англійскай і аўтар прадмовы***
***Марына ВЕСЯЛУХА***

Ігар ЗАПРУДСКІ

# «МІГ НЕТУТЭЙШАЕ ЛАГОДЫ»: паэтычныя «сны-неспадзевы» Міхася Стральцова

***Ён з тых, для каго літаратура***
***не прафесія, а прызванне,***
***не пісаць ён не змог бы,***
***не быць нездаволеным сабою — таксама.***

Янка БРЫЛЬ

Скажу наўпрост: «Міхася Стральцова як Паэта я спазнаў, зразумеў і стасоўна ацаніў зусім нядаўна».

Цяпер думаю, што гэта не было выпадковасцю. Але чаму так «позна»?

Зразумела, некалі Стральцоў чытаўся мною і вельмі нават уважліва. Але, мусіць, тады, у канцы 1980-х, падвяла залішняя даверлівасць, вера ў слушнасць аўтарытэтнага меркавання, што Стральцоў-празаік значна вышэй за Стральцова-паэта. А можа, справа і ў іншым: з гадамі набыўся жыццёвы досвед, назапасіўся патэнцыял эмацыянальных перажыванняў, якія, на жаль, толькі цяпер і дапамаглі трапіць ва ўнісон вобразна-сэнсавага свету творцы, асобы пэўнага ўзросту, прадстаўніка зусім іншага пакалення. Да паэзіі Стральцова давялося дарасці, бо ў маладосці, бадай, больш важным падавалася менавіта «што», а не «як».

Што ж казаць тады пра цяперашніх школьнікаў, шаснаццацігадовых, якім «па праграме» дагэтуль прапануецца не проста засвоіць, а зразумець, скажам, журботныя ўспаміны-шкадаванні сталай кабеты з апавядання Брыля «Галя»? Яны, дзяўчаткі і хлопцы, яшчэ нічога не страцілі, жывуць з цвёрдаю перакананасцю, што ўсё будзе добра і залежыць толькі ад іх саміх… Таму змучаная працай хутаранка Галя ўспрымаецца імі як вартая асуджэння нерашучая і нехлямяжая няўдаліца, а не як дастойная спачування маці (дваіх дзетак) з надламаным жаночым лёсам, які не гэтак лёгка змяніць. Няхай бы пра тое задумаліся надзеленыя адпаведнымі паўнамоцтвамі адказныя асобы.

Дык вось, я зноў судакрануўся з яго паэзіяй дзякуючы звычайнай школьнай хрэстаматыі. І быў шчыра ўражаны. Усе змешчаныя восем вершаў — бясспрэчныя паэтычныя шэдэўры, якія досыць выяўна раскрываюць творчую манеру аўтара, яго індывідуальнасць. Аднак не кожны з іх варта прапаноўваць юнацкай аўдыторыі. Учытайцеся:

Вось гэта музыка сама
Сабе гучыць. Ёй справы мала,
Што дзесьці водгуку няма,
Што недзе музыкі не стала.

Як бы не ведае мяжы,
Як бы сама сябе люляе
І ўжо на нейкім рубяжы
Сябе самую адмаўляе.

І ўжо не музыка чутна,
Калі нясвойскаю ахвотай
Грыміць раскатам перуна,
Трапеча гулам самалёта,

Калі ў правалах гукаў тых,
У страшнай роспачы канання
Трымценне струнаў залатых —
Як лёс або наканаванне!

Ці не лічыцца ў нас эстэтыка «страшнай роспачы канання» найбольш дзейсным спосабам уплыву на падлеткавую псіхалогію? Аднак гэты верш на нейкі час адабраў мой спакой. Пра якую музыку ў ім ішла гаворка? Думаю, адказаць не змаглі б і самі ўкладальнікі хрэстаматыі. Відавочна, што не пра наплыў нетутэйшага року апавядаў паэт.

Давялося ўважліва перачытаць «Выбранае» (1987), дзе, дарэчы, тэксту якраз названага верша няма, кнігі літаратурна-крытыч-

ных артыкулаў і эсэ, найперш «Пячатку майстра» (1986). Пры гэтым я выразна ўяўляў, што там, калі не стэрыльны, то, у любым выпадку, у большай або меншай ступені стэрылізаваны рэдактарамі-добразычліўцамі Стральцоў. У тым, што яго ўяўна-спагадліва і жорстка «правілі», у мяне не было асаблівага сумнення, бо чуў пра тое яшчэ ў свае студэнцкія гады.

У прадмове да «Выбранага» «Міхась Стральцоў — учора і заўтра» Алесем Адамовічам была, як мне здаецца, пастаўлена пад сумненне ўся паэтычная рэпутацыя Стральцова. Падалося, што аўтарытэтны даследчык даволі бесцырымонна і нават жорстка пхаў-штурхаў Стральцова ў прозу. Так, стаць паэтам у прозе было тады, у 1980-я ды і раней, актуальна. Але ж адваротны бок медаля: празаік у паэзіі — нейкі нонсэнс. Такіх жа паэтычных «празаікаў» было ў той час хоць вазамі вазі. І Стральцоў адчуваў сваё пакліканне, адчуваў, дзе яго натуральнае, Богам дадзенае месцапрызначэнне. Якраз як процівага набрыдзі прозы ў паэзіі і была яго творчасць. І на самую тагачасную прозу ён, аўтар разбураючай каноны, з верлібрам у якасці раздзела і ў нечым нават алегарычнай аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь» (1966), глядзеў, як здаецца, вельмі ж скептычна-іранічна, нават дзе-нідзе адкрыта кпіў з яе лапцюжна-абрыдлага і прасякнутага нікчэмным пачуццём побытапісальніцтва. У першым паэтычным зборніку «Ядлоўцавы куст» (1973) ёсць паказальны ў гэтых адносінах верш «Ода прозе»:

Люблю я прозы дух цвярозы,
Яе густы, зямляны дух.
Яна і жартам, як сур'ёзам,
Карчы варочае за двух.

Ты мо здзіўляешся, што прозе
Я оды вершыкам пішу?
Яшчэ мне з ёю па дарозе,
З дарогі селавой на возе
Шчэ з ёй уз'еду на шашу.

Відавочна, што яго зварот да прозы быў як своеасаблівы кампраміс і ці не адзіна магчымы спосаб «паэту-рызыканту» набыць вядомасць і прызнанне. Стральцоў-празаік часам пакепліваў з самаго сябе: «Вось што трэба было загнаць у падтэкст. А як загнаць, я не ведаў». Відавочна аўтабіяграфічны герой апавядання «Сена на асфальце» (1963) «марыў стаць паэтам, а стаў аспірантам па разраду, як кажуць, прыгожага пісьменства». І падсумаваў: «Але справа не ў гэтым». Я ж запярэчу: «Якраз у гэтым уся і справа». Нездарма ж у фінале іншага культавага апавядання «Смаленне вепрука» (1973) той жа аўтар праз дзесяцігоддзе выгукнуў: «У таго, хто бярэ ў рукі пяро, надзея ёсць таксама. О, паэт да таго ж бывае яшчэ крыху забабонным. Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён хоча верыць: я засцярогся ад бяды — бо сказаў. Дабро і надзея тут накрэслілі свой круг». На жаль, так і не засцярогся.

Навошта ж было сілаю перараблять яго, пазбаўляючы нават СПАДЗЕВУ ў магчымасць рэалізацыі СВАЙГО? Ён жа ўмольна прасіў:

Ты пачакай.
                Навошта гэта?
За ўцёкі ў вершы не карай.
Не рай чакае там паэта,
А калі рай — пакутны рай.

Ідуць там за спякотай сцюжы,
За промнем следам змрок ідзе.
Павер мне, без калючак ружы
Не адшукаў там анідзе.

І ўсё ж чакаю, бы калісьці,
Што, перарваўшы змроку ніць,
Усход такою сілай блісне, —
Струна ў тумане зазвініць.

А гэты верш ужо з другога паэтычнага зборніка «Цень ад вясла» (1979). Сёння можна дазволіць сабе раскошу не разумець, як жаданне чалавека існці ўласнай творчай сцежкай льга лічыць чымсьці ганебным, слабасцю, вартай не проста асуджэння, а нават пакарання? «За ўцёкі ў вершы не карай» — безумоўна, не прыдуманая, а рэальная просьба. Калі яна так яскрава адлюстравана ў лірычнай аўтабіяграфіі, то да каго ж яна была звернута? Быў жа, напэўна, нейкі канкрэтны адрасат? Звяртаю ўвагу на тое, што зноў Музыка, увасобленая ў метафарычным вобразе струны: «Трымценне струнаў залатых», «Струна ў тумане зазвініць». Вечныя Арфеевы матывы?..

Разважаю пра творчы лёс «Ценю ад вясла», у якім заўважна змянілася семантыка і нават танальнасць лірыкі. На выхад

гэтай кнігі паэзіі з'явілася чамусьці ўсяго толькі адна рэцэнзія А. Кабаковіч «Туга па дасканаласці». Для параўнання, напрыклад, на выдадзеныя ў тым жа годзе зборнікі розныя рэцэнзенты дружна адгукнуліся: на «Ветрана» А. Вярцінскага — 7, «У добрай згодзе» Н. Гілевіча — 8, «Прайсці праз вернасць» М. Танка — 10 разоў. Істотна, што «Ядлоўцавы куст» выклікаў 5 водгукаў у перыёдыцы. А як па мне, то змешчаная ў другім стральцоўскім зборніку лірыка была бясспрэчнай, хоць і не заўважанай асабліва Падзеяй ва ўсёй беларускай паэзіі мінулага стагоддзя. Маючы надзіва складаны характар і відавочна супярэчлівую натуру, аўтар пераважна размаўляў з самім сабой, шукаў менавіта СЯБЕ. Таму яго ў пераважнай большасці проста дасканалыя ў мастацкіх адносінах вершы такія далёкія ад тагачасных усталяваных паэтычных канонаў.

Стральцоў-паэт выдатна разумеў сваю мастакоўскую вагу. Таму, як багаты і адораны, ён досыць спакойна рэагаваў нават на факты творчага плагіяту, учыненага калегамі па пяры. Толькі адчуванне ўласнай самасцімажнасці магло нараджаць нейкую проста моцартаўскую велікадушнасць:

Бывае ўсё-такі зайздросна:
Вось ты высільваўся, пацеў,
А твой радок надзіва проста
У вершы сябра заляцеў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Дык не! Яшчэ кіёк і кайстру
Табе без жалю падае,
І не табе ўжо ён, а майстру
Хвалу і трубіць, і пяе.

Як творца выключна самабытны, ён не баяўся, што з-пад яго пяра выйдзе нейкая ДРУГАСНАСЦЬ, АДГАЛОСКІ чыіхсьці паэтычных знаходак, бо сам, бадай, у прынцыпе не быў здольны да творчага крадзяжу.

У зборніку ёсць адмысловы верш «Адгалоскі», прысвечаны Рыгору Барадуліну. Вось яго фрагмент:

Сярод пахмурнае прыроды,
Падлеглай смутку ці жальбе,
Міг нетутэйшае лагоды
Заявіць раптам аб сабе.

Нібыта сярод гэтых лужын,
Камлыжын мокрых і кустоў
Прышэсцю нейкаму ты служыш,
Якому быць гадоў праз сто.

Маю ўвагу звярнула «дзіўнае» вобразнае паяднанне-проціпастаўленне звычайнага і ўзвышанага мінулага-сучаснасці-будучыні і матыў чакання-служэння «прышэсцю».

Стральцоў-лірык быў чэсным і дастаткова далікатным, але цвёрдым і часам непрыхавана іранічным, што і засведчана ў «Экспромце»:

Святлом ад коцікаў вярбы
Мой роздум над радком атулен.
Пісаў калісьці Барадулін
Пра іх — ды мне такой журбы!

І вось надзею гарым
Над нашым столікам прытульным,
Што не падасца барадульным
Наш верш, а значыць — і старым.

А «быў час, быў век, была эпоха», калі на беларускім Парнасе, паверым таямнічаму аўтару вядомай сатырычнай паэмы, раскашавалі блазны, скамарохі, стукачы, выпівохі, аслы, пешкі, пісакі, графаманы-калуны, тарбахваты-праныры ды іншыя падобныя персанажы-стварэнні. І пры гэтым тагачасная беларуская паэзія была ўсцяж прасякнута навязлівым РЫГАРЫЗМАМ, зрэшты, як і сам цытаваны «Сказ пра Лысую гару». Рыгарыстычныя штампы дужа вольна тады мігравалі ад паэта да паэта, выкрываючы адзнакі не прафесіяналізму, а скрушнай дылетанцкасці «нававыпушчанай», як на фабрыцы, прадукцыі. Толькі адно тое, што лірыку Стральцова вызначае прынцыповая АНТЫРЫГАРЫСТЫЧНАСЦЬ, вылучае яе з агульнай масы вершаваных тэкстаў.

У апошнім прыжыццёвым зборніку Стральцова «Мой свеце ясны» (1986) уражвае сам настрой асуджанай лагоднасці-ўседаравання на фоне маштабнасці рамантычнага па сваёй прыродзе канфлікту паміж Творцам і Светам. Гэта толькі зрэдку несуцяшальны дыялог паміж імі:

— А напрасткі, што свеціць?
— Надзея… Тыя ж болькі…
— Ну, што ж, я згодны, свеце,
Падай надзею толькі!

Пераважае ўсё ж маналог-просьба, які не застанецца пачутым. Напрыклад, так ідылічна пачынаюцца «Два подступы да верша»:

Шматок паперы, карандаш,
Яшчэ — цыгарка.
Вось гэты дзень — ён будзе наш,
Навошта сварка?

Са светам згода. Пабрацім
Яму ты, свету.
Паклічу мару. Абляцім
Сваю планету.

Каб потым у наступным вершы канстатавалася:

О, гэты свет! Лагодны ён,
Ды толькі мо не для лагодных.

Паэт так і не знаходзіць адказу, чаму «свеце ясны» жорстка і несправядліва «каране дробязь, // Падзею — прыніжае».

А ўсё, здаецца, да дзіўнага проста: тады небяспечна было быць свядома АПАЛІТЫЧНЫМ. Для элементарных кар'ерных поспехаў трэба было хоць зрэдзьчасу апяваць нястомныя клопаты партыі, хай сабе і ўяўныя дабрачыннасці Леніна, сумнеўныя выгоды савецкай, у процівагу капіталістычнай, рэчаіснасці. Усе мусілі хоць вонкава прытрымлівацца строгіх нарматыўных патрабаванняў сацыялістычнага рэалізму з яго ключавымі прынцыпамі — класавасці, народнасці, партыйнасці і абавязковага гуманізму. Адсюль паўставала як кітайская сцяна вельмі насцярожанае стаўленне да любых праяў творчай самастойнасці, што нарадзіла яшчэ адну хранічную паталогію ў беларускай паэзіі 70—80-х гадоў — гэта пазёрства, ледзь не татальная схільнасць да пазіравання, што выяўляла яе сутнаснае ПРЫТВОРСТВА. Позы тагачасных прызнаных і аблашчаных паэтаў настолькі агульнавядомыя, што проста прыкра завастраць на гэтым увагу.

Цікава, што ў артыкуле «Часоў былых і новых сувязь» (1984), прысвечаным творчасці памерлага ўжо А. Пысіна, які бачыўся крытыку «нібыта ў цяню ці водбліску сваіх вершаў», Стральцоў не адмаўляў дапушчальнасць «выдумляць» ці «даўпрыгожваць» лірычнага героя ды лічыў, што часам варта дараваць такую «ману» і быць «памяркоўнымі». У гэтай сувязі паўстае пытанне: «А ці лірычны герой самага Стральцова не быў у нейкай ступені гіпертрафіраванай імітацыяй пэўных мастацкіх па сваёй сутнасці (быційных) сэнсаў, ці не быў ён лірычнай маскай?» Зразумела, няма паэтаў без так званага іміджу, але калі асноваю яго ёсць ледзь не толькі адно прыкідванне, то ці…?.. Стральцоў не ва ўсім пазбег уздзеяння гэтага ці не адвечнага творчага вірусу, але ў значнай ступені змог унікнуць яго разбуральных наступстваў па прычыне «сакрушальнай непрызнанасці» і відавочнай маргінальнасці. Таму каштоўнасць яго паэзіі яшчэ і ў НЕПАЗЁРСКАСЦІ.

У паэзіі Стральцова выразна адлюстравалася зацікаўленасць міфалогіяй і фальклорам. Асабліва на ўзроўні стылізацыі, пераймання народна-песеннага ладу і своеасаблівай творчай яго імітацыі ў вершаваным радку. І гэта не толькі ў вершах «Фальклорная экспедыцыя», «З народнага», «А ты сэрца мне…», але і ў стральцоўскім «Лесавіку», як ідэйна-тэматычнай інтэрпрэтацыі «Лесуна» М. Багдановіча. Аднак створаны аўтарам «Вянка» вобраз атрымаў ў творчасці паслядоўніка новае сэнсавае напаўненне. Або верш «Кіну, рыну — пакіну…»:

А мо на лугавіну
Я слязу пралію, —

Каб зрабілася парай
Над ракой, над ракой,
Каб здружылася з хмарай
Талакой, талакой…

У гэтых радках мы яшчэ відавочна сутыкаемся з рэмінісцэнтнымі вобразамі з верша Ф. Багушэвіча «Мая дудка»:

І выцякуць слёзы
На сухія лозы…
Выйдзе душа парай,
Падымецца з хмарай,
Туманом па рэчцы,
Расой разліецца…

Стральцоў быў аўтарам эсэ «Дудар беларускі» (1962), у якім назваў Багушэвіча «першым у шэрагу вялікіх нацыянальных паэтаў». Праўда, выпадкаў, якія прымушалі б за радкамі Стральцова міжволі прыгадаць вобразы і матывы іншых беларускіх аўтараў-папярэднікаў, мая памяць і асацыятыўнае ўспрыняцце выявілі не так і багата. Але тое, што ў творчасці яны (акрамя спецыяль-

на называных Скарыны, Міцкевіча, Коласа, Купалы і інш.) выразна прысутнічаюць — гэта бясспрэчна.

Вершы Стральцова свядома асацыяльныя. Ён разумеў, што пісаць на так званую патрэбу дня ў яго проста не атрымаецца, не дасць, не дазволіць спецыфіка паэтычнага бачання свету, грунтам якой ці дамінантамі былі шчырасць, і як вынік — камернасць, а таксама высокая культура і дасведчанасць. Вось, бадай, класічны ўзор паэтычнай дэкларацыі:

Мне звышнадзённай тэмы не падняць,
Як не пазбавіцца і лірычных трантаў.
Як барытону можна заспяваць
Напружана-задзірыстым дыскантам?

Мне так сказаць: «Я здолеў заручыць
Сябе з уласнай думкай і свой голас
Птушынай песняй здолеў надтачыць, —
Сабраў расу, якою ўмыўся колас».

Стральцоў увогуле валодаў выключнай здольнасцю эфектнага завяршэння верша. А гэта не даецца без высокай культуры думкі, слова, вобраза ў іх паяднанні. Адсюль бярэ пачатак яго эстэтызм, культ красы. Вясковасць не паходжання, а ЛАГОДНАЙ маральнасці. Адсюль жа прыземленасць, але не побытавасць светаўспрымання і яскравая канкрэтная прадметнасць вобразнасці. Як у класічным, на маю думку, вершы «Бацькаўшчына»:

З двара прыйду і сяду ля агню.
Палаюць дровы. Ссечана капуста
На градах — блаславенне дню.
Змрок у палях — там сіберна і пуста.

Узыдзе месяц позна. На парог
Я ноччу выйду. У нямым здранцвенні
Паветра, далеч. Серабрыцца лог
За сажалкай — на ім снуюцца цені.

О роднае маё! Як доўга да цябе
Ішоў я, кволы падарожнік.
О весялосць у восеньскай журбе!
Агонь.
Саган.
Вуголле і трыножнік.

Можна рацыянальна давесці, раскладаючы па драбніцах, чаму гэта высокая ПАЭЗІЯ. І справа не толькі ў адметнасці паэтычнага сінтаксісу, кампазіцыйна-сэнсавай гарманічнасці ці віртуознай перадачы ўсхваляванасці лірычнага героя. Тут няма і знаку ўскладнёнай метафарычнасці, а, наадварот, прынцыпова малююцца дакладныя, выразныя і нават прыземленыя аж да выкарыстання празаізмаў вобразы. У ідэйна-эстэтычным плане камерна, лагодна, спавядальна паэтызуюцца так званыя «натуральныя асновы» і спрадвечныя пачуцці імгненнай радасці ад судакранання са звычайным, але бязмежна родным, абыгрываецца шматзначнасць слова «бацькаўшчына», якая паўстае не як краіна, а адначасна як родны куток і спадчына. Зрэшты, можна проста ганарыцца, што такія выключныя ўзоры ёсць у нашай лірыцы. Такая простая ПРЫГАЖОСЦЬ і прынцыпова нялозунгавая ПАТРЫЯТЫЧНАСЦЬ!

У вершах Стральцова лірычнае перажыванне вельмі часта непасрэдна звязана з нейкай іншай рэальнасцю, якая НАПАЎМІСТЫЧНА паўстае з ілюзорна-мройных малюнкаў, убачаных у СНАХ. Менавіта сон і сненне выступаюць як своеасаблівы мастацкі прыём, які дазваляе лірычнаму герою «выцягваць» з падсвядомасці нешта невытлумачальнае, але надзвычай яркае і вобразнае. А яшчэ Стральцоў-паэт вельмі шмат УСПАМІНАЕ. Ён шматкроць вяртаецца ў краіну дзяцінства, што часам падаецца нейкай мастацкай ідэяй-фікс у яго эстэтычнай парадыгме. Уладзімір Мархель прапанаваў выраз «успамінальная прысутнасць», які, мабыць, вельмі стасуецца да многіх вершаў аўтара «Сена на асфальце».

Але галоўнае ўсё ж не гэтае сакраментальнае «сена», настолькі недарэчнае на гарадскім грунце, а — ДУША. Увогуле, гэта асноўны канцэпт усей паэзіі Стральцова. Банальна кажучы, творца пісаў летапіс душэўных перажыванняў свайго лірычнага героя. Душа яго і плача, і смуткуе, і трывожыцца, і злуецца… Такім чынам я прыйшоў да знешне аляпаватай высновы: Стральцоў — ДУШЭЎНЫ паэт.

Неперыферыйнымі ў мастацкім свеце Стральцова з’яўляюцца КАНКРЭТНЫЯ (ПРАДМЕТНЫЯ) вобразы дрэў, лесу, птушак, хмар, дажджу. Іх умоўная вясковасць нібы знаходзіцца ў душэўным суладдзі з гарадскімі рэкламамі, трамваямі, тралейбусамі і так далей. Гэта добра відаць у вершы «Пра конскі рынак», малюнак якога ёсць і ў

прозе Стральцова (апавяданне «Смаленне вепрука»). ІДЫЛІЧНЫЯ карцінкі вясковага жыцця і НЕРВОЗНЫЯ малюнкі гарадскога падказваюць, што Стральцоў не проста смуткаваў па вёсцы, ён хацеў вярнуцца ў маленства, каб адчуць сябе абароненым. Відавочна, «дарослы» гарадскі антураж не ўспрымаўся ім як штосьці натуральнае. Хутчэй, наадварот, варожае. Стральцоў выявіў сябе і як досыць смелы эксперыментатар: аўтарскія наватворы, лексіка абмежаванага ўжывання, дыялектызмы, празаізмы сведчаць пра творчую свабоду. Для пацвярджэння дастаткова прыгадаць верш «Хто гадаваўся ў цішы дрэў…»

На першы погляд, усё гэта — НЯДРУГАСНАСЦЬ, НЕРЫГАРЫСТЫЧНАСЦЬ, суцэльная АПАЛІТЫЧНАСЦЬ, НЕПАЗЁРСКАСЦЬ, наіўны ФАЛЬКЛАРЫЗМ, амаль наўмысная АСАЦЫЯЛЬНАСЦЬ, этычная ЛАГОДНАСЦЬ, эстэтыка ПРОСТАСЦІ, дэідэалагізаваная ПАТРЫЯТЫЧНАСЦЬ, флёр НАПАЎМІСТЫЧНАСЦІ, УСПАМІНАЛЬНАСЦЬ і ДУШЭЎНАСЦЬ, КАНКРЭТНАСЦЬ, ІДЫЛІЧНАСЦЬ і НЕРВОЗНАСЦЬ, ЭКСПЕРЫМЕНТАТАРСТВА ды іншае — настолькі кантрастуе з тагачаснай паэтычнай МОДАЙ, так цяжка стасуецца з сацыяльнымі культурнымі стэрэатыпамі, што я і прыйшоў да думкі: ГЭТА разам мусіла сягаць і быць звязана з нейкімі больш аддаленымі ў часе традыцыямі. Такому ні Тургенеў, ні Чарнышэўскі, ні, тым больш, Астроўскі, згаданыя ў «Сене на асфальце», «навучыць» не маглі. І падказку даў наступны верш пасля «Бацькаўшчыны», змешчаны ў «Выбраным», — «Купала». Ён пачынаецца так:

У Анны у Андрэеўны Ахматавай
Ёсць невялікі вершык — ён пра тое,
Як Муза ёй з’явілася аднойчы
У пастушковых строях і з жалейкай.

Мне было цалкам зразумела, што ў Ахматавай проста жыве амаль уваскрашоны Дзяржавін. Каго ж уваскрашаў у такім выпадку Стральцоў? Ён і яго пагодкі «ўваходзілі» ў літаратуру не проста ў перыяд грамадска-палітычных пераасэнсаванняў пасля ХХ з’езда КПСС, а ў час кардынальных псіхалагічных і культурна-арыентацыйных змен у асяроддзі інтэлігенцыі ўсяго СССР. Здаецца, СНЫ Стральцова можна тлумачыць у стылі Ахматавай і яе ж кандовым радком — «Мне голас быў». З творчасцю паэткі стральцоўскую паэзію лучыць дзённікавасць, інтанацыі прароцтва, якія не характэрны для Стральцова, але ёсць. Менавіта Ахматава, як падказка, падштурхнула пацікавіцца: «Каго ж чыталі так званыя “дысідэнствуючыя” інтэлігенты ў 70—80-я гады?»

Сёння з гэтым няма ніякіх праблем. Заходжу ў Google: «Узнікненне савецкага самвыдату паслясталінскай эпохі ў значнай ступені звязана з мастацкай літаратурай, забароненай у СССР не па палітычных, а па эстэтычных прычынах. Так, Ліліяна Лунгіна прыгадвае: “Таму што кнігі найвялікшых рускіх паэтаў дваццатага стагоддзя не перавыдаваліся і іх імёны былі выкраслены з гісторыі культуры, Леанід Яфімавіч Пінскі ўзяў на сябе ініцыятыву адшукаць старыя кніжкі ці замежныя факсімільныя перавыданні, каб зрабіць копіі. Вершы Цвятаевай, Мандэльштама, Гумілёва, Хадасевіча перадрукоўвалі на машынцы ў чатырох экзэмплярах, а то і перапісвалі ад рукі, перапляталі ў маленькія брашуркі і іх перадавалі адно аднаму. Многія з нашых сяброў працягвалі гэты прыклад”».

Цытаваны верш «Бацькаўшчына» з яго ссечанай капустай, градамі, саганом, вуголлем і трыножнікам наводзіць на думку пра эстэтычную блізкасць да вынаходак акмеістаў, найперш рускіх, пачатку ХХ стагоддзя. Якраз у 60-я гг., калі Стральцоў фарміраваўся і шукаў уласны паэтычны голас, былі вернуты ў літаратурны кантэкст творы Гумілёва ды іншых вядомых паэтаў Сярэбранага веку. Паэзія Стральцова, як і колішніх акмеістаў, больш арыентавалася не на музычнае, а на жывапіснае: у ёй дамінавала імкненне да перавагі графічнай акрэсленасці вобразаў.

Што зрабіў Стральцоў як паэт? І што ён меркаваў зрабіць як крэатыўны творца ў перыяд знешне абсалютна прыстойна-квітнеючай беларускай лірыкі 70—80-х гадоў? Чаму ён настойліва не прыслухоўваўся да парад аўтарытэтаў і нязменна ў гэты перыяд аддаваў перавагу ўсё ж паэзіі? Вельмі про-

стае тлумачэнне ёсць у некаторых успамінах яго сучаснікаў. Паводле іх вынікае, што з-за ўласнай побытавай неўладкаванасці і залежнасці ён проста не мог сабе дазволіць доўгі час патраціць на нейкі канкрэтны празаічны твор. Вершы ж справа іншая… Як вядома, яны пішуцца або не пішуцца. Але калі пішуцца, то гэта як выдых паветра. Яны не патрабавалі часу. У такой інтэрпрэтацыі ёсць выразная рацыянальная логіка. Але такая логіка наўрад ці можа лічыцца ва ўсім стасоўнай да канкрэтнага чалавека і канкрэтнай сітуацыі. Мне падалося, што Стральцоў як паэт ад зборніка да зборніка імкнуўся ўвасобіць своеасаблівую звышзадачу: хацеў рэалізаваць на беларускай мове здабыткі эстэтычнага досведу і патэнцыялу найперш рускай паэзіі Сярэбранага веку. У тым ліку, па сутнасці, рэпрэсаваныя і ацэненыя як варожыя для сацыялістычнай рэчаіснасці знаходкі паэтаў-акмеістаў — расстралянага ў 1921 годзе Гумілёва і яго кола. Акмеісты сталіся сапраўднай, хоць і кароткатэрміновай для рускай паэзіі эвалюцыйнай прыступкай, якую беларуская паэзія ў 20-я гады спрабавала не пераскочыць. Але ж рэпрэсіі… З сумам трэба прызнаць, што пазней, у сітуацыі пасляваеннага вакууму, далёка не кожны з нашых паэтаў, нават надзеленых вялікім талентам, мог зразумець, што грамадзянскай літаратуры ёсць альтэрнатыва, ёсць іншыя варыянты адлюстравання рэчаіснасці ўвогуле. Мне здаецца нават, што на гэта здольны былі толькі адзінкі, надзеленыя ад прыроды выключным эстэтычным густам. Міхась Стральцоў якраз і быў тым, каго ёсць падставы залічыць да гэтай малалікай катэгорыі.

Напрыканцы жыцця, у 1985 г., Стральцоў напісаў артыкул «Паклон з дарогі», прысвечаны паэзіі Уладзіміра Хадыкі. Падаецца, што зварот і ўвага да творчасці менавіта гэтага паэта-папярэдніка былі невыпадковымі. Яшчэ А. Луцкевіч, заўважыўшы сутнасць хадыкаўскай лірыкі, адзначыў: «…Усё ж дух у яго — дух вяскоўца, і туга палёў нашых неадступна сцелецца па слядах ягоных». Тое ж самае з поўным правам можна сказаць і пра Стральцова, які, пішучы пра лірыку Хадыкі, нібы характарызаваў і ўласную вершатворчасць. Напрыклад: «Быў сапраўдны лірык, чалавек, падлеглы “высокой болезни” споведзі і суперажывання, і гэтае Пастэрнакава азначэнне паэтычнага стану надзвычай да яго пасуе, паэта, які не праміную, дарэчы, вопыту лірычнай шліфоўкі чалавечых перажыванняў у вершах»; «Менш за ўсё спакушаўся воклічным, публіцыстычным выражэннем балючай для яго тэмы. З яго вершаў пачатку трыццатых гадоў паўстае складаная гама пачуццяў чалавека, які не бяздумна перажывае “вялікі пералом” у вясковым жыцці, усё яшчэ блізкім яму, ужо гараджаніну, — тут і спроба задушыць у сабе ўспамін пра вёску... і знарочыстая гаворка пра вёску як пра нешта пераадоленае, пазбытае…»; «…па спосабе рэалізацыі сваіх паэтычных уяўленняў і адчуванняў быў найперш лірыкам, менш за ўсё схільным да адкрытых публіцыстычных трансфармацый сваіх разваг пра час у нейкую ўскладнёна-жанравую, сюжэтную сістэму…» «Лірычная шліфоўка чалавечых перажыванняў у вершах», як і «добра відочная спрэчка з самім сабой і са сваімі настроямі і пачуццямі» — якраз і ёсць найбольш дакладныя фармулёўкі, якія я доўга шукаў, пішучы пра Стральцова і «задумваючыся над пасмяротным лёсам ягонага радка».

Такім чынам, падсумоўваючы… Нават сумняваюся, што і сказаць. Меў намер гаварыць толькі пра паэзію Стральцова… А ў выніку «матэрыял» размыў форму: атрымалася размова не строга пра вершы, а як давялося-далося іх інтэрпрэтаваць. Уяўляю, што без агульнага разумення-сінтэзу не магла атрымацца канцэптуальная гаворка. Але ж аналіз ледзь не кожнага верша Паэта вымагае і патрабуе, вялікай і асобнай крытычнай працы. Тым не менш па прачытанні стральцоўскай творчай спадчыны, а гэта ўсяго толькі подступы, склалася такое бачанне-тлумачэнне: лірычны герой жыве па законах хваравітай (канфліктнай) рамантычнай ДУШЫ залатога веку рускай, затым краёвай (Міцкевіч) паэзіі, вобразная рэалізацыя ў канкрэтных паэтычных прыёмах і спосабах (што называюць — тэхнікай) адпавядае іранічна-інтэлектуальна-пачуццёвай практыцы аўтараў Сярэбранага веку ці так званай дэкадэнцка-мадэрнісцкай

лірыкі пачатку XX стагоддзя (у тым ліку і Багдановіча), канкрэтны ж матэрыял і жыццёвыя рэаліі вынікалі з беларускай этнасацыя-культурнай рэчаіснасці і мастацкай традыцыі, якую ён разбураў і трансфарміраваў, адпаведнага перыяду нашай гісторыі. І апошні чыннік найбольш істотны ў феномене Стральцова. Перапявалаў лёгка, спакойна і колькі хочаш прадукуе жалезны закон літаратурнай індустрыі. А вось інтэгратараў, канцэнтратараў эстэтычнага вопыту, натуральна пераваранага і ўвасобленага ў нацыянальныя па духу літаратурныя творы, нараджае толькі наканаванасць, Аднаго з тысячы, калі пашанцуе — з некалькіх соцень.

Дзіўна, але разам з тым гэта факт. Выступіўшы з апалогіяй паэзіі Стральцова, я змушаны прызнаць, што і «Сена на асфальце» і «Смаленне вепрука» ў большай ступені закранаюць і раскрываюць этна-культурныя архетыпы беларусаў. Сапраўды найшчыльней звязаны з нашай ментальнасцю. А сны і фантазіі ў вершах Стральцова ў гэтым сэнсе значна менш каштоўныя. Можа быць! Можа быць!

Аднак упэўнены, што Стральцоў-паэт роўнавялікі Стральцову-празаіку.

* * *

Чаму я не назваў гэты артыкул «Слова пра Стральцова?» Таму, што меў намер пісаць пра Стральцова — Паэта, і паэта з вялікай літары. Ён не вершаваў, не рыфмаваў, а выліваў з аголенай душы свае выпакутаваныя вершы. І гэта быў пратэст супраць тагачаснай масавай вepisode вершатворчасці, у пераважнай большасці якой дамінаваў уяўны клопат пра глабальныя грамадскія праблемы, дылетантызм, творчая безадказнасць, вобразная ўбогасць, а ў некаторых, асабліва рускамоўных аўтараў, проста нішчымны маньерызм. І, папраўдзе, крыўдна, што і сёння некаторыя тагачасныя трубадуры сацыяльнай замовы, пошлыя графаманы, бесталанныя метафарысты, траскучыя рэзанёры і ўвішныя фразёры ўганараваны «званнем» «буйных» беларускіх паэтаў 60—80-х гадоў мінулага стагоддзя, а сапраўдны ПАЭТ часу, Эпохі, дагэтуль знаходзіцца ў засені напаўзабыцця.

Вельмі спадзяюся, што ў найбліжэйшы час творчая спадчына Міхася Стральцова нарэшце будзе перавыдадзена цалкам — у выглядзе «Збору твораў». І пра гэта трэба пашчыраваць як прамым нашчадкам, так і выдавецтву «Мастацкая літаратура».



Ірына ЗАНЕЎСКАЯ

# ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА

***Тысячагадовая гісторыя беларускага народа, землі якога знаходзяцца на скрыжаванні галоўных еўрапейска-азіяцкіх шляхоў, нікога не пакідае абыякавым. За гэты гістарычны перыяд беларусы перажылі столькі войнаў і навал, спусташэнняў і акупацый, што іх хапіла б на тое, каб сцерці з твару зямлі і сам народ, і нават памяць пра яго. Але заўсёды з асяроддзя нашых продкаў з'яўляліся людзі — манархі, нобілі, рыцары, якія ўзначальвалі лёсавызначальныя бітвы і перамагалі ў самых, здавалася б, безвыходных сітуацыях. Людзі, якія сваім жыццём і грамадскай дзейнасцю не адзін раз даводзілі, што роля асобы ў гісторыі — адна з галоўных і важных. Сёння мы пагаворым пра славутага сына нашай Бацькаўшчыны — Вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага — Альгерда.***




*Вялікі князь Літоўскі Альгерд на фоне Лідскага замка. Літаграфія мастакоў Валянціна і Ліліі Варэнцаў.*

## ДУМАЎ ПРА СВАЁ КНЯСТВА І НАРОД, СЛУЖЫЎ ІМ

Князь Альгерд быў сынам Гедыміна, заснавальніка новай дынастыі ў Вялікім Княстве Літоўскім і Рускім. У маладосці ён атрымаў ад бацькі Крэўскае княства, а пасля жаніцьбы з віцебскай князёўнай Марыяй Яраслаўнай — і Віцебскае. Дагэтуль маладыя жылі ў Мажайску. Горад, верагодна, перайшоў да Альгерда ў спадчыну ад маці, смаленскай княгіні Вольгі, сястры полацкага князя Івана Усеваладавіча. Вольга была другой жонкай Гедыміна і нарадзіла яму ў 1296 годзе Альгерда, а пазней Кейстута. Вядомы храніст Мацей Стрыйкоўскі кажа пра братоў, што яны сваім выхаваннем і адукацыяй, норавам, прыгажосцю і рыцарскай адвагай пераўзыходзілі іншых сыноў вялікага князя. Прыйдзе час, і менавіта Альгерд з Кейстутам стануць вызначаць палітыку Вялікага Княства Літоўскага, узначаляць абарону сваёй дзяржавы і далучаць да яе новыя землі.

Але пакуль Альгерд знаходзіўся ў цені свайго бацькі і выконваў яго загады. Увесну 1327 года Альгерд прывёў ліцвінскае войска на дапамогу польскаму каралю Лакетку і дайшоў да Франкфурта-на-Одэры. Удзельнічаў ён і ў бітвах з крыжакамі. І толькі ў 1342 годзе пачаў сваю дзейнасць як самастойны валадар. У гэты час да яго звярнулі-



*Ваяры Вялікага Княства Літоўскага. Гравюра XVI ст.*

ся пскавічы па дапамогу супраць лівонскіх рыцараў, якія захапілі Пскоўскія землі і асадзілі Ізбарск. Альгерд і Кейстут са сваімі дружынамі падышлі да Ізбарска. Але ўступаць у бой з крыжакамі не спяшаліся, хаця ізбарцы і прасілі іх пра дапамогу. Гэта выклікала незадавальненне пскавічоў. Тым не менш, пасля дзесяці дзён аблогі лівонцы адступілі ад горада. Манах-летапісец растлумачыў гэта як адзін з цудаў Святога Мікалая. Разгадка ж была ў тым, што Альгерд паслаў у Лівонію тры атрады сваіх ваяроў, якія і пачалі спусташаць ордэнскія землі. Зразумела, што крыжакам было ўжо не да Ізбарска, яны кінуліся ратаваць Лівонію. Так без асаблівых страт Альгерд вызваліў Пскоўшчыну.

Альгерд быў разважлівым і празорлівым, стрыманым у пачуццях. Калі жыццё ішло супраць яго, то дзейнічаў асцярожна і хітра. Мог доўга чакаць свайго часу, а калі той надыходзіў, ён не вагаўся ні хвіліны, дзейнічаў рашуча і імкліва. У вялікай таямніцы хаваў свае думкі і намеры. Пра яго вайсковыя паходы не ведалі да апошняга ні свае, ні чужыя. А рабіў так, каб не дайшла вестка да той зямлі, на якую *«ішоў рацю»*. Дзякуючы такой хітрасці, заваяваў ён многія землі, многія гарады і краіны *«зняволіў»*. Не радаваў сябе ні ўцехамі, ні віном, ні півам, ні мёдам і ніякім напоем хмельным, а думаў пра сваё княства і народ, служыў ім. Так апісваюць князя ў летапісах сучаснікі. Такім апісвалі яго нямецкія храністы: *«...Князь мае велічны выгляд; твар ягоны румяны, выцягнуты, нос выдаецца, вочы блакітныя, вельмі выразныя, бровы густыя, светлыя, валасы і барада светла-русыя з сівізною, лоб высокі, чало лысае, рост вышэй за сярэдні, ні тоўсты, ні хударлявы, гаворыць голасам гучным, выразным і прыемным; цудоўны вершнік, але пры хадзе кульгае на правую нагу, таму звычайна абапіраецца на трасціну або на отрака; па-нямецку разумее выдатна і можа вольна размаўляць па-нашаму, аднак заўсёды гаворыць з намі праз перакладчыка»*.

Тым не менш, не Альгерду і не Кейстуту перадаў Гедымін вялікакняскі пасад, а Яўнуту, сыну ад трэцяй жонкі, полацкай княжны Евы. Астатнія браты не прызналі ўлады вялікага князя і правілі самастойна сваімі ўдзеламі. Чатыры гады пасля смерці Гедыміна ў Вялікім Княстве было спакойна, не турбавалі і знешнія ворагі. Толькі спакой гэты выявіўся падманлівым. Ордэн вырашыў, што надышоў зручны момант нанесці Княству рашучы ўдар: яно раз’яднана на ўдзелы, і вялікі князь згубіў рэальную ўладу. Вось тады Альгерд і Кейстут аб’ядналіся і скінулі з вялікага пасада Яўнута. *«Евнутий не бяшеть храбръ, а держит стольный градъ Вильно»*. У 1345 годзе браты рушылі на Вільню і захапілі горад. Летапісы кажуць, што Яўнут збег у адным кажушку ў лес, але яго злавілі і пасадзілі за краты. Уладу над горадам Кейстут перадаў Альгерду: *«Тобе подобаеть княземь великим быти у Вильни, ты стареший брать, а я с тобою за одно живу»*. Сам Кейстут княжыў *«волею своею на княстве Троцкім»*, у склад якога ўваходзілі Жамойція, Аўкштайція, Гарадзенская і Брэсцкая землі, Падляшша. А Альгерд *«...в Вильне на Великом князстве Литовском и Русском поновал»*. Яўнут жа атрымаў ва ўладанне Заслаўе, ад яго і пайшлі князі Заслаўскія і Мсціслаўскія.

## НЕ ТАК СІЛАЮ, ЯК РОЗУМАМ ВАЯВАЎ

На гэтыя часы прыпадае і пік крыжацкіх паходаў на нашу старажытную дзяржаву. Але тут Ордэн сустрэў рашучы адпор. Пакуль крыжакі безвынікова абклалі адзін з замкаў Аўкштайціі, Альгерд уварваўся ў Прусію. Рыцары Ордэна знялі аблогу і паспяшаліся на абарону сваіх уладанняў. Альгерд нечакана змяніў кірунак свайго паходу. Па марскім беразе прывёў свае войска ў Куронію і напаў на лівонскіх рыцараў. Тым самым вялікі князь даў зразумець, што на вялікакняскі пасад у Вільні сеў хітры і разважлівы, смелы і асцярожны, рашучы і адначасова цярплівы ўладар. Уражвае яго рэдкая актыўнасць. Альгерд са сваім войскам з'яўляецца то ў Прусіі, то ў Лівоніі, то пад Псковам, то пад Масквою, то ў Крыме, то на Падоліі, то на Валыні. Яго дзейнасць ахоплівае амаль усю Усходнюю Еўропу.

Шмат намаганняў Альгерд накіраваў на тое, каб пашырыць межы Беларуска-Літоўскай дзяржавы на Усходзе. У часы кіравання гэтага князя ў яе склад увайшлі: Мсціслаўская зямля, Чарнігаўскае і Ноўгарад-Северскае княствы, гарады Старадуб і Бранск. Такім чынам, тут быў ліквідаваны мангола-татарскі прыгнёт. Далучыліся да ВКЛ і княствы ў вярхоўях ракі Акі. Адначасова князь паспяхова змагаецца з Польшчай і Уладзімірскім княствам. Беларускія ваяры пад Альгердавым кіраўніцтвам даходзілі да Масквы, якая яшчэ знаходзілася ў складзе мангола-татарскай дзяржавы і афіцыйна лічылася Маскоўскім улусам Вялікай Арды. Яны тройчы разбівалі маскоўскае войска — у 1368, 1370 і 1372 гадах. Падчас аднаго з такіх паходаў Альгерд узяў з маскоўскага князя Дзмітрыя Іванавіча, пазней названага Данскім, вялікі выкуп. Як сведчыць летапіс, *«дары многія, незлічона золата, серабра, жэмчугу, сабалёў»*. Тады ж князь сказаў і векапомныя словы: *«Хоць я з табой і памірыўся, але хачу яшчэ тую славу сабе ўчыніць, што вялікі князь Альгерд дзіду сваю пад Масквою прыкланіў»*. І сеўшы на каня, пад'ехаў да гарадской сцяны і прыставіў да яе дзіду, сімвалізуючы тым поўную перамогу.

Але найбольшага поспеху Альгерд дамогся ў вайне з татарамі. А дакладней падчас бітвы каля ракі Сінія Воды, левым прытоку Паўднёвага Буга, што пазней стала называцца Сінюхай. На жаль, гэтая бітва, папярэдніца Кулікоўскай перамогі, цяпер амаль забытая. Беларусы, продкі якіх здабывалі славу першага трыумфу над татарскай ардой, пра Сінія Воды, бадай, нічога не ведаюць. Між іншым, менавіта тут у 1362 годзе татары пацярпелі першую буйную паразу ў Еўропе, якая і вызначыла канец іх уладарання на ўсходнеславянскіх землях.

Вялікі князь Альгерд выступіў супраць татарскіх орд з трыццацітысячным войскам, да якога далучылася рушэнне з Кіеўшчыны ды Валыні. Каб у генеральнай бітве разграміць сілы татар, Альгерд пастанавіў ісці ўглыб іх уладанняў. З Беларусі ён прывёў войска ў Кіеў, якое і стала асноўным у паходзе. Далей на поўдзень пачыналася тэрыторыя, падуладная Ардзе. Альгерду працістаялі злучаныя сілы трох татарскіх орд — Крымскай, Перакопскай і Ямбалуцкай. Яны кантралявалі тэрыторыю на поўнач



*Крыжацкая навала. Сучасная рэканструкцыя падзей.*



*Конны ваяр Масковіі.*
*Нямецкая гравюра XVI ст.*

ад Чорнага мора, а ў гэты час яшчэ і Падолію, з насельніцтва якой збіралі даніну. У Кіеве ў гэты час княжыў васальна залежны князь Фёдар, які атрымаў ярлык на княжанне ад Залатой Арды, ён, як і маскоўскія вялікія князі, збіраў даніну з насельніцтва і аддаваў яе сваім гаспадарам — татарскім уладарам. Такія былі ўмовы «кантракта» на княжанне.

Глыбокай восенню харугвы Вялікага Княства пакінулі Кіеў ды накіраваліся ў заходнія землі Падоліі, насустрач татарам. Татары паставілі сваё войска ў тры палкі, якімі кіравалі султаны Кутлубук, Качыбей і Дзмітр, — *«отчычы і дзедзічы Падольскай зямлі»*. Альгерд жа размеркаваў свае харугвы ў шэсць палкоў так, каб яны ўтваралі як мага глыбейшую лінію абароны. Адным з палкоў камандаваў яго сын Уладзімір. Наваградскімі палкамі камандавалі князі Карыятавічы, пляменнікі Альгерда. Галоўным было не дазволіць праціўніку скарыстаць тактычныя перавагі, дзякуючы якім татары звычайна перамагалі ў палявых бітвах: разбуралі шыхты цяжкіх харугваў атакай па ўсім фронце, а потым імкліва заходзілі на флангі і ў тыл, што і вызначала зыход сечы. Але толькі не гэтым разам.

У «Хронiцы польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі» М. Стрыйкоўскага чытаем: *«А Літва з русінамі адразу з шаблямі ды дзідамі наскочылі на татараў і ў рукапашным баі прарвалі пярэднія шэрагі ды змяшалі ім шанцы паўколам, а іншыя, асабліва навагародцы з Карыятавічамі, з самастрэлаў са стрэламі наскочылі з бакоў і доўгімі дзідамі скідалі іх з сёдлаў, як вецер снапы ў навальніцу. Не могшы дольше вытрымаці лабавога націску літвы, татары пачалі мяшацца і перапужаныя ўцякаць у палі. На пабоішчы засталіся забітыя тры іх царыкі: Кутлубах, Качыбей і султан Дзімейтэр, ды разам з імі шмат мурзаў і ўланаў»*.

Бітва каля Сініх Водаў, у якой асабліва вызначыліся наваградцы, мела вялікае палітычнае значэнне. Разгром аб’яднаных татарскіх сіл каля Сініх Водаў стаў першай буйной перамогай над ардынцамі ва Усходняй Еўропе. Падуладная татарам тэрыторыя ажно да вусцяў Дняпра, Днястра і нізоўяў Паўднёвага Буга перайшла пад кантроль Вялікага Княства Літоўскага. Украінскія землі Падолля, Валыні і Кіеўшчыны, а таксама Чарнігаўшчына, былі вызвалены і трывала ўвайшлі ў склад нашай дзяржавы, пасля чаго, зразумела, перасталі плаціць даніну Ардзе. Да таго ж, поспех Альгерда каля Сініх Водаў падрыхтаваў другую вялікую перамогу над татарамі — разгром хана Мамая на Куліковым полі ў 1380 годзе.

## «...СТАРЫНЫ НЕ РУХАЕМ І НАВІНЫ НЕ ЎВОДЗІМ»

Але не толькі вайсковыя перамогі прынеслі славутасць Альгерду. Вялікі князь праводзіў палітыку ў інтарэсах беларускіх феадалаў, кіруючыся прынцыпам: *«Мы старыны не рухаем і навіны не ўводзім»*. Ранейшае самакіраванне беларускіх зямель захоўвалася, а намеснікі вялікага князя ў Полацкай, Віцебскай, Кіеўскай і іншых землях прызначаліся соймамі (з’ездамі) мясцовых феадалаў. У параўнанні з часамі панавання Гедыміна, роля беларусаў у кіраванні дзяржавай яшчэ больш узрасла. Развіваліся гаспадарка і куль-

тура, беларуская мова ўмацоўвалася як дзяржаўная, яна была мовай справаводства і вялікакняскага двара. Па-беларуску пісаліся шматлікія акты, граматы, статуты… На беларускую мову перакладаліся аповесці рэлігійнага зместу, ствараліся жыціі і «Хаджэнні» ў Палесціну і Царград. Самым значным жанрам беларускай літаратуры заставаліся летапісы і хронікі, якія былі люстэркам грамадска-палітычнага жыцця тагачаснай Беларусі.

Пашыраўся ўплыў праваслаўнай царквы. Альгерд пасля смерці першай жонкі ўзяў у 1350 годзе шлюб з цвярской князёўнай Ульянай Аляксандраўнай, што замацавала яго сувязі з рускімі княствамі. Дзеці Альгерда, а ад двух шлюбаў у яго нарадзілася дванаццаць сыноў і дзевяць дачок, былі праваслаўнымі. Толькі некаторыя з сыноў пасля Крэўскай уніі 1385 года з Польскім Каралеўствам перайшлі ў каталіцтва. Старэйшыя Альгердавічы ад першага шлюбу, пяць сыноў і тры дачкі, насілі выключна праваслаўныя імёны. Дзеці ад другога шлюбу таксама былі праваслаўнымі, але па волі бацькі насілі імёны з язычніцкіх часоў, хаця мелі і праваслаўныя. Да прыкладу, сын Альгерда ад другога шлюбу Ягайла называўся Якавам. Альгерд гэта зрабіў з палітычных меркаванняў. Старэйшыя сыны прызначаліся на ўдзелы ў беларускіх і нават рускіх землях. А малодшыя павінны былі атрымаць удзелы ў заходняй частцы дзяржавы. Так меркавалася захаваць дзяржаву ў руках адной дынастыі. Апроч Ягайлы сярод сыноў Альгерда, якія ў будучым адыгралі не апошнюю ролю ў гісторыі нашай дзяржавы, былі Свідрыгайла і Скіргайла. Але ўсе дзеці карысталіся ў сваім асяроддзі беларускай мовай. Той жа Ягайла, які разумеў літоўскую мову, гаварыў па-беларуску. Нават у першыя гады свайго панавання каралём Польшчы ён прынцыпова размаўляў з вяльможамі ў Кракаве па-беларуску.

Жыццёвы шлях Альгерда скончыўся ў 1377 годзе. За часы Альгерда Вялікае Княства стала яшчэ больш моцным палітычна і эканамічна, у гарадах краіны развіваліся гандаль і рамёствы; беларускае праваслаўе пазбавілася моцных маскоўскіх уплываў, займеўшы мітраполію, падпарадкаваную толькі канстанцінопальскаму Патрыярху. Ці быў сам Альгерд праваслаўным? Літоўскія гісторыкі сцвярджаюць, што ён заставаўся язычнікам. Ёсць апісанне Яна Длугаша пра



*Татарскія ваяры.*
*Нямецкая гравюра XVI ст.*

пахаванне Альгерда згодна з язычніцкім абрадам: спальванне нябожчыка каля Замкавай гары ў Вільні. Але паводле меркавання вядомага расійскага гісторыка XIX ст. С. Салаўёва, які абапіраўся на звесткі з рускіх летапісаў, перад смерцю Альгерд у 1377 годзе пастрыгся ў манахі, узяўшы імя Аляксей замест свайго хроснага імя Аляксандр. Гэтыя факты цалкам супадаюць з асноўнымі кірункамі ўсходняй палітыкі Альгерда.

У выніку падчас панавання Альгерда тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага павялічылася больш чым удвая, яно зрабілася найбольшай і наймагутнейшай дзяржавай сярэднявечнай Еўропы. Альгерд быў не толькі выдатным ваяром, але і мудрым дзяржаўным дзеячам, меў дыпламатычныя здольнасці, набыў славу выдатнага будаўніка дзяржавы, які дбаў не толькі пра яе моц, але і пра далейшы росквіт. Летапісы адзначалі, што гэты князь ***«не так сілаю, як розумам ваяваў».*** Вайсковыя і палітычныя заслугі Альгерда прызнавалі крыжакі і маскоўцы, палякі і татары.

*Леанід ЛАЎРЭШ*

# ПРАЎДУ Ў ЯМІНУ НЕ ЗАКАПАЕШ, АБО ШУКАЙЦЕ І ЗНОЙДЗЕЦЕ



***4 жніўня 1392 года было заключана Востраўскае пагадненне. Падпісалі яго з аднаго боку кароль польскі Уладыслаў, ён жа Вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Ягайла, і ягоная жонка — польская каралева Ядвіга, з другога боку — князь гарадзенскі Вітаўт і ягоная жонка Ганна. Яны дамовіліся спыніць міжусобную вайну. Вітаўт стаў фактычным уладаром Вялікага Княства Літоўскага. Пагадненне паклала канец братазабойчай вайне, прывяло да разгрому крыжакоў на палях Грунвальда і дазволіла Вялікаму Княству Літоўскаму неўзабаве дасягнуць найбольшага росквіту і магутнасці.***

*Вітаўт Вялікі, літаграфія XIX ст., паводле старажытнага партрэта.*

* * *

Пагадненне было заключана ў маёнтку Востраў (Ostrów, Ostrowo). Але да гэтага часу лакалізацыя гэтага маёнтка выклікае спрэчкі сярод краязнаўцаў і гісторыкаў. Ёсць нават меркаванне пра тое, што яно адбылося пад Люблінам у населеным пункце Востраў-Любельскі. Аўтар, працуючы з «Дзеямі народа Літоўскага» Тэадора Нарбута, знайшоў інфармацыю пра месца, дзе знаходзіўся Востраў. Вялікі гісторык дае дакладную і дастатковую інфармацыю. У пятым томе «Дзеяў...» Нарбут піша: «Востраў, у павеце Лідскім, на захад ад Ліды недалёка Мыто, за левым берагам ракі Дзітва, раней уласнасць скарбу літоўскага, дзе быў вялікі палац і да гэтага часу фундамент і склепы захаваліся, гарод меў памер 9 моргаў, у апошнія часы належала да Тадэвуша Нарбута, Падкаморага Лідскага. Зараз, пасля здрабнення праз exdywizye, ёсць невялікім фальфаркам, які належыць да паноў Міхалоўскіх». Патлумачу лацінскі юрыдычны тэрмін. У Літве існаваў закон, па якім у выпадку неплацежаздольнасці даўжніка, яго маёмасць не прадавалася з аўкцыёну, але дзялілася на часткі адпаведна ліку крэдытораў.

«За левым берагам» — гэта адносна вёскі Мыто. Такім чынам маем, што Востраў знаходзіўся на левым — лідскім беразе Дзітвы. У кнізе Чэслава Малеўскага «Роды шляхецкія на Літве ў XIX веку. Лідскі павет» чытаем, што панам Міхалоўскім, сярод іншага належаў Востраў (1832—1845 гг.) з вёскай Янцавічы — 350 дзесяцін, 40 душ мужчынскіх, 35 жаночых, у 1845 г. Лідская парафія.

Неабходна дадаць, што ў польскім «Слоўніку геаграфічным» таксама прысутнічае фальварак Востраў Міхалоўскіх у вясковай

акрузе Сукурчы. Паколькі Сукурчы знаходзіліся прыкладна ў адным кіламетры ад Янцавіч і Вострава, то гэта яшчэ адно ўказанне на месцазнаходжанне легендарнага маёнтка.

І ў расійскім спісе населеных пунктаў 1904 г. маёнтак Востраў на рацэ Крупка належыць Міхалоўскім. Там жа, на рацэ Крупка, фігуруе яшчэ і засценак Востраў, які належыць Гейштоўтам, а Гейштоўты — вядомы разгалінаваны шляхецкі род Лідчыны герба Гейш. Трохі на поўдзень, па рацэ Дзітва, была вялікая ваколіца Гейштоўты. Ужо той факт, што назва засценка адрозніваецца ад прозвішча гаспадара, сведчыць пра тое, што засценак быў набыты. Чэслаў Малеўскі таксама не піша пра тое, што Гейштоўты валодалі гэтым засценкам у XIX ст. Безумоўна, што засценак — частка здрабнелага маёнтка Востраў. Астатнія населеныя пункты Лідскага павета з назвай Востраў: на рацэ Жыжма пад Васілішкамі, каля Дубіч і іншыя, у нашым кантэксце цікавасці не маюць. Таксама ў спісе польскага бізнесу 1929 г. фальварак Востраў Лідскай гміны належыць Міхалоўскім.

Далейшы пошук працягваўся па картах. Прыцягвае ўвагу ўнікальная праца Тадэвуша Новака «Вобраз Лідчыны на мапах XVI—XVIII стст.». Прааналізаваны 25 старажытных карт і складзена зводная табліца ўсіх населеных пунктаў Лідчыны, якія прысутнічаюць на старых картах. Надрукаваны іх копіі. Але ж Востраў там адсутнічае. Няма такога населенага пункта нават на дастаткова падрабязных Радзівілаўскіх картах працы Макоўскага 1613 і 1633 гг.

На нямецкай карце 1913 г., што з'яўляецца перадрукам з 1893 г., каля Янцавіч абазначаны фальварак Востраў. Далейшы пошук вывеў на польскую тапаграфічную карту 1929 г. На ёй Востраў азначаны, і назва падаецца на польскі манер: «Fw. Ostrowo». Параўнанне розных карт дазволіла прыйсці да высновы, што на тапаграфічнай карце 1983 г. на месцы Вострава абазначана купка дрэў.

* * *

Пасля знаходжання маёнтка на карце, паўстала задача знайсці яго на мясцовасці. Таму перад паездкай я паразмаўляў с Юзафам Хрулём, 1929 г. нараджэння, шляхцічам герба Праўдзіц. Ён — сын апошняга ўладальніка фальварка Воўкавічы, які знаходзіцца каля сямі кіламетраў на поўдзень ад Вострава. Юзаф Юзафавіч адразу сказаў, што добра ведае такі фальварак. Гэта быў адзіны пункт з падобнай назвай у ваколіцах Ліды, калі рухацца ў бок Мыто. Апошні ўладальнік гістарычнага месца — Барташэвіч. Гаспадар пакінуў свой фальварак у 1939 г. і апошні раз з'явіўся на Лідчыне ў сярэдзіне 1950-х гадоў, каб паглядзець, што сталася з яго маёмасцю. Фальварак быў добра бачны з боку Крупава як зялёны сад з домам і пабудовамі. З кнігі Ч. Малеўскага «Роды шляхецкія на Літве ў XIX веку. Лідскі павет» бачна, што Барташэвічы — вялікі і разгалінаваны шляхецкі род Лідскага павета гербаў Бонча і Самсон. Самае цікавае, што ў 1835 г. Барташэвічам належалі Кербедзі, якія мяжуюць з Востравам. Верагодна, таму Барташэвічы і купілі занядбаны маёнтак. Улічваючы, што яшчэ ў 1929 г. фальварак належаў Міхалоўскім, а да Барташэвічаў ён перайшоў у 30-я гады XX ст., можна зрабіць выснову: Міхалоўскія валодалі ім больш як 100 гадоў.



*Уладыслаў Ягайла. Невядомы мастак, XVII ст.*

Разам з Юзафам Юзафавічам выехалі ў Янцавічы. І першы ж жыхар вёскі Янцавічы адразу згадзіўся правесці нас да Вострава. Тапонім з такой назвай жыве да нашага часу! Жыхары Янцавіч і цяпер памятаюць, што ўладальнікамі Вострава былі Міхалоўскія. А Барташэвіча ўжо не ўзгадваюць. Мясцовы жыхар — Франц Ткацэвіч, 1953 г. нараджэння, расказаў, што пра існаванне фальварка ён чуў ад старэйшых. Сам жа памятае толькі каменныя падмуркі з рэшткамі пабудоў. Большы падмурак меў памеры прыкладна 25 на 10 м. Фальварак быў засаджаны дрэвамі, добра запомнілася вялікая груша. У пачатку 80-х гадоў XX ст. падмуркі і рэшткі пабудоў былі зруйнаваны бульдозерамі і скінуты ў вялікую яміну за сто пяцьдзясят метраў ад ваколіцы Янцавіч. Груда зямлі і вялікіх апрацаваных валуноў ляжыць на тым жа месцы і цяпер. Гэта ўсё, што засталося ад найстаражытнейшага на Лідчыне маёнтка Востраў. Франц Часлававіч адлічыў ад камянёў тыя сто пяцьдзясят метраў на ўсход, арыентуючыся на комін лідскай ЦЭЦ, і ў полі ўпэўнена паказаў месца, дзе стаяў фальварак. Па рэльефе поля і цяпер выразна праглядаецца пляцоўка двара. Так скончыў сваё гістарычнае існаванне Востраў — адзін з першых населеных пунктаў Лідчыны. Маёнтак, ад назвы якога пайшоў другасны тапонім — вёска Астроўля.

Ткацэвіч прыгадаў, што яшчэ ў 2006 г. на месцы фальварка цэлы тыдзень «чорны археолаг» шукаў металашукальнікам скарбы. Але нічога для сябе каштоўнага не знайшоў. Для непасведчанага «чорнага археолага» гэта безназоўны фальварак, знойдзены, верагодна, па польскай карце 1929 г. Тым не менш, з ягонай працы скарысталіся і мы. На месцы маёнтка ён накапаў вялізную колькасць ям і шурфоў. На іх паверхні ляжаць металічныя часткі гаспадарчых прылад, цвікі, фрагменты цэглы, керамікі і нават два патроны. Безумоўна, у зямлі застаўся вялізны культурны пласт. І хто ведае, магчыма, недзе на глыбіні захаваліся падмуркі. Павінны былі застацца і рэшткі склепа ці лядоўні.

Былая жыхарка вёскі Заполле, што ў двух кіламетрах ад Вострава, Ядвіга Паўлюкевіч, 1940 г. нараджэння, таксама выдатна ведае гэты тапонім і памятае старыя пабудовы. З яе слоў — гэта быў вялікі драўляны аднапавярховы панскі дом з высокімі, у рост чалавека, каменнымі падмуркамі. Дом меў належны ганак з чатырма высокімі каменнымі прыступкамі, у ім было пяць пакояў — чатыры вялікіх і адзін малы, а таксама кухня. Каля дома месціліся: гумно, свіран, хлеў, лядоўня і флігель для наёмных работнікаў. Пасля Другой сусветнай вайны ў доме знаходзіўся фельчарска-акушэрскі пункт, і жыла сям'я медыкаў Смалякоў. З 1963—64-х гадоў дом пуставаў.

Вось так, дзякуючы Т. Нарбуту, быў знойдзены найстарэйшы маёнтак Лідчыны — Востраў. Уся непасрэдная і ўскосная інфармацыя аказалася дакладнай. Факты шчыльна падышлі адзін да аднаго і пацвердзіліся на месцы. З досведу краязнаўца ведаю, што так здараецца зрэдку.

* * *

Верагодна, Востраў, як месца сустрэчы нашчадкаў Альгерда і Кейстута, быў абраны невыпадкова. Па-першае, на момант падпісання пагаднення маёнтак знаходзіўся на мяжы Гарадзенскага княства, якое належала Вітаўту, і лідскімі ўладаннямі Ягайлы. Мяжа праходзіла па рацэ Дзітва. Па-другое, недалёка ад Вострава праходзіў старадаўні шлях з Вільні ў Кракаў. І найстаражытнейшы мост праз раку Дзітва на шляху з Вільні на Варшаву ў 1392 г. знаходзіўся якраз насупраць Вострава, у Рулевічах. Мост праз Дзітву ў Мыто быў пабудаваны толькі ў канцы XV ст.

На адлегласці ў некалькі міль ад маёнтка Востраў знаходзіўся Лідскі замак, дзе два манархі, здавалася б, маглі наладзіць годны прыём. Але ў студзені таго ж 1392 г. атрады крыжакоў на чале з камандорамі Янам Румпенгаймам, Конрадам Ліхтэншчэйскім і разам з войскам Вітаўта, які ў той час яшчэ змагаўся з Ягайлам за кантроль над Літвой, разрабавалі і спалілі горад і замак. Таму Ліда не магла належным чынам прыняць стрыечных братоў.

Цікава пра пагадненне піша Ян Длугаш: «Уладыслаў, кароль Польскі ... прагнучы забяспечыць спакой Літвы, да якой, як да роднай зямлі, меў найвялікшае шанаванне ... пастанавіў нарэшце паяднацца з князем Вітаўтам і даць яму ўладу над Літвой і

Руссю, бо іншыя браты ягоныя былі аматарамі палявання і п'янства і не былі здатныя да кіравання дзяржавай. Дзеля гэтай мэты патаемна выслаў Генрыка, князя Мазавецкага, які быў абраны біскупам Плоцкім... але потым парушыўшы стан духоўны, родную сястру Вітаўта... узяў за жонку. ... кароль Польскі Уладыслаў напрыканцы месяца ліпеня выехаў у Літву, а 7 жніўня стаў ў Востраве, туды ж для сустрэчы прыбыў князь Вітаўт з найбольш адданымі прыхільнікамі, і з пачцівай просьбай, слязьмі залітымі, умольваў караля аб прабачэнні для сябе і дараванні сваёй віны. Кароль Уладыслаў адпусціў яму ўсе правіны. Потым выправіўся з ім у Вільню... і не толькі вярнуў Вітаўту спадчынную тэрыторыю і замкі, але і ўсю Літву і Русь з замкамі аддаў пад ягоную ўладу...»

Длугаш піша, што дзеля заключэння пагаднення Ягайла выехаў у Літву! Аналіз і параўнанне сучасных карт Польшчы з картай заходніх межаў ВКЛ і дадзенымі кнігі Льва Казлова і Анатоля Цітова «Беларусь на сямі рубяжах» дазваляе сцвярджаць, што Востраў-Любельскі не ўваходзіў у склад ВКЛ, нібыта гэта Падляшша.

* * *

Падрабязная гісторыя Вострава — гэта справа будучых даследаванняў. Але ў агульных рысах нешта можна зрабіць і цяпер. На момант падпісання пагаднення 1392 г. маёнтак адназначна быў уласнасцю скарбу ВКЛ.

Цікавую інфармацыю пра Востраў дае выбітны лідскі гісторык першай паловы XX ст. Міхал Шымулевіч. Ён піша, што на карце, названай па імені яе складальніка «Rizzi Zannoni», выдадзенай ў 1772 г. у Парыжы, між Лідай і Мыто намаляваны вялікі лес з назвай «Лес Лідскі». Гэты лес уваходзіў у Лідскае староства і быў падзелены паміж маёнткамі Дайнова, Цыбары і інш. Напрыканцы XVI ст. Ян Завіша, падкаморы Лідскі, а потым кашталян і ваявода Віцебскі, выкупіў маёмасць, якая належала яшчэ ягонаму дзеду, Андрэю Завішу — Белагруду. Па смерці ваяводы Віцебскага Белагруда разам з Жырмунамі і Востравам перайшла яго пляменніку Мікалаю Завішу, таксама кашталяну Віцебскаму. Пасля смерці бяздзетнага Мікалая Завішы, уся гэтая маёмасць перайшла да ягонай удавы, а потым, напрыканцы XVII ст., да Ганны Завішы, дачкі Яна Юрыя Завішы — старосты Браслаўскага. У сярэдзіне XVIII ст. Жырмуны і Востраў з Белагрудай ужо маёмасць княгіні Барбары Радзівіл з Завішаў. Ад яе пераходзіць да сына — Станіслава Радзівіла (1722—1784 гг.), падкаморага літоўскага, і далей — Мікалаю Радзівілу, уладальніку Жырмун. Т. Нарбут піша, што перадапошнім гаспадаром Вострава быў Тадэвуш Нарбут, падкаморы Лідскі. Яго ўнук Леон Дэмбоўскі пісаў: «Лідскі падкаморны жыў у радзінным маёнтку Сукурчы і па жонцы меў вёску Котлуў, а каля 1773 г. дакупіў ад Пясецкіх маёнтак Востраў, нічога не заплаціўшы, у крэдыт». Такім чынам да Нарбутаў Востраў належаў Пясецкім. А ў час напісання нашым вялікім гісторыкам «Дзеяў...» Востраў «пасля здрабнення праз exdywizye ёсць невялікім фальфаркам, які належыць да паноў Міхалоўскіх». Згодна з Малеўскім, Міхалоўскія становяцца гаспадарамі Вострава ў 1831 г. Магчыма, маёмасць Нарбутаў была канфіскавана за ўдзел у паўстанні 1831 г. А потым і ў 30-я гады XX ст. Востраў юрыдычна ўсё яшчэ застаецца маёмасцю Міхалоўскіх.

Міхал Шымулевіч піша, што ў XVIII ст. у Белагрудскую парафію ўваходзіла маёмасць князёў Радзівілаў: Востраў, Дайнова, Вялікае Вольжава, Тарноўшчына. Акрамя касцёла ў Белагрудзе, парафія мела некалькі капліц: у Востраве, Дайнове, Дзітве, Вялікім Вольжаве і інш. Дакладна вядома, што менавіта ў Востраве Тадэвуш Нарбут на свае сродкі фундаваў капліцу. Тое, што ён пабудаваў капліцы не ў сваіх радзінных Сукурчах, а ў суседнім, нядаўна набытым фальварку, кажа пра адметнасць Вострава ў вачах гаспадара і суседзяў, бо на той час Сукурчы былі цэнтрам вясковай акругі і вельмі старым населеным пунктам, дзе жылі больш як 500 чалавек. У другой палове XX ст., калі Сукурчаў, як населенага пункта ўжо не існавала, у народзе захоўвалася памяць пра тое, што адзін з тутэйшых будынкаў быў вельмі стары, на бэльцы нібыта была напісана дата з XVI ст.

Белагрудскую парафію стварыў біскуп Абрахам Война ў XVII ст. з частак лідскай і ваверскай парафій. Межы парафіі часта

мяняліся. Апошняе размежаванне зрабіў арцыбіскуп Ігнат Галавінскі ў 1844 г. Таму не дзіўна, што ў Малеўскага, інфармацыя якога грунтуецца на віленскіх архівах, у 1831 г. Востраў належыць да лідскай парафіі.

Вядома, што войскі рускага ваяводы Хаванскага разбурылі Вострaўскі замак-палац падчас вайны (1654—1667 гг.) Расіі з Рэччу Паспалітай.

* * *

Такім чынам, можна зрабіць выснову, што маёнтак Востраў Міхалоўскіх, пра які пісаў Т. Нарбут, знойдзены. Ягоную лакалізацыю, апроч Нарбута, нам даюць наступныя крыніцы: кніга Ч. Малеўскага «Роды шляхецкія на Літве ў ХІХ веку. Лідскі павет» (Czeslaw Malewski. Rody szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiet Lidzki. Wilno, 2005.); «Слоўнік геаграфічны польскі» (Warszawa, 1888, T. 7.); «Спіс населеных пунктаў Расійскай імперыі» (Санкт-Петербург, 1905 г.); «Спіс польскага бізнесу 1929 г.» (Ksiega Adresowa Handlowa. Warszawa — Bydgoszcz, 1929.); карты ХІХ—ХХ стст., на якіх ёсць фальварак Востраў. Зрэшты, пра тое, што Міхалоўскія былі ўладальнікамі Вострава, і цяпер памятаюць жыхары вёскі Янцавічы.

Засмучае толькі адзін факт — працы Т. Нарбута сур'ёзныя беларускія гісторыкі не лічаць надзейнымі крыніцамі. Аднак у нашым выпадку інфармацыя гісторыка дакладна стыкуецца з усім знойдзеным матэрыялам і памяццю людзей, пацвярджаецца знаходкай рэштак фальварка Востраў там, дзе і паказаў Нарбут. Няўжо гэта не «ўзнімае» кошт ягонай інфармацыі? Да таго ж, вялікую важкасць набываюць ускосныя доказы: падобна да таго, што Вострaўская дамова была заключана каля Ліды. Пра гэта піша самая апошняя «Энцыклапедыя ВКЛ» 2005 г., Т. І., С. 465. Гэта месца сапраўдны востраў сярод дрыгвы і дае магчымасць малымі сіламі гарантаваць бяспеку найвышэйшых асоб.




*Фрагмент карты 1983 г.*

Длугаш і іншыя гісторыкі не паказваюць дакладна, дзе знаходзіўся маёнтак. Яны зыходзяць з таго, што ягонае месцазнаходжанне — агульнавядомы факт. Міхал Шымялевіч пералічвае Востраў сярод найбуйнешых маёнткаў Завішаў і Радзівілаў на Лідчыне. Мае асабістыя краязнаўчыя даследаванні даводзяць, што яшчэ ў першай палове ХХ ст. менавіта Востраў Міхалоўскіх каля Янцавіч быў найбольш вядомым сярод населеных пунктаў з такой ці падобнай назвай на Лідчыне. Знаходзіць лагічнае тлумачэнне і назва вёскі Астроўля (ля — Вострава). Напрамкі ад Астроўлі да Янцавіч усяго некалькі кіламетраў. Астроўля — другасны тапонім, які застаўся як напамін пра некалі вялікі і агульнавядомы маёнтак.

Выдаткі каралеўскага двара Ягайлы і ягонае месцазнаходжанне распісаны падзённа, гэтыя дакументы выдадзеныя на лацінскай мове і па-польску. Таму было б элементарна даведацца, дзе дакладна знаходзіўся кароль з каралевай 4 жніўня 1392 г. Але інфармацыі пра 1392 г. у гэтых кнігах няма, верагодна, падобная інфармацыя страчана назаўжды. Тым важней нам тая інфармацыя, якую захаваў Т. Нарбут.

*І напрыканцы. Археолагі маглі б знайсці рэшткі падмуркаў XIV ст. там, дзе пазней паўстаў фальварак Востраў. Магчыма, пад зямлёй яшчэ нешта захавалася. Нягледзячы на ўсе беды, якія напаткалі Беларусь, у тым ліку і гэты куток нашай Радзімы.*

# ЁСЦЬ ТАКАЯ ПРАФЕСІЯ — РАДЗІМУ АБАРАНЯЦЬ

***Калі назва гэтага матэрыялу падасца вам не менш зашмальцаванай, чым мастацкі фільм, у якім узгадваецца такая думка, я ўсё роўна раю вам яго прачытаць. Проста ён нашмат больш актуальны, чым можа падацца.***

***Вылучце якія паўгадзінкі вашага часу на інтэрв'ю з начальнікам Упраўлення інфармацыі — прэс-сакратаром Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Макаравым.***

**— У першую чаргу я задам пытанне, якое ўзнікае ў многіх, асабліва ў прызыўнікоў і іх бацькоў: а навошта, увогуле, патрэбна армія Беларусі, краіне, якая ні з кім не ваюе?**

— Так, усё правільна — як запісана ў Ваеннай дактрыне, Беларусь ніводную дзяржаву не разглядае як патэнцыяльнага супраціўніка. Але каб не было ў нас супраціўнікаў і надалей, мы ажыццяўляем ваеннае будаўніцтва. Мы стварылі прынцыпова новую армію і цяпер яе мадэрнізуем, пераўзбройваем у свеце найноўшых сістэм, а таксама праводзім вучэнні.

На жаль, у новым стагоддзі вайна і ваенныя сілы застаюцца дастаткова сур'ёзным аргументам у вялікай палітыцы. Гэта гістарычны факт найноўшай гісторыі, і каб з намі і надалей ніхто не размаўляў з пазіцый сілы, мы прымаем вось такія меры па забеспячэнні ваеннай бяспекі дзяржавы. Сэнс беларускай арміі, такім чынам, вось у чым: наша армія, перш за ўсё, магутны фактар недапушчэння вайны, фактар стрымлівання.

**— Могуць папытаць і так: а на што здольна армія, якая ў мірны час налічвае ўсяго толькі каля 65 тысяч чалавек? Як выглядае яна на фоне шматмільённых армій некаторых дзяржаў?**

— Па-першае, паўтаруся, ніводная з тых дзяржаў, што маюць такія шматлікія арміі, не разглядаецца намі як супраціўнік. А па-другое, і гэта самае галоўнае, — нас не 50 тысяч, а болей як 9 мільёнаў. Справа ў тым, што гісторыя свету і гісторыя Беларусі ў прыватнасці сведчыць, што армія можа выйграваць бітвы, але вайну выйграе толькі народ. Прыкладам гэтаму — герaічная барацьба нашага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Такога размаху народнага супраціўлення, як на беларускай зямлі, гісторыя не ведала ніколі.

Як кажуць, гісторыя не ведае ўмоўнасцей, але тут да месца прыйдзеца пытанне: а колькі дзясяткаў ці нават соцень эшалонаў з тэхнікай і зброяй не хапіла гітлераўцам для ўзяцця Масквы? Паверце, контрнаступленне пад Масквою не адбылося б без дзеянняў беларускіх падпольшчыкаў, якія восенню 1941 года забяспечылі спад прапускной магчымасці чыгуначнай магістралі ў раёне станцыі «Мінск таварны» амаль у дваццаць разоў! І сёння ваенная бяспека — справа не толькі арміі, а і народа.

**Сёння падрыхтоўка ваенных кадраў вядзецца ў Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь, на ваенных факультэтах і кафедрах грамадзянскіх ВНУ. Падрабязную інфармацыю можна атрымаць на афіцыйным сайце Міністэрства абароны Беларусі www.mod.mil.by.**

Кожны грамадзянін Беларусі мае дачыненне да аховы сваёй Айчыны.

**— Але ж спосабы вядзення вайны цяпер зусім іншыя. Сённяшняя зброя ствараецца па новых фізічных прынцыпах. Як можна парыраваць варожыя выклікі ў час звышдакладнай і ядзернай зброі?**

— Спачатку пра ядзерную зброю: навукоўцы яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў таму даказалі, што хто выкарыстае яе першым, той загіне ў другую чаргу, але ж загіне. Але так, ядзерная зброя з'яўляецца фактарам стрымлівання, ды толькі не пры кожным варыянце вайны. ЗША, напрыклад, у параўнанні з В'етнамам мелі і ядзерную зброю, і непараўнальныя звыштэхналогіі, але ж амерыканцы вымушаны былі сысці з В'етнама. Дарэчы, амерыканцы скінулі на індакітайскі паўвостраў больш як сем мільёнаў бомб, па магутнасці ў трацілавым эквіваленце гэта ў трыста разоў больш, чым магутнасць ядзернай зброі, скінутай у 1945-м на Японію. Але воля да супраціўлення в'етнамцаў не была зломлена, у той час як воля ЗША пахіснулася.

У Савецкім Саюзе была ядзерная зброя, яна і засталася, а Савецкага Саюза няма. Проста справа не ў ядзернай зброі, а ў стварэнні сістэмы бяспекі, якая адпавядае ўсім магчымым сцэнарыям вядзення вайны, у тым ліку і інфармацыйнай. Што ж датычыць новай высокаінтэлектуальнай зброі, то не трэба забывацца, што Беларусь была і застанецца дзяржавай, дзе захаваны і актыўна развіваецца абаронча-прамысловы комплекс, здольны выпускаць прадукцыю двайнога прызначэння на ўзроўні сусветных стандартаў.

**— Калі гаварыць пра сусветныя стандарты ў ваеннай галіне, то гэта…**

— …стварэнне аўтаматызаваных сістэм кіравання зброяй і войскамі, аўтаматызаваных інфармацыйных і оптаэлектронных сістэм, спадарожнікавай навігацыйнай апаратуры, элементаў радыёлакацыі і радыёлакацыйных станцый, лазерна-аптычных сістэм і тэхналогій, а таксама новага пакалення інтэгральнай элементнай базы. Усё гэта вызначае поспех тых распрацовак, якія вызначаюць тэхнічны прагрэс XXI стагоддзя. Гэтым можна ганарыцца! Дарэчы, менавіта ў Беларусі праведзена мадэрнізацыя самалёта МІГ-29. Вынік — адразу пятнаццаць сусветных рэкордаў. У нас створаны аўтаматызаваныя сістэмы кіравання для ваенных паветраных сіл і войскаў супрацьпаветранай абароны, якія не маюць аналагаў ва ўсім свеце. Менавіта ў нас для навучання лётчыкаў створаны трэнажоры, якія дазваляюць адпрацоўваць такія сітуацыі, якія немагчыма адпрацаваць у рэальным вучэбным палёце, улічваючы меры бяспекі. Такія трэнажоры дазволілі павялічыць эфектыўнасць навучання ў некалькі разоў. Прычым, адначасова былі зэканомлены значныя грашовыя сродкі. Нарэшце, у Беларусі брыгады супрацьпаветранай абароны ўзброены найноўшымі зенітнымі ракетнымі комплексамі С-300, якім, па сутнасці, роўных у свеце няма. Болей за тое, нашы прадпрыемствы засвоілі іх рамонт. У канцы снежня мінулага года нашы войскі супрацьпаветранай абароны атрымалі першую зенітную ракетную батарэю «Тор М2» расійскай вытворчасці. Гэта высокаінтэлектуальная зброя, якой таксама роўных у адпаведным класе зброі няма — адзіная ў свеце баявая машына, якая можа знішчыць чатыры аб'екты адначасова. Гэта значыць, што батарэя з чатырох такіх машын патрапіць адначасова ў ажно шаснаццаць аб'ектаў. Канечне, мы ганарымся тым, што лепшая ў свеце баявая машына базуецца на лепшай у свеце колавай базе вытворчасці Мінскага завода колавых цягачоў.

Як бачна, беларуская армія адпавядае самым высокім патрабаванням сучаснасці, і працэс яе ўдасканалення, будаўніцтва і развіцця Узброеных Сіл, без сумневаў, будзе працягвацца.

**— Каб авалодаць такімі звышскладанымі сістэмамі ўпраўлення зброяй і войскамі, трэба, пэўна, дваццаць гадоў**

**вучыцца. Дык ці не лепш мець, як кажуць, «прафесійную» армію, цалкам укамплектаваную вайскоўцамі кантрактнай службы, як, напрыклад, у ЗША або Вялікабрытаніі, а ад тэрміновай службы адмовіцца?**

— Трэба сказаць, што некаторыя блытаюць прафесіяналізм з прынцыпам камплектавання. Да прыкладу, у Ізраілі армія камплектуецца на падставе ўсеагульнага вайсковага абавязку, які ўплывае нават на жанчын. Эфектыўнасць гэтай арміі сумненняў не выклікае. Калі пра жанчын, то служыць «тэрміновую» яны ў нас і надалей не будуць, але і без гэтага ў беларускай арміі служыць больш як чатыры з паловай тысячы жанчын — згодна з кантрактам, на самых розных пасадах, у тым ліку і афіцэрскіх. Ужо адбылося некалькі выпускаў факультэта сувязі і Аўтаматызаванай сістэмы кіравання Ваеннай акадэміі, дзе навучаюцца дзяўчыны. У мінулым годзе быў выпадак, калі ўпершыню дзяўчына пасля заканчэння авіяцыйнага факультэта Ваеннай акадэміі стала афіцэрам-лётчыкам. Лётае на рэактыўных самалётах. І на ваенных факультэтах БДУ і БНТУ дзяўчыны таксама вучацца. Што да назначэння тэрміновай ваеннай службы, то гэта, перш за ўсё, атрыманне ваенна-ўліковай спецыяльнасці, падрыхтоўка вывучанага вайсковага рэзерву. Як ужо гаварылася, наша армія існуе, найперш, для папярэджвання вайны. Таму яна павінна быць гатовай пры неабходнасці раскінуцца з пяцідзесяці тысяч чалавек у мірны час да колькасці ў дзесяць і болей разоў. Для гэтага і неабходна мець такі вось рэзерв. Таму невыпадкова на працягу ўсіх вучэнняў мы прызываем ваеннаслужачых запасу: яны выконваюць адпаведныя вучэбна-баявыя задачы і адначасова працягваюць сваё ваеннае навучанне. Без такога рэзерву разважаць пра бяспеку дзяржавы няма сэнсу. Дарэчы, амерыканцы пасля вайны ў Іраку загаварылі, што ў іх узніклі сур'ёзныя праблемы з камплектаваннем узброеных сіл, і што рашэнне пра замену службы па прызыве на тэрміновую ваенную было памылковым. Пра гэта напісаў, напрыклад, Фрэнсіс Фукуяма ў кнізе «Амерыка на раздарожжы», заявіўшы, што іх армія, якая створана пасля В'етнамскай вайны і цалкам на прынцыпе добраахвотнасці, не прызначалася для ўдзелу ў зацяжных канфліктах. І, маўляў, чым далей, тым больш складана такой арміі забяспечваць камплектаванне і падтрымліваць высокі маральны дух у сваіх радах.

А ў беларускай арміі ваенна-ўліковую спецыяльнасць атрымліваюць не толькі падчас тэрміновай ваеннай службы, а і падчас службы ў рэзерве. Гэта значыць, што на працягу двух або трох гадоў малады мужчына праходзіць так званыя зборы (недзе каля месяца) і займаецца ў гэты час толькі баявым навучаннем. Прычым, у такім выпадку служба ідзе без адрыву ад асноўнай працы. Ваенна-ўліковую спецыяльнасць атрымліваюць таксама на ваенных факультэтах і ваенных кафедрах грамадзянскіх ВНУ студэнты, якія вучацца па праграмах падрыхтоўкі малодшых спецыялістаў. У гэтым выпадку яны ідуць на тэрміновую ваенную службу толькі на паўгады. Пры гэтым у Беларусі, напэўна, самая вялікая колькасць адтэрміновак па ваеннай службе, перш за ўсё, для атрымання адукацыі. Адначасова створаны ўсе ўмовы, каб кожны чалавек мог рэалізаваць канстытуцыйнае права — на атрыманне прафесіі і абавязак — навучыцца абараняць Радзіму.

**— Пасля вайны ў Іраку і Югаславіі сталі сцвярджаць, што надышоў так званы постгераічны этап развіцця ваеннай справы, калі ваююць машыны і няма патрэбы чалавеку праяўляць волю і гераізм. Маўляў, сканалі і савецкая ваенная школа, і еўрапейская.**

— Але ж на самай справе гэта далёка не так. Каб на практыцы прымяняць савецкую ваенную школу, трэба памятаць, як змагаліся абаронцы Брэсцкай крэпасці, як працавала мінскае падполле, урэшце, як змагаўся ўвесь беларускі народ. Таму патрыятызм, маральны дух — гэта тое, што было раней

і застаецца сёння самым важкім фактарам дасягнення перамогі ў баі і важнейшым фактарам стрымлівання. Без патрыятызму, любові да сваёй зямлі, да Радзімы размова пра бяспеку дзяржавы — марнатраўства.

**— Але як фарміраваць патрыятычныя якасці ў сучаснай моладзі?**

— У нас выдатная моладзь. Іншае пытанне, што неабходна ўмець працаваць менавіта з сучаснай моладдзю. У гэтым сэнсе адзін пісьменнік сказаў вобразна, але вельмі дакладна: каб працаваць з моладдзю, трэба ведаць адначасова, што такое інтэрнэт, аўтамат Калашнікава і метафізіка сацыяльных працэсаў. Метафізіка — тое, што вышэй за цялеснае, фізічнае. Іншымі словамі, гэта веданне законаў духоўных, маральных аспектаў працы з людзьмі. З веданнем аўтамата Калашнікава ўсё ў парадку: ёсць сістэма, якая дазваляе моладзі дасканала авалодаць сучаснай зброяй. А дасягненні ў галіне інтэрнэт-тэхналогій у беларускай арміі выдатныя. Вось толькі асобныя прыклады. У 2009 годзе пачало працаваць Ваеннае інфармацыйнае агенцтва «Ваяр», якое аб'яднала рэдакцыю сайта Міністэрства абароны, «Беларускую ваенную газету» і часопіс «Армия». І рэалізавала шэраг важкіх патрыятычных праектаў. Напрыклад, у Беларусі пры актыўным удзеле ваеннага ведамства дзейнічае цэлы полк віртуальных лётчыкаў. Спачатку была эскадрылья BY, цяпер — полк. Змагаюцца ў кіберпрасторы на авіяцыйных сімулятарах — самалётах «Іл-2». З мінулага года, апроч гэтага, ваеннае ведамства праводзіць спаборніцтвы па камп'ютарнай гульні «Свет танкаў». Чаму ваеннае ведамства падтрымлівае гэтыя праекты? Каб быць патрыётам, трэба ведаць сваю гісторыю і ганарыцца ёю. А гэта значыць, далёка не ўсё роўна, у якія гульні гуляюць маладыя людзі, ці яны змагаюцца на авіясімулятарах «Іл-2», ці на «месершмітах». Дарэчы, нямала ёсць сведчанняў, што сучаснае пакаленне амерыканцаў шчыра ўпэўнена, што ў гады Другой сусветнай вайны СССР быў саюзнікам Германіі, а ЗША атрымалі перамогу над гэтымі краінамі. А ў нас з 2008 года праводзяцца міжнародныя турніры па кіберспорце. Шмат цікавага пра сучасную армію можна прачытаць у ваенных СМІ — «Беларускай ваеннай газеце», «Во славу Родине», у часопісе «Армия» і дадатках да яго — часопісах «Армия и культура», «Наука и военная безопасность», «Идеологические аспекты военной безопасности». Тэлекампанія ВаенТБ штотыднёва ажыццяўляе выпуск трох цыклавых праграм, у тым ліку праграмы «Арсенал», што выходзіць кожную нядзелю раніцай. Створаны цэлы шэраг найцікавейшых тэлепраектаў, фільмы «Брестская крепость», «Наука побеждать», «Генштаб: более быть, чем казаться…», «Гвардия. Боевые традиции» (пра гвардзейскія часці беларускай арміі) і іншыя. На кінастудыі «Беларусьфільм» упершыню ў гісторыі пры ўдзеле нашай тэлекампаніі і ваеннага ведамства створаны мастацкі фільм пра сучасную беларускую армію — «Щит Отечества».

**— Як непасрэдна ажыццяўляецца падрыхтоўка ваенных кадраў і спецыялістаў для арміі?**

— Каб навучыцца кіраваць складанымі ваеннымі і тэхнічнымі сістэмамі, вялізнай колькасцю людзей, трэба сапраўды прайсці навучанне працягласцю ў дваццаць гадоў. Гэта адзінаццаць гадоў навучання ў сярэдняй школе, каля пяці — пры атрыманні вышэйшай адукацыі тактычнага ўзроўню ў Ваеннай акадэміі або на ваенных факультэтах ВНУ, яшчэ два гады зойме навучанне на камандна-штабным факультэце акадэміі — гэта атрыманне другой вышэйшай ваеннай адукацыі, і нарэшце, два гады навучання на факультэце Генеральнага штаба — атрыманне трэцяй вышэйшай адукацыі. А ў прамежках паміж навучаннямі — уласна служба, якая таксама прадугледжвае пастаяннае навучанне і самаўдасканаленне.

У нас створана свая нацыянальная ваенная школа, якая дазваляе ажыццяўляць падрыхтоўку ваенных спецыялістаў на ўсіх

узроўнях. У тым ліку і школа падрыхтоўкі лётчыкаў. Раней такой школы ў Беларусі ўвогуле не было. Прычым, узровень падрыхтоўкі лётчыкаў класны. У СССР, каб атрымаць трэці клас, лётчыку трэба было пасля выпуску з авіявучылішча праходзіць службу ў авіяцыйных часцях і потым здаваць іспыт на класнасць.

**— А ці ёсць у нашай арміі тое, што называецца нестатутныя адносіны?**

— Я раскажу, увогуле, пра злачыннасць у арміі. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь прыняў у 1994 годзе не толькі краіну, якая гібела ў сістэмным крызісе, але і армію, у якой негатыўныя працэсы зашкальвалі. На 1994 год колькасць самагубстваў ваеннаслужачых у параўнанні са станам на 1990 год павялічылася ў некалькі разоў і складала чатыры дзясяткі чалавек штогод. Месяца не праходзіла, каб не з'яўляліся публікацыі кшталту «Сіндром колеру хакі» Сарычава або «Казарменнае мяса» Крапівіна — усё пра забойствы ў арміі на глебе нестатутных узаемаадносін. Так было. Але сёння такога няма і быць ужо не можа. Крыміналагічныя паказчыкі ў нашай арміі на сёння самыя нізкія ў свеце. У 1994 годзе на тысячу ваеннаслужачых прыходзілася амаль адзінаццаць злачынстваў, а ў 2011-м — 2,21, у пяць разоў менш. Яшчэ для параўнання: у 2008 годзе адных толькі дэзерціраў у сухапутных войсках ЗША было дзевяць на тысячу ваеннаслужачых. Грамадскасць павінна ведаць, што сёння беларуская армія — самы бяспечны сацыяльны інстытут, верагоднасць загінуць тут у некалькі разоў меншая, чым па-за Узброенымі Сіламі. Што пра нестатутныя адносіны, то ў мінулым годзе ўдзельнікамі іх сталі шаснаццаць ваеннаслужачых. Мала гэта ці многа? У 2010-м было трыццаць два, у 2003-м — сто трыццаць чатыры. Каб паспяхова ажыццяўляць прафілактычную работу, у беларускай арміі ўведзены пасады вайсковых псіхолагаў, ды і адбор на вайсковую службу даволі жорсткі. А галоўнае — прыняты меры па забеспячэнні прававой абароны камандзіраў, што дзейнічаюць у межах заканадаўства па забеспячэнні правапарадку. Гэта значыць, забяспечана няўхільнае пакаранне непасрэднага вінаватага. Дарэчы, гэта праблема характэрна для многіх дзяржаў, у тым ліку і такіх, дзе няма службы па прызыве. Даволі працяглы час камандаванне сухапутных войск ЗША вяло барацьбу з такімі вось нестатутнымі ўзаемаадносінамі, у аснове якіх — рэлігійны, крымінагенны, палітычны, сацыяльны, нацыянальны і нават палавы фактары. Яшчэ ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя шмат пісалася пра расследаванне злачыннай дзейнасці групы сяржантаў вучэбнага цэнтра сухапутных войск у горадзе Абердзін, штат Мэрыленд. Сексуальнаму тэрору, арганізаванаму дзесяццю вайскоўцамі, прысвячаліся нават пасяджэнні сената. Ужо ў новым стагоддзі шмат напісана пра прымушэнне маладых салдат піць спіртное ў ФРГ.

Маладыя людзі павінны ведаць, што псеўдатрадыцыі «дзедаўшчыны» не адпавядаюць культуры і менталітэту беларусаў, з'яўляюцца, па сутнасці, пародыяй і здрадай нацыі з боку асобных індывідаў. З такой пачварнай з'явай барацьба вядзецца бескампрамісная. І беларускі вопыт прафілактыкі актыўна вывучаецца і бярэцца на ўзбраенне арміямі іншых дзяржаў, блізкіх і аддаленых.

**— Што можна пажадаць будучым ахоўнікам Айчыны?**

— Сёння патрыёт, грамадзянін нашай дзяржавы, дзе б ён ні працаваў і што б ні рабіў, з'яўляецца ахоўнікам дзяржавы, бо ён забяспечвае бяспеку Радзімы ў сферы эканамічнай, інфармацыйнай, палітычнай, экалагічнай і ў іншых галінах. Памятайце пра гэта — усюды і заўсёды абараняйце інтарэсы Рэспублікі Беларусь, выкарыстоўваючы свой інтэлект, праяўляючы мужнасць і цвёрдасць. Абараняйце так, як абараняе нацыянальныя інтарэсы Прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка, забяспечваючы мір, стабільнасць і бяспеку на беларускай зямлі.

## ЯК ПРЫМАЕЦЦА РАШЭННЕ, ДЗЕ І КІМ БУДЗЕ СЛУЖЫЦЬ ПРЫЗЫЎНІК?

Пры прыняцці рашэння аб прызыве грамадзяніна на ваенную службу, службу ў рэзерве, род і від войск вызначае раённая або гарадская прызыўная камісія па месцы жыхарства. Перш чым прыняць такое рашэнне, даследуецца стан здароўя прызыўніка, а таксама яго маральна-дзелавыя і псіхалагічныя якасці. Па выніках гэтага даследавання, а таксама ўлічваючы ўзровень адукацыі і атрыманую спецыяльнасць, камісіяй прымаецца рашэнне пра накіраванне яго для камплектавання ў той ці іншай часці. Безумоўна, камісія бярэ ў разлік сямейнае становішча, і калі ў прызыўніка ёсць жонка і дзіця, але ён не мае права на адтэрміноўку, то яго па магчымасці накіроўваюць у воінскую часць паблізу месца жыхарства сям'і.

## ЦІ ЁСЦЬ СЯРОД СЛУЖАЧЫХ У АРМІІ ПАЭТЫ, ПІСЬМЕННІКІ, МАСТАКІ? ЯКІЯ МАГЧЫМАСЦІ ДЛЯ РЭАЛІЗАЦЫІ ТВОРЧЫХ ЗДОЛЬНАСЦЕЙ ІСНУЮЦЬ У АРМІІ?

Такія магчымасці ёсць у кожнага ваеннаслужачага, у вольны ад службы і выканання штодзённых задач час. У клубах пры воінскіх часцях існуюць розныя творчыя гурткі, пазаштатныя ансамблі, а таксама перыядычна праводзяцца розныя конкурсы. Ва Узброеных Сілах Беларусі ёсць:

студыя ваенных мастакоў;

ваенна-мастацкая студыя пісьменнікаў;

дзяржаўная ўстанова «Акадэмічны ансамбль песні і танца Узброеных Сіл»;

дзяржаўная ўстанова «Драматычны тэатр Беларускай арміі».

Штогод праводзіцца конкурс фестывалю армейскай песні «Зорка». Адзін з прыкладаў творчасці ў арміі — малады таленавіты пісьменнік Сяргей Клімковіч, які праходзіць службу ў Ваенным інфармацыйным агенцтве «Ваяр». Ён напісаў і выдаў ужо дзевяць раманаў.

## ШТО СКЛАДАЕ САЛДАЦКІ РАЦЫЁН?

З харчаваннем у беларускай арміі ўсё ў поўным парадку. Стравы армейцаў багатыя на смак і калорыі. Да прыкладу, рацыён ваеннаслужачага на месяц прадугледжвае 5 кг мяса, больш як 3 кг рыбы, 1,2 кг сметанковага масла, амаль 15 кг бульбы і больш чым 10 кг агародніны. Апроч гэтага, у рацыёне пазначаны сыры, каўбасныя і кандытарскія вырабы, полівітаміны і іншае. Больш за тое, працягваецца прыжыўленне арганізацыі харчавання з частковым выкарыстаннем «шведскага стала».

*Запісала*
***Святлана ДЗЯНІСАВА***

*Мікола КАНДРАТАЎ*

# НАРОДЖАНЫЯ ПАД ЗНАКАМ ВАДАЛІВА

Штогод з 20 студзеня па 19 лютага наша Сонца знаходзіцца ў Вадаліве (♒). Гэта знак свабоды, непрадказальнасці і навацый. Але перадусім ён звязаны з падзелам Дабра і Ліха, са свядомым выбарам у той ці іншы бок. Яго сімвалічны вобраз — чалавек, які трымае ў руках два сасуды, у адным з іх жывая, а ў другім мёртвая вада. Дваістасць Вадаліва пацвярджаюць і дзве планеты, што кіруюць ім. Планета Уран (♅) адпавядае жывой вадзе, якая сімвалізуе будучыню, а Сатурн (♄) — мёртвай, што сімвалізуе мінулае.



*Віцэнт Дунін-Марцінкевіч.*

Такая непадобнасць гаспадароў Вадаліва вынікае з характарыстык, што ім адпавядаюць. Уран — планета арыгінальнасці, эксцэнтрычнасці, рэфарматарства, валадар электрычнасці, азарэння, змен і парадоксаў. Сатурн жа ўяўляе сабой мэту, стрыжань, абмежаванне, сістэму, паглыбленне і самаспазнанне.

Каб атрымаць больш глыбокае ўяўленне пра знак Вадаліва, мы і разгледзім гараскопы дзвюх цікавых выбітных асоб, народжаных пад ім.

### «СТРАЛЬБА» З ЛУКА

Адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч нарадзіўся 4 лютага 1808 года (па новым стылі) ў фальвараку Панюшкавічы Бабруйскага павета Магілёўскай губерніі. Вадаліў у яго гараскопе з'яўляецца найбольш акрэсленым знакам. Тут знаходзяцца чатыры важныя планеты: Меркурый (☿) у злучэнні з Сонцам (☉), Юпітэр (♃) і Хірон (⚷).

Для ўдакладнення часу нараджэння пісьменніка ў першую чаргу выкарыстаны той факт, што спадар Вінцэнт быў сынам маламаёмаснага шляхціца герба «Лебедзь». У яго касмаграме важнай і вельмі моцнай планетай (яна мае станоўчы патэнцыял 7 балаў, які называецца ў астралогіі *каралеўскім статусам*) з'яўляецца планета Месяц (☽), што сімвалізуе сям'ю, маці, ***род***, то хутчэй за ўсё Месяц павінен знаходзіцца ў 16° знака Цяльца (♉). Гэты градус (1/360 частка кола Задыяка) мае сваім татэмам **Лебедзя-клікуна**, які дае вернасць у шлюбе, доўгі шлюб, рамантызм, прывязанасць да блізкіх, а таксама — імкненне да актыўнай праявы ў грамадстве, артыстычныя здольнасці.

Вядома, што Дунін-Марцінкевіч быў жанаты два разы і да кожнай жонкі быў вельмі прывязаны. У першым шлюбе нарадзілася сем дзяцей. Але ў 1854 годзе жонка памерла, і праз некаторы час ён ажаніўся паўторна.

Для большага ўдакладнення часу нараджэння, вельмі важнага пры разглядзе *гараскопа* (у вузкім значэнні слова), выкарыстоўваюць паняцце **Асцэндзента** (ASC) — пункта, які ўзыходзіць над небакраем у дадзенай мясцовасці ў момант нараджэння чалавека. Асцэндзент трапляе ў новы градус Задыяка кожныя 4 хвіліны. І ў нашым выпадку для гараскопа Дуніна-Марцінкевіча метадам

падбору было гіпатэтычна выяўлена, што яго ASC знаходзіцца ў 14º Панны (♍) і мае татэмам **Аднагорбага Вярблюда**: чалавек, які ўсё жыццё церпіць, прыстасоўваецца, часам выглядае старэй свайго веку; туга, цяжкасці, вечныя клопаты, залежнасць, аскетызм, скепсіс.

Вядома, што пісьменнік пасля паўстання 1863—1864 гадоў больш як год адседзеў у Мінскай турме, потым фактычна ўвесь час знаходзіўся пад наглядам паліцыі і яму не дазвалялася выязджаць з Люцынкі, дзе ён жыў. Лепшы яго беларускамоўны твор «Пінская шляхта», а таксама пераклад на беларускую мову паэмы «Пан Тадэуш» Адама Міцкевіча, былі забаронены цэнзурай для друку.

У выніку вышэйзгаданага ўдакладнення (рэктыфікацыі) моманту нараджэння Дуніна-Марцінкевіча атрымаўся такі час — 19 гадзін 40 хвілін.

Першасную інфармацыю пра асноўныя рысы характару чалавека і яго развіццё заўжды можна атрымаць з характарыстыкі **тыпу касмаграмы**, які залежыць ад запоўненасці альбо праяўленасці пэўных знакаў Задыяка. У Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча праяўлены так званы салярны тып, бо ў яго касмаграме ў знаку Вадаліва разам з Сонцам знаходзіцца некалькі планет. Чалавека такога тыпу цягне да знешніх праяў. Унутраны план для яго менш важны. Ён ва ўсім стараецца быць заўважным, бліскучым.

Для нашага салярыя-пісьменніка на першым плане стаяла вядомасць, індывідуальнасць. Ён адчуваў сваю вылучанасць, магчыма, патрабаваў да сябе павышанай увагі, імкнуўся да бляску як у літаратуры, так і ў тэатральных пастаноўках, дзе браў удзел у якасці акцёра і рэжысёра. У цэлым ён валодаў яркай самасвядомасцю, меў прагу да творчасці.



*Касмаграма Дуніна-Марцінкевіча.*

Пры разглядзе гараскопа таксама звяртаюць увагу на **від касмаграмы** — агульны малюнак размяшчэння планет у Задыяку. Абрыс касмаграмы чалавека — нібы трамплін для яго будучага развіцця. Ён прапаноўвае форму жыццёвых сітуацый, што не залежаць ад волі чалавека, а дыктуюцца звонку. На малюнку «Гараскоп Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча» мы не ўлічваем фіктыўныя планеты (Раху — ☊, Кету — ☋, Ліліт — ⚸, Селену — ⯓), а таксама Празерпіну (⯘), бо яна самая далёкая планета і ў касмаграме пісьменніка мае нулявы кармічны статус. Атрымаўся від касмаграмы, які называецца **Лук**.

Заўважым, што ўсе асноўныя планеты знаходзяцца ўверсе, нібы стрэлы ў калчане, і толькі Месяц размясціўся насупраць запоўненай планетамі зоны. Месяц грае ролю наканечніка стралы і з'яўляецца нібыта выхадам памкненняў пісьменніка. Для жыцця чалавека з праяўленым Лукам ужо выбраны канкрэтны кірунак дзейнасці, што носіць знешні, а не ўнутраны характар. І Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч трымаўся пазначанага шляху.

На выбар занятку аўтара паказвае наканечнік стралы — Месяц у знаку Цяльца. Вядома, што гэта месца экзальтацыі Месяца, а значыць пісьменнік павінен быў расці па функцыях згаданай планеты: ён уздымаўся і ўдасканальваўся праз блізкіх людзей, праз сям'ю, праз душу, пачуццёвасць, тонкасць успрымання, праз паэтычную і часам музычную творчасць. На ўнутраным плане яго зламаць было немагчыма. Месяц даваў спадару Вінцэнту ўсведамленне першапачатковай гармоніі, інтуітыўны псіхалагічны дар. Узровень пісьменніцкай творчасці Дуніна-Марцінкевіча з цягам часу павышаўся.

Планетай-кіраўніком названага віду касмаграмы з'яўляецца Марс (♂) — планета актыўнасці, упартасці і смеласці. Наяўнасць творчага аспекту паміж ім і Месяцам, як выхадам Лука пісьменніка — сведчанне таго, што ў ягоным жыцці ўсё павінна было атрымацца.

Важна таксама, што ў Лука Дуніна-Марцінкевіча меўся цэнтр — планета Хірон, якая з'яўлялася нібыта апярэннем стралы. Гэта сведчыла пра прыцэльнасць «стральбы» пісьменніка. Ён кожным сваім «стрэлам» — напісаннем новага твора — імкнуўся трапіць у «яблычак».

Пачынаў аўтар, як вядома, у першай палове 1840-х гадоў з п'ес на польскай мове: «Рэкруцкі габрэйскі набор», «Спаборніцтва музыкаў», «Чарадзейная вада», якія ставіліся ў Мінску з удзелам аўтара. Этапным яго творам стала апублікаванае ў 1846 годзе лібрэта камічнай оперы «Ідылія» («Сялянка»). Прэм'ера спектакля адбылася 9 лютага 1852-га ў Мінскім гарадскім тэатры — упершыню са сцэны прагучалі беларускія словы, з якімі да гледачоў звярталіся некаторыя персанажы. Пасля першай пастаноўкі ў Мінску на далейшы паказ уладамі была накладзена забарона, але вядома, што «Ідылія» ставілася ў розных гарадах (фактычна нелегальна) яшчэ на працягу некалькіх гадоў.

Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу належыць вырашальная роля ў сцвярджэнні на глебе беларускай сентыментальна-асветніцкай літаратуры такога жанру, як вершаваная аповесць: «Вечарніцы» (1855), «Халімон на каранацыі» (1857). Таксама цалкам па-беларуску былі напісаны паэмы і вершаваныя аповесці «Гапон» (1854), «Купала» (1855), «Шчароўскія дажынкі» (1857). А ў 1866 годзе аўтарам быў створаны «фарс-вадэвіль» пад назвай «Пінская шляхта», які быў апублікаваны ўпершыню толькі праз 52 гады. Названыя творы дазваляюць гаварыць пра эвалюцыю паэтычнай і драматургічнай творчасці Дуніна-Марцінкевіча.

«У параўнанні з першым сцэнічным творам… — пісаў вядомы беларускі літаратуразнаўца Мікалай Грынчык, — у "Пінскай шляхце" прыкметна ўзрасло драматургічнае майстэрства (праява па ♄ — *тут і далей у дужках пазнака М. К.*) Марцінкевіча. Гэта выявілася, напрыклад, у дынамізме дзеяння (праява па ♂), займальнасці і камізме сюжэта (па ☿ і ☉), арыгінальнасці (па ♅) кампазіцыйнай будовы, якая спалучае ў сабе два паралельныя канфлікты (па ⚷), заснаваныя на асабістых (па ☉) і грамадскіх (па ♃) сутыкненнях…» Як бачым, спадар Вінцэнт змог выкарыстаць многія «планеты-стрэлы» са свайго «калчана».

У 1870-м ім была скончана камедыя «Залёты» — апошні з вядомых буйных твораў аўтара. Пасля гэтага пісаць ён не пакінуў. Магчыма, не ўсё напісанае ім яшчэ знойдзена. Памёр Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч 29 снежня 1884 года (па новым стылі) і пахаваны на могілках ва ўрочышчы Тупальшчына недалёка ад Люцынкі.

Літаратуразнавец і археограф Г. Кісялёў называе В. Дуніна-Марцінкевіча першым беларускім прафесійным пісьменнікам, які «прафесійны не ў тым сэнсе, што гэта давала яму сродкі для жыцця (хутчэй ён меў ад гэтага страты), а ў тым, што ён лічыў гэта галоўным у сваім жыцці».

## АРЭЛІ ЛЁСУ

Яшчэ адным цікавым прадстаўніком знака Вадаліва з'яўляецца адметны беларускі пісьменнік Іван Мележ, які нарадзіўся ў вёсцы Глінішча Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці 8 лютага 1921 года. Кожнаму прадстаўніку гэтага знака ў той ці іншай ступені ўласцівы комплекс Сонца, якое знаходзіцца пад знакам Вадаліва ў выгнанні. Комплекс можа праявіцца ў жаданні быць выключным, імкненні стаць нефармальным лідарам, лічыць сябе непрызнаным геніем.

Праўда, Іван Мележ змог творча сублімаваць свае праблемы і атрымаць у выніку актыўны сонечны пачатак, не паказное, а ўнутранае пачуццё ўласнай годнасці. Гэтаму ў значнай ступені паспрыяў Месяц, які мае ў ягонай касмаграме станоўчы патэнцыял і знаходзіцца ў злучэнні з Сонцам, сімвалізуючым дух, творчы патэнцыял чалавека. А значыць сілы гэтых планет, іх характарыстыкі зліваюцца, сведчаць пра адзінства духу і душы пісьменніка. Мележ падсвядома адчуваў правільныя паводзіны, інтуітыўна да іх імкнуўся. Асновы для гэтага, напэўна, былі закладзены яшчэ ў далёкім дзяцін-

стве ягонай маці, якая мела на сына значны ўплыў.

Кожная з планет-кіраўнікоў Вадаліва сваім месцазнаходжаннем паказвае, праз які іншы знак Задыяка пісьменнік мог атрымаць упэўненасць ва ўласных сілах, якія якасці яму ў сабе трэба было развіваць, каб вырашыць уласныя праблемы. Уран у карце Мележа знаходзіцца ў **Рыбах** (♓) — знаку таямніцы, загадак, схаваных адносін, сімвалізуючых свет фантазіі і мроі, адыходу ад рэальнасці. А Сатурн трапіў у знак **Панны** (♍), які, наадварот, сімвалізуе рэальнае: працу, службу, улік дробязей, разлік. Атрымліваецца, што пісьменнік, як асоба, як творца, павінен быў праяўляцца праз службу, працу, і разам з тым у гэтых праявах адбівалася пэўная загадкавасць, фантазія, вышэйшая інтуіцыя.



*Іван Мележ.*

Калі мы паглядзім на касмаграму пісьменніка ў цэлым, то заўважым, што ўсе рэальныя планеты ў ёй стаяць адна насупраць другой. З левага боку яны пазначаны лацінскай літарай R, з'яўляюцца рэтраграднымі (у час нараджэння Мележа іх рух быў супраць гадзіннікавай стрэлкі) і характарызуюць мінулую карму. Па функцыях гэтых планет адбыўся перарасход энергіі, і цяпер выбар па іх абмяжоўваецца — выбіраць можна толькі на ўнутраным узроўні. Калі ж чалавек не разумее гэтага і спрабуе актыўна праявіць сябе па такіх планетах, жыццё будзе біць яго і чыніць перашкоды. Пяць рэтра-планет у касмаграме Мележа сведчаць пра яе фатальнасць, яны скіроўваюць да мудрасці і пакоры па сваіх функцыях. Сярод планет левага шэрагу мы бачым і Сатурн — аднаго з кіраўнікоў Вадаліва. Другога яго кіраўніка, планету Уран, можна знайсці ў правым шэрагу, дзе ўсе планеты — дырэктныя (на момант нараджэння Мележа быў заўважны іх рух па гадзіннікавай стрэлцы). Яны дазваляюць рабіць вольны выбар па сваіх функцыях.

Падобны **від касмаграмы**, як форму размяшчэння планет у момант нараджэння чалавека, называюць у астралогіі **Арэлямі**. Для нармальнай праявы Арэляў у касмаграме Мележа маецца тры апазіцыі — аспекты супрацьстаяння паміж дзвюма пэўнымі планетамі, што знаходзяцца па абодва бакі фронту (напрыклад, паміж Сатурнам у Панне і Марсам у знаку Рыб), і разам з тым пры ўзаемадзеянні схіляюць да пошукаў кампрамісу па сваіх функцыях. У жыцці такога чалавека адбываецца ваганне паміж полюсамі, у нашым выпадку — традыцыі і наватарства, рэальнасць і фантазіі.

Зразумела, што Іван Мележ у пару таталітарызму не мог, як творца, напоўніцу праявіцца па Вадаліву — знаку свабоды. Першыя творчыя крокі, як вядома, ён робіць у паэзіі. А як празаік, спачатку праяўляецца па знаку Панны, дзе знаходзіцца Сатурн. Нагадаем паслядоўнасць разгортвання творчасці пісьменніка.

Калі ягоныя Арэлі лёсу пайшлі ўлева, ён пачынае пісаць ваенныя апавяданні, у традыцыйнай савецкай манеры. Затым — аповесць «Гарачы жнівень» (1946) — спроба паказу канфліктнай сітуацыі на фоне безканфліктнай творчасці таго часу. У 1952 годзе аўтар заканчвае раман «Мінскі напрамак», у якім паказвае барацьбу беларусаў адначасова і на фронце, і ў партызанах.

Далей Арэлі пісьменніка хіснуліся ўправа. Пасля XX з'езда КПСС, з 1956 па 1961 гады Мележ піша раман «Людзі на балоце». Затым у 1961—1965 гадах — раман «Подых навальніцы». Вось як характарызаваў гэты ўзлёт Арэляў аўтара Іван Навуменка: «І адбыўся цуд. Іван Мележ знайшоў у душы сілы, якія дазволілі другімі вачамі паглядзець на акаляючае жыццё, адкінуць схемы, догмы, паводле якіх ён будаваў ранейшыя творы».

А сам Мележ пазней сказаў: «Я не мог — рана ці позна — не напісаць гэтыя раманы — "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы" — бо насіў іх у сабе, як радасць

і пакуту доўгія гады. Яны частка мяне самога і вельмі дарагая. Родная вёсачка, людзі, маё юнацтва — усё гэта жыло ў маім сэрцы і не давала спакою». Месяц — радзіма, Сонца — сэрца (Сонца і Месяц у злучэнні). Жывая і мёртвая вада — Мележ нібыта ажывіў для нас і захаваў у сваіх творах той патрыярхальны лад жыцця, што неўзабаве знік.


*Касмаграма Івана Мележа.*

Цікава, што прамежак напісання двух першых раманаў «Палескай хронікі» поўнасцю ўкладаецца ў дзесяцігоддзе «адлігі» і наадварот, час іх напісання даволі дакладна пазначае працягласць «адлігі» ў савецкім грамадстве.

Але пара «адлігі» скончылася. Арэлі Мележа хіснуліся назад. Пасля завяршэння «Подыху навальніцы» пісьменнік доўга не пісаў. «Цяпер так катэгарычна пісаць было нельга». Ён удасканальвае раман «Мінскі напрамак», перакладае яго на рускую мову. Пазней, ужо хворы, Мележ піша працяг «Палескай хронікі» — раман «Завеі, снежань», што застаўся няскончаны. 9 жніўня 1976 года пісьменнік памёр. Яго Арэлі абарваліся.

Як ацэнку жыцця і творчасці Мележа можна прывесці словы Івана Навуменкі: «Пра Беларусь, пра Палессе бытавала думка, як пра край цёмны, забіты, з пакорлівымі баязлівымі людзьмі. Пісьменнік нашчэнт адмятае, разбівае такі погляд. Беларусы-палешукі жывуць на беднай балотнай і пясчанай зямлі, але яны людзі вольныя, свабодалюбівыя, з высокім пачуццём уласнай годнасці. Людзі гэтыя па сваіх чалавечых якасцях ніколькі не саступаюць, скажам, героям Бальзака, Стэндаля, Флабера, Горкага, Гогаля, Шолахава і іншых славутых пісьменнікаў».

Разглядаючы містэрыю жыцця Івана Мележа ў цэлым, нельга не пагадзіцца, што яму ў такі няпросты і складаны савецкі час усё-ткі ўдалося адлюстраваць у сваіх галоўных творах жыццёвую праўду, тым самым свядома паклаўшы ўласнае жыццё на шалі Дабра.



Ірына КЛІМКОВІЧ

# НАСУСТРАЧ ВЯСНЕ

***Вядома, што традыцыі і звычаі кожнай нацыі змяняюцца і трансфармуюцца. Адны з іх, далёкія ад сённяшняга дня, часам забываюцца, другія, наадварот, не спяшаюцца адысці ў нябыт і працягваюць жыць у новай форме. Сёння мы пагаворым пра зімовае беларускае народнае свята — Грамніцы. У народным календары яно прыпадае на 2 лютага ў каталікаў і на 15 лютага — у праваслаўных. Нягледзячы на тое, што гэта вельмі старажытнае свята і мае свае карані ў далёкім мінулым нашых продкаў, яно не згубіла сваёй папулярнасці і сёння. Чаму? Давайце разбірацца.***

## «...ЗІМА ПЛАЧУЧЫ, А ЛЕТА СКАЧУЧЫ...»

Беларусы здаўна заўважылі дзіўную асаблівасць прыроды: у лютым пасля моцных маразоў наступае раптоўнае пацяпленне, чуецца першы гром. Усё гэта завецца прыгожым словам — прадвесне. Сапраўды, зусім не па-зімоваму свеціць сонца, выклікаючы капяжы, даўжэе дзень і, не зважаючы на сцюжу, маразы і завірухі, якія здараюцца ў такі час, у паветры адчуваецца пах блізкай вясны. Безумоўна, такую з’яву прыроды нашы продкі не маглі абысці ўвагай і пазначылі гэты пераломны момант днём, які сімвалізаваў сустрэчу зімы з вясною. Адсюль і другая назва свята — Стрэчанне, ад царкоўнаславянскага «Сретенье». Толькі ў хрысціянстве гэта знаменавала сустрэчу Сімяона з Ісусам Хрыстом, сустрэчу Старога і Новага запаветаў, а ў народзе тлумачылася як сустрэча сыходзячай зімовай сцюжы з наноў народжаным сонечным цяплом будучага лета. Нават песня абрадавая захавалася: *«А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне, // Зіма з летам стрэлася, стрэлася. // Лета зіму піхнула, піхнула // І ножку звіхнула, звіхнула. // Зіма пайшла плачучы, плачучы, // Лета пайшло скачучы, скачучы».*

Са Стрэчаннем усё зразумела. А вось чаму Грамніцы? Магчыма, ад слова «грымоты». Адказ знаходзіцца ў старажытным светаўспрыманні беларусаў. Згодна з легендай, назва свята звязана з культам бога грому і маланак — Перуна, або як яго яшчэ называлі, Грамаўніка. Боства, якое пасылае на зямлю першыя ўрадлівыя дажджы. Дагэтуль у вёсках падчас моцнага грому людзі кажуць: *«Во Пярун жахнуў!»* А калі ўбачаць маланку, дадаюць: *«Гэта Пярун стрэлы кідае».* І па глыбокім перакананні беларусаў, менавіта Грамніцы былі тым адзіным днём сярод



*Во Пярун жахнуў.*

зімы, калі можна было пачуць гром і ўбачыць маланкі. Продкі тады казалі, што гэта Грамаўнік зганяе з зямлі розных нячысцікаў, выпрабоўваючы на іх свае агнявыя стрэлы. Але не так усё проста, першыя грымоты і бліскавіцы маглі сыходзіць не толькі ад магутнага Грамаўніка. Вядома таксама, што ў яго мелася жонка і звалі яе Грамаўніца. Па ўяўленням нашых продкаў, яна сімвалізавала багіню лета, была прыгожай, мажнай кабетай з пладамі ў руках, а яе галаву ўпрыгожвалі спелыя каласы. Грамаўніца апекавалася сялянамі, яе прасілі пра доўгачаканы дождж на палеткі, ад яе чакалі багатага ўраджаю.

Беларусы верылі: калі Пярун і яго жонка клаліся на зіму спаць, менавіта Грамаўніца прачыналася сярод зімы і ўглядалася на зямлю, каб упэўніцца, ці ўсё ў парадку, ці не лютуе боства зімы і маразоў — Зюзя. Ці зразумеў ён, што ягоны час скончыўся і варта саступіць сваё месца жыццядайнай цеплыні і веснавому сонцу. І калі Грамаўніца не была ўпэўнена ў добрых паводзінах Зюзі, яна выказвала незадавальненне тым, што пасылала на зямлю стрэлы-маланкі і першыя веснавыя грымоты.



*Падземны цар — Карачун.*

Як і Дадола-Пеpуніца або Пярыня, нябесная багіня старажытных славян, жонка і памочніца Перуна, кіравала дажджамі, навальніцамі і маланкамі, апекавалася парадзіхамі і дзецьмі. Кажуць, што Перуніца пераняла некаторыя функцыі Вялікай Багіні Маці, самага старадаўняга боства славян яшчэ з часоў матрыярхату, яна мела шмат аблічча ў і імён. Уяўлялі яе і багіняй вясны, і Ранішняй Зарой, а называлі яе і Лада, і Лёля, а часам і Дзева-Грамаўніца, быццам падкрэсліваючы, што яна разам з мужам уладарыць над грымотамі.

У паўднёвых славян гэтую багіню называлі Чароўнай Грамавіцай. Ва Украіне яе імя — Паляныця, так там называецца і рытуальны хлеб, які гаспадыні выпякаюць у гонар асаблівых свят. Шмат у якіх казках і песнях — гэта вобраз Дзевы-Ваяркі, уладарнага і моцнага боку жаночага пачатку. У народнай фантазіі Дзеву Перуніцу ўяўлялі з залатой «грамавой» дзідай, асабістай зброяй, якую яна скіроўвала супраць сваіх ворагаў. А Зюзя, увасабленне злых духаў цемры, холаду і хвароб, як мы ўбачым ніжэй, быў яе ворагам. Таму цалкам верагодна, што аўтарства першага грому і навальніцы сярод зімы належала не Перуну, а Чароўнай Грамаўніцы.

Такім чынам, свята Грамніцы атрымала сваю назву ў гонар жонкі Перуна, якая прачыналася пасярод зімы. А вось чаму яна прачыналася менавіта 2 лютага, няўжо нашы продкі так дакладна вылічылі сярэдзіну зімы? Магчыма. Але ёсць больш сакральнае тлумачэнне такога факта.

## БОСТВЫ І ЛЮДЗІ

Згадаем прамінулае, такое важнае для беларусаў свята, як Каляды. Справа ў тым, што для земляроба сярэдняй геаграфічнай паласы час з кастрычніка па снежань — перыяд, калі прырода быццам замірае і спыняе сваё дыханне. Тады ў свядомасці чалавека зіма асацыіруецца з панаваннем ліхіх сіл, якія знішчаюць усё жывое. Больш таго, здаецца, што Цемра перамагае Святло. Дзень робіцца карацейшым, а ноч даўжэе. Каб пераадолець Ліха, беларускі селянін выкарыстоўваў калядную Зорку — штучны сімвал Сонца, якую калядоўшчыкі насілі ад



*Выратаванне маладога божышча Дажбога.*

ніцай. Але багіня, якая ў гэты момант сышла з неба, хаваецца ў зарасніках вербалозу і нараджае божышча — Дажбога.

Мы ўсе ведаем, што дзіцёнак пасля нараджэння вельмі кволы. Дагэтуль лічаць, што пакуль наноўнароджаны не адужае, яго нельга паказваць нават сваякам і сябрам, каб не сурочыць. Быццам немаўля яшчэ сорак дзён пасля народзін знаходзіцца ў пераходным стане і захоўвае сувязь з тагасветам. Таму агледзіны і адбываліся пасля сарака дзён з моманту нараджэння. Лічылі: калі дзіцёнак пражыў сорак дзён, ён адаптаваўся да нашага свету, і яму не пагражаюць ні сурокі, ні хваробы. Так заведзена ў людзей. А як паводзяць у дадзеных абставінах сябе боствы?

Згодна са старадаўнім уяўленнем беларусаў, багі не моцна адрозніваліся ад людзей. Больш таго, яны былі як людзі, выглядалі, адчувалі і паводзілі сябе як людзі. Так і — Дажбог адчуваў сябе ўсе сорак дзён у небяспецы. Яно і не дзіўна: сілы Цемры і Холаду яшчэ не згубілі сваёй моцы і ўсё яшчэ ўладараць на зямлі, дзень таксама пакуль кароткі, а ноч — доўгая. Але надыходзіць 2 лютага, Дажбогу спаўняецца сорак дзён. Ягоная сіла павялічваецца. Верыць у нарастаючую моц маладога бога і ягоная маці, багіня вясны і лета — Грамаўніца. Верыць настолькі, што наважваецца паказаць яго богу зімы і маразоў — Зюзю і тым самым даць зразумець, што час саступіць месца наноўнароджанаму боству. Каб такія агледзіны былі больш пераканаўчымі, яна суправаджае іх упэўненымі раскатамі грымот і бляскам маланак. Ну вось, цяпер мы з вамі канчаткова высветлілі, чаму для нашых продкаў так важна было адзначаць свята Грамніцы менавіта 2 лютага.

Дарэчы, Грамаўніца ў беларускай міфалогіі, як багіня лета, мела яшчэ адно імя, яе звалі Цёця. І паводле Кіркора, ёй было прысвечана свята Грамнічнай Божай Маці, ці Грамніцы, якое святкуецца католікамі 15 лютага і сёння. Таксама вядома, што Божая Маці — прасвятая Дзева Марыя прыйшла першы раз з Ісусам Хрыстом на руках у Іеру-

хаты да хаты цягам двух тыдняў: з 24 снежня па 7 студзеня. Беларусы верылі, што іх Зорка і адпаведныя абрады калядавання дапамогуць адрадзіцца сапраўднаму Сонцу і перамагчы Цемру. Так яно і адбывалася: дзень павялічваўся, а ноч памяншалася. У выніку пачынаўся новы сонечны цыкл, а разам з ім і новы аграрны год, які абяцаў прыход цяпла і святла, адраджэнне апладняючых сіл Зямлі. Так нашы продкі разумелі пабудову Космасу і ягоныя законы. А калі іх не выконваць, касмічная цыклічнасць парушыцца і настане суцэльны Хаос. Менавіта таму для нашых продкаў Каляды мелі выключнае значэнне.

Вядомы даследчык беларускай міфалогіі XIX ст. Адам Кіркор, абапіраючыся на беларускі фальклорны матэрыял, сцвярджаў, што Каляды адлюстроўваюць нараджэнне новага божышча — Дажбога. Гэтае боства сімвалізуе светлае сонца і выступае як сын Перуна і Грамаўніцы. Сутнасць Каляд даследчык тлумачыў як адлюстраванне барацьбы падземнага цара Карачуна, або гаспадара маразоў Зюзі з самім Перуном. Перад зімовым сонцаваротам падземны цар прадчувае, што павінен нарадзіцца Божыч, і таму імкнецца знішчыць дзіця. Сваім нараджэннем маладое боства святла і сонца сімвалізуе смерць падземнага боства цемры і холаду. Каб гэтага не адбылася, Зюзя ператвараецца ў мядзведзя, збірае зграю ваўкоў — увасабленне мяцеліц, і разам з імі ганяецца за жонкай Перуна — Грамаў-

салімскі храм толькі на саракавы дзень пасля нараджэння Сына Божага. Так патрабавалі старажытныя іўдзейскія законы: жанчына, якая нарадзіла дзіця, не мела права наведваць Божы храм да сарака дзён. Менавіта ў гэты дзень і адбылася сустрэча (стрэчанне) ў Іерусалімскім храме старца Сімяона і прарочыцы Ганны з Ісусам Хрыстом, калі туды прыйшлі Іосіф з Марыяй і прынеслі Божага Сына, каб выказаць Богу падзяку за нараджэнне дзіцяці і прынесці свае ахвяраванні. Цікава, што хрысціянскія багасловы называлі старца Сімяона Богапрымальнікам, і яму была прадказана смерць, як толькі ён убачыць Месію. Ці не здаецца вам, што тут праглядаюцца дзіўныя параўнанні з прыведзенымі вышэй міфамі беларусаў-язычнікаў.

## МАГІЯ ГРАМНІЧНАЙ СВЕЧКІ

Перыяд ад пачатку да сярэдзіны лютага, калі зіма пачынае паступова саступаць месца вясне, меў важнае значэнне не толькі для нашых продкаў. Раней у гэтыя дні старадаўнія рымляне адзначалі Луперкаліі, а язычнікі-кельты святкавалі Кэндлмас (Candlemas) — Свята Свячы. Дарэчы, апошняе свята таксама было прысвечана старажытнаму жаночаму боству — багіні Брыджэт. Пасля прыняцця хрысціянства яна ператварылася ў Святую Брыгіту. Але ўсе гэтыя святы аб'ядноўвала адно — у іх аснове з пракаветных часоў быў закладзены рытуал ушанавання Агню. Што такое сполах бліскавіцы на вясновым небе, як не праява Боскага Полымя! Таму, як зямное адлюстраванне Нябеснага Агню падчас святкавання, запальвалі мноства вогнішчаў. Каля іх адбываліся ачышчальныя рытуалы і другія магічныя дзеянні, якія павінны былі садзейнічаць плоднасці людзей і жывёл, іх абароне ад варожых сіл.

Сёння ў нашай традыцыі свята агню сімвалізуе ўшанаванне Грамнічнай Свечкі. Некалі, выказваючы сваю прыхільнасць і падтрымку богу Грамавіку і ягонай жонцы — Грамаўніцы, у час свята продкі беларусаў падносілі ім розныя ахвяраванні. Па рэштках рытуалаў, звязаных з Грамнічнай свечкай, можна меркаваць, што напярэдадні ахвяпрынашэнняў у месцах ушанавання язычніцкіх багоў — капішчах, запальвалі рытуальны агонь. Гэтым агнём язычніцкі святар накрыж абпальваў валасы ўдзельнікам абраду, ад чаго тыя атрымлівалі духоўнае ачышчэнне. Цалкам верагодна, што на ахвяраванне прыносілі васковы крыжык і вялікую Грамнічную Свечку, якую запальвалі ад сакральнага вогнішча і такім чынам асвячалі. Потым яе забіралі дадому для правядзення магічных дзеянняў на падворку, у хаце і, як надзейны ахоўны сродак ад розных няшчасцяў.

Ва Украіне грамнічныя свечкі традыцыйна выраблялі жанчыны, асабліва — дзяўчыны. Вельмі часта яны былі зроблены з трох свечак, сплеценых у касу, але не да канца: наверсе разыходзіліся ў выглядзе трызуба. Беларускія грамнічныя свечы былі адлюстраваннем Жывога Агню, Перуновай моцы і рабіліся пераважна мужчынамі. Воск для іх рыхтаваўся загадзя. Кожны гаспадар выплаўляў свячу самастойна ў суботу перад святам. Вядома, што яе памер складаў сённяшнія сорак чатыры сантыметры ў даўжыню, а ў таўшчыню два з паловай сантыметры. Такія памеры дазвалялі пры неабходнасці хаваць яе ў рукаў ці за крысо світкі, каб ніхто не здагадаўся пра яе месцазнаходжанне.

Грамнічныя свечкі — моцны сродак народнай магіі. Па старажытных уяўленнях, такая свечка пазбаўляе сілы чары ведзьмакоў і адганяе нячысцікаў. З іх дапамогай можна было адвесці маланку і навальніцу ад хаты, вёскі ці поля. Альбо наадварот — заклікаць падчас сухменю дождж з грымотамі. Такая свечка дапамагала і падчас важных гаспадарчых прац: пры выгане свойскай жывёлы, першым ворыве, зборы ўраджаю і нарыхтоўцы зерня. Яе бралі з сабой, калі ішлі сватац-



*Лясное вогнішча*
*як адлюстраванне Нябеснага Агню.*

ца, або калі бабка-павітуха прымала нованароджанага, выкарыстоўвалі пры памінанні продкаў: на траціны, саракавіны, гадавіну, на Дзяды, Радаўніцу і Задушны дзень, давалі паміраючаму чалавеку, каб той без перашкод мог сысці да прадзедаў. Свечкай абкурвалі дом памерлага, каб душа яго супакоілася. Воск ад яе давалі хворым як лекі.

Пазней, у хрысціянскія часы, на тэрыторыі Польшчы і Беларусі адначасова са стрэчаньскімі набажэнствамі ў храме захаваліся і ранейшыя абрадавыя дзеянні, звязаныя з Грамнічнай свечкай. Напярэдадні Грамніц у кожнай сям'і дагэтуль робяць з воску ці купляюць у храме свечкі. Сённяшнія святары падчас святочных набажэнстваў чытаюць над імі адпаведныя малітвы, акрапляюць іх свянчонай вадой. У выніку яны набываюць свае цудадзейныя якасці. Зрэшты, як і велікоднае яйка або галінкі вярбы, асвечаныя падчас Вербнай Нядзелі.

Яшчэ ў першай палове XX ст., вярнуўшыся дахаты з такога набажэнства, гаспадар, як і ягоны далёкі продак, абпальваў крыжнакрыж у сябе на галаве валасы, а потым тое ж рабіў па старэйшынстве з усімі сямейнікамі. Падобны рытуал праводзіўся і над жывёлай: на іх поўсці таксама выпальваліся крыжыкі. Потым праступквалі свечкай усе сцены, перакрыцці і дзверы хаты і гаспадарчых пабудоў. Гэтыя дзеянні павінны былі ўберагчы сям'ю ад маланкі і другіх няшчасцяў. Пасля гэтага свячу хавалі ў патаемнае месца або захоўвалі ў бажніцы перад абразамі. Калі хворы чалавек цяжка паміраў, запальвалі Грамнічную свечку і глядзелі, у які бок пойдзе ад яе дым. Як за дзверы, хворы хутка памрэ, калі разыходзіцца па хаце — будзе пэўны час жыць. Тыя кропелькі ад Грамнічнай свечкі, якія сцякалі ўніз і, застываючы, абломваліся, насілі пры сабе як ахоўныя амулеты. У некаторых выпадках з такіх кропелек вылеплівалі хворую частку цела, асвячалі ў храме і насілі ўвесь час з сабою ў спадзяванні вылекавацца.

## «НА ГРАМНІЦЫ — ПАЎЗІМІЦЫ»

Сучасныя павер'і і прыкметы таксама звязаны з Грамнічнай свечкай. Падчас святочнага набажэнства ў цэрквах або касцёлах глядзяць на запаленыя свечкі. Калі яны патрэскваюць у час гарэння, то летам, як мяркуюць, будзе шмат навальнічных дзён. Грамнічныя свечкі запальвалі і запальваюць у наш час ва ўсе самыя галоўныя і важныя моманты людскога жыцця — ад народзінаў да пахавання. Дарэчы, і сёння ў народнай традыцыі існуе табу: Грамнічныя свечкі, як і вербачкі, асвечаныя ў царкве і прынесеныя дадому, нельга нікому ні даваць, ні пазычаць. А свечкі нават прыбіраюць ад чужога вока. Менавіта таму, што там схавана сакральная сутнасць сям'і, своеасаблівы абярэг, які належыць толькі гэтаму дому і гэтым людзям, і нікому болей.

Але не толькі па Грамнічных свечках вызначаюць сваё жыццё сучасныя беларусы. Па-ранейшаму актуальны звычай, калі бацькі або сваякі праводзяць у войска сына і жадаюць яму здароўя, то апырскваюць яго стрэчаньскай вадой. Паводле народных вераванняў, пасля купання ў пельцы на Стрэчанне чалавек робіцца моцным і трывалым. Назіраюць і за надвор'ем падчас свята. Калі на Грамніцы здараецца вялікі мароз, вераць, што снег праляжыць нядоўга, а лета будзе пагоднае і сухое. Мяцеліца сведчыць пра зацяжную вясну. Пацяпленне — непагоднае і неўраджайнае лета. Розныя прыкметы і назіранні продкаў і сёння гавораць самі за сябе: *«Калі на Грамніцы певень з-пад страхі нап'ецца вадзіцы, то на Юр'я вол пад'есць травіцы»; «На Стрэчанне рана ўзыходзіць сонца — будзе ранні лён»; «Капеж на Грамніцы — добры ўраджай пшаніцы»; «На Грамніцы — паўзіміцы, а хлеба — палавіца»; «Да Грамніц не скідай з рук рукавіц, а як прыйшлі Грамніцы, то ўжо не трэба рукавіцы»* і г. д.

*Мінулі стагоддзі, забываюцца імёны старадаўніх боствваў. Але і ў пачатку XXI ст. свята Грамніцы нагадвае нам у сярэдзіне зімы пра тое, што нават сярод самых цяжкіх бедстваў і выпрабаванняў можа з'явіцца праменьчык святла. Як яркая маланка сярод лютай зімы. Таму заўсёды застаецца надзея на абнаўленне жыцця, якое непазбежна надыходзіць разам з першымі грымотамі, маланкай і вясновым дажджом. А запаленая з любоўю і пяшчотай Грамнічная свечка можа вызірнуць з кожнага акенца ласкавым сонейкам.*

***Малюнкі Аляксандра КАРШАКЕВІЧА***

# «ЧЫМ БОЛЕЙ НАС, ТЫМ БОЛЕЙ ДЗВЯРЭЙ МЫ АДЧЫНІМ!»

***Мікіта Сідарэнка і Уладзімір Галак — заснавальнікі руху аматарскіх тэатраў «Двери», які за кароткі перыяд набыў вялікую папулярнасць. Гэта адначасова фестываль, альманах, серыя літаратурных і адукацыйных мерапрыемстваў, але ў аснове ўсяго — творчая каманда аднадумцаў-добраахвотнікаў, для якіх тэатр — захапленне, праца, досвед і лад жыцця. Мікіта і Уладзімір распавядаюць для часопіса «Маладосць» сваю тэатральную гісторыю.***

**— Калі ўпершыню выявілася ваша захапленне тэатрам?**

**М. С. —** Захапленне тэатрам пачалося ў школе — я выступаў у невялікіх пастаноўках у розных ролях: Бабы Ёжкі, Мядзведзяняці, Шэрага Ваўка, Дзеда Мароза... Прытым прафесійным тэатрам не асабліва цікавіўся. Наведваў яго не часта і ў асноўным разам з класам (культпаходы). А любоў да тэатра, прычым адразу да аматарскага (у абыход прафесійнага), мне прывіла Галіна Прэснова, рэжысёр франкафоннага тэатра пры школе № 79 г. Мінска і пры філфаку БДУ. У 10 класе мяне рэкамендавалі ёй як акцёра. Так пачалося маё станаўленне як акцёра-аматара і аматара тэатра.

Аднойчы ў школе мы ставілі п'есу «Спадар дэ Пурсаньяк» Мальера на французскай мове. На рэпетыцыі мы пазнаёміліся і пасябравалі з Уладзімір Галакам. А пасля, у 11 класе, даведаліся, што паступаем на адзін і той жа факультэт — філалагічны ў БДУ. Паступілі, трапілі адразу ў студэнцкі франкафонны тэатр Прэсновай. Так усё і закруцілася.



*Мікіта Сідарэнка і Уладзімір Галак.*
*Фота Яўгеніі Камаровай.*

**У. Г. —** Маё неўсвядомленае захапленне тэатрам пачалося з першага класа школы. Зорная роля Бураціны ў пачатковай школе, удзел у ранішніках і іншых урачыстых мерапрыемствах прывялі да таго, што да 10 класа я працягваў браць удзел у школьнай самадзейнасці. Пераломным стаў 10 клас, калі бліжэй пазнаёміўся з Мікітам Сідарэнкам і з ім пачаў граць у школьным

франкафонным тэатры, а пасля — разам ва ўніверсітэцкім франкафонным тэатры.

**— Вашыя любімыя акцёры і жанры?**

**М. С.** — Пачуццё гумару, выхаванае ў сям'і, а пасля фільмамі і літаратурай (асабліва французскай, прывітанне Рабле, Кено і Віяну) вызначыла любоў да камедыі. Гэта і ёсць мой любімы жанр. Адпаведна, і любімыя акцёры ў асноўным комікі: Джым Керы, Майк Маерс, Луі дэ Фюнэс.

**У. Г.** — З дзяцінства люблю камедыю, як тэатральную, так і ў кіно, літаратуры. Смех — вялікая сіла, выдатная альтэрнатыва гвалту і страху.

**— Раскажыце пра ваш тэатральны дуэт «Сігаль».**

**М. С.** — «Сігаль» нарадзіўся… на гэтае пытанне не існуе дастаткова сур'ёзнага адказу. Кожны раз «Сігаль» (гэта не проста творчы дуэт, а нешта большае, што існуе паза намі) дыктуе новую версію свайго з'яўлення. Гісторыкі і біёграфы нашага дуэта, якіх яшчэ няма, думаюць, што «Сігаль» з'явіўся на трэцім курсе (нагадаю, што мы з Уладзімірам аднагрупнікі: вучыліся ў адной групе ўніверсітэта і ў нас адна група крыві), калі нам прапанавалі выступіць («мы чулі, вы акцёры») на славянскай вечарыне. Вось і выступілі. Вось такое меркаванне. А насамрэч не мы стварылі «Сігаль», а гэта «Сігаль» стварыў нас. З эфіру, біяфіліну і лічбы «300».

**— Што натхніла вас на ідэю стварыць рух аматарскіх тэатраў «Двери»? Хто ўваходзіць у склад каманды і як удаецца ўсіх згуртаваць?**

**М. С.** — Да ідэі руху мы прыйшлі не адразу. Пачалося ўсё з таго, што ўвесну 2010 года мы з Уладзімірам вярнуліся з Руана, дзе ў складзе франкафоннага тэатра Прэсновай (у якім мы былі і пасля заканчэння ўніверсітэта) удзельнічалі ў міжнародным франкафонным фестывалі. Мы былі свежымі, маладымі і поўнымі творчай несупыннай энергіі. Нам хацелася ствараць і выступаць. Знайшлі фестываль у Маскве і вырашылі на ім выступіць. Сталі шукаць цікавую п'есу для дваіх, але нічога асабліва не падыходзіла пад наш густ. І тут нам дапамог выпадак. На Уладзіміра ўпала кніга Рабле «Гарганцюа і Пантагруэль». Вось яно! Эўрыка! Прыцягненне! І мы пачалі рабіць сцэнічную адаптацыю першай кнігі. На маскоўскі фестываль мы не трапілі. Тады вырашылі зрабіць свой фестываль. І гэта атрымалася. Увогуле было незразумела, як трэба дзейнічаць. Але фестываль — гэта заўсёды здорава, гэта нейкая чароўная атмасфера. Праз інтэрнэт сталі знаходзіць такіх жа, як мы, тэатралаў, аматарскія тэатры. У выніку сабралі шэсць калектываў, якім спадабалася наша ідэя. Запоўнілі дакументы, звярнуліся ў наш універсітэт. Нам пайшлі насустрач — філалагічны факультэт даў сцэну на два дні. І яшчэ адзін дзень прайшоў у БДУІР (за што дзякуй Алане Айворы і ўсяму тэатру «Artvoyage»). Правялі першы фестываль аматарскіх тэатраў «Двери». Нечаканы поспех (на адкрыццё прыйшло больш як 400 чалавек) вызначыў наш далейшы шлях. Каб пра нас не забылі, пачалі праводзіць розныя мерапрыемствы, збіраць вакол сябе аматарскія тэатры. Да нас сталі далучацца энтузіясты, якія ў вольны ад вучобы і работы час нам дапамагалі.

Цяпер асноўны склад «Дверей» — гэта 6 чалавек: Уладзімір Галак, Аляксей Ждановіч, Кацярына Карпіцкая, Алёна Іванюшанка, Алена Гарбачык і я. І яшчэ шмат-шмат сяброў, якія нам дапамагаюць па меры сваіх магчымасцей. Кіраўніцтва і каардынацыя ажыццяўляецца дзякуючы сучасным сродкам камунікацыі — сацыяльным сеткам і іншым вэб-тэхналогіям. А асноўная матывіроўка — энтузіязм, любоў да тэатра, жаданне ствараць і знаёміцца з новымі творчымі асобамі.

«Двери» — карысны досвед, на практыцы спасцігаеш каардынацыю вялікіх і складаных працэсаў.

**— Раскажыце пра арганізаваныя фестывалі і дзейнасць, якая вядзецца ў межах праекта, пра дасягненні і планы.**

**М. С.** — Першы фестываль быў пробным. Мы проста самі вельмі хацелі выступіць і рабілі яго для сябе. І атрымалі вялікае



*Першы спектакль першага фестывалю «Двери» «Прадавец кухталёў», рэжысёр Г. Прэснова. Фота Юліі Мацкевіч.*

задавальненне. Да другога фестывалю мы так захапіліся арганізацыйнымі справамі, што не засталося часу самім нешта паставіць на сцэне. Ён быў фестывалем спроб і памылак: у цэлым прайшоў выдатна, але пастаянна ўзнікалі праблемы, якія трэба было вырашаць. Трэці фестываль атрымаўся вельмі моцным і разнастайным. За 5 фестывальных дзён нас наведала больш як 1 500 гледачоў. Гэта здорава і прыемна. Тое, што ў фестывалю няма бюджэту, і добра, і дрэнна. З аднаго боку, мы незалежныя, і на нас ніхто не ціснe, не перашкаджае рабіць так, як мы хочам. З іншага боку, многія праблемы, якія звычайна вырашаюцца з дапамогай грошай, даводзіцца вырашаць дзіўнымі спосабамі і з дапамогай кемлівасці. Тут не магу не сказаць дзякуй тэхнічнаму дырэктару фестывалю Аляксею Ждановічу.

Акрамя фестывалю, у нас ёсць іншыя цікавыя праекты для гледачоў і аматарскіх тэатраў. Альманах — наш інфармацыйны канал — электроннае выданне пра тэатральнае жыццё культурнай моладзі (тое, якім ён атрымліваецца, — заслуга нашых рэдактараў Алёны Іванюшанкі і Кацярыны Карпіцкай). Пленэры — выезды тэатралаў і гледачоў на прыроду. Вельмі вясёлыя і карысныя мерапрыемствы. І павесяліцца можна, і павучыцца. На другім пленэры Вячаслаў Іназемцаў (мастацкі кіраўнік, рэжысёр і акцёр пластычнага тэатра ІнЖэст) правадзіў свой майстар-клас. Гэта быў незабыўны досвед. Таксама мы арганізуем літататурныя вечары, тэатральныя відэапаказы. І сёлета запусцілі адукацыйны праект «Лекторый», у межах якога цікавыя асобы, прафесіяналы навукова і папулярна распавядаюць пра тэатр.

Наконт дасягненняў… Гэта шмат і бясконца мала адносна таго, чаго яшчэ можна дасягнуць. Мы паступова аб'ядноўваем тэатры вакол «Дзверей» (на дадзены момант у рух уваходзяць 45 тэатраў). Фарміруем глядацкую аўдыторыю (за праектамі праз сацыяльныя сеткі сочаць больш як 3 000 ча-

лавек). Імкнёмся да большага. Адна з мэт — стварэнне ўмоў, у якіх аматарскія тэатры маглі б прадуктыўна развівацца, абменьвацца досведам, вучыцца і паказвацца гледачу.

**— Што вы адчуваеце, калі з'яўляецеся адначасова выступоўцамі і арганізатарамі?**

**М. С.** — На жаль, чым больш арганізуем, тым менш выступаем. Даводзіцца выбіраць. Пакуль што выбралі ўхіл у арганізатарства. Цяпер разумеем, што сумуем па сцэне. І таму імкнёмся да аптымізацыі арганізатарскіх задач, каб заставаўся час і на творчасць.

Мы вучымся ў іншых. Нешта прыкмячаем, засвойваем.

**У. Г.** — Перш за ўсё, гэта неверагодны адрэналін. Адрэналін ад сузірання гледачоў, іх рэакцыі і ўсведамлення — мы маем самае непасрэднае дачыненне да таго, што адбываецца. Шчыра кажучы, усё ж хочацца больш выступаць, чым арганізоўваць. Другі і трэці фестывалі абышліся без нас як акцёраў. Але на чацвёртым абавязкова будзем.

А досвед сам па сабе неацэнны. Мы не прафесійныя культурныя менеджары, і ўсе пытанні, звязаныя з арганізацыяй, мы вырашаем, зыходзячы з сітуацыі. Набіваем сабе гузакі і вучымся на ўласным досведзе.

**— Што галоўнае ў рэкламе культурных праектаў у Беларусі і ў чым асаблівасць рэкламы тэатральных мерапрыемстваў?**

**М. С.** — Галоўнае ў рэкламе тэатральных падзей — сама падзея. Калі яна цікавая, пра яе трэба проста расказаць. Калі няма сродкаў на размяшчэнне рэкламы на інфармацыйных каналах (ТБ, вонкавая рэклама), трэба ствараць свае (сацыяльныя сеткі, блогі, свой альманах) і сябраваць з цікавымі праектамі, вакол якіх збіраецца твая аўдыторыя.

І дробязі таксама важныя — дызайн афішы і іншых суправаджальных элементаў таксама павінен быць на ўзроўні.

**У. Г.** — Асаблівасцю рэкламы культурных і калякультурных мерапрыемстваў я магу назваць праблему пошуку мэтавай аўдыторыі. Для гэтага неабходна знайсці інфаканалы, якія маюць непасрэдны выхад на яе. Не любая рэклама можа даць вынік.

**— Хто ваша асноўная аўдыторыя?**

**М. С.** — Абагулены партрэт нашага гледача такі: малады чалавек/дзяўчына 17—27 гадоў, студэнт/студэнтка ці малады спецыяліст, якія маюць актыўную пазіцыю па жыцці, цікавяцца культурай і мастацтвам у розных іх праявах. Гэта моладзь, якая жадае не толькі спажываць, але і ствараць, па-творчаму рэалізоўваць сябе.

Але нам, вядома, хочацца звярнуць увагу на нашы праекты і людзей больш сталага ўзросту. Тут мы пакуль што абмежаваны ў магчымасцях. Мы не знайшлі яшчэ бясплатнага канала сувязі з імі. Моладзь мы збіраем з дапамогай інтэрнэта і бясплатнага размяшчэння афіш ва ўніверсітэтах. А людзі больш сталага веку менш карыстаюцца інтэрнэтам. Але і без гэтага сярод гледачоў мы бачылі немаладых ужо людзей.

**— Ці ёсць у вас іншыя творчыя заняткі і захапленні?**

**М. С.** — Кожны ўдзельнік нашай каманды звязаны з тым ці іншым аматарскім тэатрам. Акрамя таго… Аляксей Ждановіч, напрыклад, займаецца ламаграфіяй. Алена Гарбачык удзельнічае ў гульнях «Што? Дзе? Калі?».

**— Як сумяшчаеце сваю працу і выкарыстоўваеце набыткі адукацыі для праектаў?**

**М. С.** — Сумяшчаць удаецца дзякуючы таму, што з непасрэднай працай пашанцавала. Адукацыі якраз часам не хапае. Таму я і вырашыў паступаць у магістратуру Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Цяпер зноў студэнт.

**У. Г.** — Праца дазваляе займацца «Дзвярыма», прычым гэта ўваходзіць у дзейнасць маёй установы (працую ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў). Там жа мы знайшлі падтрымку і дапамогу пры правядзенні праектаў.

Адукацыю атрымліваю адпаведна дзейнасці. Можна сказаць, праходжу перакваліфікацыю — скончана магістратура па спецыяльнасці «Мастацтвазнаўства», цяпер вучуся ў аспірантуры БДАМ па спецыяльнасці «Тэатральнае мастацтва».

**— Раскажыце пра выступленні і наведванне Францыі.**

**М. С.** — Гэта неацэнны досвед. Без паездак на тэатральны фестываль у якасці гледача ў Авіньён у 2006 годзе (гэта быў прыз ад французскага пасольства ў Мінску за лепшую мужчынскую ролю на франкафонным фестывалі, Уладзімір таксама ездзіў, таксама атрымліваў прыз, таксама за лепшую мужчынскую ролю, але на год раней) і дзвюх паездак у Руан у якасці ўдзельніка, не было б фестывалю «Двери» і тэатральнага руху. Масавае спазнанне тэатральнага дзейства, новых ідэй, новых эмоцый і перажыванняў… Гэта найвышэйшае задавальненне.

**— Вы выступаеце таксама крытыкамі/аглядальнікамі тэатральных мерапрыемстваў, асвятляеце іх.**

**М. С.** — Мы ўдзельнічаем у асвятленні тэатральных падзей. Але мы не пазіцыянiруем сябе як крытыкаў. Мы не друкуем рэцэнзій, водгукаў. Гэта хутчэй «уражанні». Іх пішуць як прафесійныя журналісты, так і простыя гледачы.

**У. Г.** — Мы стараемся наведваць як мага больш тэатральных мерапрыемстваў і асвятляць іх у нашым блогу або альманаху. Але ніколі не выступаем і не будзем выступаць у якасці крытыкаў. Для гэтага існуюць спецыялізаваныя выданні. Мы дзелімся ўражаннямі ад убачанага.

**М. С.** — Самае каштоўнае (і гэта вялікая ўдача) у нашай асветніцкай дзейнасці — знаёмства і партнёрства з трыма цудоўнымі фатографамі — Марай Якімовіч, Лідзіяй Зіновіч і Полі Хамякінай. Дзякуючы ім мы дзелімся ўражаннямі з нашымі гледачамі і прыгожымі здымкамі з розных тэатральных падзей.

**У. Г.** — Гэтыя тры дзяўчыны настолькі прафесійна робяць фотасправаздачы з мерапрыемстваў, што дзякуючы ім нас запрасілі (а не мы самі напрасіліся) на фестываль «Панарама» для асвятлення спектакляў. Гэтыя тры дзяўчыны — нашыя гонар і надзея, таму што, па сутнасці, журналістаў, якія прафейсійна здымаюць спектаклі, у нас няма.

**— Вашыя ўражанні ад праекта.**

**У. Г.** — «Двери» — моцная каманда аднадумцаў і энтузіястаў, якая паспела ўжо стаць для мяне сапраўднай сям'ёй. Да таго ж, з намі стаў актыўна супрацоўнічаць беларускі тэатральны крытык, кандыдат мастацтвазнаўства Аляксей Стрэльнікаў. Толькі праца ў камандзе можа прынесці поспех і прывесці да рэалізацыі пастаўленых мэт.

**М. С.** — «Двери» існуюць толькі дзякуючы ўнутранай энергіі, якая ёсць у кожным чалавеку. Галоўнае — не стрымліваць яе ў душы, нібыта джына ў чароўнай лямпе, а адкрыць. Для мяне штуршком стала праца з Галінай Прэсновай, якая падарыла мне тэатр і паездкі на тэатральныя фестывалі ў Францыю. Цяпер мяне ўжо не стрымаць. Усе, хто з намі супрацоўнічае, натхнёныя тэатрам і поўныя творчай энергіі. «Двери» — гэта людзі. Чым болей нас, тым болей дзвярэй мы адчынім!

*Гутарыла Юлія НОВІК*



Сяргей ЧЫГРЫН

# БУНТАВАЛА КРОЎ БУНТАРНАЯ…
## *Аўген Бартуль — паэт з Заходняй Беларусі*

У «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры», выдадзенай у Мінску ў 1964 годзе, Уладзімір Калеснік пісаў: «Галоўнай фігурай сярод нацыянал-дэмакратаў быў Казімір Сваяк. На яго арыентаваліся А. Бартуль, Ф. Грышкевіч і некаторыя іншыя». У рускамоўным выданні гэтай кнігі (1977) сказана, што «дань эстетским вывертам отдавали начинающие авторы из студенческой молодёжи (Е. Бартуль, Ф. Гришкевич и др.)». Каментарыі тут, відаць, непатрэбны. Адно скажу, што з вершамі Францука Грышкевіча беларускі чытач ужо знаёмы. Аўтар гэтых радкоў у 1999 годзе падрыхтаваў і выдаў у Беластоку кнігу «Вяртанне да сваіх», куды ўвайшлі творы Станіслава Грынкевіча, Францука Грышкевіча і Уладыслава Казлоўшчыка. Не менш здольным за гэтых заходнебеларускіх літаратараў быў і яшчэ адзін рамантык, у якога «бунтавала кроў бунтарная» і быў «хто духам малады» — Аўген Бартуль. Праўда, у чэрвеньскім нумары выдатнага часопіса «Першацвет» (на жаль, ён ужо не выдаецца) за 1993 год мне ўдалося апублікаваць невялікую згадку пра паэта і некалькі вершаў Аўгена Бартуля. Але за гэты час адшукана шмат новых твораў і звестак пра яго.



З аўтабіяграфіі Аўгена Бартуля, якая напісана на польскай мове і захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы (Ф. 175, Воп. 2, Спр. 556, Арк. 29), стала вядома, што Аўген Бартуль нарадзіўся ў Пецярбургу 26 лютага 1908 года. Ягоным бацькам быў фармацэўт Данат Бартуль, які працаваў у аптэцы Пеля ў Пецярбургу, а маці — Юлія Бонфельдт была хатняй гаспадыняй. У 1917 годзе Аўген Бартуль паступіў у першы клас школы імя Сестранцэвіча пры касцёле святога Станіслава. Але праз год хлопчык пакінуў вучобу: у горадзе ўсчаліся рэвалюцыйныя хваляванні, пачаўся голад. Таму Бартулі выехалі на радзіму ў Віцебскую губерню — у Прыдруйскай гміне Дзісенскага павета ў іх быў кавалак зямлі, дзе яны і пасяліліся.

Да восені 1922 года Аўгена вучыў бацька. А потым юны Бартуль паступіў ў пяты клас Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі, якую скончыў у 1926 годзе. Пасля гімназіі стаў слухачом матэматычна-прыродазнаўчага факультэта Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, дзе вывучаў хімію на працягу аднаго года. Неўзабаве быў залічаны студэнтам прыродазнаўчага факультэта. У 1928 годзе Аўген Бартуль перавёўся на юрыдычны факультэт універсітэта.

Падчас вучобы Аўгена ў Вільні на Дзісеншчыне памерлі яго бацькі. Апекавацца юнаком стаў просты селянін з Латвіі Уладзіслаў Камараневіч. Магчыма, гэта быў сваяк Бартуляў.

У 1931 годзе, пасля заканчэння Віленскага ўніверсітэта, Аўген Бартуль атрымаў ступень магістра права. Працаваў следчым на Лідчыне і ў Вільні.

Пісаць па-беларуску пачаў тады, калі вучыўся ў Дзвінскай беларускай гімназіі. А першыя творы ў друку з'явіліся ў 1925 годзе. З вершамі, артыкуламі і лірычнымі замалёўкамі выступаў у шматлікіх калектыўных зборніках, альманахах, у часопісах

«Шлях моладзі», «Калоссе», «Студэнцкая думка». На жаль, у канцы 1930-х Аўген Бартуль пакінуў пісаць, а таксама нікому не дазваляў передрукоўваць свае творы. А калі гэта хто рабіў без дазволу, справа нават магла дайсці да суда. Чаму назаўсёды развітаўся з пяром таленавіты беларускі юнак — цяжка сказаць. Маленькая адгадка наконт гэтага выплывае толькі з успамінаў Максіма Танка («Лісткі календара»): «Каля “Бара Акацімскага” ледзь не напароўся на Х. Ільяшэвіча і А. Бартуля — не так даўно яшчэ двух славутых паэтаў (быў гэта 1935 год. — **С. Ч.**). Першы, стаўшы ценем Р. Астроўскага, п’е, спыніўшыся на нейкім раздарожжы паэзіі і непаэзіі, піша свае анемічныя, выхалашчаныя вершы; другі, як яго вусаты патрон, які, даехаўшы ў свой час на трамваі да прыпынку “Незалежнасць”, развітаўся з сацыялізмам, дабраўшыся да панскага карыта, развітаўся са сваім былым радыкалізмам і вершамі і зараз памагае пракурору пісаць акты абвінавачвання супраць нас. Помню, у 1930 годзе мяне з імі пазнаёміла сястра Лю — Зося. А Бартуль тады, здаецца, адзначаў пяцігоддзе сваёй літаратурнай дзейнасці… Другая сустрэча была праз год, калі мяне ў наручніках прывезлі з Глыбокага ў Вільнюскі акруговы суд і прывялі на допыт да следчага, у пакоі якога я неспадзявана ўбачыў А. Бартуля. Ён увесь час, пакуль мяне дапытвалі, сядзеў за сталом, апусціўшы галаву, не адрываючы вачэй ад нейкіх папер. І вось — трэцяя сустрэча з памочнікам следчага. Добра, што не заўважылі мяне»

У гады Другой сусветнай вайны Аўген Бартуль жыў і працаваў на Лідчыне. Адсюль ён пісьмова звярнуўся да старшыні Віленскага беларускага камітэта доктара-стаматолага Баляслава Грабінскага, каб той выслаў яму ліст-пацвярджэнне, што Бартуль з’яўляецца беларускім пісьменнікам. На што Баляслаў Грабінскі хутка даў адказ: «Ці не запозна вы пра гэта ўспомнілі?..»

Пасля вайны след Аўгена Бартуля губляецца дзесьці на Захадзе.

Да сказанага вышэй хочацца ўсё ж дадаць: які б ні быў жыццёвы і творчы шлях Аўгена Бартуля, з гісторыі беларускай літаратуры гэтае імя выкрасліць немагчыма. Дзясяткі ягоных твораў раскіданы па шматлікіх заходнебеларускіх выданнях. Некалькі вершаў Аўгена Бартуля, напісаныя тады, калі аўтару было толькі 20 гадоў, прапануем чытачам «Маладосці».

## Аўген БАРТУЛЬ
*(1908 — пасля 1944)*

### БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Для цябе збудаваў я алтар ў сваім сэрцы,
У вопратку казак прыбраў я яго,
Для цябе, што стагнала ў чужой паняверцы,
Што знявагі цярпела й ад сына свайго.
Прад вялічнам тваім я схіліўся ў пакоры,
Прад вялічнам тваім, прад цярпеннем тваім,
І душа бунтавала, як хвалі на моры,
Дый спявала ўскрашэнню твайму, маці, гімн.
Даражэйшае шчасце тваё мне за волю,
За ўсялякія скарбы зямлі, за жыццё,
Бо і што ж мне жыццё ў параўнанні з табою,
Ты ўладар майго сэрца, маё багацце.
І я вырву бунтарнае сэрца ў ахвяру,
Дый злажу я яго на твой слаўны алтар.
Потым вып’ю спакойна прызначання чару,
Дык прымі маё сэрца, вазьмі яго ў дар!

*Вільня, 1928 г.*

### ГЭЙ, УСПЫХНІ!

Тлее вогнік сінім блескам,
Тлее нудна, ледзь гарыць.
Гэй ты, ўспыхні з дзікім трэскам,
Калі жыць, дык знача жыць!
Буйным полымем ўзгарыся
Ярка-рэзкім прамянём,
Сотні іскрамі круціся,
У гару ляці снапом.
Каб угледзіць было можна,
Што агонь ты сапраўды,
Каб сказалі: «Асцярожна,
Бо наробіць ён бяды».
Бурай дзікаю, іскрыстай
Ўспыхні, хоць загінеш ўраз,
У завеі залацістай
Момант лепш — чым тлеці час!

*1927 г.*

### З ПЕСНЯЎ МАЛАДОСЦІ

Праз шумны і шэры
Рад цяжкіх няўзгод,
Мы поўныя веры
Ідзём у паход.
Ідзём з вольным клічам:
«Гэй, брат, не стагні,
З бадзёрым аблічам
Да сонца цягні».
Скуём, пабудуем
Стальныя рады,
Жыцця не шкадуем,
Дамо заўсягды,

Як толькі пакліча
Народ, мы пайдзём,
Няхай на нас ліча,
Мы ўсё аддадзём
За шчасце і долю
Свае стараны,
Мы любіма волю,
Мы — волі сыны.
Дык смела й вясёла
Цемру развеем,
Мы іскры наўкола
Ветрам рассеем,
Сцяною ірдзістай
Туды з усіх сіл,
Дзе краскай агністай
Цвіце небасхіл.

*1927 г.*

* * *

Бунтуе кроў бунтарная,
Хто не спадлеў, браты.
Да праўды светазарнае,
Хто духам малады.
Да новых дзён натоўпамі
Па новае жыццё,
Ідзём радамі шчыльнымі
Па веду — ў ведзе ўсё.
Жыццё старое змучана,
Разменена зусім,
Даўно апрастытучана —
Дарогу маладым!
Смялей, там усміхаецца
Нам сонечны усход,
Час новы насуваецца,
Да сонца у паход!

## ВЕСНАРУНЬ

**1**

Прыйшла вясна
І фарбаў акварэлі
Кідае на раздолле,
Прыбрала ў зелень лісцяў стройны лес.
Дала яна
Чаромхам красак белле,
І зарунела поле,
І распускаецца пахучы бэз.

**2**

Адзеўся сад стары
Ў ружова-белы снег,
Сад пухам красак ўвесь засыпаны, акрыты.
Пахучыя пупышкі прыляглі
Да цёмнае кары…
Вось вецер перабег,
Пупышкі рве і сцеле на зямлі,
Кідае на травы зялёнай аксаміты.

*1928 г.*

* * *

**1**

На дыване сузмроку ночы
Вецер траўня расцілае вясновыя зданні,
Зноў любыя мне бачу вочы,
Дзяўчына, ты да мяне прыйшла, маё каханне!

**2**

Да нас усмешкі шле вясна,
Нас ап’янаюць пахам краскі.
Пяшчотаў чару п’ем да дна,
Снуем чароўныя мы казкі.

**3**

Смех вясняны —
Задуму вочак тваіх я кахаю.
Дзяўчына, ты мара, ты сон!
Каханнем п’яны
Вуснаў тваіх няпрытомны шукаю,
З грудзей рвецца раскошы стогн.

**4**

На дыване сузмроку ночы
Іграе, яшчэ так цьмяна, прамень першы ранні…
Цалую любыя мне вочы,
Яшчэ хвілінку… не адыходзь, маё каханне.

*1928 г.*

## НОЧ

Ветрык ў паветры тчэ свае кросны,
Ціха шапочуцца стройныя сосны,
Плаўна істужкаю ўзняўся туман,
Звонка абвіў ён балотны курган.
Ночка спакойна зямлю атуліла,
Вопраткай цёмнаю неба акрыла,
Вопраткай шытаю перламі зораў,
Вопраткай тканаю сілай прастораў.
Спуджана цені лятуць, і імгла
Ўсё акружыла, паволі лягла,
Топіць яна і злівае усё
Дзіўна — таёмнае творыць жыццё.
Месяц ўзыходзе і срэбныя коскі
Ясна ліюцца на контуры вёскі.
Хмары на небе ляжаць быццам пёры,
І ясна мігаюць красачкі-зоры.

*1928 г.*

# Бярозка

№ 2/2012(1005)








bjarozka@mail.ru
vk.com/club 34570145









# Доктар, дзе баліць?

***Многія сучасныя падлеткі не ведаюць, што такое стаць воінам-інтэрнацыяналістам і трапіць у гарачую кропку планеты. Вайна ў Афганістане забрала жыцці многіх беларускіх салдат. Тады на тэрыторыі гэтай краіны сышліся інтарэсы некалькіх дзяржаў. Сёння грамадзянская вайна ў Ліване і іншых краінах Блізкага Усходу паказвае, што нічога ў гэтым сэнсе не скончылася. Крызіс улады ў адной краіне тузае суседзяў і пагражае перарасці ў сусветны канфлікт.***

У той час для тых, хто прыбыў першымі ў складзе засакрэчанай групы СЭУ у Афган (Бусакам, 56 км ад Кабула), вайна яшчэ не пачалася па-сапраўднаму. Маладога хірурга, ваеннага ўрача, які толькі што скончыў ВНУ, выдатніка і шчаслівчыка Уладзіміра Базавава афганцы называлі «шураві мушавер» — савецкі спецыяліст. І ставіліся да такіх пасланцоў з вялікай павагай.

Гэта гучала і як пароль, калі доктару трэба было мінуць блокпасты ў афганскіх вёсках, бо савецкія ваенурачы лячылі і мясцовае насельніцтва. А паважаць аўтарытэт у гэтай краіне ўмеюць. Рэлігійнасць свядомасці трывала ўтрымлівае аснову духоўнай цэласнасці, якой бы нярoднаснай яна ні здавалася іншым культурам. Толькі потым Уладзімір Базаваў даведаўся, што савецкія войскі тады скінулі ўрад Таракі і дапамаглі ўстанавіць свайго стаўленіка. Праўда, ненадоўга.

Уладзімір Базаваў родам з Курска, але ўжо шмат гадоў жыве ў Беларусі, заслужаны ўрач вышэйшай катэгорыі і спецыяліст ад Бога ў мануальнай тэрапіі. Дыягностык і лекар, у якога шукаюць падтрымкі і дапамогі як у апошняй інстанцыі тысячы хворых. Уладзімір Базаваў прызнаецца, што дар лекаваць у яго адкрыўся якраз пасля некалькіх афганскіх кампаній у выніку вялікай інтэлектуальнай і эмацыйнай працы. Хаця ні разу ён не быў сур'ёзна паранены за ўсю службу ў Афганістане, усё ж упэўнены, што толькі любоў і малітвы маці дапамаглі яму выстаяць у складаных сітуацыях.

Перада мной сядзіць усмешлівы, падцягнуты, надзвычай прыемны і мяккі ў зносінах чалавек.

**— Ці было страшна? Няхай банальнае і наіўнае пытанне, але вельмі хочацца пачуць ваш адказ на яго.**

— Вядома, страшна было. Але калі страшна, ратуе розум. Мне даводзілася ўвесь час думаць і кеміць, як правесці аперацыю, выратаваць хворага або як размясціцца ў верталёце, каб з яго, калі будзе падаць, саскочыць з найменшымі стратамі. Так, было і такое, бо я ў Афганістане і верталёт пілатаваць навучыўся, і ваяваць. Калі мы ў першыя ж дні службы атрымалі загад утрымаць аэрапорт да прыбыцця асноўнай групы вайскоўцаў любым коштам на працягу дзвюх гадзін, то і ўрачы, і пісары, і кухары ўзялі ў рукі аўтаматы і ваявалі, нават калі адзін наш салдат на некалькі дзясяткаў «духаў».

*16 лютага 1980 года на перавале Саланг знік верталёт з байцамі. Уладзімір Базаваў і яго байцы адправіліся шукаць сваіх. Саланг потым добра запомніўся ўсім тым, хто ваяваў у Афганістане, як месца крывавых баёў. Уладзіміру прыйшлося ўзначаліць групу па выратаванні экіпажа верталёта «МІ-6». Верталёт падбілі, але ён сеў, і воіны ўдала апынуліся на нейтральнай тэрыторыі паміж базай савецкіх войск і непрыяцеля.*

— На горнай мясцовасці зліпаюцца лёгкія пры бегу, снегу па калена, зіма. Заўважылі байцоў. Чацвёра загінулі, іншыя былі паранены. У бортінжынера — анеўрызма соннай артэрыі. Такога нават ля варот Скліфасоўскага цяжка выратаваць, але і тут яму пашанцавала, удалося спыніць крывацёк, адагрэць і пакласці чакаць падмацавання — «вяртушкі» для перавозкі параненых. Засталіся начаваць у верталёце на перавале, сачылі, каб употай не падабраліся «духі». Але калі прыбыла «вяртушка», усе адчулі нейкую палёгку. Прабілі ў снезе сцежку, каб валачы хлопцаў. Снегу дзе па грудзі, дзе па калена. Трэба было бачыць, як параненыя на пераламаных нагах дапамагалі зацягваць сябе ў кабіну. «Вяртушка» сесці не можа, паспрабуй утрымаць яе ў паветры пад парывамі ветру. У гарах такім часам суцэльныя турбулентныя завіхрэнні. І вось тады нас ужо з параненымі на борце шпурнула так, што скала праляцела на адлегласці паўметра ад «вяртушкі».

*За выратаванне гэтых семярых байцоў 16 лютага 1980 года Уладзімір Базаваў атрымаў першы ў афганскай вайне ордэн Чырвонага Сцяга. Ён не толькі ўзначаліў брыгаду выратавальнікаў, але і на вышыні 1 400 метраў адбіў хлопцаў ад баявікоў, на месцы правёў некалькі найскладаных аперацый.*

**— Колькі часу вы прабылі ў Афганістане ў першы прыезд?**

— Замест двух месяцаў — дваццаць адзін. Калі праводзіліся аперацыі ў невялікім памяшканні, нягледзячы на тое, што сцены былі завешаны прасцінамі, падчас абстрэлу сыпалася тынкоўка. Даводзілася перабірацца на час у палаткі. У Афгане сярод іншых вайскоўцаў лютаваў тыф, жаўтуха, розныя ліхаманкі. У нас жа, не без гонару адзначу, не было ніводнага выпадку захворвання за ўсе гэтыя месяцы. Чысціня, харчаванне са свайго стала.

*Пасля трэцяй афганскай кампаніі Уладзімір Базаваў атрымаў свой другі ордэн Чырвонага Сцяга, а пасля і прызначэнне галоўным авіяцыйным урачом Узброеных Сіл Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. Адказваў амаль за сорак тысяч ваеннаслужачых.*

— За спінай мяне жартам называлі «шэрым кардыналам», — усміхаецца ён. — Асабліва цікава было б распавесці цяпер пра наша наведванне ваеннай базы «Рамштайн», дзе дэлегацыю з Беларусі сустракалі з вялікай павагай. Наш бок пасля знаёмства з іх сістэмай выхавання ваеннага лётчыка, падрыхтаваў сваю лекцыю пра аналагічны айчынны досвед. Выступілі мы годна, і было прызнана, што наша сістэма больш рацыянальная.

**— Як паўплывала служба на ваш лёс у сямейным плане?**

— Цяжка. Калі мне прысвоілі званне падпалкоўніка, маме, якую я так і не заспеў жывой, яшчэ сказалі пра гэта. Яна цешылася поспехамі сына, бо я быў яе ўлюбёнцам.

**— Чалавек зрэдку задумваецца пра досвед, які ён набыў у тых або іншых акалічнасцях...**

— Я зразумеў, пра што вы кажаце. Вайна, як і ўсялякая іншая сітуацыя, ўплывае на людзей па-рознаму. Тая бравада, з якой ходзяць па вуліцах апранутыя ў форму ветэраны афганскай вайны, не ад вялікага розуму. У жыцці кожны павінен умець змяняцца, знаходзіць сабе месца, а не жыць у застоі.

*Да нядаўняга часу Уладзімір Базаваў узначальваў медцэнтр аэрапорта «Мінск-1». Цяпер ён заняты любімай справай: вядзе практыку як урач мануальнай тэрапіі. Але гэта зусім іншая гісторыя...*

***Ларыса КАШТАНАВА***



# Абдымацца! Так проста, складана і важна



**Аднойчы аўстраліец Хуан Ман прыляцеў у аэрапорт свайго роднага горада Сіднэя. Гэта быў кепскі перыяд яго жыцця, сапраўдны «бесперспектыўны бесперспектыўняк», дэпрэсія чыстай вады. Ды і яшчэ на выхадзе ніхто не сустракае...**

**Спыніўшыся ўбаку, Хуан назіраў, як сустракаліся і абдымалі адно аднога людзі, — і больш за ўсё яму захацелася ў той час, каб нехта яго абняў. Тады ён зрабіў адну вельмі простую і таму ашаламляльную, трошкі нават вар'яцкую рэч (а што губляць?): маркерам напісаў на паперы два вялікія словы — FREE HUGS. І выйшаў з такім плакатам на вуліцу.**

*Хвілін пятнаццаць Хуан выклікаў у людзей здзіўленне і непаразуменне. А пасля да яго падышла сталая жанчына і распавяла, што год таму яе дачка загінула ў авіякатастрофе, а сёння зранку памёр сабака, і яна засталася зусім адна. І больш за ўсё ёй цяпер хочацца, каб хтосьці яе абняў... Яны абняліся, і на твары жанчыны з'явілася радасная ўсмешка. А потым былі сотні і тысячы абдымкаў з людзьмі — маладымі і сталымі, шчаслівымі і няшчаснымі, мужчынамі і жанчынамі... І кожны пасля ўсміхаўся. Любоў нельга падзяліць і раздаць дарэшты — яна не піраг, а хутчэй той хлеб, што насыціць тысячы галодных і застанецца цэлым, свежым і мяккім, цёплым і пахкім...*

Вы чулі такое слова — «невербаліка»? Стасункі голасам, словамі называюцца вербальнымі, а міміка, жэсты і дотыкі — невербальнымі. Яны характэрны і для чалавека, і для іншых жывых істот. Як, напрыклад, праяўляе прывязанасць котка? Не, не тады, калі мосціцца на калені — гэта толькі прыняцце ў кола «сваіх». А вось калі яна падыдзе да вашых ног і абаўе іх хвастом, дык ведайце: жывёла кажа пра сваю любоў і эгаістычна вас «прысвойвае». А сабака? Пры сустрэчы ўздымаецца, лапы на плечы — хоць стой, хоць падай!.. У чалавека таксама ёсць універсальны рух прывязанасці і любові — абдымкі. Яны і давер, і падтрымка, і прыняцце, і пяшчота, і клопат. Абдымаючыся,

мы не толькі дзелімся цеплынёй, але і абараняем таго, хто трапіў у абдымкі, ствараючы ахову з уласных рук.

*Праз пэўны час улада Сіднэя забараніла Хуану абдымаць людзей без страхоўкі, за якую трэба было заплаціць 25 мільёнаў долараў. І тады Хуан падаў петыцыю, пачаў збіраць подпісы. А калі было сабрана 10 тысяч подпісаў, забарона была знята. І Хуан змясціў на YouTube відэа пра «бясплатныя абдымкі», якое за кароткі тэрмін праглядзела некалькі мільёнаў чалавек. Гэтае відэа нават атрымала прыз ад YouTube, як найбольш натхняльнае.*

Па тым, як чалавек успрымае абдымкі, як часта ён абдымае людзей, можна меркаваць пра яго псіхалагічны стан. Замкнёнасць ці адкрытасць, адвольнасць і шчырасць ці закамплексаванасць, няўпэўненасць, недавер.

Ёсць такі тэрмін — тактыльная немата. Гэта пра людзей, якія не патрабуюць дотыкаў. Найхутчэй, чалавек з тактыльнай нематой недзе там, на ранніх перыядах свайго жыцця сутыкаўся не з пяшчотным кантактам, а з абыякавым або нават грубым. Магчыма, яго ігнаравалі дома, ён мог не мець сяброў у дзіцячым садку ці быць выгнанцам у школе. Гэта не значыць, што сам чалавек кепскі. Але ён абмежаваны і закрыты — вось што дрэнна. Па назіраннях псіхолагаў, тактыльна ізаляваны чалавек пакрысе перастае разумець звычайную мову, адасабляецца ад астатніх.

*За апошнія гады акцыі вольных абдымкаў сталі ўжо звыклай справай, знаёмай па ўсім свеце. Але яны не страцілі ні сваёй чароўнасці, ні дзівацтва, ні актуальнасці — усё гэтак жа прыносяць людзям радасць. Як адзначаў сам Хуан Ман, вольныя адбдымкі — цудоўны спосаб падарыць усмешку, бо на аднаго чалавека, якога абнялі, знойдзецца пяцёра, якіх парадуе такое відовішча. Гэта сапраўды не каштуе чалавеку нічога. Зрэшты, абдымацца варта не толькі на акцыях, а і штодня са сваімі сябрамі і роднымі. Гэта напраўду тэрапія, не горшая за араматычныя свечкі ці алей, ванны, масажы, медытацыі. Проста абдымак, проста пацісканне рукі, пацалунак у шчаку — маленькія праявы нашай сімпатыі і дабрыні.*



Кажуць, што каб адчуць сябе шчаслівым і любімым, чалавеку патрабуецца восем шчырых абдымкаў на дзень. Гэта, вядома, не панацэя ад дрэннага настрою і комлексу непаўнавартасці. Але ж навука сцвярджае, што абдымкі паляпшаюць выпрацоўку эндарфінаў і

 



сератаніна — асноўных гармонаў шчасця. Сцісканне цела ў абдымках дапамагае хворым аўтызмам і людзям, што пакутуюць ад падвышанай трывожнасці. Любыя прыязныя дотыкі ўзмацняюць імунітэт і нават павышаюць узровень гемаглабіну ў крыві.

Калі ў вашым акружэнні ёсць людзі тактыльна ці нават эмацыйна ізаляваныя, то горшае, што можна зрабіць — гэта накінуцца на іх са сваёй любоўю і... проста спалохаць. Кінуць у ваду чалавека, які не ўмее плаваць, — згубіць яго альбо нажыць сабе шмат праблем.

Адзін мой сябар вельмі баяўся дотыкаў. Ён ніколі пра гэта не казаў, але адчувалася, што яму гэта непрыемна. Прасцей было, вітаючыся, прыпасці на калена пасярод вуліцы, чым абняцца. Таму я старалася трымаць з ім дыстанцыю, каб не пакрыўдзіць. А потым мы проста паразмаўлялі. Усяго толькі выказалі адно аднаму свае прэтэнзіі. І ведаеце, нядаўна ён мяне абняў — першы раз у жыцці. Ён цяпер не баіцца, ва ўсякім разе перамагае сябе. І гэта здорава. Я з радасцю назіраю за такімі зменамі, бо чалавек ён цудоўны і мной любімы. Зрэшты, сябраваць мы пачалі дзякуючы дзіўнай перамене.

Я доўгі час трываць яго не магла, гэтага хлопчыка! Бо надта ж палохаў і раздражняў. Але аднойчы мы разам паехалі на алімпіяду. Там я паводзіла сябе, памятаю, проста жудасна. У апошні дзень накрычала на любімую настаўніцу, закаціла істэрыку, румзала, седзячы на складзеных рэчах. А ён сядзеў побач, разгублены і спалоханы. Ды раптам яго перасмыкнула, увесь неяк здрыгануўшыся, ён схапіў мяне за рукі. Я не тое што плакаць — дыхаць перастала. Адкуль ён ведаў, што ёсць толькі адзін спосаб спыніць мае слёзы — узяць мяне за рукі? І наогул, так пяшчотна сярод мужчын іх трымаць умеў толькі тата, больш ніхто.

А ён нешта шаптаў, супакойваў. Паверыце, я не чула ніводнага слова, толькі яго ціхі, ласкавы голас. Карацей, з таго дня мы пачалі сябраваць. І цяпер ён — мой самы любімы чалавек, найлепшы сябар.

Хто сказаў, што любоў не навука? Трэба ўмець любіць, трэба ўмець прымаць любоў. Яна не бывае аднабокай. Але бывае нявыхаванай — тады гэта не любоў, а так. Да яе трэба далучацца самому і гэтак жа пяшчотна, абачліва далучаць тых, каго любіш. Рэзкае святло ў вочы — гэта балюча і непрыемна. Але не бачыць святла — таксама цяжка...

*Кацярына ГЛУХОЎСКАЯ,*
*ліцэй БДУ*



# Казка пра Мабілачку

У адной хаце жыла сямейка тэлефонаў: тата — Мабіл, маці — Мабіла і дачка — Мабілачка. Мабілачка была паслухмянай дзяўчынкай. Яна своечасова сілкавала батарэю праз зараднік, не трымцела па начах і не мяняла без дазволу сім-карткі.

Але аднойчы ў школе, дзе вучылася Мабілачка, з'явіўся новенькі, моднік Айфон. Усе дзяўчынкі ў мабільным класе ад яго проста шалелі, таму што Айфон быў прыгожым, а яшчэ ў яго быў вялікі-вялікі экран. А галоўнае, Айфон ведаў шмат мелодый, якія ён раздаваў праз блютуз.

Наступным днём Мабілачка папрасіла ў Айфона, каб ён спампаваў ёй колькі мелодый. Айфон так і зрабіў. Калі Мабілачка прыйшла дахаты, то пабачыла пакінутае татам паведамленне. У ім было напісана: «Дарагая дачушка, мы з маці пайшлі ў цырк. Не забудзься паесці, крыху адпачні і сядай рабіць урокі. Тата». Мабілачка падумала: калі таты і мамы няма дома, то можна пагуляць, а ўрокаў не рабіць. Яна зарадзіла батарэю і пайшла гуляць з сябрамі на вуліцу.

Мабілачка так загулялася, што нават не згледзела, як вярнуліся бацькі. Маці пабачыла, што ў Мабілкі яшчэ не зроблены ўрокі. Яна нічога не сказала дачцэ, а патэлефанавала яе лепшай сяброўцы — Нокійцы. Нокійка сказала, што ў іх заўтра будзе кантрольная работа па музыцы, і вучням трэба вельмі сур'ёзна падрыхтавацца. Разззлавалася маці на дачку, паклікала з вуліцы. Дзяўчынцы стала сорамна за ману, і яна сказала маме ўсю праўду, паабяцаўшы неадкладна зрабіць урокі. А яшчэ аказалася, што тыя мелодыі Айфон пампаваў ёй не для таго, каб проста слухаць, а каб добра падрыхтавацца да ўрока музыкі.

Ранкам, апошні раз праслухаўшы мелодыі, Мабілачка ўпэўнена пайшла ў школу на кантрольную па музыцы. Яна ані кроплі не хвалявалася і адказала на ўсе кантрольныя пытанні. Настаўніца паставіла ёй найлепшую адзнаку — «выдатна». А пасля Мабілачка падышла да Айфона і з удзячнасцю пацалавала яго ў экранчык. Той сумеўся і сказаў:

— Я рады, што дапамог табе. Але ведай на будучыню: галоўнае — не колькасць модных мелодый, якія ты ведаеш, а шмат сяброў у кантактах.



***Елізавета АХРОМЕНКА,***
***СШ № 7, 4 «А» клас,***
***г. Чарнігаў, Украіна***

# Закахацца. У здань



**Закахаліся, зачараваліся!.. Ну, а чым скончыцца, — не ведаем. Далейшым вывучэннем адно аднаго і пражываннем разам жыцця? Альбо расчараваннем, якое стане апошняй серыяй?**

**Наколькі рэальны аб’ект, што вас усхваляваў? Можа, ён усяго толькі выдуманая здань? І дастаткова проста пачакаць, каб усвядоміць непатрэбнасць працягу гэтай гісторыі...**

## Зусім не такі, як у LiveJournal

Усю вясну Наталля наведвала адзін мінскі псіхалагічны клуб. Вася з Баранавічаў прыходзіў на заняткі ўсяго некалькі разоў. Але прыцягнуў ён чымсьці ўвагу дзяўчыны, хаця і не кантактавалі яны асабліва. Аднойчы, зусім выпадкова, натрапіла Наталля на Васін LiveJournal. Зафрэндзіла, уважліва прачытала ўсе запісы, некаторыя нават і два-тры разы. Неверагодна захапілася і вершамі Васі, і яго развагамі. Ну, проста родная душа! І... як быццам закахалася: думае пра яго увесь час, у марах лётае, і такая натхнёная, такая ўсмешлівая... Канечне ж, чакае: калі ён у гуртку зноў з’явіцца? А яго няма ды няма. Так і лета прыйшло, і псіхалагічныя заняткі скончыліся. Наталля паехала на поўдзень, адпачываць. І неяк паступова кінула думаць пра Васю.

Восень выдалася для дзяўчыны шчаслівай, са свежасцю жыцця, з новым філалагічным класам. І вось аднойчы ўвечары пайшла яна па хлеб. Думала: у краму — і дахаты. Але ж вось захацелася раптоўна па горадзе прайсціся. Дайшла да чыгуначнага вакзала. І... божачкі! Той самы Вася. Сядзіць у задуменнасці. Уражаная, Наталля востра адчула ірацыянальную містычнасць жыцця. Магла б і не сустрэць яго тут...

Вася чакаў электрычку, да адпраўлення якой заставалася дзве гадзіны. Вельмі зручная сітуацыя, каб пакантактаваць. Але за гэты час хлопец паспеў расчараваць Наталлю ўшчэнт. Адчуванне ад LiveJournal было зусім іншым. Не ў такога яна закахалася мінулай вясной. Але ж колькі трапяткога чакання перажыла, колькі марыла!..

## Непазбежныя хібы кахання

***Расказвае Галіна Станчык, псіхолаг дзіцячай паліклінікі № 3 горада Мінска.***

— У кожнага з нас ёсць патрэба ў чалавеку, які адпавядаў бы пэўнаму ідэалу. Вось мы і прыдумляем пра канкрэтнага чалавека, быццам ён валодае нейкімі важнымі для нас якасцямі. А потым непазбежна расчароўваемся, бо не можа ён быць такім, якім мы яго сабе прыдумалі. Хаця такое расчараванне адыгрывае важную і добрую ролю ў нашым развіцці. Ад такога расчаравання можна нават атрымаць нейкую асалоду. Гэта як кіно, у якім не ўсё складваец-

ца добра, — мы ж глядзім яго ці не з большым задавальненнем. Было б сумна, калі б усе людзі нараджаліся дарослымі і з цвёрдым веданнем, што ідэала не існуе. Нездарма ж і кажуць, што шчасце ў чаканні шчасця. Здараецца і так: вось вы, здаецца, дасягнулі сваёй мэты — знайшлі чалавека, які адпавядае прыдуманаму вамі вобразу. Але той факт, што ён побач, такі даступны, робіць яго ўжо нейкім нецікавым. Для вас нецікавым. Ужо хочацца нечага новага, больш непрадказальнага. Чым больш недаступнае каханне, тым цікавей, асабліва ў падлеткавыя гады.

Вельмі важна, як чалавека ўспрымаюць іншыя. Бо на самай справе той, у каго вы закахаліся, — гэта адначасова і люстэрка, у якім можна ўбачыць сябе. Натуральна, што вы хочаце, каб вобраз у люстэрку вам падабаўся. І, напэўна, гэта нават больш важна, — ведаць сваё адлюстраванне ў партнёры. Які я? Якая? Якім або якой я магу быць? Можа, раней вы і не ведалі, што можаце быць такім, а побач з любімым чалавекам — атрымліваецца! Калі ж гэты чалавек не можа ўспрымаць вас так, як вам хочацца, ну дык і няхай! Значыць, не тое люстэрка выбралі. Значыць, гэтае люстэрка падыходзіць камусьці іншаму.

## Правілы кахання

Чалавек працуе дзіўна. Напрыклад, дзяўчынка, якая любіць рок-музыку, сустракае хлопца з доўгімі валасамі. Яе розум чапляецца за гэтую дэталь — доўгія валасы, — і пайшла фантазія маляваць тое, чаго на самай справе няма.

— Калі б гэтая дзяўчынка кантактавала з рок-музыкамі з дзяцінства, то такой канкрэтызацыі вобраза не адбылося б. Але калі ён падаецца недасягальным, то, вядома, нараджаюцца розныя фантазіі, — гаворыць Галіна Антонаўна. — А ўвогуле, самае галоўнае — памятаць: калі я кахаю, то ўжо шчаслівы чалавек!

Дарослыя людзі часам з дабрынёй і ўдзячнасцю ўзгадваюць нават і вельмі горкія моманты. Трэба быць гатовым да таго, што насамрэч у жыцці ўсё не так, як часам падаецца ў кніжках ці ў кіно. Калі мы вучымся хадзіць, то спачатку, здараецца, падаем. Так і ў каханні. Карысна і праз пэўныя няўдачы прайсці, імкнучыся пры гэтым захаваць сваю годнасць. Калі каханне не ўзаемнае, можа ўзнікнуць думка: а раптам са мной нешта не так? У гэтым выпадку важна ўзгадаць людзей, якія ўспрымаюць вас добразычліва. Ніколі не трэба займацца самакорпаннем і разважаннямі, трэба проста прыйсці да людзей, якія вас любяць. І зразумееце тады, што проста аказаліся для аб'екта свайго кахання не тым вобразам, што ў яго галаве зусім іншы ідэал. Закахалася дзяўчына ў хлопца з доўгімі валасамі, як у рок-музыку. А ён, можа быць, нягледзячы на тое, што выглядае як рок-музыка, ходзіць у філармонію, і яму самому падабаюцца людзі класічныя. І пакуль дзяўчына не пачне выглядаць, як Таццяна з «Анегіна», нічога ў яе не атрымаецца. Да таго ж, трэба вучыцца радавацца стану закаханасці, нават калі вы і не кантактуеце, і ледзьве знаёмыя. Часам у школу прыемна ісці проста таму, што там ёсць аб'ект, за якім прыемна назіраць. І гэтаму можна радавацца! Хадзіць у школу з радасцю! Далей — спазнаваць сябе ў адносінах. Вучыцца вырашаць непазбежныя канфлікты, прымаць нейкія недасканаласці адно аднаго. Гэта абавязкова спатрэбіцца.

*Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ*

 

# Энергія пазітыву

***Конкурс «Энергія нашай будучыні», абвешчаны ў папярэдніх нумарах «Бярозкі», працягваецца. Мы чакаем ад вас арыгінальных твораў і незвычайных прапаноў. Далучайцеся!***

Думкі і словы маюць здольнасць матэрыялізавацца. Год 2011 мы назвалі Годам прадпрымальніцтва. І так склалася, што па іроніі лёсу мы нібыта сталі сапраўднымі прадпрымальнікамі, каб справіцца з праблемамі мінулага года. Але ж нехта разумны сцвердзіў, што цяжкасці існуюць, каб іх пераадольваць. Таму я лічу, што калі мы справімся з часовымі праблемамі эканомікі, то станем яшчэ мацнейшымі.

Беларусь сёння мне бачыцца краінай, здольнай не толькі выправіць сітуацыю, але і знайсці новыя шляхі развіцця. Будаўніцтва АЭС, падрыхтоўчыя работы да якога пачаліся ўжо, служыць яскравым доказам таго, што наша дзяржава, знаходзячыся ў цэнтры Еўропы, акцэнтуе ўвагу на стварэнні навукаёмістай вытворчасці сусветнага ўзроўню. Без гэтага не будзе руху наперад, гэта адзін з галоўных кірункаў развіцця краіны. Навукоўцамі даведзена, што развіццё ядзернай энергетыкі ў Беларусі эканамічна мэтазгодна. Увод энергакрыніц на ядзерным паліве можа забяспечыць патрэбы Беларусі ў электрычнасці і цеплавой энергіі на доўгі перыяд. Даследаванні вядуцца таксама па выкарыстанні энергіі Сонца — узнаўляльнай натуральнай крыніцы. І клопат пра пошукі перспектыўных відаў энергіі мне здаецца ў сучасных умовах жыцця асабліва важным. Энергія неабходна не толькі эканоміцы, яна абавязкова патрэбна ўсім нам.

Вядома, што для вырашэння сучасных праблем ствараюцца эканамічныя, навуковыя праекты. Але ж не ўсё вымяраецца толькі матэрыяльным. Мне падабаецца выказванне пра тое, што багаты не той, у каго шмат, а той, каму хапае. Таму варта паклапаціцца і пра энергію душы. А хто гэта зробіць, апроч нас саміх?

А прадпрымальніцтва... Няхай яно таксама дапамагае нам у тым, каб знайсці карацейшы шлях да людскіх сэрцаў, каб нас аб'ядноўвала энергія дабра і пазітыву. І тады (мы можам быць смела ў гэтым упэўненымі) ўсе нашы праграмы і праекты будуць спрыяць шчасцю людзей, дабрабыту і росквіту нашай дзяржавы.

***Антон БАЯНДЗІН,***
***13 гадоў. УА «Мінскае суворaўскае ваеннае вучылішча», г. Мінск***



# Як выспяваюць творцы

**Рэспубліканская гімназія-каледж мастацтваў імя Івана Ахрэмчыка — чэмпіён сярод навучальных устаноў краіны па колькасці лаўрэатаў разнастайных рэспубліканскіх і міжнародных творчых конкурсаў. Стыпендыянтаў Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі тут таксама шмат. Гэта зразумела: тут штогод збіраюцца таленты з усёй Беларусі.**

## Пятнаццацігадовы працаголік



Дзевяцікласнік Ягор Руткоўскі яшчэ ў звычайнай школе праявіў не толькі талент, але і ўпартасць: нават на вуліцы не гуляў, каб толькі маляваць. Больш за іншае Ягор захоплены беларускім выяўленчым мастацтвам. Ён лёгка распавядае пра беларускую выбітнасць Язэпа Драздовіча: і ягоная «касмічная» творчасць юнаку даспадобы, і самавітая асоба творцы захапляе. Слаўны ён, Язэп Драздовіч: мала таго, што мастак, дык яшчэ і кніжку па астраноміі напісаў! А яшчэ Ягору падабаецца мастацтва Алены Кіш і народнага мастака СССР Міхаіла Савіцкага: «Ён адлюстроўваў звычайных людзей!»

Больш, чым фантазіі, юнаму мастаку падабаецца жывое жыццё. Убачыць прыгожы момант — і рукі просяцца намаляваць. Увогуле, малюе Ягор ледзь не ўвесь час, нават на канікулах. А заняткі ў каледжы часам доўжацца з васьмі раніцы да шасці вечара. Але ж мастак — працаголік. Хлопец кажа, што «ўзнагароджанне за працу будзе». І сам сябе папраўляе.

— Хаця якое ўзнагароджанне? Мне проста падабаецца маляваць, цягне да гэтага.

Апроч малявання Ягор захапляецца баскетболам, бо гэта спрыяе ягонаму росту.

## Лаўрэат, якому шаснаццаць



У дванаццаць ён заваяваў срэбра на Міжнародных Дэльфійскіх гульнях. Зазначым, што трапляе на гэта прэстыжнае спаборніцтва адзін піяніст з цэлай краіны. У чатырнаццаць яму дасталіся першае месца на Міжнародным конкурсе «Музыка надзеі» ў Гомелі і другое — на конкурсе «Сіняя птушка» ў Сімферопалі. Навучэнец гімназіі-каледжа ўжо цяпер вучыцца ў прафесара Акадэміі музыкі Уладзіміра Нехаёнка. Хлопец таксама паспеў стаць лаўрэатам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Што і казаць, біяграфія для шаснаццаці гадоў багатая. Між тым, калі я запытала ў Дзяніса, як яму, такому таленавіту, жывецца, ён адказаў:

— Такіх, як я, у свеце шмат. Я абсалютна звычайны. Проста яшчэ класічнай музыкай займаюся. Люблю цяжкі рок, нават метал — Bullet for my Valentine, Amatory. Класічная музыка — пад настрой. У звычайнай абстаноўцы яна, увогуле, неяк і не слухаецца. Хаця мае любімыя кампазітары — Рахманінаў і Шапэн.



Дзяніс Ліннік нарадзіўся ў Мар'інай Горцы. У музычную школу пайшоў у шэсць гадоў. Калі хлопчыку было ўсяго восем, паехаў у Гомель на Міжнародны конкурс з мамай, братам і настаўніцай. І аказаўся там самым маленькім. Але ж прайшоў у другі тур, і хоць месца не заняў, але ж спецыяльны прыз атрымаў. Менавіта там яго заўважыла настаўніца сталічнай гімназіі-каледжа імя Ахрэмчыка Таццяна Сергіеўская. Вось так трэцякласнікам Дзяніс з'ехаў ад бацькоў вучыцца ў Мінск. І не шкадуе: абстаноўка ў інтэрнаце сямейная, усе адно аднаму дапамагаюць.

Урокі ў Дзяніса прыкладна да трох гадзін штодзень, а потым да шасці ён займаецца музыкай. Лаўрэат міжнародных конкурсаў Дзяніс Ліннік — сапраўды звычайны чалавек: і ў кіно ходзіць, і ў МакДональдс — як усе людзі.

— Проста некаторыя дома за камп'ютарам сядзяць, а ў мяне гэты час на музыку ідзе.

Быць піяністам міжнароднага ўзроўню, гастраляваць па свеце — такая будучыня яго прываблівае. І чаму, уласна кажучы, такой будучыні не адбыцца?

## Пра храм мастацтва на мінскай вуліцы Макаёнка

Гімназія-каледж мастацтваў імя Івана Ахрэмчыка сёлета адзначае паўвекавы юбілей. Музыцы тут пачынаюць вучыцца з другога класа, мастацкую адукацыю атрымліваюць з пятага. Дзявяты клас навучання — завяршэнне гімназіі, з дзясятага пачынаецца сярэдняя спецыяльная адукацыя.

У гімназіі-каледжы кажуць, што талент — гэта не толькі падарунак прыроды, але і адказнасць. Тут вучаць шмат працаваць, каб музыка гучала, а ў карцінах і скульптурах прачытвалася індывідуальнасць творцы. Выхаванне тут — не толькі клапатлівае ўзрошчванне таленту, але ж і клапатлівае ўзрошчванне асобы.

Акрамя асваення спецыяльных і агульнаадукацых прадметаў навучанне ў гімназіі-каледжы ўключае яшчэ і наведванне музеяў, тэатраў і канцэртных залаў, удзел у творчых праектах і майстар-класах, праца ў бібліятэцы, заняткі спортам, паходы і экскурсіі.

Узорны дзіцячы хор гэтай навучальнай установы не раз перамагаў у міжнародных і нацыянальных конкурсах і фестывалях: у Расіі, Венгрыі, Германіі, Бельгіі. Шырокавядомы ўзорны цымбальны аркестр «Абярог». У яго рэпертуары — народныя мелодыі, старажытная музыка «Полацкага сшытка», творы вядомых кампазітараў, класічныя і сучасныя.

Сярод выпускнікоў гімназіі-каледжа — славутыя мастакі Уладзімір Савіч і Рыгор Сітніца, скульптары Канстанцін Селіханаў і Сяргей Гумілеўскі.

Алена Аўраменка, кіраўнік згаданага ўзорнага цымбальнага аркестра «Абярог», кажа:

— Наш галоўны прынцып — індывідуальны падыход да кожнага. Хтосьці больш працаздольны, хтосьці больш музычны. Бывае, што той, каму больш дадзена, менш працуе. Але ж яны і адно ў аднаго вучацца, і параіцца са старэйшымі могуць у любы час.

Галіна Хінка-Янушкевіч, выкладчыца малюнка, жывапісу і кампазіцыі.

— Вучоба ў нас — гэта не хобі, а сур'ёзная і ахвярная праца. Мастацкія майстэрні зачыняюцца толькі ў дзевяць вечара. Мастак Гаўрыла Вашчанка казаў, што дзяцей трэба аддаваць у мастацтва толькі ў тым выпадку, калі іх б'еш, а яны усё роўна малююць! Для таго, каб юныя мастакі працавалі на поўную сілу, іх трэба шмат хваліць. Тады яны пачынаюць працаваць з радасцю, бо ўжо не ўспрымаюць гэта як працу.

*Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ*

● **Захапляльны праект ЭВАЛЮЦЫЯ**



***Ніхто не павінен думаць або сцвярджаць, што чалавек можа зайсці занадта далёка ў сваім вывучэнні Кнігі Слова Божага або кнігі стварэння Божага, але няхай людзі імкнуцца да поспехаў і ў тым, і ў другім.***

Фрэнсіс БЭКАН

# Прылады працы

**Сродак пісьмовай і вуснай мовы адначасова. Частка цела, якая ёсць толькі ў чалавека. Самы дасканалы інструмент чалавецтва. Слова з чатырох літар. Здагадаліся? Рука.**

Некаторыя крыніцы сцвярджаюць, што гэта гісторыя пачалася 60 мільёнаў гадоў таму. Не зусім так. Проста гэтыя крыніцы вядуць адлік ад часу з'яўлення першых прыматаў, а на самай справе для рукі ў той час пачыналася ўжо навейшая гісторыя. Вытокі трэба шукаць у плаўніках рыбы. Па часе гэта недзе за 200 мільёнаў гадоў да з'яўлення дыназаўраў. Ну, або больш як 350 мільёнаў гадоў да часу напісання гэтага артыкула.

## Ці свае пяць пальцаў?

«Рулі і тармазы марскіх уладароў» — гэта як знакамітае «вусы, лапы, хвост — вось мае дакументы» з вуснаў ката Матроскіна: калі вы думаеце, што заваяванне сушы марскімі істотамі адбылося дзякуючы развіццю магчымасці дыхаць паветрам, то памыляецеся. Дыхаць — гэта ж нішто без магчымасці рухацца. Перамяшчэнне па паверхні зямлі яе першапраходцаў напачатку мела адну-адзіную мэту — трапіць з перасохлага вадаёма ў больш-менш глыбокі. Карацей, пра тое, што рух — гэта жыццё, рэліктавая рыба латымерыя даведалася нашмат раней за нас, чалавекаў.

Гіпотэза пра эвалюцыйны пераход плаўніка рыбы ў пярэднюю канечнасць наземнай пазваночнай істоты падмацоўваецца фактам існавання спецыяльных

 

генаў — так званых hox-генаў, мутацыі ў якіх прыводзяць да ператварэння адных частак арганізма ў іншыя. Такія гены ёсць і ў рыб, і ў сухапутных пазваночных жывёл, і ў чалавека. Прычым, у арганізме рыбы яны доўга не працуюць: паклапаціліся пра тое, каб клеткі, што размясціліся ўздоўж плаўніковай восі, хуценька падзяліліся і сфарміравалі шыпы-промні, — дый годзе. У чалавека hox-гены дзейнічаюць больш працяглы тэрмін — пакуль не ўтворацца плячо, прадплечча і кісць з пальцамі.

Плаўнікі тых дагістарычных рыб былі пяціпромневымі. Дзякуй ім за гэта ад нашых пяці пальцаў.

## Чаму пяць?

Пяць промняў у зоркі, марской ці чырвонай, пяць органаў пачуццяў, пяць радкоў у нотным стане... Пентхауз... Пяцікутнік знака якасці! Карацей, плаўнікі дагістарычнай рыбы былі пяціпромневымі не без дай прычыны. Пяцівугольная і пяціканцовая формы ўвогуле ледзь не самыя дасканалыя ў свеце жывога. Хоць мы пра гэта часам не здагадваемся. Ці ўсе, напрыклад, ведаюць, што крывяносныя сасуды ў папярэчніку не круглыя, як падаецца многім, а... Так, яны маюць форму пяцікутніка. Проста гэта больш спрыяе кровазвароту. А ў нумералогіі «пяць» — лічба самарэалізацыі, свабодалюбства, унікальнасці і пошуку новых шляхоў развіцця. Нездарма дзякуючы менавіта пяці пальцам з прымата развіўся чалавек.

### Па формуле 4+1

Рэфлекс хапання — адзін з тых рэфлексаў, якія праяўляюцца ў чалавека з моманту нараджэння. Укладзіце ў далонькі нованароджанага дзіцяці свае ўказальныя пальцы і паспрабуйце яго на гэтых пальцах падняць. Менавіта так правяраюць наяўнасць рэфлексу хапання педыятры. Немаўлятка, якому ад нараджэння некалькі дзён, утрымлівае на малюсенькіх пальчыках вагу свайго цела. Гэта здаецца фантастычным, калі не ведаць, што эвалюцыйна рэфлекс хапання ў чалавечага дзіцяці ўзнік яшчэ тады, калі яго бацькі мелі на скуры поўсць. Немаўляткі дапячорных часін вымушаны былі хапацца за яе, каб не згубіцца. Немаўляткі XXI стагоддзя страчваюць фізіялагічнасць гэтага рэфлексу ў чатырохмесячным узросце. Далей ідзе асэнсаваны захоп прадмета рукамі. Але ўвогуле забяспечыць магчымасць захопу павінна было супрацьстаянне аднаго пальца чатыром астатнім. Яно ўзнікла яшчэ ў продкаў-прыматаў. Ім, у адрозненне ад эвалюцыйных папярэднікаў, узгаданых ужо рыб, патрэбна была такая канечнасць, якой магчыма было б не толькі адштурхоўвацца ад зямлі, але і чапляцца за галіны дрэў і лазіць па іх. Упартая праца эвалюцыі над задавальненнем гэтай патрэбы ўрэшце не толькі супрацьпаставіла адзін палец чатыром астатнім, але і надала кожнаму з іх магчымасць рухацца самастойна, незалежна ад іншых. Напэўна, толькі яе вялікасці эвалюцыі наперад было вядома, на што яшчэ акажацца здольнай такая лапа. Ці ўжо рука? Карацей, гэта быў аванс, выдадзены чалавеку за тую працу, якую яму, мабыць, ніколі не перарабіць.



*Рэліктавая латымерыя.*

## Гульні розуму

Джын шын джытсу. Японская тэхніка. У сэнсе, практыкаванні для пальцаў. Хвалюецеся перад кантрольнай або залікам? Абхапіце пальцамі правай рукі ўказальны палец левай і засяродзьце на ім сваю ўвагу. Праверце, як ён рэагуе на сціскання, цёплы ён ці халодны, ці пульсуе. Потым зрабіце тое самае з указальным пальцам правай рукі. Куды падзелася хваляванне? Яно саступіла месца ўнутранаму спакою і ўпэўненасці ў сваіх сілах і здольнасцях. І гэта яшчэ не ўсё. Аказваецца, кожны палец на руцэ за нешта адказвае: абхоп аднаго памяншае боль, другога — здымае пачуццё трывогі, трэцяга — дае суцяшэнне ў стане адчаю і суму. Варта паэксперыментаваць, каб добра зведаць здольнасці сваіх пяці пальцаў. Карацей, у кожнага чалавека свая «распальцоўка». Дарэчы, калі хочаце ўзняць самаацэнку і засцерагчыся ад варожасці знешніх сіл, злучыце падушачкі вялікіх і безыменных пальцаў абедзвюх рук, злёгку націскаючы, а астатнія пальцы растапырце. Патрымайце так некалькі хвілінак кожны раз, калі адчуваеце, што ўпэўненасць вас пакідае.



А хочаце пазбавіцца ад перашкод на шляху да запланаванага?

И воля человека в общий хор  
Сливается с желаньями Вселенной.  
Могущества источник сокровенный  
Рождается в душе. Спешишь вперед идти,  
И кажется преграда на пути  
Лишь камнем, чтоб на нем точить и править  
силы.

*Радкі бельгійскага паэта Эміля Верхарна*  
*ў перакладзе на рускую Э. ЛІНЕЦКАЙ*





Пакладзіце вялікі палец правай рукі на сярэдні палец левай з боку далоні, астатнімі чатырма абхапіце палец зверху. Патрымайце так некаторы час, потым памяняйце рукі. Стомленасці і напружання як не было, і цяпер вы можаце смела прымаць любое рашэнне, бо няма на вашым шляху ніякіх перашкод.

Такія дзеянні з рукамі называюцца мудрамі. Напэўна ж, нездарма.

## Дэтэктыўная гісторыя

Вернемся да нашых малпаў. Каб лапы-рукі чалавечых продкаў не слізгалі па галінах дрэў, на іх далонях цягам доўгіх часоў з'явіўся рэльеф у выглядзе таго самага малюнка з бароздак, непаўторнасць якога выкарыстоўваецца ў крыміналістыцы. Але няўжо адбіткі пальцаў на самай справе ўсяго толькі сродак павелічэння сілы трэння? Тады чаму малюнкі на скуры пальца не паўтараюцца? Адбіткі пальцаў кожнага чалавека, які жыў на Зямлі калі-небудзь або жыве сёння, не маюць падабенства. Навошта ў гэтай справе такая ўнікальнасць? А кажуць, гэта для таго, каб уваскрэсенне чалавека ў Судны дзень не сталася вялікай праблемай. Своеасаблівы код аўтарызацыі? Няхай будзе так.

Яшчэ адным сродкам счаплення лапы-рукі з галінамі дрэў выступае пот. Вы заўважалі, што далоні ніколі не макрэюць, калі вам проста горача, хаця гэта лагічна. Яны пакрываюцца вільгаццю толькі тады, калі чалавек хвалюецца або трапляе ў небяспеку. Звычайная рэакцыя на экстрэмальную сітуацыю: fright, fight and flight — «спужацца, змагацца або даць дзеркача». Карацей, «рабіць ногі» — раней магло б гучаць і як «рабіць рукі» таксама.



## Красамоўства без слоў

Нацягніце на сябе вопратку, пакінуўшы рукавы свабоднымі, — каб рукі былі прыціснуты да тулава і вы не змаглі імі карыстацца. І вось у такім становішчы паспрабуйце растлумачыць сябру, як выглядае мадэль малекулы ДНК або хаця б як дайсці да бліжэйшага інтэрнэт-клуба. Нічога не атрымліваецца? Цяпер паспрабуйце дасягнуць такой мэты



пры дапамозе рук. Гэта ж зусім іншая справа, ці не так?

Суправаджаць размову жэстамі — гэта не проста звычка. Такія дзеянні звязаны паміж сабой на ўзроўні нейкіх мазгавых структур, толькі ніхто не ведае, якіх дакладна. Чаму фармуліраваць думкі і выказваць іх асабліва складана, калі ў размове не бяруць удзел рукі? На гэта пытанне навука адказаў не мае. Усе ведаюць, што «дробная маторыка спрыяе развіццю мыслення», але якім чынам гэта адбываецца?

Інжынеры-робататэхнікі імкнуцца стварыць руку-робат, але ў іх нічога не атрымліваецца. Выходзіць, што рука не можа стварыць сабе падобнае.

А ўсё ж, здавалася б, проста: некалі гэта было пяціпромневым плаўнікам рыбы — цяпер гэта дваццаць сем костак, складзеных у пэўным парадку. Проста кіруецца ўсё ўжо зусім іншым мозгам. На кожнае дзеянне рукі ёсць дакладная праграма, напісаная почыркам эвалюцыі і практыкай жыцця. Але вось што дзіўна: напісаць хоць што-небудзь падобнае не здолеў пакуль што ні адзін, нават самы таленавіты праграміст. Можа, у вас атрымаецца?

***Святлана ВОЦІНАВА***





● **Настрой**

# Мама і тата мяне не разумеюць




Я жыву ў невялікай сям'і: мама, тата, я і малодшы брацік Антоша. З мамай у мяне выдатныя адносіны. Мы разумеем адна адну і заўсёды гатовы падтрымаць, дапамагчы. Мама — мая лепшая сяброўка! Мне вельмі прыемна, што яна разумее мяне з паўслова і што мне не трэба ўпарта даводзіць ёй свой пункт гледжання. Мае сябры нават зайздросцяць нашым з мамай адносінам. Але вось з бацькам у мяне зусім паіншаму...

Сказаць, што ў мяне дрэнныя адносіны з татам, — нічога не сказаць. Іх у нас наогул няма. Калі я вучылася ў школе, ён ніколі не хадзіў на бацькоўскія сходы. Ён увогуле не цікавіцца маім жыццём. Але калі я вырашыла звязаць сваё жыццё з журналістыкай, тата сказаў: «Гэта не тваё! У цябе нічога не атрымаецца!»

У той момант я была літаральна зламана: блізкі чалавек не верыць у мяне. Жудасна балюча.

У маёй сяброўкі Насці такія ж складаныя адносіны з мамай (бацькі ў яе няма). Насця гаворыць, што яна вельмі моцна любіць сваю маму, і ў свеце няма лепш за яе. Але часам ёй здаецца, што маму яна проста ненавідзіць! У іх вельмі часта здараюцца сваркі. Мама Насці занадта строгая і патрабавальная. Сама яна вырасла ў «спартанскіх» умовах, гэтак жа імкнецца выхоўваць і Насцю. У іх розныя характары, і ў гэтым, напэўна, уся прычына іх канфліктаў. Уявіце сабе: шаснаццацігадовая дзяўчына збіраецца на шпацыр з сяброўкай, а маці так ганьбіць: «Насця, ты не забылася схадзіць у туалет?!» Жудасна! Невыносна сорамна.

На жаль, такіх гісторый, як мая і маёй сяброўкі, вельмі шмат. Як часта бацькі не заўважаюць, што іх дзеці ўжо выраслі, што яны маюць свае меркаванні і свой погляд на жыццё. Часам тата або мама, не задумваючыся, могуць абразіць, не падтрымаць у патрэбны час. Лічу, што прычына такіх дзеянняў — нежаданне зразумець сына або дачку, перавага ў жыццёвых каштоўнасцях бацькоў матэрыяльнага над духоўным. Хаця, прызнаемся шчыра: часам падлеткі і самі вінаваты ў канфліктах з бацькамі. Мы не слухаем парады мамы і таты, бо лічым, што ўжо дарослыя, што нам усё можна, што мы ўсё ведаем. Але ж бацькі ніколі не пажадаюць нам чагосьці дрэннага.



Каб знайсці выйсце з гэтай сітуацыі, я вырашыла звярнуцца да **псіхолага Алы Пацесновай.** І вось што яна мне сказала:

— *Калі ў вас ёсць канфлікты з бацькамі, паспрабуйце зразумець, з-за чаго яны адбываюцца, і пагаварыце пра гэта. Калі тата і мама патрабуюць ад вас выканання нейкіх дзеянняў, паспрабуйце выканаць іх і абавязкова прыдумайце, што зрабіць яшчэ, каб ім было прыемна. Бо яны ж, як і вы, маюць патрэбу ў пацверджанні, што вы іх любіце, паважаеце і шануеце.*

***Марыя СЯЦКО***

***Гэтым матэрыялам мы пачынаем новую рубрыку. «Настрой» будзе дапамагаць вам настройвацца на поспехі ў вучобе, шчырае сяброўства, спагадлівыя адносіны з роднымі і паразуменне з усім светам.***

## Практыкаванне «Цудоўнае ператварэнне»

Калі вам цяжка знайсці з кімсьці агульную мову, паспрабуйце засяродзіцца на тых рысах характару, якія вам у гэтым чалавеку падабаюцца. Проста вазьміце ліст паперы і ручку і напішыце ўсё добрае, што можна напісаць. Пастарайцеся зрабіць гэта чэсна: у кожным чалавеку ёсць нешта такое, чым можна захапляцца. А потым вам застанецца толькі назіраць, што будзе далей. Паверце, калі вы ўсё зробіце правільна, вас будзе чакаць сапраўдны цуд!

